хтосьці. Вунь як вачмі няўцямна запулялі ды захіталі галовамі: маўляў, як гэта – не на *мову*? Хіба гэта не ўдар па ягоным самалюбстве? Ці яму, можа, толькі здаецца так, што ўдар, а насамрэч – нічога такога? Надта ім, тым туркам, французам ды фінам, абыходзіць ягоная *мова*. Ці не след яму ўжо навучыцца ўспрымаць усё прасцей? Залішняя далікатнасць, вядома, што простаму смяротнаму, што прэзідэнту, душэўнае раўнавагі не дадае.

Ён утаропіўся вачыма ў кніжку, паспрабаваў сканцэнтравацца на чытанні. Але тут з'явіліся на даляглядзе Альпы, і зноў ён адклаў дапаможнік убок. Глядзеў на скупа прыкрытыя снегам, падобныя да грудак халвы вяршыні гор, а ў думках усё вяртаўся ды вяртаўся да прыкрай размовы ў амбасадзе. Што ён мае зрабіць, каб гэткая прыкрасць не паўтарылася надалей?

Пытанне, аднак, было рытарычнае, і адказ на яго чакаць не замарудзіў. Яшчэ апошняя града Альпаў пад крылом самалёта не паспела знікнуць з поля зроку прэзідэнта, а ён ужо дакладна ведаў, чым зоймецца заўтра на працоўным месцы ў першую чаргу.

Палова наступнага тыдня прайшла ў пошуках новага перакладчыка. Памочнікі прэзідэнта і дарадцы кіраўніцтва справаў літаральна збіліся з ног, падбіраючы належную кандыдатуру. І ўрэшце знайшлі, здаецца, такую ў нетрах ведамства міжнародных зносінаў. Новы перакладчык аказаўся сімпатычным маладым чалавекам гадоў трыццаці трох з прыемнымі, крыху, праўда, акцэнтаванымі на жаночы капыл манернымі. Апошняе прэзідэнту, прыхільніку традыцыйных каштоўнасцей, выхаванаму ў цвёрдым перакананні, што чым менш збыткоўнасці ў паводзінах, тым лепш, не спадабалася. Але ён вырашыў, што спяшацца дачасна ацэньваць Арсеня (так звалі перакладчыка) паводле адных нейкіх знешніх прыкметаў, нават калі яны і недаспадобы, не варта. Бо галоўнае усё-такі – каб той належным чынам петрыў у справе. Тым больш, што, у адрозненне ад свайго папярэдніка, новы перакладчык ведаў не толькі пяць замежных моваў, але і *мову*. Нават, як высветлілася, паспеў папрацаваць пару гадоў у нейкім выдавецтве па выпуску літаратуры *моўнай* скіраванасці. Такі расклад прэзідэнта цалкам задавальняў, і ўжо к канцу тыдня Арсень прыступіў да працы ў якасці перакладчыка. Праўда, пакуль што не штатна, хоць і з гарантыяй пэўнага заробку, а толькі ў ролі практыканта.

Тым часам сам прэзідэнт працягваў штурмаваць «Фразеалогію». Цяпер, калі гэтак удала вырашылася справа з перакладчыкам, гэты раздзел моўнае навукі зусім не здаваўся яму такім цяжкім, як

напачатку. Асабліва прыйшоўся даспадобы прэзідэнту раздзел пра крылатыя выразы ды выслоўі. Дык вось што мела на ўвазе разумніца жонка, калі раіла яму гэтую чытанку. Вось дзе, аказваецца, чэрпаюць яго замежныя калегі ўсе тыя айчынныя ды лацінскія афарызмы, якімі так шчодра і нязмушана сыплюць падчас спічаў. Нарыхтаваў сабе загадзя ў ноўтбук які тузін адных ды другіх – вось табе і грунт для надання выступу адметнага нацыянальнага ці, наадварот (тут ужо з увагі на сітуацыю), глабальнага, агульначалавечага, так бы мовіць, каларыту. Што да лацінізмаў, то іх, напэўна, дасць рады памагчы адолець новы перакладчык.

— Вы добра ведаеце латынь, Арсень? – спытаў прэзідэнт, ледзь той пераступіў праз парог кабінета. – Я маю на ўвазе правілы вымаўлення, ну, і ўсё такое, вы разумееце, канечне...

— Не дасканала, але збольшага ведаю, — адказаў перакладчык і прамовіў даволі доўгі маналог пра цяжкасць вывучэння латыні ды традыцыю карыстання лацінскім шрыфтам у *мове,* пачынаючы ад часоў сярэднявечча і канчаючы эсэмэскамі ў мабільніку і сучаснай блогасферай у сеціве.

— Канечне, «Песня пра зубра», кніжкі ды малітоўнікі лацінкай часоў праследаў *мовы* ў Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі ды міжваеннай пары мінулага стагоддзя, як жа, ведаем, — перарваў яго прэзідэнт і, задаволены, што дэманстрацыя ўласнае абазнанасці ў справе (вось ён, вынік шчыравання над брашураю настаўніцы!) удалася, рашуча прадоўжыў: — Тады прыступім да працы. Заўтра ж, адразу па абедзе. Дарэчы, яшчэ адно пытанне, прыватнае, так бы мовіць... Вось вы пішаце ў анкеце, што пяццю замежнымі мовамі валодаеце... А яшчэ якія-небудзь, апроч тых, што ведаеце ўжо, вывучаеце?

— Наогул, маю намер авалодаць яшчэ хаця б чатырма, – адказаў перакладчык. — Кітайскай, да прыкладу, або японскай... Якую-небудзь са скандынаўскіх няблага таксама было б засвоіць... Або з іранскіх... А ўжо на дзевяці можна будзе і спыніцца.

— Чаму ж менавіта на дзевяці, а не, скажам, на дзесяці? Дзесяць – сур'ёзная, салідная лічба. То хай бы ўжо дзесяць і было для цотнасці ліку, — заўважыў прэзідэнт.

— Дык дзясятай *мова* будзе. Вось вам акурат і цотны лік.

Арсень пайшоў, пакінуўшы пасля сябе лёгкі водар дарагога дэзадаранту, і прэзідэнт зноў разгарнуў «Фразеалогію». Ды гэтым разам чамусьці не з такім імпэтам, як раней. Здрадлівы сумнеў вужакай упоўз ні з таго ні з сяго ў душу, пасеяў няпэўнасць. Ці варта яму займацца ўсімі гэтымі крылатымі выразамі ды фразеалагізмамі?

Што там ягоным калегам, прэзідэнтам чужых краін, да старасвецкага друзу *ягонае мовы*?

Ён удыхнуў у лёгкія паболей паветра, выпрастаў рукі, падцягнуўся ўгору... Э, не, дарэмна, мабыць, ён гэтак песімістычна... Песімізм – першы крок да паразы, а параза яму зараз зусім, зусім недарэчы. А што да калег-прэзідэнтаў, дык вядома: усе яны, казаў той, *адным возам па піва едуць*. Будуць табе зацярушваць глузды развагамі пра ўсяленскую кансалідацыю ды кааперацыю, пра калектыўны інтарэс, а зачапі неўспадзеў нацыянальную годнасць каторага – не абярэшся непрыемнасцей. Вунь колькі там тых каталонцаў, а колькі год з тэлеэкрана не сыходзяць з прэтэнзіямі на этнічную ды, адпаведна, моўную асобнасць. Не кажучы ўжо пра фламандцаў або ірландцаў. Ды і поруч з іншымі, хаця б з тымі ж туркамі ці фінамі, выглядаць дурнем — не вялікая радасць.

Першым іспытам на прыдатнасць Арсеня ў ролі перакладчыка стала падрыхтоўка да прыёму амбасадараў замежных краін з нагоды Дня рэспублікі. З-за браку часу прыём ладзіўся крыху похапкам, і прэзідэнт з перакладчыкам літаральна не выходзілі з кабінета, абмяркоўвалі нюансы перакладу на *мову* падрыхтаванага напярэдадні спічрайтарам тэкста прэзідэнцкага звароту да іншаземцаў. Упершыню ў найноўшай гісторыі краіны зварот меў гучаць на *мове*, а гэта патрабавала ад прамоўцы не толькі адпаведнага выпадку зместавага напаўнення выступу, а і пэўнага ўзроўню культуры маўлення. На шчасце, перакладчык арыентаваўся ў моўным матэрыяле віртуозна, і прэзідэнту толькі заставалася яго слухаць ды рабіць адпаведныя зацемкі ў памяці ды на паперы. Яны працавалі так старанна, што адлучаны да часу ад прамых кантактаў з прэзідэнтам памочнік пачаў нервавацца. Не гэтак, аднак, з-за справы, колькі з-за вачавідзь сцьмянелых перспектыў уласнае кар'еры: з'яўленне ў атачэнні шэфа дасведчанага фаварыта было яму зусім недарэчы, бо ў любы момант магло прывесці яго становішча ў кіроўнай эліце да поўнай суладнасці з прозвішчам.

Тым часам падрыхтоўка выступу падышла, нарэшце, да завяршэння. Заставалася толькі патрэніравацца чытаць яго ўслых, каб няўрокам не пабблытацца падчас прыёму ў націсках.

Чытанне прайшло паспяхова, і ўважлівасць ды зацікаўленасць, з якімі Арсень слухаў прэзідэнта, канчаткова змацавала ўзніклую між імі падчас сумеснай працы сімпатыю. Такую, здалося прэзідэнту, трывалую, што ён, насуперак завядзёнцы, рызыкнуў нават пайсці з падначаленым на нечуваную шчырасць.

— Што вы думаеце, Арсень, як будзе ўспрыняты народам гэты наш з вамі моўны выкрутас? — спытаў, прабягаючы вачыма набраныя дробным шрыфтам аркушы выступу. – Я не амбасадараў маю на ўвазе, а сваіх, ну, вы разумееце, каго...

— Як будзе ўспрыняты? — перапытаў па хвіліне роздуму перакладчык. – Хто ж іх ведае. Хоць у далоні дзеля вока папляскаюць, канечне. Ды што вам? Трэба ж, каб і ў нас урэшце свой Лазар Перальман[9] з'явіўся. А то іншым пазычаем дзеячаў, а для сябе не ўзгадуем ніяк. Крыўдна ажно.

— Перальман... Перальман, канечне, — робячы выгляд, што зразумеў, пра што гамана, сказаў прэзідэнт. – Так, вядома... Ну, што ж, Арсень, дзякуй вам за парады. Да пабачэння.

Перакладчык пайшоў. Прэзідэнт пастаяў колькі хвілін у адзіноце ля акна, цiснуў кнопку. Знябожаны чаканнем увагі памочнік увайшоў у кабінет, застыў ля дзвярэй. Прэзідэнт слізгануў безуважным паглядам па ягонай паставе, вярнуўся да стала.

— Вось што, спадар Эпізодчык, падрыхтуйце паперы да залічэння новага перакладчыка ў штат. І прынясіце мне, калі ласка, том энцыклапедыі на літару «П», — сказаў і ўссунуў на нос – зрок апошнім часам штосьці пачаў катастрафічна пагаршацца — акуляры для чытання. Хоць, безумоўна, мог скарыстацца для спраўджання згаданага Арсенем імя больш зручнаю магчымасцю – інтэрнэтам, занадта часта рабіць гэта пасля таго, як спецслужбы з год таму засеклі ягоны ліст да зрынутага ў выніку шырокіх народных хваляванняў калегі-выгнанніка адной з афрыканскіх краін, які ён неабачліва напісаў таму ў прыступе чалавекалюбства, пазбягаў.

Прыём у гонар Дня рэспублікі прайшоў выдатна, гэта адчувалася і па рэакцыі гасцей, і па настроі супрацоўнікаў Адміністрацыі і кабінета міністраў. Асабліва ўзрушыў прысутных удалы выступ прэзідэнта на *мове*. І не проста ўдалы, а шыкоўны, калі даваць веры Арсеню, які сказаў пра гэта на вуха прамоўцу ў кароткім перапынку паміж спічамі літоўскага і чэшскага амбасадараў: «Лепш не скажаш, у вас рэдкі дар прамаўляць на *мове*». Словы Арсеня прагучалі як найвышэйшая пахвала і дарэшты ўзнялі настрой прэзідэнта. Не пакінулі без увагі мову выступу гаспадара і дыпламаты. Папскі нунцый, з якім яны сустракаліся зусім нядаўна,

[9] **Лазар Перальман** (Бен-Егуда Эліэзер), 1859 — 1922 – пачынальнік адраджэння размоўнай формы іўрыту, ураджэнец м. Лужкі Віленскай губерні (цяпер — Шаркаўшчынскі раён Віцебскай вобласці).

падчас візіту ў краіну новаабранага папы, паглядзеў на прэзідэнта так пранікнёна, з такою пашанотай, быццам упершыню бачыў. Польскі амбасадар скончыў свой спіч тостам за «прыгожую *мову*», а ізраільскі нават выказаў жаданне арганізаваць у сваёй амбасадзе курсы па яе вывучэнні:

— На маёй радзіме, у Ізраілі, нямала людзей, якія адсюль паходзяць і ведаюць вашу *мову*. Але ж ведаюць яе, канечне, не ўсе ізраільцяне. То няхай яна запануе побач з іўрытам хоць у нашай амбасадзе, на лапіку Ізраіля тут, у вашай гасціннай краіне.

Спіч ізраільцяніна падаўся прэзідэнту зручнаю зачэпкай для дэманстрацыі дасведчанасці ў моўнай галіне, і ён тут жа ёю скарыстаўся.

— З вашага боку, спадар амбасадар, гэта было б вельмі высакародна і ў вышэйшай ступені справядліва, — сказаў і дадаў не без іроніі: – Асабліва, калі ўлічыць нашу вашай мове паслугу ў асобе Лазара Перальмана. Гісторыя, канечне, прадаўняя, ды ўсё ж...

— О, Перальман... Бен-Егуда, канечне! – падхапіў імпэтна ізраільцянін. – Бацька іўрыту, вялікі, вялікі чалавек. Згадзіцеся, вярнуць мову з забыцця – не абы-які подзвіг. Таму мы, ізраільцяне, яго вельмі шануем. І вам удзячныя, што не забываеце, так бы мовіць, земляка...

У зале раздаліся воплескі. Прэзідэнт, да апошняе хвіліны не ўпэўнены, якой будзе рэакцыя прысутных на ягоную апошнюю рэпліку ды на іхні з амбасадарам дыялог наогул, падумаў, як добра мець пры боку талковага перакладчыка і поўны збор тамоў энцыклапедыі.

— Вось толькі не разумею, — працягваў амбасадар, — чаму гэта ў некаторых інтэрнэт-выданнях ды наогул таблоідах месца нараджэння адраджэнца нашай мовы называюць «цяперашняй Літвой»? Мабыць, гэта нейкая памылка? Як вы думаеце, спадар прэзідэнт?

— Памылка? Я, папраўдзе, не звярнуў на тое ўвагі, — сказаў прэзідэнт. – Але калі гэта так, як вы кажаце, то думаю, гэта звязана з назвай губерні, да якой адносілася мястэчка Лужкі ў час яго нараджэння. Відаць, такая логіка ў некаторых людзей: губерня Віленская калісь была – значыць, сёння гэта, адпаведна, Літва. Несправядліва і прыкра, канечне... Дзякуй за падказку, спадар амбасадар, мы гэтым пытаннем абавязкова зоймемся, я асабіста пракантралюю...

— А я вось у сябе на радзіме, у Рыме, гадоў пяць таму, пачынаючы вывучаць вашу *мову*, з яшчэ адной несправядлівасцю

датычна яе, спадар прэзідэнт, сутыкнуўся, — неяк нясмела, быццам не пэўны, ці казаць тое, што надумаўся, уступіў у размову нунцый. – Пайшоў аднаго разу ў базыліку Сан Клементэ[10], каб паглядзець у сутарэннях месца пахавання Кірылы і Мяфодзія, вынаходцаў кірылічнага пісьма, – і што ўбачыў там, як вы думаеце? На ўсіх кірылічных мовах ёсць братам словы падзякі, а на *мове* – няма. Як так сталася?

— То, мабыць, звычайная наша марудлівасць прычынаю, эксцэленцыя[11]. Ёсць у нас, ведаеце, такая спаконвечная рыса – пазніцца, — адчуваючы, што чырванее, сказаў прэзідэнт і памануўся перавесці гаворку ў іншую, менш слізкую плынь. На шчасце, гэта яму ўдалося – дзякуючы латвійскаму консулу, што вельмі дарэчы загаманіў пра важнасць культурных стасункаў паміж народамі ды намаганні свайго суайчынніка Райніса ў справе абароны правоў носьбітаў *мовы* на тэрыторыі Латвіі на пачатку мінулага стагоддзя. І неўзабаве размова зноў займела прыемны, лагодны характар, вярнулася да выступу прэзідэнта на *мове.*

Тым часам і Арсень часу дарэмна не губляў, спажываў справядліва належную яму частку ўхвалы. Сакратары і перакладчыкі амбасадаў раз-пораз падыходзілі да хлопца, каб перакінуцца словам ды выпіць на брудэршафт, і гэтая цікавасць з іх боку да абаяльнага навічка ў ролі асабістага перакладчыка галавы дзяржавы так кідалася ў вочы, што ўрэшце пачала прэзідэнта, начутага пра лёгкасць нораваў ды своеасаблівасць вырашэння праблемы гендэрнай ідэнтыфікацыі ў дыпламатычным асяродку, крыху раздражняць. Ён хацеў перасцерагчы Арсеня ад залішняе, як яму здавалася, фамільярнасці ў стасунках з чужынцамі, але перадумаў: хай сабе, можна будзе і пасля, сам-насам — у Бога дзён многа – на гэты конт пагаманіць.

Ды ўсё гэта былі дробязі. Прыём удаўся, і не проста ўдаўся, а прайшоў на «ўра». А галоўнае – канчаткова ўмацаваў намер прэзідэнта дамагацца новых вышыняў ў пазнанні *мовы.* Зрэшты, цяпер ужо не толькі ў пазнанні, а і ў практычным яе прымяненні. І не толькі ў межах нейкай там адной канцылярыі, а, магчыма (чым чорт не жартуе), на абшарах усёй дзяржавы. Чалавек дзеяння, ён раптам так востра адчуў неабходнасць прымянення набытых падчас чытання ведаў аб *мове*, што яна пачынала трансфармавацца ў ягоных глуздах

---

[10] **Сан Клементэ** – рымская святыня раннехрысціянскай эпохі.
[11] **Эксцэленцыя** – форма звароту да біскупа (архібіскупа) ў каталіцкім касцёле.

у навязлівую ідэю. Канечне, канечне, трэба рухаць справу! Вось толькі з чаго пачынаць?

Усю ноч пасля прыёму пытанне гэтае – з чаго пачынаць? – не давала прэзідэнту спакою. Выйсце ж падказаў назаўтра зноў-такі Арсень, параіўшы звярнуцца да дакумента больш як дваццаціпяцігадовае даўніны – прынятага калісь моўнага Закона, згодна з якім *мова* аб'яўлялася ў краіне адзінай дзяржаўнай:

— Што вынаходзіць ровар? Вярнуцца да таго Закона, і ўсе вам клопаты. І нос, казаў той, у тытуню.

— Закон, кажаце? – прамовіў у задуменні прэзідэнт і гукнуў памочніка, каб распарадзіцца расшукаць у нетрах архіўных папер асобнік Закона.

Рэшту дня прэзідэнт літаральна жыў прамінулаю прамовай. Чвэрці гадзіны не мінала без кампліментa каго-небудзь з падначаленых, віншаванні сыпаліся, як крупы з дзіравай торбы. Нават тыя, хто не прысутнічаў на прыёме, а толькі чуў пра яго з чужых словаў, лічылі за абавязак выказаць прэзідэнту сваё захапленне. Ды, нягледзячы на відавочны, несумненны поспех, цалкам завалодаць сабою стану эйфарыі прэзідэнт, чалавек валявы і дастаткова рацыянальны, не даў. Паклікаў за паўгадзіны да адыходу дадому ў кабінет Арсеня, і перш чым той паспеў скончыць чарговую порцыю пахвальбы, заклапочана сказаў:

— Гэта добра ўсё, але што далей?

— Што, прабачце? – не зразумеў перакладчык. – Калі вы наконт *мовы*, то я ж казаў вам ужо – падыміце Закон.

— Я не пра тое. Вось вы ўсе хваліце мяне, а я, паверце, нічога не адчуваю, апроч... апроч дэфіцыту напаўнення ў моўнай галіне, вось што... Дык, можа, параіце мне яшчэ што-небудзь для чытання? Можа, кніжку там якую ці проста артыкул... Пэўна, гэта было б... патрыятычна.

— Я думаю, вам след пазнаёміцца яшчэ з якім-небудзь з раздзелаў *мовы*, — сказаў па хвіліне роздуму перакладчык. – Напрыклад, што-небудзь з дыялекталогіі. Гэта цікавы раздзел, і ў адукацыйным плане ён стане добрым дадаткам да матэрыялаў па фразеалогіі. А галоўнае – дапаможа вам, так бы мовіць, паглядзець на *мову* з іншага боку, больш шырока. Запісаць вам аўтараў і назвы кніжак? А хочаце, прынясу, у мяне дома шмат ёсць такога.

— Прынясіце, канечне, — падхапіў ён і дадаў, панізіўшы голас: — Але толькі без гэтага, ведаеце... залішняга ажыятажу.

Што казаў – ведаў. Ці ж не парадокс: трэці год як змяніў статус апазіцыйна дзеяча на пасаду кіраўніка дзяржавы, а ў вачах шмат

каго нават тут, у асяродку Адміністрацыі і кіраўніцтва справаў, дзе, здавалася б, павінны быць спрэс аднадумцы, па-ранейшаму ў вачах сяго-таго заставаўся апазіцыянерам.

Арсень прынёс абяцаную кніжку праз дзень пасля размовы. Прэзідэнт адразу ж збольшага прагартаў яе ды і міжволі пашкадаваў, што замовіў: тэкст «Дыялекталогіі» падаўся яму значна цяжэйшым за дапаможнік па фразеалогіі — з-за вялікай колькасці нязвыклых лінгвістычных тэрмінаў. Спачатку, там, дзе ішла гаворка пра наяўныя ў краіне дыялекты і межы іх бытавання, чытанне давалася лёгка. А вось пасля, калі пацягнуліся адно за адным груваcткія навуковыя азначэнні асаблівасцей дыялектнага маўлення, справа значна ўскладнілася. Канечне, ніхто яго чытаць не змушаў, і ён мог у любую хвіліну паставіць на моўнай самаадукацыі крыж. Але не такая была ў прэзідэнта натура, каб гэтак лёгка здацца.

Не, ён не здасца! Калі не здаўся падчас выбарчай гонкі, дзе і не гэткія перашкоды з боку супернікаў даводзілася адольваць, то ўжо тут, у такой простай справе, як *мова*, саступіць было б недаравальна. Прэзідэнт быў чалавекам гонару, і кожную справу, якую ні пачынаў, даводзіў да канца. Адзінае, што надта замінала яму і цяпер, па прыняцці рашэння працягваць самаадукацыю, быў недахоп часу. І яшчэ — немагчымасць засяродзіцца на змесце кніжкі з-за пастаянных наведнікаў. Не спрыяла паспяховаму навучанню і тое, што падначаленыя ўсё часцей суправаджалі падазронымі паглядамі ягоную руку, калі ён спехам хаваў пры іх набліжэнні кніжку ў шуфляду стала, ці проста клаў яе на падлогу, а то і соваў, не паспеўшы прыкрыць газетаю ці іншай кніжкай, – смех сказаць – пад мяккае месца. І ён вырашыў перанесці асноўны цяжар спасціжэння свету дыялектаў і дыялектызмаў дадому.

Жонка ўспрыняла ягонае неспадзеўнае захапленне *мовай* даволі абыякава. Не сказаць каб усцешылася, але надта, здаецца, і не засмуцілася: што ж, так дык так, хай будзе ў яго *раман з мовай*, на здароўе, абы не з маладзіцай ды абы выкананнем сваіх сужэнскіх абавязкаў не грэбаваў з прычыны, што сіл, маўляў, на што іншае пасля таго рамана не засталося. Кабета памяркоўная і ўраўнаважаная, яна ад самага пачатку іх шлюбу аддала ў стасунках з ім перавагу адстаронена-незласлівай насмешлівасці, таму нават калі б ён раптам (цьфу-цьфу, канечне!) прапанаваў ёй, да прыкладу, сеанс калектыўных любошчаў, несумненна знайшла б на тое годны адказ. Хаця, з другога боку, хто ведае: жанчына да каго ды чаго заўгодна здольная прыраўнаваць, вунь колькі прыкладаў навокал.

Цяпер, калі быў знойдзены аптымальны варыянт для задавальнення самаадукацыйнага свербу, справа ў прэзідэнта пайшла надзвычай хутка. Праз тыдзень ён ужо няблага арыентаваўся ў матэрыяле падручніка дыялекталогіі. Нават мог пры нагодзе ўжыць у размове дарэчы такое нязвыклае для вуха суразмоўцы дыялектнае слова, што ў таго мова адымалася.

— *Тук* дасі мне нарэшце? – агарошыў аднойчы, смажачы ў кухні бульбу, жонку, і тая толькі разгублена залыпала вачыма. – *Тук* – значыць тлушч, паўднёва-заходні дыялект, эх ты… А яшчэ жонка галавы дзяржавы! Тук-тук! – І ён зухавата паляпаў сябе па ілбе.

Ды чытанка чытанкаю, а праца – працай. У рэшце рэшт прэм'ру ўрада ўдалося выпхнуць з пасадаў адразу некалькі стараватых міністраў, і шмат часу марнавалася зараз на тое, каб падшукаць годную ім замену. Дакладней – значна больш годную, бо знайсці адпаведную выпхнутым або *крыху* больш годную ніякай цяжкасці не ўяўляла, гэткіх можна было набраць без напругі, як пажартаваў нядаўна не надта прыхільны да прэм'ера кіраўнік справаў, і ў двары прылеглага да будынка Адміністрацыі мікрараёна. Пасля доўгіх пошукаў ды абмеркаванняў адна прыдатная кандыдатура – на пасаду міністра адукацыі — нарэшце, была знойдзеная. Прэзідэнт, які заўсёды надаваў вялікае значэнне асабістым кантактам з членамі кабінета, запрасіў, паводле завядзёнкі, кандыдата да сябе для папярэдняй размовы.

Кандыдат з'явіўся з дакладнасцю да хвіліны. Распавёў пра сябе, пра сваю сям'ю, пра працу на пасадзе дэкана аднаго з факультэтаў адчыненага тры гады таму, адразу па сканчэнні паўнамоцтваў папярэдняга прэзідэнта, Нацыянальнага ўніверсітэта, пра тое, як бачыць свае абавязкі і якімі метадамі будзе выпраўляць незайздроснае становішча ў даручанай галіне. Гаварыў даволі складна, ды не зусім паслядоўна, відаць, хваляваўся. Звыклы да мандражу сваіх суразмоўцаў падчас во гэткіх іспытаў на трываласць напярэдадні прызначэння на пасаду прэзідэнт слухаў цярпліва і, каб надаць кандыдату ўпэўненасці, дэманстраваў дэмакратызм, падкідваў раз-пораз жартаўлівыя рэплікі. Нарэшце кандыдат скончыў, і цяпер настала чарга дыялогу. Пачаў яго прэзідэнт.

— Дык кажаце, паходзіце з паўночнага ўсходу? – сказаў нечакана для субяседніка *на мове* і, не даўшы апамятацца, дадаў: — Тое ў гаворцы вашай такое моцнае *дысімілятыўнае аканне* пракідаецца. Што ж, *дыялектызмы*, — натуральная рэч, і з імі даводзіцца лічыцца. А вось *трасянкі*, канечне, варта пазбягаць.

*Інтэрферэнцыя* ва ўмовах *білінгвізму* з'ява непазбежная, але ж чысціня мовы – не апошняя рэч. А вы як думаеце на гэты конт?

— Я... я согласен, — збіты з тропу нечаканым паваротам размовы, збянтэжана адказаў кандыдат і дадаў, пераходзячы *на мову*: — Згодны з вамі на ўсе сто.

— Вось і выдатна, — працягваў прэзідэнт. – Значыць, спрацуемся. Што ж, прыемна будзе мець побач аднадумца.

Ён падумаў, што няблага было б развіць тэму ды распачаць гаворку пра тое, як бачыць новаспечаны міністр месца *мовы* ў сістэме адукацыі краіны наогул, але тут азваўся званком тэлефон.

Тэлефанаваў памочнік. Прыйшоў ліст з парадкам дня міжурадавага паседжання ў Кіеве па пытаннях аховы навакольнага асяроддзя, трэба было яго праглядзець ды пацвердзіць удзел у самім паседжанні.

— Прабачце, — сказаў прэзідэнт. – Мушу з вамі развітацца – неадкладныя справы. Упэўнены, мы яшчэ неаднойчы сустрэнемся.

Міністр хуценька падхапіўся з месца. Агаломшанасць на ягоным твары і паспешлівасць, з якою ён пакідаў кабінет, прамаўлялі самі за сябе.

Увайшоў памочнік са стосам папер:

— Калі ласка, парадак дня паседжання ў Кіеве. А вось асобнік Закона аб мовах. Як вы і замаўлялі...

— Дзякую, — сказаў прэзідэнт і паклаў асобнік ды іншыя паперы ў тэчку з намерам узяць з сабою дадому. Наперадзе ў яго былі два выходныя, і ён спадзяваўся выкарыстаць іх з максімальным вынікам для справы.

Вынік, аднак, перасягнуў усе ягоныя спадзевы – дзякуючы нечаканай хваробе. Ні з таго ні з сяго ў суботу ў прэзідэнта ўзнялася тэмпература, і ён вымушаны быў заставацца дома аж да аўторка. Жонка колькі разоў імкнулася выклікаць доктара, але ён катэгарычна не пагаджаўся: пройдзе само, не ўпершыню, падумаеш – прастуда. Вунь колькі людзей лекуюцца самастойна, а чым ён лепшы, што будзе з-за гэткай дробязі звяртацца да эскулапа? Чаго тады вартыя ўсе гэтыя папулісцкія газетныя бразготкі пра дэмакратызм ды блізкасць да народа, дзякуючы якім ён у немалой ступені ў свой час, дарэчы, і выйграў прэзідэнцкія выбары. Што да працы, дык яе ўсю не пераробіш. Дый падначаленыя няхай крыху адпачнуць, не ўсё ж ім быць у напрузе. Тым больш што галоўная напруга, калі ўсё пойдзе так, як ён надумаўся, чакае іх наперадзе.

Усе гэтыя дні хваробы прэзідэнт вывучаў Закон аб мовах. А ў панядзелак, дачытаўшы апошні яго артыкул ды перачытаўшы зноў усё спачатку, патэлефанаваў Арсеню і папрасіў таго размножыць тэкст у колькасці, адпаведнай ліку супрацоўнікаў Адміністрацыі, ды раскласці асобнікі па сканчэнні працоўнага дня ў іх на сталах. Перакладчык ахвотна згадзіўся, і ў аўторак уранні прэзідэнт, адданы звычцы з'яўляцца на працоўным месцы раней за ўсіх, з задавальненнем убачыў на сталах падначаленых раскладзеныя напярэдадні Арсенем аркушы дакумента.

Першыя прыкметы рэакцыі на іхні з Арсенем сюрпрыз з'явіліся гадзінам к дзесяці. Пра гэта ён здагадаўся, калі быццам незнарок, а насамрэч каб спраўдзіць тую рэакцыю, выйшаў у канцылярыю. Усюды панаваў неўласцівы калідорам будынка Адміністрацыі рух, на тварах супрацоўнікаў чыталася напружанасць упярэмешку з перасцярогай. То справа, то злева раз-пораз ляпалі дзверы, і хто-небудзь выходзіў з кабінета з тэкстам Закона ў руках, праставаў да дзвярэй суседняга. Нават кіраўніца канцылярыі, флегматычная дама з заўсёдным адзіным клопатам як хутчэй выдаліць са сваёй жыццёвай прасторы чарговага наведніка, гэтым разам выглядала нязвыкла ўзрушанай.

А дванаццатай, як папярэдне дамаўляліся, прыйшоў Арсень.

— Вось, нарабілі мы з вамі пярэпалаху, малады чалавек, разварушылі мурашнік, – ледзь той пераступіў праз парог кабінета, сказаў прэзідэнт. – А што далей?

— Я думаю, самы час арганізаваць пры Адміністрацыі ды кабінеце міністраў курсы па вывучэнні *мовы*, — ахвотна, бы толькі такога пытання і чакаў, адказаў Арсень. – Запрасіць добрага спецыяліста, хай бы папрацаваў са штатам...

— А праўда, курсы, чаму б і не? – не без каліва здзіўлення, але не ад нечаканасці прапановы, а ад таго, што іх з Арсенем меркаванні гэтак дакладна супалі, сказаў прэзідэнт. – Але хто мог бы іх праводзіць? Можа, маеце каго-небудзь на прыкмеце?

— Ну, гэта, думаю, не праблема. Вось маю настаўніцу былую можна запрасіць, Вольгу Андрэеўну. Адукаваная жанчына і досвед выкладання прадмета належны мае. Ды вы яе ведаеце – яна дырэктаркай у ліцэі, дзе вы былі нядаўна, робіць...

— А, канечне, ведаю. Сімпатычная жанчына. Ну, то на яе кандыдатуры, мабыць, і спынімся. Але адкуль вам вядома, што я быў у ліцэі?

— З газет. І Вольга Андрэеўна хвалілася... Прэзідэнт наведаў ліцэй – не шараговая ж падзея... Дык патэлефанаваць ёй?

— Сам патэлефаную, — сказаў нечакана холадна прэзідэнт і, даючы знаць, што размова скончана, схіліўся над паперамі. Неспадзеўная памякчэласць паводзінаў, на якой ён усё часцей пачаў сябе лавіць у стасунках з падначаленымі пасля таго, як заняўся *моўным* пытаннем, крыху яго бянтэжыла і насцярожвала. Хоць, канечне, можа, Арсеня крыўдзіць гэткім во чынам дзеля захавання субардынацыі і не варта было б… Што да астатніх, то, безумоўна, якую б адданасць яны ні ўдавалі, трымацца воддаль не зашкодзіць.

Вольга Андрэеўна, асоба без належнага досведу таго, што ў краіне з зародкавым станам дэмакратыі што ў маргінальным асяроддзі, што ў калідорах улады ў любой справе галоўны стымул – пуга, успрыняла прапанову аб правядзенні курсаў па *мове* без энтузіязму. Як сама прызналася падчас тэлефоннай размовы – з-за элементарнай боязі:

— Ох, спадару прэзідэнт, сумняваюся… У такім месцы ды з такімі людзьмі працаваць – ці здолею я? Гэта ж вам не ліцэй…

І толькі калі ён паабяцаў падтрымку ў выглядзе ўласнае прысутнасці на занятках, жанчына дала згоду.

Аднак выканаць абяцанне прэзідэнту не ўдалося, бо на пачатку тыдня яму давялося тэрмінова ляцець на пахаванне былога прэзідэнта адной з краін постсавецкай прасторы. І ён даручыў усе клопаты па забеспячэнні належных умоваў для правядзення курсаў Арсеню. Той згадзіўся выканаць даручэнне ахвотна, ды так ахвотна, што, мусіць, ці не перабраў імпэту. Бо калі прэзідэнт вярнуўся з пахавання, яго сустрэла ў родных пенатах атмасфера ўсеагульнай не то разгубленасці, не то незадаволенасці.

Ён паклікаў Арсеня, каб распытаць, што здарылася.

— А што магло здарыцца? – паціснуў той плячыма. – Курсы як курсы, нічога звыш такога. Вось, да іспыту па *мове* пакрысе рыхтуемся, пытанні раздалі з Вольгай Андрэеўнай.

— Да іспыту? Ці не занадта гэта? – узвысіў голас прэзідэнт. – Так, ведаеце, і распужаць людзей нядоўга.

— А вы хочаце, каб як два дзесяцігоддзі таму было? Будуць сядзець, узброіўшыся асадкамі, са спадзевам, што вось зараз ты, настаўнік-цудадзей, іх за гадзіну ўсяму навучыш, а самі нават у слоўнік дома ні разу не зазірнуць — якое ж гэта навучанне? Мову так не вучаць!

Адказ перакладчыка падаўся прэзідэнту слушным, але пэўнасці не дадаў. Да таго ж у прэсе ды ў інтэрнэце з'явіліся допісы-меркаванні пра курсы ў Адміністрацыі і кабінеце міністраў, і цяпер

адбою не было ад тэлефанаванняў, добрая палова з якіх грунтавалася на парадах, як і што след рабіць далей. Траціна з іх уяўляла істэрычны енк. Прычым даймалі і апаненты, і аднадумцы, асабліва з ліку пенсіянераў, што, знябыўшыся, відаць, адсутнасцю сталага занятку, ліхаманкава шукалі хоць які для ліквідацыі духоўнага вакууму. Не засталася ўбаку ад справы, канечне, і моладзь. Дня не мінала, каб хтосьці не распачаў у сеціве дыскусіі на *моўную* тэму. Купкі маладзёнаў настойліва асаджалі будынак з патрабаваннем прыспешыць справу ці, наадварот, наогул яе скасаваць. Плошча перад будынкам Адміністрацыі на вачах ператваралася ў пляцоўку для перформансаў. Ад усяго гэтага галава ў прэзідэнта ішла кругам, і ён вырашыў пагаманіць з Вольгай Андрэеўнай.

Яны сустрэліся ў канферэнц-зале. Вольга Андрэеўна толькі што скончыла дадатковыя заняткі з групай рэферэнтаў і сакратароў амбасадаў і цяпер сядзела ў самоце ля стала, гартала нейкую кніжку.

— Ну, як вам навучанне нашага штата? – спытаў прэзідэнт. – Задаволеныя працай? Не шкадуеце, што згадзіліся на яе?

— Дзякуй, усё добра, — адказала жанчына і запытальна зірнула на яго. – Але... што далей? Я маю на ўвазе практычны бок справы. Вы ж, пэўна, маеце нейкі план? Не можа быць, каб не мелі. Не дзеля пустога ж інтарэсу ўся гэтая мітрэнга з курсамі...

— А вось наконт гэтага я якраз, дарэчы, хацеў з вамі параіцца, — сказаў ён. – Што вы маглі б прапанаваць? Парайце, калі ласка...

— Я? Не ведаю... Раіць прэзідэнту – так гэта нязвыкла... Разумею, як вам цяжка, ды што я магу параіць? – Вольга Андрэеўна памаўчала колькі хвілін. — Хіба што вось гэта, можа, – асабіста для вас, пачытаць. – Яна паказала вачыма на кніжку, якую толькі што гартала. — Вы яе бачылі, дарэчы, – у нас у ліцэі пасля вечарыны, яшчэ падымалі з долу ды з майго чытацкага густу пакпілі: вось што, маўляў, настаўніцтва чытае... Хацела сёння вярнуць у бібліятэку, але магу вам пазычыць на колькі дзён... Магчыма, гэтая кніжка паможа вам прыняць нейкае рашэнне. Можа быць...

Яна пасунула кніжку на сярэдзіну стала. Па лёгкасці жэста, з якой яна гэта зрабіла, няцяжка было здагадацца, што ніякага таемнага змыслу за яе прапановаю не хавалася.

— Алан Бэнэт? «Няпросты чытач»? Як жа, памятаю... Штосьці пра каралеву, здаецца... Так? І што — тут ёсць адказ на *нашае* пытанне? – спытаў ён здзіўлена і адначасна крыху недаверліва.

— Што вы, адказ – занадта гучна. Але вось накірунак думкі, здаецца, дакладна ёсць. Сапраўды. Ды вы пачытайце і самі ўсё зразумееце.

— Ну, калі вы раіце, тады, канечне, варта пачытаць. – Прэзідэнту карцела яшчэ спытаць, пра што кніжка, але ён стрымаўся: ужо ж як-небудзь сам дасць рады даўмецца, што там да чаго.

Твор Бэнэта напачатку падаўся прэзідэнту сумнаватым. Папраўдзе, ён нават падумаў, што наўрад зможа яго асіліць. Асабліва раздражняла яго манера пісьма англічаніна – занадта павольная, марудлівая, быццам не аўтар кіраваў творчым працэсам, а, наадварот, словы дыктавалі яму сваю волю. Але спакваля ўсё стала на свае месцы, і інтрыга, звязаная з пераўтварэннем галоўнага персанажа — каралевы Елізаветы спачатку ў простую чытачку, а затым – праз чытанне – у захопленую творчым свербам асобу літаральна яго паланіла. Не кажучы ўжо пра пасаж у заключных радках твора, дзе каралева празрыста намякае пра свой намер адмовіцца ад кароны на карысць творчасці з-за несумяшчальнасці творчага і ўладнага пачаткаў. Фінал аповеду з апісаннем размоваў за колькі хвілін да добраахвотнага адрачэння каралевы ад кароны так уразіў прэзідэнта нязмушанай лагічнасцю фабулы, што яму нават прыйшла ў голаў думка спраўдзіць пададзены пісьменнікам факт у энцыклапедыі. І толькі ўзгадаўшы нядаўняе віншавальнае пасланне каралевы з нагоды чарговай гадавіны ягонай уласнай інаўгурацыі, ён зразумеў: сцэна адрачэння – чыста гіпатэтычная, плод фантазіі аўтара і нічога больш.

Адзінае, што здалося прэзідэнту ў аповедзе англічаніна не да месца – згадкі пра людзей, імёнаў якіх ён ніколі раней не чуў і радкі пра якіх, як яму здавалася, не неслі ў творы аніякай нагрузкі. Вось нейкі літаратар Жэнэ, да прыкладу, аб прозвішча якога ягонае вока зачапілася, памятаецца, яшчэ ў ліцэі, — якое ён мае дачыненне да сюжэту? Пры чым ягоная асоба да лёсавызначальнага рашэння каралевы? А, пэўна ж, мае, калі ажно некалькі разоў, пачынаючы ад першых радкоў рамана, згадваецца.

І ён папрасіў памочніка тэрмінова расшукаць у бібліятэцы кніжку Жэнэ. Памочнік няўцямна пацiснуў плячыма:

— Жэнэ? Не ведаю такога. Амаду ведаю, Лімонава, хе-хе... Рэмарка... Караткевіча з Быкавым, канечне, а вось Жэнэ... Што ж, паспрабуем расшукаць.

Арсень, у адрозненне ад Эпізодчыка, пра Жэнэ не толькі чуў, але, падобна, нават і чытаў ягоныя творы. Яго рэакцыя на запыт прэзідэнта была такой двухсэнсоўнай (сцяўся ды пачырванеў, бы дзеўчына), што ён толькі ўмацаваўся ў жаданні конча прачытаць сёе-тое з творчай спадчыны таямнічага француза.

— Дык вы думаеце, гэта годнае чытанне, Арсень? – перапытаў, аднак, вагаючыся.

— Як паглядзець, спадар прэзідэнт, — адказаў перакладчык. – У французаў на яго, дзесьці я чытаў нядаўна пра вынікі апытання сярод чытачоў, усплёск цікавасці. Сапраўдны бум. Жэнэманія, так бы мовіць.

— Ну, калі бум, тады, канечне... Што ж, паглядзім, паглядзім, што яны там бумкаюць.

Ды, падобна, Жэнэ выклікаў цікаўнасць не ў аднаго прэзідэнта. Бо калі ён назаўтра прыйшоў на працу, то заспеў памочніка за чытаннем. Убачыўшы шэфа, той паспешліва, з выглядам ніякаватасці на твары прыкрыў кніжку аркушам паперы. Ды застаўся бачным край вокладкі цёмна-зялёнага колеру з выяваю кветак па перыметры. Так што калі памочнік праз паўгадзіны прынёс у кабінет замоўленую напярэдадні кніжку француза, прэзідэнт без цяжкасці пазнаў у ёй тую самую цёмна-зялёнага колеру — Жэнэ.

— Як там справы з іспытам па *мове*? – спытаў прэзідэнт, робячы выгляд, што нічога не зацеміў адносна неспадзеўнага чытацкага імпэту падначаленага. – Можна ўжо пачынаць?

— Думаю, неўзабаве будзе можна. Тыдзень-другі, і можна пачынаць, — адказаў памочнік і з жалем, быццам развітваўся з чымсьці невыказна дарагім, зірнуў употай на том Жэнэ.

У адрозненне ад рамана Бэнэта, твор француза ад першых старонак зрынуў прэзідэнта ў шок. «Маці Божая кветак», дай ты рады! Пры такім узнёслым, пранікнёным назове – гэткае апушчэнства! Што ні раздзел, то сексуальнае вычварэнства, і ўсё гэта — на тле бясконцых разважанняў пра Боскае. Дык мала таго, што полавы апушчэнец гэты Жэнэ, яшчэ, аказваецца, і невыпраўны злодзей, клептаман, цібрыў усё, што дрэнна ляжыць. Адно і ведаў, што красці і туляцца па вязніцах за крадзяжы ды ў пошуках усё новых любоўных прыгодаў з мужынамі. Цікава, ці прачытала гэты ягоны твор Елізавета? Хутчэй за ўсё прачытала, ды аўтар «Няпростага чытача» з этычных меркаванняў палічыў за лепшае пра тое не згадваць. Як-ніяк каралева, і што то за прыклад быў бы для люду паспалітага? А можа і не чытала, у іхніх Букінгемах-Віндзорах, у атачэнні манаршай сям'і, і сваіх вычварэнцаў кшталту Жэнэ, калі прэсе веры даваць, не бракуе. Што ні асоба, то з ухілам у непатрэбшчыну, што сярод жанчын, што сярод мужчын, месяца не мінае без чарговага скандала. А ўжо пра парламентарыяў і казаць не выпадае.

Прэзідэнт уявіў васьмідзесяцігадовую каралеву (прыкладна гэтулькі, паводле ягоных разлікаў, мела споўніцца Яе Вялікасці на час выхаду ў свет у 2007 годзе твора Бэнэта) за чытаннем Жэнэ, і смех міжвольна здушыў яго горла. Цікава, што думала старая лэдзі падчас той чытанкі? Мяркуючы па рэакцыі на імя француза, як падаў яе аўтар «Няпростага чытача», не надта камплексавала.

Ён схаваў кніжку ў шуфляду стала, ступіў да дзвярэй з намерам спусціцца ў сад ва ўнутраным дворыку будынка, каб там адысці крыху ў самоце і ад справаў, і ад чытання, і ад навеяных ім думак.

— Што-небудзь трэба, спадар прэзідэнт? – збянтэжаны ягоным нечаканым з'яўленнем, выгукнуў памочнік.

— Галава штосьці баліць, мабыць, перапад ціску, — машынальна зманіў прэзідэнт і з выразам суровасці на твары, быццам і не вясяліўся колькі хвілін таму, дачытваючы апошнія старонкі твора Жэнэ, патэпаў калідорам да сходаў.

*Фрагмент размовы супрацоўнікаў Адміністрацыі прэзідэнта на носьбіце праслухоўвання на аб'екце №3-П (памяшканне прыбіральні №3 у будынку Адміністрацыі) са справаздачы супрацоўніка Камітэта дзяржбяспекі «Калістрата» ў галоўнае ўпраўленне ведамства ад 15 студзеня 2015 года:*

*— Ну, і як табе гэты французскі раманчык пана Жэнэ? Шык той яшчэ, ці не праўда? Шэдэўр!*

*— Мудня з кутасамі, хе-хе… А табе як? Спадабалася, бачу… Спадабалася ж? Прызнайся!*

*— Не кажы… брыдоцце… Ды якое… Але ж паліць хочацца – вушы вянуць. Цыгарку маеш з сабой? Участуй!*

*— Што, зноў цешча кішэнных на тытунь не выдзеліла? На … запальніцу на, прыпальвай, пакуль я шчодры…*

*— Шчодры! Мала ты ў мяне цыгарак «пераструляў»? Ага… Забойная кніжэнцыя, нічога не скажаш… Яшчэ той бестселер… пк-пк-пк…*

*— Я і кажу… дах у нашага шэфа, няйначай, едзе… Дакладна, едзе…*

*— Думаеш, сапраўды чытае ён гэтага вычварэнца Жэнэ?*

*— А то не! Для чаго ж тады замаўляў, калі не чытаць? Дурню ясна — чытае. Яшчэ як чытае…*

*— Мала што, можа, так, дзеля куражу пацікавіўся… Вось які я, маўляў, прасунуты — чытаю, бля, цікаўлюся, не тое што вы ўсе, цемната…*

*— Ага, дзеля куражу! Нішто сабе кураж! А гэтага, харашунчыка свайго, перакладчыка, побач уссадзіў, узняў на такую вышыню – таксама дзеля куражу? Гомікаў тут нам не хапала… Жонка, мусіць, не дае як след, во і вар'яцее…*

*— Думаеш, гушкаюцца?*

*— А то! На тое ж яна і жонка.*

*— Пры чым тут жонка? З Арсенькам... Што, калі як-небудзь падказаць жонцы пра тое?*

*— Падказаць? А што — гэта ідэя… пф-пф-пф… Дым нейкі ў тваіх цыгарэтаў, фу…*

*— Кепскія – свае палі. Дым яму паганы…*

*— Годзе, не злуй, так сказаў… Дык наконт падказкі... У інтэрнэт во можна ўкінуць маленькі допісік… Там увадначас дасціпнікі падхопяць і панясуць… Ма-аленечкі такі допісік, у колькі радкоў…*

*— Сапраўды, няблага было б… Мовы яму закарцела… Трасцы табе, а не мовы! Тры гады засталося да пенсіі, дык не дасць спакойна дарабіць… Мову я яму пачну вучыць на шостым дзесятку… Курам на смех…*

*— Што ж, ты начальнік – я дурань, я начальнік – ты дурань… Загадае – і будзеш вучыць, нікуды не дзенешся. Крукам будзем усе сядзець…*

*— Яшчэ паглядзім, хто там крукам, а хто ракам… Куранят па восені, казаў той, на хер, лічаць… Але маўчок – ні слова каб нікому, пра што гаманілі!*

*— Магіла… Свіння лычам не ўкапае…*

*— То добра, хопіць кірмашыць, хадзем... Французік хрэнаў… цьфу!*

Тым часам падышла да завяршэння падрыхтоўка да іспыту па *мове*. Вольга Андрэеўна распрацавала спіс пытанняў да яго, і ў сярэдзіне наступнага тыдня памочнік раздаў іх супрацоўнікам Адміністрацыі, кіраўніцтва справаў і кабінета міністраў, а таксама ўсёй без вынятку абслузе. Рух у калідорах будынку яшчэ больш узмацніўся. Але тут здарылася непрадбачанае.

За два дні да іспыту, у аўторак, у праваахоўныя органы паступіла ананімнае паведамленне аб тым, што ў будынку Адміністрацыі імаверны выбух. Быццам нейкія мярзотнікі здолелі пранесці ды схаваць у ім выбуховую прыладу, і цяпер з хвіліны на хвіліну чакай бяды. Людзі з прыстасаваннямі для яе выяўлення запоўнілі памяшканні, персанал тэрмінова эвакуявалі. Гэта было зусім

няцяжка: напалоханыя нядаўнімі выбухамі ў Расіі службоўцы працоўныя месцы пакідалі без намёку на незадаволенасць, нават ахвотна. Прэзідэнт выйшаў са свайго кабінета апошні, тады, калі ў будынку ўжо нікога, апроч вышукнікоў, не заставалася.

Працы па вышуку выбуховай прылады працягваліся без малога дзве гадзіны, але безвынікова. А яшчэ праз гадзіну ў інтэрнэце з'явіўся допіс, што ўся гісторыя з аб'яўленым выбухам – банальная правакацыя.

Да сканчэння працоўнага дня заставалася гадзіна, і прэзідэнт, не жадаючы рызыкаваць жыццямі (ці мала што?) падначаленых, дазволіў ім разысціся па хатах раней. А сам, нягледзячы на ўгаворы памочніка і міністраў-сілавікоў, падняўся на свой паверх.

Выгляд парасчыняных кабінетаў раззлаваў яго. Да таго ж вышуканты нават не парупіліся пакласці на месца павыманыя падчас аперацыі з шафаў і шуфлядаў ды разбэрсаныя паўсюль паперы і кнігі.

Ён увайшоў у адзін пакой, у другі – усюды панаваў рэзрух, быццам тут пагаспадарыла гайня рабаўнікоў. Усюды расхрыстаныя шафы, перакуленыя пісьмовыя прыборы, папкі на сталах, і усюды побач з імі... зялёна-балотнага колеру томікі Жэнэ. Спачатку прэзідэнт, узрушаны бесцырымоннасцю вышукнікоў, не звярнуў на іх увагі. Але ягонае вока спатыкалася аб кніжкі так часта, што гэта было толькі пытаннем часу.

Дык вось што яны ўсе чытаюць! Жэнэ! Вось адкуль іх змоўніцкі выгляд! Жэнэ! Гэта ўжо эпідэмія!

Асабліва абурыў яго стол Эпізодчыка, на якім зелянелі абгорткамі ... ажно тры кнігі француза. Вось хто, аказваецца, тут галоўны яго папулярызатар, рухавік вэрхалу! Вось што азначаюць усе гэтыя перагукванні-перашэптванні супрацоўнікаў, што імгненна сціхаюць, варта выйсці яму, прэзідэнту, у калідор.

Ён дабрыў да свайго кабінета. У пакоі ўсё было акуратна прыбрана – нідзе ні намёку на вышуковыя працы. Толькі ссунутая па другі бок ад крэсла сметніца сведчыла пра нядаўнюю прысутнасць у кабінеце староннніх.

Прэзідэнт апусціўся ў крэсла, але прасядзеў у ім нядоўга : захацелася ў прыбіральню. Ён выйшаў з пакоя, падаўся ў канец калідора.

У прыбіральні, надзіва, было гэтаксама чыста, як і ў кабінеце. Толькі над адным з пісуараў у куце, там, дзе пачынаўся шыхт кабінак, высвечваў чырванню ў паўзмроку нейкі малюнак. Ён падышоў бліжэй, каб разглядзець яго, і не даў веры: дзяцюк з ягонымі рысамі твару размахваў геейскім, колераў вясёлкі, сцягам, а наўкола

тоўпіліся, цягнучы да яго, бы да гуру, рукі, дзесяткі малойцаў з выявамі абгорткі кніжкі Жэнэ замест твараў.

«Не, гэта ўжо не эпідэмія, гэта – пандэмія», — падумаў ён і пачаў ліхаманкава сціраць са сцяны крамзаніну. Сціраў ды дакараў сябе за неабачлівасць: трэба ж было гэтак па-дурному даць глебу для шантажу! І нават думка, што калі б не было Жэнэ ды Арсеня, штонебудзь іншае (народ той яшчэ) нядобразычліўцы прыдумалі б, чамусьці не суцяшала.

Але самая вялікая неспадзянка чакала прэзідэнта дома.

Ад самага пачатку, ледзь толькі ён пераступіў цераз парог рэзідэнцыі, штосьці падалося яму ў доме не такім, як звычайна. Гнятлівая цішыня панавала ў паветры. Жонка, хоць і сустрэла яго, паводле завядзёнкі, пры ўваходзе, паводзіла сябе так, быццам яе смяртэльна пакрыўдзілі: у вочы глядзець пазбягала, на пытанні адказвала адно немым кіўком галавы. А калі і прамаўляла якое слова, дык рабіла гэта падкрэслена суха, быццам вытрымлівала патрабаванні афіцыйнага пратакола: так, спадар прэзідэнт, як скажаце, спадар прэзідэнт. Апошняе канчаткова збіла яго з тропу. Што да чаго, уранні, пасля пяшчотна-мілоснай, поўнай эратычных вытанчанасцяў ночы, гэтак цёпла, здаецца, развіталіся? Зноў жа, казала, збіраецца апоўдні з сяброўкай у spa-салон, а тут на табе — ні каліва макіяжу на твары. І вочы вунь запалыя, як пасля хваробы...

Адказ на гэткія дзівосы чакаў яго ў кабінеце. Кампутар быў падключаны да інтэрнэту, і на маніторы яго красаваўся фотаздымак-калаж, на якім яны з Арсенем – хлопец у позе прыгнутага ветрам долу сланечніка, ён – ззаду, у паставе персанажа з анекдота пра асобаў, з-за якіх ужо і за шайкаю ў лазні неўзабаве не нахінешся, чытаюць кніжку Жэнэ. Зверху на ўсю шырыню калажа зіхацеў, пераліваўся колерамі вясёлкі вялізны, памерам на дзве траціны экрана, надпіс на *мове*: «АПСІМАТ І ЯГО АМАНУЭНСІС[12]».

— Поўны ўлёт, лепш не прыдумаеш, — азвалася з калідора жонка і шпурнула на канапу томік француза. – Вось, радуйся, на працу мне сёння бандэроллю ананімна зычліўцы даслалі. Але гэта што, паглядзі яшчэ блогі: стракацяць абсмоктваннямі тваіх прыгодаў. Дачок бы пасаромеўся, валацуга... Дзеўкам праходу цяпер не будзе...

---

[12] Паводле «Літаратурнага слоўніка», якім карыстаецца каралева ў «Няпростым чытачы» А. Бэнэта, **апсімат** – чалавек, які пачаў позна вучыцца, **амануэнсіс** – літаратурны памочнік.

А мне як такое трываць? Што я маме ды астатнім сваякам скажу? Вось... а яшчэ прэзідэнт!

— Ну, гэта... гэта... выдумляюць чорт ведае што, бамбарылы!— сказаў ён роспачліва. Ды як ні быў выбіты з каляіны непамыснотамі дня, даў рады папраўіцца і сказаць так, як вучыў Арсень, з захаваннем аўтэнтычнасці выслоўя ў *мове*: — *Выдумляюць чорта з лапцямі.* І што гэта, дарэчы, за слова – *улёт*? Толькі прыдуркаватых *арго* нам у хаце не хапала!

— Быццам... быццам апсімат з аманцэнсісам лепш! – зноў зайшлася абурэннем жонка. Па тым, як беспамылкова вымавіла яна злёту абодва словы, няцяжка было здагадацца: зачапіла кабеціну як мае быць і, хутчэй за ўсё, надоўга.

На паседжанне ў Кіеў прэзідэнт паляцеў з перакладчыкам, які працаваў у Адміністрацыі да Арсеня. Арсень жа застаўся за намесніка старшыні камісіі іспыту па *мове*. Меркавалася, што ён будзе старшынёй, але ў апошні момант прэзідэнт, збіты з панталыку валтузнёю вакол іх супрацы ў калідорах Адміністрацыі і ў сеціве, перадумаў і аддаў лейцы кіравання Эпізодчыку: няхай пашчыруе, у скрайнім выпадку, калі што якое, не будзе на каго, апроч як на сябе, наракаць. Канечне, лепш за ўсё было б даверыць старшынства Вользе Андрэеўне, але яна катэгарычна адмовілася: куды мне, маўляў, няхай свае вядуць рэй.

Увесь час, пакуль на паседжанні ішлі дэбаты, прэзідэнт адчуваў сябе быццам выкінутае з гнязда птушаня ды вяртаўся раз-пораз у думках да падзей папярэдніх дзён. Ці не перастараліся яны з Арсенем ды Вольгаю Андрэеўнай, ці не перагнулі палку з *моўным* пытаннем? Не дадавала гумору і нейкае неўспадзеў прыкметна пахаладзелае стаўленне да ягонае асобы ўдзельнікаў паседжання: лаяльны да ўсяго канцлер Нямеччыны, які гадамі церпіць у сваім кабінеце міністра-вычварэнца і ягонага памочніка-палюбоўніка і глядзіць скрозь пальцы на афіцыйныя гойсанні закаханай пары па свеце, раптам ні з таго ні з сяго пачаў прыкметна (двайны стандарт у дзеянні?) ад яго дыстанцавацца. А расіянін дык і наогул прылюдна дэманструе непрыхільнасць, пры сустрэчы адно перасмыкнуў вуснамі і руку падаў з сашчэпленымі пальцамі, быццам іх у яго знерухоміла палярушам. Рознае, канечне, аднаму і другому абыходзіць, а, бач, умомант схаўрусаваліся, во і дай тут рады вытрымаць лінію.

Сумнеў агортваў прэзідэнта за сумневам, і ў выніку толькі адна справа засталася ад тых сумневаў вольнай — наконт мэтазгоднасці далейшай сумеснай працы з Арсенем. Дасведчанасць і адметныя

дзелавыя якасці падначаленага – гэта, безумоўна, выдатна. Але чаго яны вартыя ў сітуацыі, калі на кон пастаўленая рэпутацыя галавы дзяржавы, а значыць – і імідж самой дзяржавы? Тут ужо ці да сантыментаў... Прыкладна на гэткай думцы набраў ён нумар Эпізодчыка і загадаў перадаць намесніку кіраўніка справамі, каб той тэрмінова падрыхтаваў належныя паперы да пераводу Арсеня з пасады перакладчыка на якую-небудзь іншую, пажадана ў адной з канцылярый кабінета міністраў, працу. Перапалоханы нечаканым тэлефанаваннем службовец, які напачатку падумаў, мусіць, пра горшае для сябе, хмыкнуў у слухаўку, зрабіўшы выгляд, што кадравыя ракіроўкі яго не надта цікавяць, паабяцаў выканаць даручэнне як мага хутчэй.

Так што калі прэзідэнт вярнуўся праз дзень дадому, Арсеня на працоўным месцы ўжо не было. За ягоным сталом сядзела сталага веку кабеціна і перакладала з англійскай мовы запыт адной канадскай кампаніі па вытворчасці аргтэхнікі на прадмет набыцця яе прадпрыемствамі краіны. Гэтая паперчына ды яшчэ пісьмовая справаздача памочніка аб праведзеным два дні таму іспыце па *мове* — вось і ўсе справы, што чакалі прагляду прэзідэнта ў гэты дзень. Ды ўсё адно на душы ў яго было не сказаць каб спакойна.

Прэзідэнт думаў. Цяпер, калі іспыт па *мове* быў паспяхова прыняты ў нетрах апарата Адміністрацыі, кіраўніцтва справаў і кабінета міністраў, досвед яго правядзення лагічна было б распаўсюдзіць на іншыя калідоры ўлады, напрыклад, на заканадаўцаў. А там, глядзіш, і наступныя, больш значныя, рашучыя крокі зрабіць. Так прэзідэнт меркаваў, ды справа чамусьці зусім не клеілася. І хоць ён і суцяшаў сябе часовасцю ахаладжэння запалу, выкліканага валтузнёй нядобразычліўцаў у інтэрнэце ды зламыствамі падначаленых, у душы дакладна ведаў: справа не ў адным толькі ахаладжэнні. І нават не ў шантажы з боку праціўнікаў *мовы*. Не. Звальненне Арсеня – вось галоўная прычына. І не гэтак у ролі перакладчыка, як у ролі аднадумца ў справе, у якой яму аднаму, без талковага дарадцы – ні туды ні сюды. Менавіта аднадумца, а не нейкага там афіцыйнага памочніка-кар’рыста, што спіць і марыць схаўрусавацца з да сябе падобным ды торкнуць палку ў колы. Апроч таго, і маральны бок справы – не апошняя рэч у такой сітуацыі. Звальненне з апарату Адміністрацыі прэзідэнта ў вачах філістэра, асабліва калі гэта чыноўнік, рэч сур’ёзная, куды з такім мінулым уладкуешся? Ды чорт ведае, што яны там яшчэ запісалі хлопцу ў працоўную кніжку?

Ён набраў нумар аддзела кадраў, папрасіў начальніка прынесці справы супрацоўнікаў, звольненых з пасадаў цягам апошніх двух месяцаў. Усіх – дзеля адводу вачэй, з жадання ўнікнуць лішніх размоваў ды плётак. Цікавіў жа яго зараз, вядома, толькі адзін — Арсень.

Запіс у справе экс-тлумача быў зроблены лаяльна, аднак ні на які перавод, як ён прасіў памочніка, у ім не было і намёку. Звольнены паводле ўласнага жадання – вось і ўсё, што паведаміла скупая канцылярская фармулёўка. Усё гэта не дадало прэзідэнту гумору. А тут яшчэ пытанне, што рабіць далей і ці варта наогул што-небудзь рабіць з *моўным* пытаннем, па-ранейшаму не давала яму спакою.

Ён уключыў тэлевізар.

На канале ўсё яшчэ круцілі справаздачу аб спатканні прэзідэнтаў у Кіеве. Следам пайшлі навіны больш дробнага, лакальнага характару. Напрыканцы выпуску з’явіліся кадры пра хваляванні ў Тыбеце, звязаныя з незадаволенасцю аўтахтонаў асіміляцыйнай палітыкай кітайскага ўрада.

Мінулі тры тыдні. Жыццё ў будынку Адміністрацыі пaступова нармалізавалася, вярнулася да звыклага – паперы, нарады, справаздачы, інтрыгі – рытму. Згадкі пра Жэнэ ў прыбіральні зафарбавалі, вынікі іспыту па *мове* разам з пытаннямі да яго прыхавалі ў схронах і стараліся згадваць як радзей, толькі ў выпадку крайняй неабходнасці. Зацішша ўжо пагражала ператварыцца ў ранейшае звыклае балота, як раптам прэзідэнту патэлефанавала Вольга Андрэеўна. Голас жанчыны злёгку трымцеў і выдаваў значна маладзейшым, чым у сапраўднасці.

— Прабачце, што турбую, спадар прэзідэнт. Мы тут днямі ладзім у ліцэі мерапрыемства з нагоды Міжнароднага дня моўнае разнастайнасці, то, можа, знойдзецаа ў вас магчымасць у ім паўдзельнічаць? Разумею, вы чалавек заняты, канечне, але... гэта так было б для нас усцешна, ды і вагі надало б імпрэзе... Былі б вельмі радыя вас бачыць.

— Удзячны вам за запрашэнне, але ж, ведаеце, — справы, — сказаў ён, пракручваючы ў галаве расклад працы на тыдзень. – А так бы, канечне, чаму б і не, чаму б не пабыць лішні раз з сімпатычнымі людзьмі.

— Дзякуй за камплімент! І вось просьба яшчэ... Наконт брашуры па *мове*, яна мне конча зараз патрэбная. Чалавек дыпломную піша, дык просіць памагчы літаратурай. Даруйце, што нагадваю, але...

— Гэта вы даруйце, што ў час не вярнуў, — сказаў ён і звыклым жэстам рукі намацаў у шуфлядцы стала шаршавую ад частага гартання вокладку брашуры. – Абавязкова перадам пры нагодзе.

Ён кашлянуў воддаль ад слухаўкі, зноў наблізіў яе да вуха. Карцела спытаць пра Арсеня (пэўна ж, яна ведае што-нішто пра свайго былога вучня), але не стаў: захоча – сама распавядзе. Быццам адчуваючы ягоныя думкі, Вольга Андрэеўна, памарудзіўшы хвіліну-другую, няўпэўнена сказала:

— Вучань мой, Арсень, ну, той, што ў вас перакладчыкам працаваў, у камерцыйную фірму ўладкаваўся. Кажа, дрэнь праца. Заробак някепскі, а ўсё адно нецікава яму там, не ягонае гэта...

— Арсень... Памятаю, канечне, — сказаў ён як мага абыякавей. – Што ж, як нецікава, то... То скажыце яму, хай зойдзе як-небудзь, можа, цікавейшае што падшукаем. І якраз і брашуру вам праз яго перадам.

— Дык да пабачэння! – сказала яна і неяк спехам, быццам чаго засаромеўшыся, паклала слухаўку.

Ён паклаў сваю, усё яшчэ трымаючы далонь на вокладцы брашуры, перагарнуў каляндар.

Дзень моўнае разнастайнасці, 21 лютага, канечне, як ён мог забыцца? З гэткай памяццю і ў няёмкае становішча можна калі-небудзь няўрокам трапіць.

Свята прыпадала на сярэдзіну наступнага тыдня. Часу засталося ўжо зусім няшмат, але калі паруліцца – вунь колькі ўсяго можна паспець зрабіць, было б жаданне. Балазе ў справах міжнародных часовае зацішша, можна засяродзіцца на клопатах унутрыдзяржаўных. Што, калі прызначыць напярэдадні Дня моўнае разнастайнасці ў гонар яго імпрэзу? Сабраць штат Адміністрацыі, запрасіць міністраў, акадэмікаў, прэсу, амбасадараў. Падрыхтаваць салідны выступ на *мове*, а там, глядзіш... Чаму б і не агучыць урэшце сёе-тое з задуманага, не зрабіць канкрэтныя захады наконт *моўных* перспектываў, не азадачыць люд паспаліты дасягненнем новых далягледаў? Канечне, момант, можа, не надта спрыяльны з-за ўсяго гэтага вэрхалу з Арсенем, але калі ён быў для *мовы* спрыяльны? Адны перыпетыі мінулых стагоддзяў чаго вартыя! І сёння — не адно, дык другое заўсёды знойдзецца, толькі перасцерагайся. Не, трэба рабіць!

Ён загадаў новаму памочніку (Эпізодчыка паўтыдня таму перавялі на іншае месца працы, у гаспадарчую частку нейкай навучальнай установы) абвесціць на заўтра нараду дзеля абмеркавання нюансаў урачыстасці, з асалодаю заглыбіўся ў змест брашуры. І хоць чытаў яе машынальна, больш прабягаў вачыма, чым

чытаў, бо і без таго ўжо ведаў змест выдання ледзь не на памяць, адчуванне, што чытае ўпершыню, не пакідала яго.

Надвячоркам наступнага дня, дзесьці праз паўгадзіны па сканчэнні нарады, прыйшоў Арсень. Калі з канцылярыі паведамілі, што хлопец чакае загаду ўпусціць яго ў будынак, прэзідэнт акурат піў каву. Нягледзячы на стому (нарада пачалася а дзясятай і расцягнулася, як заўсёды, ледзь не на паўдня), ён распарадзіўся не марудзячы правесці экс-перакладчыка ў кабінет.

Арсень паводзіў сябе раскавана, нават, здалося прэзідэнту, занадта, адно не падаў першым па-прыяцельску рукі. У дачыненні да каго іншага такія паводзіны, безумоўна, былі б расцэненыя прэзідэнтам як недаравальны выклік. Але, паколькі ён сам адчуваў сябе ў адносінах да Арсеня вінаватым, то вырашыў ні на якія выклікі не зважаць і трымацца так, быццам нічога не здарылася. Урэшце, знаўца пяці моваў і *мовы* ў дадатак – таксама жывы чалавек. Нанесеная ж яму несправядлівым, без тлумачэння прычын звальненнем крыўда каго заўгодна і не на такія паводзіны можа штурхнуць. І прэзідэнт пачаў размову, маючы на ўвазе найперш абмеркаваць сякія-такія нюансы ўрачыстасці да Дня моўнае разнастайнасці.

Першая яго рэпліка, аднак, насуперак намеру, вырвалася з вуснаў неяк міжволі і датычыла зусім не ўрачыстасці, а, як ні дзіўна... рамана Бэнэта.

— Чаму *яна* ўвесь час згадвае гэтага Жэнэ? – спытаў ён, акцэнтуючы слова «яна» і дастаючы з шуфляды кніжку англічаніна. – Там Жэнэ, тут Жэнэ, аж уваччу стракаціць ад прозвішча... Быццам гэты Жэнэ – няведама які значны персанаж у аповедзе... Што вы думаеце, Арсень, на гэты конт?

— Я думаю, што Жэнэ — гэта сімвал, — крыху агаломшаны нечаканым пачаткам дыялогу, сказаў Арсень. — Як бы гэта прасцей сказаць? – хлопец хвіліну падумаў. — Сімвал аб'ектыўнай збыткоўнасці творчага пачатку, незалежна ад меркаванняў і маральных прынцыпаў абывацеля. А галоўнае — ад таго, што ён, абывацель, ад творцы чакае. Мне так здаецца, а ці насамрэч гэта так – Бог ведае...

— Бог ды сам Бэнэт, мабыць, — сказаў прэзідэнт. Фраза перакладчыка здалася яму даволі цьмянай, але перапытваць, што той мае на ўвазе, не хацелася, і ён прадоўжыў: – Не ведаю, у каго як, а ў мяне склалася такое ўражанне, што аўтару кніжкі згадкі пра гэтага француза абыходзяць куды больш, чым каралеве.

— Гэта значыць, вы чыталі твор уважліва, — сказаў госць. – Няшмат хто здольны яго так чытаць.

— Уважліва! – употай адзначаючы камплімент суразмоўцы на свой адрас ды робячы выгляд, што не заўважыў яго, сказаў прэзідэнт. — Але што з таго? Якою важнаю дзяржаўнаю высновай магу я, прэзідэнт краіны, узбагаціць свой досвед праз чытанне такога твора? Штосьці ж мела на ўвазе ваша Вольга Андрэеўна, скіроўваючы мяне да знаёмства з ім... Не так жа проста падсу... дала яна мне гэтую кніжку.

— Ну, у дачыненні да Жэнэ – наўрад. Калі яна і мела на ўвазе на што-небудзь вас скіраваць, дык для гэтага і без знаёмства з жыццёвымі прыярытэтамі Жэнэ ў рамане ўзораў дастаткова.

— І ў чым жа яны, тыя ўзоры, на ваш погляд, палягаюць?

— У тым, што вы і самі, без маёй падказкі, мабыць, выдатна ведаеце: у наканаванасці справы. Хіба не так?

— Можа быць... відаць... канечне, — пагадзіўся па хвіліне вагання прэзідэнт. – Але... Як вы добра гэта сказалі – у наканаванасці.

На хвіліну ў кабінеце ўсталявалася маўчанне. І зноў першым парушыў яго прэзідэнт:

— Мы тут падшукваем чалавека для камандзіроўкі ў Рым для вырашэння пытання з усталяваннем дошкі з надпісам на *мове* на магіле Кірыла і Мяфодзія ў адной з тамтэйшых базылік. Вы памятаеце, напэўна, — нунцый згадваў пра тое захаванне падчас нашага прыёму з нагоды Дня рэспублікі. Ну, дык вось, паглядзець, што там ды як, перамовіцца з кім трэба – справаў не так шмат, а тым часам... Нунцый абяцае падтрымку. Дык ці не згодзіцеся вы ўзяць на сябе такі клопат? На зваротным шляху ў Вену, дарэчы, маглі б заехаць, там, я чытаў днямі ў інтэрнэце, мае адбыцца гэты... гей-парад, ці як там яго... Калі гэта асабістых вашых планаў не парушыць, то вось – і добра было б... Казаў той, двух зайцоў адным стрэлам...

— Усё гэта вельмі цікава і завабліва, спадар прэзідэнт, і няёмка адмаўляцца ад такой прапановы, ды ў мяне шлюбная цырымонія на носе, — сказаў Арсень. – Два тыдні таму заяву падалі ў ЗАГС...

— Жэніцеся? Дык тым больш! – падхапіў з энтузіязмам прэзідэнт. – То тым больш: чаму б не зрабіць падарунак да гэткай падзеі сабе і ... і свайму абранніку? Але хто *ён*, калі не сакрэт?

— Не ён, а яна... Абранніца, — сказаў Арсень. — Былая аднагрупніца, цяпер разам у аспірантуры вучымся.

— О, прабачце, даруйце! – сказаў прэзідэнт. – Зусім збілі мяне з тропу сваімі дурнымі намёкамі ды інсінуацыямі тутэйшыя інтрыганы.

— Нічога, усяк бывае, — сказаў Арсень і, робячы выгляд, што пазяхае, а насамрэч хаваючы за тым жэстам усмешку, прыкрыў рот даланёй. – Да таго ж з рэштаю кандыдацкага мінімуму трэба мне тэрмінова ва ўніверсітэце разлічыцца, час падціскае. Так што, прабачце, наўрад атрымаецца паехаць. Ды ўсё адно дзякую за прапанову.

— Наша справа прапанаваць, — спатыкаючыся на думцы, што вось ужо другі раз падчас размовы кажа пра сябе, бы англійская каралева ў творы Бэнэта, у множным ліку, зазначыў прэзідэнт і лагодна дадаў: — Але гэтая ваша адмова, спадзяюся, не значыць, што мы ў будучыні не пасупрацоўнічаем? Ёсць у мяне яшчэ сёе-тое наўме... Калі вы не супраць, канечне...

— Канечне, я не супраць, — сказаў Арсень. – Спадзяюся, гэта будзе што-небудзь датычнае *мовы*?

— Магчыма, — ухіліўся ад прамога адказу прэзідэнт. – Што да дэталяў, дык пра іх пазней даведаецеся, усяму свой час. Казаў той, м*аўчок – пятачок, а два маўчкі – грывеннік.*

Урачыстасць прызначылі на другую палову дня, на пятнаццаць гадзін у Бела-Чырвона-Белай зале, перайменаванай гэтак два гады таму з Зялёнай. Спачатку мелі намер ладзіць яе ў Вялікай, ды там якраз былі ў разгары распачатыя днямі працы па замене падлогі і падваконнікаў. Рассылкай запрашэнняў займаліся новы памочнік з сакратаркай. Усіх цікавіў сцэнар мерапрыемства, але яго – у агульнапрынятым сэнсе – не было. Выступ прэзідэнта ды слова тых, хто палічыць патрэбным выказацца. Гранічна дэмакратычна: ніякага даклада, нязмушаная размова, магчыма, дыялог – вось і ўся праграма. Нават ад запрашэння замежных амбасадараў, хоць спачатку гэта і планавалася, вырашана было ўстрымацца. Адзінае, што кожны ведаў дакладна, – імпрэза будзе ладзіцца на *мове.* Сярод звыклага да жорсткага пратакола апарата Адміністрацыі і міністраў усё гэта выклікала неўразуменне. Затое прэзідэнт быў настроены рашуча. Што і прадэманстраваў адразу ж, як толькі прысутныя занялі месцы ў зале.

— Я вось чытаў нядаўна ў адным даследаванні, як выціскалі на *нашых* абшарах *нашу мову* з жытку *нашыя* суседзі-заваёўнікі ў 17-18 стагоддзях. Хітра, ведаеце, рабілі: спачатку тэкст дакумента на нашай *мове* падавалі, а прэамбулы да яго і фармулёўкі ды рэзюмэ напрыканцы – на сваёй. Затым памянялі ўсё. Вам, шаноўныя, гэта нічога не нагадвае?

Зала сцішылася, і стала чутно, як дзынькаюць па шкле вокнаў ці то рэдкія кроплі дажджу, ці то крупкі граду.

— Сённяшнюю нашу прэсу нагадвае, — падаў голас міністр сельскай гаспадаркі, круглатвары цельпукаваты чалавек з шалікам на шыі замест гальштука. Падаў ды ўвобміг і скукожыўся пад злым паглядам рэдактара галіновай газеты, які, відаць палічыў гэткі выпад помстаю за нядаўні крытычны артыкул у выданні на адрас міністэрства. Ды адступаць не было куды, і міністр працягваў: – А што, няпраўда? Назва газеты ды прозвішча рэдактара – на *мове*, усё астатняе... Самі ведаеце... Што, праўда вочы коле?

Зала яшчэ больш сцішэла, так што хвіліны з тры наогул нічога не было чутно, апроч пошуму дажджу, што паступова пераходзіў у абліваху. Прэзідэнт выклаў з папкі аркушы з запісамі, акінуў залу рашучым паглядам у пошуку найбольш прыязнага (так вучыў яго паводле правілаў публічнага выступу Арсень) твару. Гэта, аднак, аказалася не так проста: фізіі прысутных быццам зліліся ў адну невыразную пляму, нагадвалі фрагменты мазаікі з нагрувашчаннем неўразуменных, няўцямны-бляклых паўтонаў і адценняў: твар радцы па пытаннях ідэалогіі са звузелымі зрэнкамі гейшы, якой пад павека неўспадзеў трапіла фарба, змярцвела-няўцямны, са старанна прыхаванымі рыскамі ваяўнічасці позірк шэфа службы бяспекі, скамянелы, падобны да пысы сканалае па ўдалым акце працягу роду чырванарыбіцы твар міністра гандлю... Спатрэбілася колькі хвілін, каб іх персаніфікаваць ды суаднесці з асобаю і пасадай кожнага. Прэзідэнт узгадаў, што вось акурат гэтак нагадвалі яны непрыступную каменнасць муру ў дзень, калі ўбачылі на сваіх сталах раскладзеныя Арсенем асобнікі Закона аб мовах, і вусціш ахапіў яго. Ды адступаць не было куды.

«Ат, халера іх, *адзін раз Марку жаніць*», — слізгаючы вачыма па паставе старшынькі выбарчай камісіі, што зіркала раз-пораз па баках ды шаптала нешта на вуха намесніку кіраўніка справаў, падумаў ён і гучна сказаў:

— Ну, дык што, пачнем?

Яго прамова доўжылася амаль гадзіну. Зашмат, ды што зробіш, калі гэтак многа ўсяго набралася выказаць за дні, тыдні, месяцы падахвочанага маладой няўрымслівасцю Арсеня роздуму над прэзентаванаю Вольгай Андрэеўнай чытанкай аб лёсе *мовы*. Зрэшты, слухалі яго даволі ўважліва, і гэта давала надзею. Тым больш, што, бачна было, і яго аднадумцаў адносна стаўлення да прадмета абмеркавання ў зале не бракавала. Дырэктар інстытута *мовы* шторазу

згодна хітаў прэзідэнту галавой. Харызматычная рэктарка нацыянальнага ўніверсітэта, даючы час ад часу волю эмоцыям ды няўзнак завабліваючы за сабою ў цянёты незласлівай анархіі іншых, гучна смяялася наўздагон ягоным досціпам. Усё было добра, сумневу быць не магло: выступ удаўся. Прэзідэнт з палёгкаю пасунуў убок тэзісы, раздумваючы, як бы эфектней скончыць прамову, выпрастаў руку па-над трыбунаю.

— Ну, дык вось, шаноўнае спадарства, я сказаў усё, што меў сказаць, і спадзяюся, мая пазіцыя ў дачыненні да *моўнае* палітыкі дзяржавы вам зразумелая. Што да канчатковага рашэння, то яно цяпер цалкам залежыць ад вас. Прапаную прыступіць да абмеркавання выступу.

Першым узяў слова старшыня заканадаўчага сходу. Яго выступ быў кароткі і датычыў галоўным чынам прававой базы замацавання за *моваю* функцый адзінай дзяржаўнай. Паўз зазвычай не характэрную выступам старшыні натхнёнасць, якую ён і зараз старанна прыхоўваў за афіцыйнасцю тону, праслізгвала ледзь улоўная нязгода з высновамі прэзідэнта. Становішча, надзіва, паправіў не сказаць каб прыхільны да *мовы* прэм’ер-міністр:

— Веданне *мовы* – наш абавязак. Усебаковасць адукацыі ніколі нікому не шкодзіла.

— Лично я всегда имел в школе по языку высший балл, — вымкнуўся кіраўнік прэс-службы Адміністрацыі. — Дык...

— Прыемна такое чуць, — перарваў яго прэзідэнт. — Але *язык* і *мова* – не адно і тое.

— *Мова* – душа народа, — нечакана для ўсіх бліснуў абазнанасцю ў айчынных крылатых выразах галава Адміністрацыі і сцяўся ў чаканні рэакцыі залы.

— І пакуль *мова* жыве – жыве народ, — не без іроніі зазначыў прэзідэнт і прадоўжыў, знарок зрабіўшы даволі працяглую паўзу: — Прыгожыя словы. Але што словы без падмацавання справаю? Сказаць прыгожа – адно, зрабіць паводле прамоўленага – зусім іншае. Сказаць і дурань можа.

Галава Адміністрацыі нервова таргануўся на месцы, у няпэўнасці, быццам раздумваючы, на чый адрас прагучала апошняя фраза, схіліў голаў над кейсам.

— Я толькі хачу сказаць, што ў такой важнай справе, як вырашэнне лёсу *мовы,* паміж словам і справай не павінна быць разыходжання, – працягваў тым часам прэзідэнт. — Цікава, што думае на гэты конт міністр культуры?

Міністра культуры ў зале чамусьці не аказалася, затое па паўзе жаданне ўзяць слова выказаў вядомы хітраван і ветэран кабінета — кіраўнік міністэрства замежных справаў. Ён адзіны з прысутных здолеў перасядзець на пасадзе двух папярэднікаў прэзідэнта, апошняму з якіх, між іншым, колісь уласнаму прэтэжэ, хадзілі чуткі, нават актыўна паспрыяў у сыходзе ў выніку імпічменту. І вось зараз, ледзь запахла смажаным, імгненна падмеўся, не топчучыся лішне на месцы, узяць ініцыятыву ў свае рукі.

— Свая *мова* – гэта прэстыж. І не абы-які. Тым болей цяпер, калі нават самыя нешматлікія народы ды народнасці гэтак актыўна пайшлі на стварэнне нацыянальных інтэрнэт-даменаў. А мы чым горшыя? Я мяркую, што сённяшняя імпрэза – надзвычай важны крок на шляху да ўсталявання *мовы* ва ўсіх сферах. *Мова* – гэта, ведаеце, *тварь* нацыі, і каму, як не нам, слугам народа, дбаць аб яе росквіце…

Нягледзячы на ўдаваную памяркоўнасць, рэпліка выступоўцы, асабліва наўмысна ўжытае ў ёй слова «твар», якое ён і раней заўсёды ўжываў на *мове* не іначай як з сарказмам, вось гэтак — са змякчэннем апошняга гука, агулам больш нагадвала выклік прэзідэнту, чым згоду з яго высовамі. Гэта, канечне, прэзідэнта насцярожыла.

— Даволі разумная выснова, — мяркуючы, аднак, што лепшае зачэпкі для пераходу да самага галоўнага можа сёння і не надарыцца, падхапіў ён. – То чаму б нам усім разам і не падумаць наконт больш важкіх крокаў па ўсталяванні *мовы*? Асабліва цяпер, пасля паспяхова здадзенага іспыту… Так бы мовіць, не расставіць кропкі над «і»…

Зала зноў суцішылася. Дождж на дварэ скончыўся, кроплі больш не грукалі па бляшаных пласцінах стокавых надваконных брылёў, і гэта надавала цішыні вусцішны, нават злавесны характар.

Прэзідэнт акінуў залу паглядам, і яна здалася яму гэтым разам яшчэ больш безаблічнай, чым на пачатку паседжання. Прыязныя вочы аднадумцаў неяк неўпрыкмет растварыліся ў агульнай масе, і на першы план зноў высунуліся тыя, якія гэтак не глянуліся яму на пачатку імпрэзы, якія ў менш абавязковай сітуацыі і бачыць яму, бадай, не надта хацелася б.

— Выканаць свой абавязак перад гісторыяй — гэта, канечне, цудоўна. Ды вось толькі ці своечасова ўсё тое будзе? – зноў узяў слова прэм'ер-міністр. — Пытанне няпростае: адно давядзеш да ладу, другому, наадварот, — шкоду зробіш. Паўгода засталося да пачатку выбарчай прэзідэнцкай кампаніі, ці не адпужаем мы выбарцаў такім радыкальным крокам? Можа, усё-такі крыху пачакаць з гэтым *моўным* пытаннем? А тым часам…

— ...Прадоўжыць знаёмства з лепшымі набыткамі сусветнай словатворчасці, — паспяшаўся падаць голас са свайго месца ў сярэдзіне залы шэф ідэалагічнай службы і дадаў, гледзячы запытальна на старшыню літаратурнай суполкі, заўсёды насцярожанага чалавека з арліным паглядам сіцылійскага мафіёзі: — Вось я чытаў дзесьці, што ў Англіі зараз усе чытаюць Бэнэта, а ў Францыі зноў папулярны пісьменнік Жэнэ. А вы, спадар старшыня, як наконт Бэнэта і Жэнэ – чыталі іхнія творы?

Старшыня літсуполкі памкнуўся прадэманстраваць зацікаўленасць тэмаю, але выгляд яго, асабліва торганне цягліц твару, сведчыў, што ні таго, ні другога з названых аўтараў ён не толькі чытаў, а нават і прозвішчаў такіх, хутчэй за ўсё, не чуў.

— Ну, я асабіста не чытаў... на жаль... Хоць яно, канечне, і нядобра, але дзе ж там за ўсім усочыш, столькі ўсяго паўсюль друкуецца... Зрэшты, можа, і чытаў калі, ды не магу гэтак во адразу ўзгадаць...

— Пра Бэнэта не ведаю, а француз, кажуць, цікава піша, — прыйшла на дапамогу шэфу рэферэнтка старшыні, бухматая дама з брошкаю ў выглядзе сэрца на грудзях. – Мой муж акурат зараз чытае Жэнэ, дык вельмі ж ім захапляецца. Такая, маўляў, там моўная стыхія, такое незвычайнае заглыбленне ў нетры чалавечае натуры...

У сярэдзіне залы хтосьці юрліва хіхікнуў, але тут жа сціх, перарваны наступнаю рэплікай прэзідэнта:

— Вось-вось, стыхія, і менавіта *моўная*... Дык і працягнем нашую гамонку пра *мову*. Пра *нашу мову*. Дакладней – скончым. Кажаце, спадар прэм'ер, выбары на носе? Ну, выбары — гэта, канечне, важна — згодны. Але чаму абавязкова трэба адно аднаму, я выбары маю на ўвазе і *мову*, супрацьпастаўляць? Мне, як дзейнаму пакуль што кіраўніку дзяржавы, гэта не зусім зразумела. І не думайце, што мы тут сёння сабраліся дарэмна. Якое б і ў што ні было там заглыбленне ў Жэнэ, я ніколі, ні-ко-лі гэтак, як сёй-той з вас, відаць, спадзяецца, не зраблю. Што да Бэнэта, дык... я ж – не каралева, пажыццёвага права на трон не маю, рана ці позна давядзецца сысці. Так што выбары выбарамі, а...

— Вам, канечне, вырашаць, — падтакнуў прэм'ер. – Нам што, вы галава: як скажаце, так і будзем рабіць. Хоць гэта і не значыць, канечне, быццам мы не патрыёты і рабіць будзем па-вашаму без належнага жадання, толькі таму, што вы загадалі...

— Рабіць будзем усё спакойна і метадычна, — сказаў прэзідэнт.

— Спакойна ўсё-такі? – радасна ўсклікнуў віцэ-прэм'ер.

— І метадычна, — удакладніў прэзідэнт. – Сякія-такія папраўкі ўнясем у Закон аб мовах з улікам таго, што гэтак шмат часу мінула ад яго прыняцця. Куратара прызначым для каардынацыі дзеянняў. Ёсць тут адзін талковы чалавек у мяне на прыкмеце, думаю, дасць рады. Але пра гэта пазней. А што да патрыятызму… Ну, што там… Вось, калі ласка, кожнаму карты цяпер у рукі на працоўным месцы, дэманструйце… — Ён пастаяў колькі хвілін моўчкі ля трыбуны, не зважаючы на скіраваныя ў ягоны бок агаломшаныя пагляды, няспешна пайшоў да вакна.

Дождж на дварэ амаль перастаў, і ачышчаны аблівахай ад снегу асфальт перад будынкам Адміністрацыі блішчэў, бы толькі што адшараваная венікам напярэдадні свята падлога ў вясковай хаце. Двое, ён і яна, стаялі пад парасонам на ходніку акурат пад вакном, заўзята аб чымсьці спрачаліся. Спрэчка пары была такая гарачая і рашучая, што запал яе імгненна перадаўся прэзідэнту.

— Але… а што гэта вы ўсе такія панурыя? — сказаў ён і імклівым крокам вярнуўся да трыбуны. – Я ж сказаў, ніхто вашага патрыятычнага запалу ўціскаць не збіраецца. Дык калі ласка, шаноўныя, у добры шлях! Калі ласачка!

## Эпілог

Прэзідэнт знаходзіўся пры ўладзе яшчэ пяць гадоў. Меў намер балатавацца і на наступнае чатырохгоддзе, але ў выніку ціску грамадскасці (канстытуцыя краіны прадугледжвала толькі два тэрміны прэзідэнцтва) саступіў права ўдзелу ў змаганні за высокую пасаду маладзейшым супернікам. Ягоным наступнікам стаў у выніку жорсткай перадвыбарчай барацьбы малады міністр замежных справаў краіны. Апошні вельмі хутка займеў вядомасць у кіроўнай эліце свету тым, што, ведаючы дасканала дзевяць замежных моваў і *мову*, амаль ніколі, апроч тых выпадкаў, калі сутыкаецца з моваю зусім ужо экзатычнаю, не карыстаецца паслугамі перакладчыкаў. І яшчэ непрадказальнаю, часам на мяжы фолу, дасціпнасцю. Так, аднойчы ў Букінгеме, падчас прыватнага прыёму ў англійскага караля, свайго равесніка і дружбака, на пытанне Яго Вялікасці, ці не чуў ён, дарагі сябра Арсень, што-небудзь пра пляшывага французскага драматурга і празаіка Жэнэ, пад дружны смех прысутных сказаў: «Жэнэ? Штосьці быццам узгадваю… Ці не той гэта, імя якога ў свой час вашай бабулі не давала спакою?»

Вольга Сымонаўна шчасліва дапрацавала ў ліцэі да пенсіі, выйшла замуж за ўдаўца-аднагодка, суседа па пад'ездзе, і цяпер піша

ўспаміны пра свае дзелавыя.стасункі з папярэднім прэзідэнтам. Што там яна піша, дакладна ніхто не ведае, але, мяркуючы па надрукаваным не так даўно ў адным з часопісаў невялікім урыўку, твор абяцае быць захапляльным. Што да галоўнага героя яе ўспамінаў, то ён па адыходзе ад дзяржаўных справаў дазвання акунуўся ў раман з *моваю*. Два гады таму нават стварыў фонд яе развіцця, ледзь не штомесяц ездзіць па краіне, а то і ў замежжа з мэтаю яе папулярызацыі і марыць пра той час, калі жонка, беручы прыклад з уласных унукаў і старэйшай дачкі ды зяцёў, загаворыць з ім урэшце на *мове* не толькі на людзях, падчас вечарын і прэзентацый, але і дома, як робіць гэта ўжо ў размовах з мужамі большасць яе суайчынніц.

Пра лёс астатніх персанажаў аповеду вядома мала. За выключэннем таго, што некаторыя з іх ужо памерлі, а рэшта, як зазвычай пасля завяршэння працоўнай кар'еры, шчыруе на лецішчы або займаецца падвышэннем дабрабыту дзяцей-унукаў, зачапіўшыся дзякуючы старым карпаратыўным сувязям за няпыльную пасаду ў якой-небудзь блатной канторы. Калі-нікалі яны збіраюцца разам, настальгічна ўспамінаюць пад чарку-скварку салодкія імгненні знаходжання на высокіх пасадах і, не даўшы рады задушыць унутры сябе жабу зайздрасці і непрыязнасці да дзейнага прэзідэнта, расказваюць пра яго адзін аднаму анекдоты, дасылаюць у жоўтыя таблоіды ананімныя цыдулы пра ягоныя «вычварэнскія паходжанні» падчас працы перакладчыкам у Адміністрацыі ды апантана, са смакам бэсцяць яго настойлівыя захады, звязаныя з выкананнем чарговых артыкулаў Закона аб мовах.

**З Індыі з любоўю**
*Апавяданне*

– Смачноцце, цэлы дзень, здаецца, ела б гэтую стравіну, – кажа Альдзя і з выглядам адмысловага знаўцы кухні – ага, дык вось як яно, маўляў, згатавана, здолеем і мы такое, не зломкі — вывуджвае відэльцам з піялы чарговую клёцку. Клёцка знікае ў роце, Альдзя дастае з піялы наступную і раптам робіць кіслую, быццам праглынула неўпрыцям штосьці надзвычай брыдкае, міну. – А гэта праўда, што ў іх там, у Індыі, не хаваюць нябожчыкаў у зямлю, а спальваюць на вогнішчы? Раскладаюць вогнішча на плыце і пускаюць той плыт па цячэнні. І што з парэшткаў не згарыць на агні, тое трапляе ў ваду... Па тэлевізары днямі паказвалі... Уяўляеш? Жах!

Прамаўляецца ўсё напаўголаса, бо ў суседнім пакоі знаходзяцца Надзя з нашай кватаранткай індускай Ашрытай, а дзверы ў пакой ледзь прычыненыя, то крый Бог дзеўка пачуе... Але і гэткае перасцярогі здаецца Альдзі недастаткова, і яна зусім пераходзіць на шэпт:

— А то во яшчэ, дзесьці я чытала, нясуць памерлага на гару, каб там птушкі яго раздзяўбалі. Здараецца, каторая не дасць рады ўтрымаць кавалак плоці ў дзюбе, паляцеўшы, дык то скуры шматок, то яшчэ што на дол, а то і проста на галовы людзям скіне. Далібог, сама чытала. Во якая ў іх там дзікая завядзёнка.

Яна адстаўляе ўбок піялу з недаедзеным галібджамам, тупа глядзіць праз вакно на абсаджаны дубцамі маладзенькіх каштанаў, голы – канец лістапада – двор, у дальнім куце якога шпацыруе сюды-туды з сабакам мой сусед па пляцоўцы Савельевіч. Суседу за восемдзесят, ён удзельнік Вялікай Айчыннай, да выхаду на адпачынак выкладаў у тэхнікуме замежную мову. Пасля смерці жонкі дзявяты год жыве бабылём, хоць нявестка і зяць неаднойчы клікалі да сябе. Апошнім часам Савельевіч пасябраваў з Ашрытаю. Індуска ўпадабала яго пасля таго, як ён нядаўна ў размове працытаваў ёй штосьці па-ангельску з Рабіндраната Тагора, — убіўся ў ласку. У суседа лёгкі нораў і ні кроплі фанабэры, таму ў нас з ім таксама адносіны не з горшых, нават, можна сказаць, прыяцельскія. Але не панібрацкія, хоць мы і клічам жартам адзін аднаго паводле скаротаў назваў войнаў, у якіх удзельнічалі: я яго – ВАВ, ён мяне, адпаведна, — ВІ.

— Дарэмна ты тады не згадзіўся на абмен. Жыў бы цяпер у новым доме, а то во бруд усюды ў гэтым прычыгуначным мікрараёне... Як у занядбанай вёсцы, — як заўсёды знячэўку, без

ніякай лагічнай сувязі з папярэднімі словамі, пераводзіць размову на іншае Альдзя і дадае праз хвіліну: — Суседка кватэру ў дарунак пляменніцы днямі афармляла, дык зусім нядорага, кажа, ўсё тое афармленне абышлося... Канечне, пабегаць, даведкі розныя збіраючы, давядзецца, дык не без гэтага ж...

Першае – намёк на мой трохгадовае даўніны няспраўджаны шанц пераехаць у новы дом, дзе мне прапанавалі кватэру як інваліду вайны ў Афгане. Другое – на тое, што, паводле яе плану, нам, дакладней, мне след зрабіць у бліжэйшы час. След абавязкова, бо раптам што якое... Вось адкінеш, маўляў, мужычок, неўспадзеў капыты, і ляснецца жытло, адыдзе чужым, якой-небудзь канторы кшталту ЖКГ.

— Усяк бывае, сам ведаеш, не малы... Вунь залетась адной жанчыны з працы ў нас матка выйшла ў краму па хлеб ды і сканала ні з таго ні з сяго на ходніку. А кватэра не была сыну завяшчаная, і з канцамі — дзяржаве адышла.

— Гэта таму, мама, што, мабыць, прыватызаваная не была тая кватэра, — падае са свайго пакоя голас Надзя. – А ў нас іншая сітуацыя.

— А калі і іншая, то што? – незадаволеная даччынымі словамі, працягвае гнуць сваё Альдзя. – Ведаеш, колькі потым, калі ў дарунак не аформленая, плаціць трэба за ўступленне ў права валодання? Быццам мы на грашах спім!

Альдзя выслізгвае ў калідор, і тае ж хвіліны туды выскокваюць, чуючы, што яна збіраецца адыходзіць, Надзя і Ашрыта. Надзя цалуе матку ў шчаку, Ашрыта схіляе галаў у ветлівым паўпаклоне. Затым абедзве зноў знікаюць у пакоі.

Альдзя вяртаецца да мяне і, перш чым я паспяваю адарвацца ад газеты, прамаўляе:

— А што ні кажы – дзіўныя яны, гэтыя вашы індусы. Баба ў дзеўкі канае, а ёй хоць бы што... Наадварот, яшчэ, здаецца, глянь ты, ці не павесялела. Ужо хоць для выгляду пусціла б слязу, ці што... Во і зразумей ты іх! Ці дзіва, што з памерлымі гэтак абыходзяцца.

Альдзя – мая экс, то бок былая і пакуль што адзіная жонка. Мы разышліся з ёю даўно, неўзабаве па маім вяртанні з Афгана. З маёй ініцыятывы, дарэчы. Бачыць штодня, як жанчына ўпотай пераадольвае гідлівасць да цябе, хай сабе і воіна-інтэрнацыяналіста, ды ўсё ж аднаногага калекі, было невыносна, і я вырашыў скончыць усё аднойчы і назаўсёды. Што маральна не так і проста аказалася пасля шасці гадоў сумеснага жыцця, якое калісь гэтак рамантычна

пачыналася пасля паспяховага пераадолення супраціву Альдзіных бацькоў, звязанага з рознасцю (у яе — інстытут за плячыма, у мяне – усяго толькі завочнае аддзяленне тэхнікума) нашага адукацыйнага ўзроўню. З таго часу я жыву адзін. Праўда, два гады таму да мяне перайшла жыць Надзя, дачка. І хоць арганізавалі яны, матка з дачкой, той пераход неяк падазрона паспешліва, пасля таго, як я жартам сказаў, што маю намер зноў ажаніцца, Надзін прыход для мяне, інваліда, – найлепшае выйсце. Тым больш што яна доктар і калі што якое – без дапамогі не застанешся. А цяпер у доме аб'явілася і другая доктарка, індуска Ашрыта. Яна вучылася разам з Надзяй ва ўніверсітэце і месяц таму вярнулася з Індыі дзеля працягу вучобы ў ардынатуры. Жыць у інтэрнат чамусьці ісці не захацела і вось да часу кантуецца з Надзяй у яе пакойчыку. Уранні, акурат у той момант, калі прыйшла Альдзя, Ашрыце патэлефанаваў з радзімы брат, сказаў, што паміраe іх васьмідзесяціпяцігадовая бабуля. Маўляў, ужо зусім слабая і з хвіліны на хвіліну сканае.

Ашрыта раз-пораз выходзіць у калідор, то нервова сунецца з мабільнікам у далоні з аднаго кута ў другі, то прыхінецца плячыма да сцяны, то застыне слупам ля шафы з вопраткай. А то возьмецца набіраць па мабільніку нумар, і тады бачна, як дрыжаць яе знябожаныя невядомасцю рукі. Званкі, аднак, не дасягаюць мэты, і на цёмным, з колцамі густой чарнявінкі абапал вачэй і рота твары дзяўчыны – спрэс расчараванне. Расчараванне, але – не адчай, хутчэй насамрэч, як сказала Альдзя, — радасць. Радасць уперамешку са смуткам. Дзіўнаваты сплаў пачуццяў, ніводнаму з якіх, як ні намагайся, ні аддаць першынства, ні знайсці больш-менш прыстойнага тлумачэння рады не дасі.

— А маму мы галібджамам на адыход і не адарылі, забыліся,– кажа, выходзячы з пакоя, Надзя і цягне сяброўку ў кухню. – То мусім цяпер самі даядаць. Тата, ты будзеш?

Альдзін расповед пра абкладзеных дровамі нябожчыкаў на плытах згадваецца мне, і я, хоць нішто пра іх у той апетытнай, залітай нектарападобнаю слодыччу страве і блізка не нагадвае, адмаўляюся ад пачастунку.

— Ну, як сабе хочаш, — кажа Надзя.

— Як хочаце, — падтаквае дачцэ Ашрыта і шырока, ажно агаляецца добрая палова яе прадаўгаватых цукрова-белых зубоў, усміхаецца, адстаўляе на край стала адну з піял. – То няхай тады гэта будзе для Савельевіча.

Яна шнарыць вачыма па двары з намерам угледзець ВАВа, каб паклікаць яго на пачастунак, але дарэмна: суседа нідзе няма. Сабакі таксама не бачна, толькі з-за рога дома, ад загароджанай прэнтамі пляцоўкі для выбівання дываноў даносіцца бязладны брэх.

— Дарэмна ты адмовіўся паесці, тата. – Надзя выцягвае лыжкаю са слодычы круглую, велічынёй з грэцкі арэх, клёцку, са смакам глытае. — Вельмі файны гэты галібджам… Дарэчы, ты не будзеш супраць, калі мы з нашага хатняга патэлефануем у аэрапорт, замовім Ашрыце квіток?

— Я сплачу званок, — кажа Ашрыта і слізгае паглядам па сцяне, на якой вісіць малюнак з выяваю каровы з вянком на рогах – яе ж падарунак Надзі з нагоды нейкага нацыянальнага індыйскага свята. – Усё адно колькі набяжыць, не мае значэння…

Бацька Ашрыты, неслабы, відаць, бізнесовец, штосьці там мудруе ў сябе на радзіме з валютай, і, падобна, фінансавых цяжкасцей для дзяўчыны насамрэч не існуе.

— Перастань, Ашрытка, — адмахваецца Надзя і набірае нумар. – Квіток да Дэлі праз Маскву, калі ласка, на бліжэйшы рэйс, — кажа ў слухаўку, трымаючы перад сабою сяброўчын пашпарт. – Ашрыта Сусай Вікторыя. Аш-ры-та… Су-сай… Вік-то-рыя…

У дзеўкі напалову хрысціянскае імя, яна паходзіць з ваколіцаў Веланкані, вядомага на ўвесь Індастан цэнтра каталіцкага жыцця дзесьці паблізу Бенгальскае затокі. Мне карціць спытаць, ці датычыць тамтэйшых насельнікаў тое, што Альдзя распавяла пра індускі пахавальны абрад, але я не паспяваю. Ашрыцін мабільнік дробна трэнькае, і яна з радасным воклічам знікае ў пакоі.

Індуска вяртаецца ў калідор праз колькі хвілін. Усхваляванасць на яе твары ды валіза ў руках ( і як паспела даць рады спакаваць за гэткі кароткі час?) сумненняў не пакідае: бабулі горш.

— Выклічам таксі? – кажа Надзя і зноў садзіцца на тэлефон.

Пакуль дачка замаўляе аўто, Ашрыта дастае з кішэньчыка кофты фотку, падае мне.

— Мая бабуля, — кажа і торкае пальцам у паставу сівавалосай жанчыны ў каляровым сары, што стаіць побач з нейкім маладзёнам на фоне ці то кустоўя, ці то дывана з яго выяваю.

— А гэта хто? – больш з жадання падтрымаць размову, чым з цікаўнасці, пытаюся я. – Мабыць, брат твой?

— Не… Так, адзін чалавек, — адказвае яна і кладзе фотку ў кішэньчык. Яна робіць гэта з такім вясёлым бляскам у паглядзе, што мне робіцца не па сабе.

Дзеўкі вяртаюцца ў пакой, і на колькі часу ў кватэры запаноўвае цішыня. Але неўзабаве двор агалошвае гук клаксана.

Надзя і Ашрыта выходзяць на пляцоўку, і вось ужо абедзве ў двары, ля аўто. Іх развітанне такое доўгае і надрывістае, быццам яны развітваюцца сама меней на дзесяць гадоў.

Аднекуль з-за альтанкі з'яўляецца Савельевіч, падыходзіць да аўто, загаворвае з Ашрытай. Яна штосьці прамаўляе старому ў адказ, затым цалуе Надзю ў шчаку, нырае ў чэрава таксі. Машына вырульвае з двара, знікае за рогам дома.

Савельевіч тузае сабаку за ашыйнік, паказвае мне на мігі, каб выходзіў. Пяць гадзін, звыклы час нашых штодзённых сумесных прагулянак, і я цягнуся ў двор.

— Што ні край, то звычай, — кажа Савельевіч і засяроджана глядзіць у накірунку зніклага з поля зроку аўто.

— У смерці адзін звычай: сканаў – і бывайце, — кажу я не без разліку выклікаць старога – як правіла, ён занадта маўклівы — на больш працяглую размову.

Кусцістыя выцвілыя бровы суседа імкліва паўзуць угору, агаляюць неўразуменне ў бляклых, запарушаных друзам ад застарэлага кан'юнктывіту вачах.

— Пры чым тут смерць? Тут пра вяселле ідзе, а ён – пра смерць... Вяселле хоць дзе вяселле. Хоць у нас, хоць у Індыі, хоць яшчэ дзе...

— Якое вяселле? У дзяўчыны бабуля канае... Вы штосьці блытаеце, Савельевіч. Ці яна вам нічога не сказала?

— Нічога не блытаю, — кажа ён і шматзначна хмыкае.

— То пра якое вяселле вы кажаце?

— Пра якое... Хлопец у яе там, у Індыі. Але не хрысціянін, вось яе бацька і ўпёрся: маўляў, няма чаго з не адзінаверцам брацца... І выправіў дзеўку ў замежжа вучыцца, далей ад граху. У іх жа там строга з гэтым... Каставая няроўнасць і іншае... Дык вось цяпер, можа, як прыедзе, знойдуць якое паразуменне. А не знойдуць – без бацькавага благаславення ажэняцца. Так яна мне сказала.

— То, значыць, бабуліна хвароба для яе — толькі нагода, каб пабачыцца з каханкам? Але ж...

— А што, калі і нагода? Што тут кепскага? – кажа Савельевіч, і дакор у ягоным голасе на хвіліну збівае мяне з тропу. – Быццам адно другому замінае. Каб толькі такія злачынствы і былі на свеце, як гэтае!

Ён яшчэ штосьці хоча дадаць да сказанага, але не паспявае. Надзя высоўвае галаў у вакно, кліча суседа на пачастунак.

— Смачна то смачна, але на гэткім харчы, на пожні, ці ля статку, ці на тым жа заводзе пазавіхаўшыся, доўга не працягнеш. — Савельевіч дапівае юшку, адстаўляе піялу ўбок. – Вось людзі гэтыя індусы: на вуліцах спрэс ялавічына ў іх, а яны не каб наесціся ад пуза дармовага — салодкім перабіваюцца.

Стары падымаецца з-за стала, ідзе да дзвярэй. Ён пакінуў сабаку ў двары, і той цяпер раз-пораз агалошвае наваколле роспачлівым брэхам, кліча гаспадара. Ды і справа чакае Савельевіча: сёння акурат дзень народзінаў ягонай нябожчыцы жонкі, і ён збіраецца ехаць да яе на магілкі ў адведзіны.

Надзя праводзіць госця ў калідор, чакае, пакуль той абуецца, вяртаецца ў пакой.

— Ну, дык вось калі ў каго, да прыкладу, спіна баліць, а на клады яму ў гэты дзень трэба конча, што тады – ужо і не ехаць? – выпростваючыся, кажа ВАВ. – Гэтак, па-твойму?

— Савельевіч, пра што гэта вы? – дзівіцца з рэплікі старога Надзя. – Якая спіна? Якія клады?

— Я не табе гэта, а бацьку твайму, ВІ нашаму дарагому… Ён ведае, пра што.

— Ну вы даяце, дзядзькі, дай тут рады вас зразумець, — маша рукою Надзя і кідаецца зноў у калідор, бо там абзываецца званком тэлефон.

— Да пабачэння. Дзякуй за пачостку, — кажа Савельевіч і выходзіць на пляцоўку.

— Тата, цябе…

— Гэта я зноў. — Альдзін голас гучыць засяроджана, нават сурова. – Я ўсё пра тое ж… Яшчэ вось распытала ў суседкі наконт кватэры… Дык, аказваецца, і паперак не так шмат збіраць на афармленне. За тыдзень можна ўсё ўправіцца зрабіць, калі добра паруліцца… Ну, як ты, надумаўся што-небудзь? Не? Надумаешся – адразу скажы, чуеш? Не цягні ката за хвост. Чуеш ты мяне? Што маўчыш?

Мне хочацца паслаць яе куды падалей, і я ўжо ледзьве тое не раблю, як на вочы мне трапляе пакінутая дачкою побач з апаратам піяла з недаедзеным галібджамам. Я вывуджваю са слодычы клёцку, не зважаючы на нектар, што плыве па пальцах ды з пальцаў на падлогу, пахапкам глытаю яе, затым яшчэ адну, і яшчэ…

— Прывітанне табе з Індыі! – кажу, праглынуўшы з паўдзесятка, і кладу слухаўку на месца.

Скупы перадзімовы прамень выслізгвае з-за даху суседняга дома, асвятляе на хвіліну Ашрыцін малюнак з каровай, што весела паміргвае мне з рамкі і зноў праз хвіліну сцінаецца ў паважнай самавітасці ў прагалку паміж вушаком і люстэркам.

## **Духі Нізіннае Мошы.**
*Апавяданне*

У той год спёка трымала ў сваіх чэпкіх абдоймах апошніх жыхароў Нізіннае Мошы і яе ваколіцаў без малога тры месяцы. Ад пачатку ліпеня і аж да сярэдзіны восені не крапнула на тамтэйшыя западзіны, узгоркі ды палеткі ані грама дажджу. Сасмяглая флора дачасна пабілася спрэс хваравітай, нязвыклай для гэткае пары года жаўцізною, а і без таго беднаваты на спажыўныя рэчывы паўночны суглінак дазвання зрудзеў, запёкся калянымі глыжамі, як запякаюцца імі пакінутыя кепскаю гаспадыняй на прыпеку на значна даўжэйшы час, чым патрабуе таго тэхналогія вырабу, галоўкі сыру. Калі ж няўрокам і дапінала да Нізіннае Мошы выпадковая, залётная аблачына, дык і яна прыносіла з сабою больш клопатаў, чым палёгкі. Невыносная гарачыня змянялася падчас навальніцы такім грымоццем і рэзрухам, што людзям нічога іншага не заставалася, як прасіць Бога аб літасці пакінуць усё як ёсць і не выпрабоўваць напрыканцы жыцця шаламі стыхіі. Тым больш, што перамены, хай і да лепшага, ім надта не абыходзілі: статку яны ўжо амаль не трымалі, а што да гародаў і тых шчадротаў, якімі тыя гароды могуць адарыць вясковага руплівца ўзамен на пякельную працу, — то ці так ужо шмат трэба старому чалавеку? Пражыўшы жыццё ў вечным дбанні пра кавалак хлеба, цяпер, на схіле дзён сваіх, яны ўрэшце маглі крыху расслабіцца, павохкаўшы дзеля прыліку над расповедамі радыё- ды тэледыктараў пра газавыя, малочныя і іншыя войны краю з блізкімі і не надта блізкімі суседзямі, аддацца салодкай мане серыялаў або зваблівым згадкам з часоў мінулых. Рэчы менш зменлівыя, чым засуха, якая прыйшла ў тым годзе на мошаўскія абшары разам з летняю задухай, такія, як набыццё кавалка тканіны на сукенку ці на пінжак да дня адыходу ў лепшы свет або зграбнасць надпісу на помніку па тым адыходзе, уяўляліся ім куды больш надзённымі, куды больш вартымі клопату. Адзінае, бадай, што лучыла іх па-ранейшаму, як у дні маладосці, з мітуслівым светам, – хто б даў веры? — грошы.

Ды яшчэ каліва гонару за ўласны, гэтак багаты на падзеі і добрыя ўчынкі жыццёвы досвед, упартая старэчая надзея, што вось аднойчы ж і ён, той досвед, каму-небудзь ды прыдасца, паслужыць калі не ўзорам паводзінаў, дык хаця б дарадцам у той ці іншай справе. Не ўяўляючы іншага жыцця, як тое, што адбылі яны тут, на бедных гэтых суглінках, апошнія жыхары Нізіннае Мошы і прыпушчаць не жадалі, што маглі б ставіцца да першага і другога ці распарадзіцца імі напрыканцы іначай, чым вымагала прадаўняя, пругкая, як напятая лёска вуды, калі таргае яе за зазуб з прынадаю неабачлівая рыбіна, завядзёнка продкаў.

Сонечны дыск ужо амаль што зліўся нізам з рысаю далягляду, калі Адам Кубарака, васьмідзесяцідвухгадовы стары па мянушцы Туфялёк, прыліплай да яго яшчэ ў маладосці ці то з-за прыналежнасці кагосьці з дзядоў-прадзедаў да шавецкае справы, ці то з-за намёку на бясспрэчнае галавенства ў сям'і жонкі Туфілі, і ягоная гэткая ж немаладая, але ўсё яшчэ даволі ўвішная старая нясмела ўвайшлі ў будынак раённай філіі банка ды, азірнуўшыся раз-другі па баках у пошуку чаго-небудзь звыклага, што нагадала б ім інтэр'ер іх роднае хаты ў Нізіннай Мошы і дадало б рызыкі не бянтэжыцца ў незнаёмым месцы, накіраваліся да аднаго з вакенцаў. Яны яшчэ ўранні прыехалі ў райцэнтр з дому на аўтобусе адмыслова па грошы на ўкладах, але перад тым, каб не цягнуцца ў горад лішні раз, вырашылі, карыстаючыся нагодай, наведацца і ў паліклініку: Туфялёк каторы дзень запар нядобра сябе адчуваў, і старая літаральна вантробы яму стачыла, бы той шашаль каўнер палітона, напамінамі пра доктара. Ды ў паліклініцы аж во да якой пары затрымаліся яны спачатку з-за мітрэнгі з карткамі ў рэгістратуры і пасля з-за спазнення доктара і цяпер вельмі непакоіліся, як жа даць рады паспець на апошні аўтобус дадому. Яшчэ, праўда, была ў іх да рэйса ў запасе гадзіна з каптурыкам, але ж як яно пойдзе тут, у банку, — таксама невядома. А раптам грошай не хопіць (здараецца, кажуць, і такое), ці яшчэ якая трасца ўштукуецца – беднаму, казаў той, у кожнай шчэлцы — костка. На шчасце, больш кліентаў у банку, апроч іх дваіх, не было, і старыя пакрысе супакоіліся. Праз хвіліну Туфялёк ужо з выглядам бывалага ўкладальніка даставаў з кішэні паперчыну-дамову аб укладзе, Туфіля, дастаўшы з сумачкі сваю, але не жадаючы, мусіць, распачынаць працэдуру атрымання грошай першай, з цікавасцю і недаўменнем то азіралася на аўтаматычныя, што самі адчыніліся перад імі хвіліну таму, дзверы на ўваходзе, то кідала ўпотай пагляд на бялюткія – памяшканне, відаць, нядаўна адрамантавалі і ў ім яшчэ пахла

фарбаю – сцены, то на завешаны ад верху да долу абвесткамі і інструкцыямі стэнд у прагалку паміж вокнамі.

Касірка, маладзенькая дзяўчына з хвастом рудаватых валасоў на патыліцы, якая дагэтуль штосьці ціха варажыла пры камп'ютары, варухнулася, адарвала галаву ад спярэшчанага лічбамі манітора, зірнула абыякава на Туфялька.

— Што рабіць будзем, дзядуля? Дадаваць? Ці, мо, працэнты здымаць? Што?– спытала і з выглядам звыклага да ўсяго чалавека штурхнула ад сябе парожнюю жалезную скрынку для папер понізу стойкі. – Давайце вашы дакументы.

— Усё да рубліка здымем, — сказаў рашуча Туфялёк і паклаў у скрынку дамову разам з пашпартам.

Зняць грошы ім параіла днямі па тэлефоне пляменніца Люда. Маўляў, невядома, як яно будзе далей, сітуацыя такая няпэўная, усюды крызіс, рэзрух, анамальная гарачыня, пажары – дык лепей за ўсё трымаць капейчыну пры сабе. А то зробяць, як зрабілі дваццаць год таму, абясцэніўшы ўсё ўмомант да кошту аднаго бохана хлеба, і шукай тады вінаватых. Ці лепш яшчэ – наогул замарозяць уклады, перастануць аддаваць, дык у выпадку чаго і зняць, як спатрэбяцца грошы на што пільнае, не зможаце. Моладзь вунь спрэс забірае з банкаў, а чым вы горшыя? Як на мазоль наступіла дзеўка з тымі словамі. Памятаючы пра амаль дваццаць пяць тысяч старых рублёў, што неўпрыцям ляснулі, перарабіліся ў нікчэмныя паперкі два дзесяткі год таму, напрыканцы эры саветаў, ды ўволю, аж да хрыпу, наспрачаўшыся, у які дзень лепей ехаць у горад, вырашылі-такі з Туфіляю зрабіць, як раіла Люда: дзеўка не дурная, тэхнікум скончыла, да таго ж сваячка, абы-чаго не параіць. Канечне, пляменніца – не роднае дзіця. Ды, як роднага няма, і за чужога будзеш чапляцца. Адзіны сын Туфілі і Туфялька, Алег, загінуў у сямідзесятых у войску ў час савецка-кітайскага закалоту. Папраўдзе, і грошы тыя, што згінулі, пачалі яны калісь збіраць дзеля сына. Гэта пасля ўжо, як Алега не стала, страціўшы інтарэс да збірання, клалі сабе паціху на кніжку паводле завядзёнкі, не задумваючыся асабліва, для чаго, з якою мэтай. Смерць сына здорава іх тады абаіх падкасіла, так, што і па сёння стараліся прылюдна пра тую жудасную трагедыю не згадваць, аддаючыся тузе ў маўклівай самоце.

Уся справа заняла хвілін дзесяць. Касірка спраўдзіла Туфяльковы подпісы на бланках, паклала грошы ў пашпарт, штурхнула скрынку з дакументам і грашыма ў накірунку старога.

— Дваццаць адна асігнацыя па сто эўра і яшчэ дзве па дваццаць — дваццаць тры купюры, усяго дзве тысячы сто сорак...

Пералічыце пры акне, не адыходзьцеся, — сказала строга і падала знак Туфілі аддаваць свае дакументы.

Туфялёк пасунуўся ўбок, не дастаючы банкнотаў з пашпарта, пачаў лічыць насліненымі пальцамі каемкі хрусткіх, з нязвыклымі знакамі паперак. Далічыў сяк-так усе да апошняй, выцер узмакрэлы ад хвалявання лоб даланёй, уздыхнуў з палёгкай: дваццаць тры штукі, усё правільна. Адышоўся ў кут, пад стэнд, хуценька сунуў пашпарт з грашыма ў верхнюю ўнутраную кішэню пінжака. Крэкнуў задаволена: хоць і не заробленыя ўласнымі потам ды крывёю тыя купюры, а, глядзі ж ты, – грэюць. Быццам кавалак бясплатнага торта неўспадзеў адхапіў, аматар салодкага, рады ў гады, трапіўшы выпадкова, без запрашэння на чужое свята.

Грошы ім з Туфіляй дасталіся два гады таму ад жончынага брата Мірака, маладетняга вязня нямецкага канцлагера ваеннай пары. Дасталіся, сапраўды, лёгка, быццам сам лёс злітасціўся над імі ды і сплаціў хоць збольшага тыя згубленыя калісь дваццаць пяць тысяч. Ашчадны Мірак, стары бабыль, звыклы адмалку, як і яны, абыходзіцца малым, некалькі год запар штомесяц атрымліваў грошы з Нямеччыны ў якасці кампенсацыі за знаходжанне ў канцлагеры, спачатку ў далярах, апошнім часам, пасля таго, як з'явілася новая валюта, – у эўра. Жыў Мірак з пенсіі, даляраў і эўра не чапаў – во і набегла неўпрыкмет тры тысячы адных і дзве другіх. За тыдзень да смерці, адчуваючы, мусіць, што жыць засталося ўжо нядоўга, паклікаў сястру і яго, Туфялька, у бальніцу і, дастаўшы з-пад пояса нагавіц пачак купюр, аддаў усё з умоваю, што пахаваюць яго па-людску і паставяць помнік. Не такі, вядома, як цяпер зазвычай робяць, цяп ды ляп, а салідны і абавязкова – з крыжам. Грошы яны тады з Туфіляй, бо і сума здавалася ім занадта ж унушальнай, і адчувалі сябе абое на той час не ахці як добра, каб спаць па начах спакойна, паклалі, параіўшыся ўсё з тою ж Людай, у банку на рахункі: даляры на Туфілю, эўра – на Туфялька. Мірака пахавалі за свае, што ашчадзілі з пенсій. А сёлета па вясне і помнік з пенсійных сваіх нябожчыку паставілі, замовіўшы, як і прасіў ён перад сконам, з крыжам у аднаго старога майстра ў суседнім раёне.

Тым часам Туфіля лічыла ўжо свае даляры – надзіва ўпэўнена, дзелавіта, быццам толькі гэтым усё жыццё і займалася. Туфялёк падсунуўся да яе з намерам спытаць, колькі ж яна атрымала, але жонка толькі наравіста матлянула замест адказу галавой: адчапіся, маўляў, не цяпер. Ці то выгляд купюр надаў ёй гумору, ці то яшчэ што, але і следу разгубленасці, як то было напачатку, калі толькі ступілі яны ў чысценькі ды беленькі гэты, так не падобны да іхняга

спарахнелага вясковага жытла будынак, у ёй не было і напаміну. Яна далічыла асігнацыі, паклала іх у сумачку, трымаючы сумачку аберуч перад сабою і па-ранейшаму не кажучы ні слова Туфяльку, порстка накіравалася да цуда-дзвярэй. «Як мяняецца чалавек з-за нейкіх паперак», — падумаў ён і пашкандыбаў следам за Туфіляй да выхаду.

На станцыю яны прыйшлі без пяці сем, за чвэрць гадзіны да адыходу аўтобуса. Ледзь паспелі збольшага падсілкавацца, прыткнуўшыся на лаве пры пляцоўцы для пасадкі, параю вараных яек і скрылькамі загадзя, яшчэ дома нарэзанай саланіны з бяздоннай – заўжды там што-небудзь ды знойдзецца — Туфілінай сумачкі, як прымчаўся і аўтобус. Пасажыраў, апроч іх дваіх, больш на рэйс не было. Вадзіцель, узлаваны чымсьці разапрэлы маладжавы дзядзька ў жоўтай, расхрыстанай на грудзях кашулі з карэлым каўняром, абілеціў іх хутка, два разы нецэнзурна мацюкнуўся на адрас нейкага прыдурка Супоні, што без дай прычыны захварэў за гадзіну да выезду на маршрут, ірвануў з месца. Было бачна, што рэйс яму, мякка кажучы, не абыходзіць, і калі ён і згадзіўся на яго, то адзіна таму, што начальства загадала.

Да паварота на гравейку пры выездзе з горада ехалі моўчкі. Але як толькі павярнулі ў бок Нізіннае Мошы, вадзіцель раптам загаманіў.

— Не страшна вам, старыя, жыць у гэных лаўжах? – спытаў, высоўваючы голаў з кабіны і перакрыкваючы голасам гудзенне матора. – Вунь, кажуць, паблізу адсюль, на хутары ля Петрачкоў, заўчора дзвюх гэткага, як вы, узросту, цётак грабанулі ўначы, на хер. Ды яшчэ і прыбілі адну ўсмерць. У-смерць! Далібог, у каго хочаце запытайцеся, усе ўжо ў раёне ведаюць.

— А-вой! – усплёснула рукамі ад нечаканасці Туфіля. – Прыбілі! Ус... Усмерць, кажаш? А Божа! Што робіцца! А другой што?

— Другой ў бальніцы кранты зрабіліся, — задаволены, мусіць, што эфект ад навіны ўдаўся што трэба, сказаў весела аўтобуснік. – Сардэчны прыступ – і гамон. Такое перажыць – не грам семак вылушчыць. А на той, што ўсмерць, ці не дванаццаць ранаў выявілі...

— Страхоцце, — ачуньваючы пакрысе ад сполаху, сказала Туфіля і дадала з надзеяй у голасе: – Бандытаў жа тых злавілі хоць?

— Аднаго злавілі па свежых слядах, другі нібыта ўцёк, кажуць. Зловяць, можа, і яго калі-небудзь... Як яшчэ каго прырэжа, на хер...

— Дык гэта... як жа? Нажом яе зарэзалі? – ахнула зноў Туфіля і, быццам хочучы перадаць частку цяжару ад страшнай навіны мужу, цясней прыхінулася да яго бокам. – Езус! Матка святая!

— Вось вам і святая! – хмыкнуў вадзіцель і націснуў на газ. Да скрыжавання з дарогаю на Нізінную Мошу засталося вёрст пятнаццаць, і ён, падобна, намерваўся пераадолець іх з рэкорднаю хуткасцю, бо ляцеў далей так, што Туфіля з Туфяльком толькі слупы паспявалі лічыць абапал дарогі. Туфіля хацела папрасіць, каб ехаў павольней, але Туфялёк перабаразніў: не трэба, маўляў, няхай сабе імчыць, пад такую язду хоць менш думацца будзе пра распаведзенае благое, пра тых дзвюх замардаваных цётак. І яна пагадзілася. Хоць і не без унатранай нязгоды: як жа, пры гэткіх грашах яны зараз абое, а што як аварыя здарыцца, каму тады ўсё яно застанецца…

Хвілін праз дваццаць былі ля павароту на Нізінную Мошу. Вадзіцель спыніў аўтобус, расчыніў дзверы. Воблака пылу шуганула з-пад колаў, гайданулася ў святле фараў, паплыло прэч, на атуленае змрокам прыдарожнае кустоўе. Старыя падняліся з месцаў, заходзячыся ад пылу кашлем, памалу выкуліліся адзін за адным з аўтобуса ў дрогкую, нязвыклую пасля дзённай спякоты прахалоду восеньскага вечара.

— Глядзіце ж, ідзіце асцярожна па кустоўі, не патрапце ў рукі якіх грабежнікаў! – жадаючы, мусіць, пацвеліцца напрыканцы яшчэ раз, сказаў вадзіцель і гучна засмяяўся.

— Ну, патрапім, дык не вялікі з нас наедак будзе таму бандзюку, — азваўся ўпершыню за ўвесь час Туфялёк і ляпнуў даланёй па пазусе пінжака, дзе ляжалі грошы: глядзі, маўляў, якая ж тут паклажа: драбяза дый годзе, хто на такую паквапіцца…

— Ціха ты! – цыкнула на яго Туфіля і перасцярожліва зірнула ў бок аўтобуса, што якраз пачаў разварочвацца кабінаю ў бок горада ў вузкім прагалку паміж шыхцікам маладых хвояў і крушняй. Развярнуўшыся, кіроўца на хвіліну прыпыніўся, высунуў вонкі галаў.

— Не вялікі, кажаш, наедак? – сказаў і звузіў вочы. – Ці то праўда? А чаму за грудзіну ўсю дарогу трымаўся, быццам на сэрца хворы? Ведаем мы такіх бедных! Бедныя ўлегцы, дзядуля, дахаты з горада не вяртаюцца. Што-небудзь, хоць запалчыну якую, хоць круп кілю ды валакуць для гаспадаркі. А вы, што адзін, што другі, бы на шпацыр выйшаўшы сунецеся.

— Маўчы, дурань! – шапнула Туфіля і ўшчыкнула мужа за бок. — Дык мы… гэта, даражэнькі, ведаеш… цаглінаў брыкету к зіме выпісаць ездзілі. Дроў мала сёлета, то вырашылі хоць якой парай сотняў брыкету разжыцца… Яно хоць і дорага, а ў халады не абыдзешся. І гарыць добра. Мароз як нахопіцца, то…

Кіроўца мацюкнуўся, выраўняў колы аўтобуса, ламаючы бокам старога «пазіка» голле навіслага над гравейкаю кустоўя, выехаў за паварот.

— Дзякуй Богу, сшыўся, — сказала з палёгкаю Туфіля і, як толькі аўтобус ад'ехаў, тут жа ўскінулася на мужа: — Звар'яцеў ты, стары, ці што? Такое вярзці перад чужым! А каб ён… а вось каб ён табе паверыў ды жалязякай па галаве? А каб у кроў…

— Выдумляй! – агрызнуўся Туфялёк. – Скрозь бандыты будуць цяпер мроіцца… Чалавек як чалавек.

— Ага, чалавек! Так ляцеў, быццам не людзей вёз, а якое зрэб'е. Білет колькі ад горада каштуе? Чатыры сто? А ён колькі з нас дваіх узяў? Ведаеш ты хоць? Ажно дзясятку. Ні рэшты не даў з дзясяткі, ні тых квіткоў. Жарты табе… Такі і за капейку не пашкадуе.

— То чаму ж не нагадала, каб аддаў рэшту, можа, ён забыўся? – адчуваючы жончыну праўду ды не жадаючы так лёгка здавацца, працягваў гнуць сваё Туфялёк.

— Нагадаеш ім! Спыніцца на паўдарозе, быццам аўтобус сапсуўся, высадзіць пасярод поля, і цягніся тады пехатой… Нагадаеш…

Колькі хвілін ішлі моўчкі. Зрэшты, ішлі пакуль што па роўным, і гэта цешыла, бо неўзабаве, метраў праз дзвесце, мелі збочыць з гравейкі на сцежку між хмызняку, дзе што ні крок, то ці выбоіна, ці глыж, а то і патарчака ўпоперак усёй сцяжыны. Уранні, спяшаючыся на аўтобус, як ногі абое не павыварочвалі на тых пыльных, выпетраных сонцам і ветрам выбоінах. Добра, вырушылі з хаты загадзя, дасвецдем, а то б і не паспелі, і хана была б справе, па якой ехалі. Дык жа тое ўранні было, калі светла, а што дасі рады ўгледзець на сцежцы во такім прыцемкам? Ды не прыцемкам ужо, а праўдзівай цемennю: за пяць крокаў амаль нічога не бачна, апроч няясных сілуэтаў на фоне сяк-так асветленага кволым месячыкам-паўзунком небе.

— А і праўда, што б нам было яшчэ для выгляду па вандзэлку з сабою ўзяць, — вяртаючыся ў думках да апошніх словаў кіроўцы, прамовіла ўрэшце не то сама сабе, не то мужу Туфіля і шчыльней прыціснула да бока парэпаную сваю, з тых, што першая трапіла ўранні пад руку сярод бэбахаў у горшай шафе, сумачку. – Ідзем во рукі ў бокі, як з паховінаў ці з вяселля. Дурню зразумела…

— Яно… гэта… ну, так, — неяк надзіва адразу пагадзіўся з жонкаю Туфялёк і працягла ўздыхнуў.

— Што, зноў бок ці не забалеў? – спытала Туфіля.

— Баліць крыху, халера яго...
— Ну, трывай ужо. Дома паглядзім, што там. Пігулчыну, можа, якую... Шкада, у аптэку не паспелі забегчы...
Зноў пайшлі моўчкі, думаючы быццам кожны пра сваё, а разам з тым – пра адно і тое, пра распаведзены кіроўцам жудасны выпадак ля Петрачкоў. Што дзеецца на свеце! Мала што грошы забралі ў старых, бандзюкі, – яшчэ, бач, і зарэзалі, нелюдзі... Які страшны свет, як тут не баяцца. Жывеш сабе жывеш, нікому зла не чыніш, а прыйдзе во аднойчы гэткая дрэнь, і згінеш ні за рудую мыш. Міжволі будзеш баяцца.
— Ты кішэню добра зашпіліў? – прыпыніўшы хаду, спытала Туфіля. – А то выслізнуць у цямрэчы, і не заўважыш... І лаві тады па кустах...
— Анягож, не зашпіліў! – ускіпеў Туфялёк. – Сябе пільнуйся. Сумкай махаеш, бы вятрак крыллем. За вярсту бачна.
— Ужо я махаю, ліха на цябе! Ужо за вярсту яму бачна! – заверашчала абражаная Туфіля.
Гравейка ўсё пятляла сярод вербалозін, але вось наперадзе выраслі неўпрыцям на фоне месяца дзве высокія таполі з раскідзістымі кронамі. Паміж імі якраз пачыналася сцежка, і старыя дружна, не згаворваючыся, больш давяраючы памяці, чым зроку, амаль навыперадкі павярнулі на яе. Сава дзесьці зблізку адгукнулася на іх з'яўленне зычным «угу», залапатала крыламі — мабыць, паляцела прэч, далей ад староннія.
— Совы й тыя кумекаюць, што да чаго, — завяла зноў катрынку Туфіля. – А ты? Мала што балбатаў абы-што, дык яшчэ па кішэні паляпаў, пацвеліўся. Маўляў, дык во ж ён, скарб, бяры, хто хочаш.
Туфялёк незадаволена керхнуў, спыніўся, пацягнуўся рукою да ніжняй кішэні, дзе ляжалі пачаты пачак з цыгарэтамі і запалкі.
— А ты не памятаеш ужо, як колісь міліцыянта вакол пальца абвялі, калі брагу па хатах пры Хрушчове шукаў? — спытаў і шматзначна хмыкнуў.
— Анягож, памятаю, разумнік! – сказала Туфіля і гучна замяялася ад прадаўняе тае згадкі. – Такое забудзешся хіба... Дзяжа з брагаю за тры крокі ад іх стаіць, а ён тыцкае ледзь не ў яе пальцам: во яна, глядзіце! Хто ж здагадаецца, што то не ...
— Блеф...
— Што?
— Блеф, кажу. Падман такі выкрунтасісты, калі ашукаць каго хочаш... Калі быццам праўду кажаш чалавеку, а ён табе ўсё адно не

верыць, бо занадта ж яна, праўда тая, простая ды да праўды не падобная…

— Блеф… Словы ў цябе нейкія… — незадаволена, але з ноткаю пачцівасці ў голасе прамовіла Туфіля. — Дзе ўжо такіх набраўся? Здаецца ж, інстытутаў не канчаў…

— Табе скажы! – зазначыў Туфялёк і спыніўся, каб прыпаліць цыгарэціну. – Захочаш – усё будзеш ведаць. Абы хаценне, казаў той…

Зырклівы агеньчык запалкі на хвіліну асвяціў ягоны худы твар з бародаўкай на шчацэ і тонкія, па-жаночы вузкія далоні з даўгімі, аблямаванымі ўчарнелымі пазногцямі пальцамі. Туфіля ажно рот ад нечаканасці разявіла, іх убачыўшы: трэба ж, такія тонкія ў яе мужыка рукі, а яна таго і не заўважала ніколі... Ці, можа, то з-за хваробы зараз толькі так зрабілася, а па праўдзе нічога такога? Туфялёк тым часам смактануў цыгарэціну раз, другі, трымаючыся жончынага сілуэта, што паспеў за гэты час аддаліцца на колькі метраў, пасунуўся следам за ёю.

— Шлёмкава карчма хутка, — падала голас з цемры Туфіля. – Можна будзе пасядзець пару хвілін, спачнуць… Там бы і папаліў, дык не, тут во, на хаду яму прыспічыла… Нібы знарок, каб бачна было.

— Пасядзець! А бандзюкоў хіба не баішся ўжо? – хмыкнуў у адказ Туфялёк. – Во як выскачыць каторы з-за муру…

— Ага, муру там таго… Дзве цагліны ды камень, зайцу ў дождж не хопіць схавацца…

Яшчэ метраў дзвесце прайшлі ў маўчанні, затым павярнулі ўправа і ўрэшце натыкнуліся нагамі на рэшту падмурка ад колішняй карчмы. Туфялёк спыніўся першы. Туфіля таксама стала, закружляла бязладна на месцы, шукаючы, дзе б тут можна было прыткнуць мажнавате сваё, прытомленае хадою цела. Яе пляскатая спіна то шырэла на тле рэдкага кустоўя, то, наадварот, часамі вузела, і здавалася, што яна не ходзіць, а танчыць.

— Пасвяці запалкай, недзе качур тут павінен быць…

Туфялёк кінуў вобзем дапаленую цыгарэту, чыркнуў запалкай і, як толькі мільгнуў абрысамі сярод быльнягу асветлены агнём край паўстлелай бэлькі, пацягнуўся ў кішэню па другую.

— Зноў паліць? А тады бок вось і будзе балець, — сказала няўхвальна Туфіля і апусцілася на качур. – Фуй ты, стамілася.

Туфялёк наўздзіў паслухмяна паклаў пачак назад у кішэню, сеў на бэльку побач з жонкай.

І раптам неўспадзеўкі, аж яна ўздрыгнула ўсёю паставай, абхапіў аберуч Туфілю за плечы.

— Ідзі ты! – штурхнула яна старога локцем і пасунулася воддаль, на край качура.

Надзіва, праява гэткае яе непрыязнасці Туфялька ані не абразіла.

— А ці памятаеш, як бавіліся тут, пры карчме? – сказаў ён пранікнёна і выпрастаў руку, каб дакрануцца да ёйнай. — Як падгузілі Шлёмку пусціць унаначкі абаіх у адзін пакой, бытта дзеля грэху, каб потым бацьку твайго змусіць аддаць цябе за мяне і грошы сякія-такія з яго выцягнуць, а пасля…

— І што пасля? Нічога ж не было…

— Факт, не было, я і не кажу, што было… Але назаўтра… Бацька ледзь свет прыехаў раз'ятраны, а ты што яму сказала? Што я з цябе наздзекаваўся, маўляў, а браць не хачу… Гэтак енчыла, гэтак удавала няшчаснасць, што ён і паверыў! Ох, артыстка ты была…

— Дык што?

— Сама ведаеш… І ажаніцца дазволіў, і пасагам яшчэ неблагім надзяліў. Памятаеш?

— Анічагуткі не памятаю, – сказала Туфіля і, не даўшы рады стрымацца, гучна, ажно разлеглася побач кустоўе, засмяялася. – Знайшоў што ўспамінаць. І не сорамна! – Яна здушыла смех, але па голасе яе і па тым, як яна раз-пораз падносіла да вуснаў рог хусткі, каб не даць весялосці нанова завалодаць сабою, было бачна, што згадка пра той шасцідзесяцігадовае даўніны выпадак калі і не даспадобы ёй, дык і настрою не псуе.

— Рызыковыя мы былі, — сказаў, не зважаючы на ўшчуванне, Туфялёк і дадаў: — Так даўно тое было… І дзе яно ўсё?

— Было й сплыло, — сказала яна і, разгарачаная, мабыць, успамінам, неўпрыцям пасунулася бліжэй да старога, упетрыла пагляд у непранікальную, хоць вока калі – месячык чарговы раз толькі што схаваўся за аблачыну – цемру.

Праўда, быў час! Усё не толькі што жыло навокал – кіпела. Хіба ў тыя часы прайшоў бы во гэтулькі, як яны сёння з Туфялькам прайшлі, не спаткаўшы ніводнага чалавека? І не па адным ці па двое – грамадамі, асабліва моладзь, асабліва як час посту мінаў ды вечарыны па наваколлі пачыналіся, хадзілі. А сюды во, да Шлёмкавай карчмы, каго ні прыносіла толькі з дальніх і бліжніх краёў. Пешых, конных заўжды было шмат, непапушчы бы на тым кірмашы, людцы круціліся. Адно слова – мурашнік. Падводы як пастануць, бывала, уздоўж платоў пры стадоле, дык аж увачччу чорна ад конскіх загрыўкаў і ад поту конскага і смуроду ад збруі аж млосна. Але ж ніякага табе рабаўніцтва, ніякага зладзейства, крый Бог. Хіба што

цыганка якая курыцу, пакуль гаспадыня ў гародзе пры градах з матыгаю шчыруе, падцібрыць ды знясе на харч сваім цыганятам. А ўжо каб хто прырэзаў каго сумысля, на лёгкую спажыву пакваліўшыся, – такога адвеку абсягі гэтыя, нізябіны ды пагоркі, не ведалі. Во які досвед супольнага жыцця ў ладзе ды спагадзе, ды каму яго перадасі, каму ён патрэбен сёння?

Словы кіроўцы пра выпадак у Петрачках неўпрыцям узгадаліся Туфілі, і яна ажно здрыганулася, міжвольна ўяўляючы карціну забойства.

— Туфіля! Туфіля! – Туфялёк стаяў перад ёю і тоўхаў пад бок вузкаю сваёй даланёй.

— А? Вой, як заснула я, ці то прымроілася што! – сказала яна і борзда падхапілася з месца. – Хадзем! Сядзім тут, як на дозарках…

— Як пусцяць пайсці, — сцішаным голасам прамовіў ён і паказаў рукою ў накірунку асінніку, дзе месцілася калісь стадола. – Бачыш, агеньчык бытта? Бытта паліць хто ці запалкаю свеціць...

— Дзе? – перапытала яна і, паўзіраўшыся хвіліну-другую ў цемру, сапраўды ўбачыла ўдалечыні быццам агеньчык. А неўзабаве і мужчынскі голас вецер данёс да вушэй – абрывісты, глухі, як з-пад зямлі.

— Каму ж тут быць у такую пару? – сказала, пераадольваючы дрыжыкі і адчуваючы, як халадзее пад ватоўкаю дарэшты набрынялае страхам цела. – От было мне мабільнік узяць з сабою. От дурні мы… Пазванілі б Людзе – і ўжо, глядзіш, не так вусцішна было б…

— Хто б там ні быў, а стаяць тут век не будзеш, — сказаў Туфялёк і пасунуўся ў цемру. – Трэба сунуцца…

— Не ляці гэтак хутка, а то не паспяваю, — даганяючы яго, сказала ціха Туфіля і ні з таго ні з сяго дадала: – Чуеш, я вось думаю… А каб тады не згінулі тыя нашы дваццаць пяць тысяч, што б мы сёння з імі рабілі?

Яны прайшлі ўпобачкі ўжо амаль дзве траціны дарогі да сваёй Нізіннай Мошы, як зноў падаў хтосьці знак прысутнасці ад руінаў стадолы. Гэтым разам, падаў, аднак, не голасам і не святлом ад запалкі, а вуркатаннем матора.

— Марцыклет, мусіць, — сказаў Туфялёк і спыніўся, каб лепш услухацца ў гукі. – Хто б то мог быць?

— Хто б ні быў – добрага мала, — сказала Туфіля. – Хто тут калі паначы на марцыклеце ездзіў? Дык я во думаю: можа, касірка тая ў

банку каму сказала, што грошы бралі… Надта ж ужо падазрона неяк яна на нас глядзела. Зірк усё, зірк… Толькі я голаў уздыму, а яна…

— Чаўпеш немаведама што, — плюнуў Туфялёк.

— А ўсяк бывае… Дык хто ж гэта тады там? Што там такое?

— Дулі, вось што, — выказаў здагадку Туфялёк. – Хіба не бачыла ўранні: як абсыпаная ігрушына бэрамі, во і вырашыў хтосьці параскашаваць, дарма што няспелыя яшчэ… Ехаў ды й вырашыў заехаць разам…

— А й праўда, відаць, так і ёсць! – радасна выгукнула Туфіля, бачачы, як знікае за хмызам у процілеглым ад іх баку святло ад фары матацыкла. – От што б я ўжо рабіла без цябе… дурня. Хацела сказаць «разумніка», ды язык самахоць неяк не так, як след, павярнуўся, ды, пэўна ж, недарма: і больш звыкла яно вось гэтак, з «дурнем», было, і менш плаксіва. Плаксівых і занадта чуллівых Туфіля, хоць і сама такой была, адмалку, ад тае пары, як памерла маці і бацька прывёў у хату другую жанчыну, не шанавала.

Яшчэ праз чвэрць гадзіны былі ўрэшце дома. Туфіля кінула сумку з грашыма на канапу, хуценька пераабулася, пайшла ў клець паглядзець курэй. У куратніку было ўсё добра, птушкі мірна падрэмвалі на куросадні, патрывожаны познім з'яўленнем гаспадыні певень пагрозліва лапатнуў раз-другі крыллем і, не пажадаўшы, аднак, падаць голасу, тут жа сціх. Туфіля дастала вобмацкам з гнязда пад катухом пару знесеных курамі за дзень яек, зашчапіла дзверы засоўкаю, панаракаўшы ў думках на сваю і Туфялька забыўлівасць – вось жа зноў не даўмеліся забегчы ў горадзе ў краму ды паглядзець які танны замок — пайшла ў хату.

Туфялёк, здарожаны, з белым, як малако, тварам сядзеў на зэдлі пры стале, глымзаў рэштаю зубоў, збіраючы ў далоню семкі, маленькі – яблыкі сёлета, як і ўсё навокал, не здолелі з-за спёкі дабраць вагі — наліў. Гэта здзівіла Туфілю: трэба ж, звычайна перш-наперш, абы ўвайшоў у хату, хапаецца за цыгарэціну, а тут… Значыць, дапякла-такі ходка, няйначай…

— Ну, як, бацька, ці стаў ты шчаслівейшы з грашмі? – спытала яна і села за стол насупраць яго. – Што будзем рабіць з імі? Дзе схаваем усё?

— Ты дзе хочаш, а я свае схаваў ужо, — адказаў Туфялёк і кінуў агрызак яблыка ў цабэрак з памыямі. Акурат у цабэрак, аднак, не патрапіў, і агрызак, не даляцеўшы на далонь да пасудзіны, зрыкашэціў убок, засеў у шчэлцы паміж падлогаю і нізам запятай марляю ад мух шафкі.

— Як гэта – схаваў? А мае што ж – чужыя табе? – ускінулася Туфіля. – А як што якое – дзе тады шукаць тое схаванае? Схаваў ён! Надумаўся!

— Схаваў, як жа, — ціха, насуперак яе чаканню, прамовіў Туфялёк і пачаў паволі, быццам хочучы напалохаць ці, наадварот, рассмяшыць жонку, хіліцца целам набок, да сцяны.

Туфіля махнула рукой, звыклая да ягоных заўсёдных нечаканых жартаў, паднялася з месца, каб пайсці ў сені паглядзець, ці дайшоў урэшце пастаўлены паводле Людзінага рэцэпта два дні таму квас з хлебных скарынак. Яна ўжо кранулася далонёй клямкі, як гучны стогн Туфялька спыніў яе на хвіліну.

— Ну ж дажартуешся! – сказала яна зласліва і ступіла праз парог у сені.

Квас акурат, здаецца, дайшоў. Яна зрабіла нагбом колькі глыткоў, задаволеная, што пітво ўдалося як мае быць, наліла ў шклянку на дзве трацiны – для Туфялька: хай пап'е, можа, хоць пасур'ёзнее і перастане кпяліць яе сваімі штукарствамі.

Туфялёк сядзеў, прыхіліўшыся плячыма да сцяны і абапершыся праваю рукой аб стол, у такой ненатуральнай позе, і вочы ягоныя так дзіўна закаціліся пад павекі, што сэрца ў яе моцна ёкнула: штосьці не так. Яна падбегла да мужа, каб спытаць, што з ім, але адразу зразумела: пытацца ўжо не мае сэнсу. Штосьці невыносна цяжкае, як быццам хто камень узгрузіў на грудзі, авалодала ўсёю яе істотай, прымусіла наблізіцца да Туфялька. Яна села побач з ім, правяла рукою па павеках. Павекі былі ўжо нежывыя, але ўсё яшчэ пругкія, здавалася, жыццё яшчэ не дарэшты пакінула іх. Туфіля правяла па іх яшчэ раз, быццам хочучы ўпэўніцца, што не памылілася, падхапілася з месца. Што рабіць далей? Куды кінуцца? Да бліжэйшай хаты тры вярсты, вунь колькі часу змарнуеш на ходку. Заўсёды ў такіх во выпадках усё браў на сябе Туфялёк. А зараз ён нежывы, і ўсё яна павінна зрабіць сама. І найперш, пакуль цела не скалянела, пастарацца выпрастаць яго, каб ляжала потым у труне роўна і ногі не замінaлі зачыніць вечка.

Яна сцягнула Туфялька з зэдля на падлогу, перакуліла дагары, узялася выпростваць рукі і ногі. На шчасце, гэта ёй удалося без цяжкасці: цела яшчэ толькі ледзь-ледзь паспела прыкалянець. Цяпер трэба было памыць нябожчыка і апрануць у чыстае, але гэта ўжо было ёй адной, адчувала, не па сілах. Яна ўзгадала, як нядаўна Люда намаўляла ім з Туфяльком клікаць яе ў выпадку чаго на дапамогу, кінулася шукаць мабільнік.

Як на тое, тэлефона нідзе не было. Ні на стале ў лепшым пакоі, ні на палічцы з абразамі, ні ля тэлевізара – нідзе, быццам карова языком яго злізала. Яна ўжо падумала, ці не скраў хто-небудзь цацку, улезшы ў хату, пакуль яны з Туфяльком здымалі ў горадзе з укладаў грошы, як раптам успомніла, што клала яго нібыта з вечара ў сумачку. Паклала і забылася, і нават і ў галаў не прыйшло пашукаць у сумцы, пакуль цягнуліся ад аўтобуса дахаты, хоць і, памятаецца, сама пра яго згадвала, напалохаўшыся мужчынскага голасу ля ігрушыны пры руінах Шлёмкавай стадолы.

Яна схапіла сумачку, ліхаманкава абмацала яе знадворку: сапраўды, мабільнік быў там, у сумцы, тырчэў бокам пад партманетам з грашыма. Яна торкнула руку ўнутр сумачкі, хуценька выняла мабільнік разам з партманетам, паклала ўсё на стол. З мабільнікам усё было ў парадку, а вось партманет штосьці насцярожыў яе відавочнаю патаўсцеласцю. Яна адчыніла яго і ледзь не ахнула, убачыўшы паверх даляраў і квітка неакуратна, абы-як спханыя купюры Туфяльковых эўра. Агулам купюраў было так шмат і ім было так цесна ў партманеце, што дзіўна было, як Туфялёк даў рады спхаць іх туды за хвіліну да скону, мабыць, пакуль яна кешкалася ў сенцах з квасам.

Ды грошы грашыма, а трэба было даваць рады нябожчыку. Туфіля начэрпала конаўкай з дзяжы ў вядро вады, панесла ставіць у бакоўку на газ: пакуль Люда з мужыком з'явяцца, якраз і будзе гарачая, каб абмыць Туфялька. Затым яна вярнулася ў кухню, паднесла да святла мабільнік, павольна, баючыся зрабіць што-небудзь не так, узялася набіраць нумар Людзінага тэлефона.

— Здарылася што-небудзь? – азвалася, збянтэжаная такім позным тэлефанаваннем старой пляменніца. – Што-небудзь з дзядзькам Адамам? Што, цётка, кажыце ж!

— Ага, з ім, — сказала агаломшаная нязвыкласцю прагучалага ў слухаўцы мужавага імя Туфіля і, пераадольваючы трымценне ў голасе, коратка, дадала: — Памёр... Адам.

Сказала гэтак і на ўсялякі выпадак азірнулася на нябожчыка: што, як і не памёр зусім Туфялёк, а проста жарт гэта ягоны гэткі чарговы... бляф, ці як яго там?

Праз два дні Туфялька пахавалі. Туфіля баялася, што цела не вытрымае спёкі і пачне дачасна раскладацца, але гэтага не здарылася. Туфялёк аж да хвіліны вынасу ляжаў у труне, як жывы, толькі надта ж ужо быў белы з твару. А адзін раз, калі яна падышла да труны, каб адагнаць з рукі нябожчыка муху, быццам нават

варухнуў вуснамі, усё адно як мануўся ёй штосьці сказаць ці хацеў падзякаваць за тую нязначную паслугу.

Позна ўвечары, парадкуючы сталы пасля сціплых хаўтураў, спраўленых на ашчаджаныя з апошніх пенсій грошы, Туфіля паклікала да сябе Люду і аддала ёй даляры і эўра разам з партманетам. Пляменніца колькі часу паўпіралася дзеля выгляду, але хутка здалася.

— Што тут зробіш? Я ж разумею, цётачка, што вам адной страшнавата ў хаце пры гэтакіх грашах, — сказала і паклала партманет з купюрамі ў сумку. А адыходзячы, прапанавала Туфілі пераходзіць жыць да яе: маўляў, горш, як тут, наводшыбе, удалечыні ад людзей, вам у нас не будзе ні ў якім разе, не сумнявайцеся...

— Ну, там бачна будзе, а пакуль што — не, не пайду, — адчуваючы няшчырасць сваячкі, адмовілася Туфіля, і чамусьці ў галаў ёй прыйшла згадка пра тое, як прамаўляў у такіх вось выпадках Туфялёк улюбёнае сваё, мудрагелістае слова на літару «б». Яна спрабавала ўспомніць слова, але не дала рады. І назаўтра, і праз дзень, як ні пружылася, не змагла ажывіць тое слова ў памяці. І толькі праз паўмесяца, калі раптам нахапіўся аднаго разу надвячоркам ды тут жа і спыніўся, як знарок пацвеліўшыся са ссохлай зямлі і знябожаных чаканнем хоць якога прасвету людзей, дождж, нарэшце ўспомніла: блеф. Паўтарыла яго сама сабе цішком колькі разоў ды перастала: што слова? словам справе не паможаш.

На пачатку зімы Туфіля перайшла-такі жыць да пляменніцы. Увесь гэты час да пераходу, што заставалася яна ў хаце адна, грабежнікі ні разу ў Нізінную Мошу, хоць і шнарылі, даходзілі чуткі, па наваколлі, так і не наведаліся. Быццам духі мошаўскіх абшараў аберагалі ад іх Туфілю, каб самім спагнаць у прызначаны час напоўніцу апошнюю даніну за сумнiўныя, ды ўсё адно дарагія дарункі лёсу.

## **Тры расстанні.**
*Апавяданне*

Усе тры гісторыі, ускосным сведкам завяршэння якіх давялося стаць на працягу аднаго тыдня, адбыліся ў розныя часы. А іх акалічнасці ўсплылі ў памяці дзякуючы радкам з верша Віславы Шымборскай. Верш пра тое, як два чалавекі, жанчына і мужчына, калісьці, а магчыма, і цяпер усё яшчэ дарагія адзін аднаму, выпадкова сустрэўшыся праз колькі год па расстанні ды адзін аднаго

не пазнаўшы ў натоўпе, прайшлі міма, каб прадоўжыць паасобку свой зямны шлях у толькі ім самім ды Богу ведамым накірунку. Простае, але адметна пададзенае паэткай назіранне так трывала засела ў маёй галаве, што, выйшаўшы ўвечары на прагулянку, я міжволі злавіў сябе на думцы, ці не пачну зараз шукаць паралеляў з прачытаным у рэальным жыцці. І толькі так падумаў, як акурат убачыў на ходніку на процілеглым баку вуліцы В.

В. быў маім студэнтам на працягу двух семестраў і нічым асаблівым з шэрагу іншых, апроч высознага, пад два метры, росту не вылучаўся. Вось толькі хіба што яшчэ закаханасцю ў Т., дзяўчыну з іншага факультэта, чаго ні адзін, ні другі не хавалі. Каханне прыгожай пары было ва ўсіх на вуснах і доўжылася гады з два. Хлопец жыў непадалёку ад мяне, і я амаль штодня бачыў каханкаў у нашым мікрараёне. Неўдаваная пяшчота іх паводзінаў і паглядаў, заўсёды сплеценыя ў жарстлівай повязі рукі сумневу не пакідалі: быць ім разам да скону. Але раптам абое яны зніклі.

Зноў я ўбачыў – не іх, яго аднаго — дзесьці праз год. Пры зыбцы з немаўлём, з незнаёмаю мне маладою жанчынай. Па ўсім было бачна, што гэта сям'я. Панылась чыталася ў ягонай паставе – ні каліва жыццярадаснасці веселуна, якім я яго памятаў ад дзён вучобы, ні звыклага бляску закаханага чалавека ў вачах. А неўзабаве пабачыў і Т., гэткую ж панылую і быццам нечым, як і ён, прыгнечаную. Потым зноў колькі разоў бачыў яго – чамусьці заўсёды аднаго і заўсёды не ў гуморы.

І вось... В. так гэтым разам некуды спяшаўся, так апантана шнарыў рукою ў кішэні плашча, што не заўважыў, як выслізнула з яе ды прызямлілася побач з лаваю пры прыпынку таксі маленькая, з далонь, кніжачка кшталту нататніка. Нейкая жанчына аклікнула хлопца, каб сказаць пра тое, але не паспела. Ён так хутка знік у натоўпе, што ёй нічога не заставалася, як пакласці нататнік на лаву.

І тут я ўбачыў ля лавы Т.. Яна з'явілася на прыпынку зусім нечакана, быццам вырасла з зямлі ці стикалася з паветра. Тонкая, як і раней, пастава, разбэрсаныя па плячах валасы, самотныя вочы. Т. безуважна слізганула паглядам па кніжачцы, на імгненне прыпынілася, быццам разважаючы, ці ўзяць, і рашуча пакрочыла да скрыжавання. Знікла яна, як і з'явілася, так нечакана, што ўся дзея нагадвала сцэну з фільма фэнтэзі.

Я падумаў, што нядрэнна было б вярнуць згубу гаспадару, і падышоў да лавы. Кніжачка, сапраўды, аказалася нататнікам. Яго зашмуляны выгляд сведчыў пра тое, што карысталіся ім даволі часта.

На апошняй старонцы, прыладаваны зверху кавалкам ліпучкі да аркуша, ззяў шчасліваю ўсмешкай здымак былой хлопцавай каханкі, што толькі што злілася на скрыжаванні з натоўпам. Я зноў паклаў нататнік на лаву, пайшоў у краму. А калі вярнуўся на тое месца праз паўгадзіны, яго на лаве ўжо не было. Магчыма, В., вярнуўся ды, шчаслівы знаходкай, забраў яго. А можа, хто іншы: ахвотнікаў скарыстацца з чужое няўважлівасці заўжды даволі. Ды хто б там тое ні зрабіў, адно дакладна: гэта была, на жаль, не Т..

Другая гісторыя пачалася год трыццаць таму, а пра працяг яе я даведаўся ўсё на тым жа тыдні, падчас наведання з колішнім суседам магілаў яго бацькоў і заўчасна памерлага брата-бабыля на вясковым могільніку.

— Памятаеш выпадак з вінаградам і кавунамі? – спытаў, прыбіраючы з магілкі друз, сусед.

— Канечне, памятаю, — адказаў я: яшчэ б не памятаць, гісторыя так шмат у свой час нарабіла глебы для размоваў у ласай да навінаў і плётак вёсцы.

А было так. Брат суседа, С., вучыўся ў горадзе ў аспірантуры. Ён толькі што скончыў з адзнакаю інстытут і цяпер апантана штурмаваў вышэйшыя сферы фізікі паўправаднікоў. Заняты вучобаю, дадому ён прыязджаў вельмі рэдка, і як там што ў яго складвалася на асабістым ды іншых франтах, ніхто з нас нічога не ведаў. Бацькі зрэдку пасылалі хлопцу грошы на пражыццё, ды ён шмат не патрабаваў: маўляў, стыпендыі дастаткова.

Аднаго разу, прачнуўшыся ўранні, брат нашага героя выйшаў на ганак хаты і ўбачыў пры дзвярах нешта незвычайнае: кошык, поўны вінаграду, а побач вялікі, абгорнуты сеткаю кавун.

Увесь дзень і ўсе наступныя дні сям’я варажыла, што б тое магло значыць. Хто прынёс падарунак і чаму вось гэтак – употай, як крадком? Спрабавалі распытваць суседзяў, ці не бачыў хто што-небудзь, але дарэмна: таемны прэзентант быццам з неба спусціўся і знік, так і застаўшыся невядомым. Вінаград і кавун з’елі, а пра выпадак забыліся.

Тым часам С. працягваў сваю вучобу. Да бацькоў па-ранейшаму прыязджаў рэдка, а калі прыязджаў, то ўсё часцей і часцей нападпітку. І ўрэшце спіўся канчаткова. Закінуўшы навуку, уладкаваўся спачатку інжынерам на заводзе, затым, калі змей заўладаў слабою чалавечай натураю дарэшты, перайшоў у рабочыя. Жыў доўга ў інтэрнаце, аж пакуль два гады таму не памёр пасля чарговай п’янкі з інсульту.

— Дык распавесці, што то былі за прэзенты? – спытаў сусед і, не чакаючы адказу, працягваў: — Толькі мы С. пахавалі, як праз месяц прыязджае з горада жанчына. Так і так, маўляў, шукаю С… Калісьці, шмат гадоў таму прыязджала да вас, каб пазнаёміцца, ды ў хату зайсці не наважылася, а пакінула на ганку падарункі. Можа, памятаеце вінаград і кавун? То ад мяне…Так кахала, дурніца, што лепшага нічога не прыдумала, як паехаць… Не лёс быў, аднак, быць разам, ды ўсё адно кахала. Потым замуж выйшла. Цяпер во мужык памёр, адна засталася, то дай, думаю, яшчэ раз з'езджу, хоць дазнаюся, як ён ды што… Прывезлі з жонкаю яе сюды, на могілкі. Пастаялі, паўспаміналі. Запрашалі застацца на колькі дзён – адмовілася. Увечары на цягнік яе праводзілі. «Шкадуеце, што ехалі?» – жонка спытала. – «Барані Бог, ані! – адказала рашуча. – Што вы: адзінае, што добрага мела ў жыцці, – і шкадаваць?»

Пра працяг і сканчэнне трэцяй гісторыі распавяла мне стрыечная сястра праз два дні пасля наведання з суседам могілак. Больш чым простая на першы погляд, яна, аднак, быццам падводзіла рысу пад дзвюма папярэднімі і, дарэчы, яскрава абвяргала даволі распаўсюджанае снобскае меркаванне пра вясковых людзей як пра істотаў без здольнасці да глыбокіх унутраных перажыванняў.

Сям'я Л., нашых суседзяў-аднавяскоўцаў, распалася сорак пяць год таму. Распалася нечакана і неяк па-дурному: ён нібыта здрадзіў ёй па п'янай лавачцы, яна не даравала. Ён кудысьці з'ехаў, і больш яны ні разу не бачыліся. Адзіным знакам ягонай прысутнасці ў жыцці былой жонкі сталі грошы на дзяцей, якія ён рэгулярна прысылаў ёй па пошце.

Прайшло амаль паўвека. Жанчына выгадавала, вывучыла дачку і сына, а ў семдзесят пераехала дажываць век да іх у горад.

І вось – ліст ад *яго*. Маўляў, не дзеля таго пішу, сямідзеся-ціпяцігадовы зух, табе, сямідзесяцігадовай маладзіцы, каб штось прасіць ці на нешта скардзіцца, а дзеля таго толькі, каб сказаць: любіў цябе ўсё жыццё і з любоўю гэтай апошнюю сваю хвіліну стрэну. Можаш дараваць – даруй, а не – і так сыду, балазе, і пахаваць, і аплакаць ёсць каму. Прачытала кабеціна той ліст ды і быццам выкінула (так, прынамсі, сказала дзецям) у сметніцу. А калі памерла – знайшлі яго ў вузельчыку пад матрасам разам з грашыма ды найбольш дарагімі нябожчыцы рэчамі.

Дзеці, бачачы такую матчыну адданасць мінуламу, неўзабаве па яе сыходзе наладзілі з бацькам стасункі, у адведзіны нават з'ездзілі. «Ну, як яна мой ліст прыняла?» – першае было, што запытаўся стары

пры сустрэчы. — «Ай, тата, што пра тое гаманіць? – адказалі. – Што ты, што яна — дурні вы абое» – «Можа, і праўду кажаце, — сказаў скрушліва, памаўчаўшы. — Ды словы вашы гэтыя – як мёд мне на душу. Хоць якая ні якая, а і па мне ў вашых сэрцах навука застанецца. Хоць нешта ад бацькі».

«Разышліся, быццам чужыя,
без жэста і слова,
яна па дарозе ў краму,
ён да машыны.
Можа, у няпэўнасці,
ці няўважлівасці,
ці забыўшыся,
што калісь
кахалі адзін аднаго да скону»[13].

Як зразумець дарэшты тое, што з-за наяўнасці добрага каліва абсурднага пачатку ў нашых дзеях выслізгвае з межаў логікі, здаровага сэнсу? Толькі змыслам Божага Провіду, але ці будзе тое праўдай?

## Выспа Міжрэчча.

*Эсэ*

Міжрэчча – вёска, якая ўзнікла на месцы аднайменнага панскага двара і паспела даць прытулак усяго аднаму калену роду людскога. Бо толькі адзінкі з яе нешматлікіх жыхароў тут нарадзіліся і сустрэлі тут сваю апошнюю часіну. Большасць жа перасяліліся, завабленыя хараством мясціны, на ўробленыя панскія землі з навакольных паселішчаў ды хутароў ужо пасля вайны, пасля таго, як згубіліся дзесьці ў Сібіры сляды рэпрэсаванай з прыходам другіх Саветаў апошняй гаспадыні двара пані Аскерчыхі. Паспыталі напоўніцу цудаў калектыўнага гаспадарання, выгадавалі дзяцей, збольшага дапамаглі дзецям падняць унукаў ды і сышлі, знайшоўшы (многія дачасна) вечны супакой у магілах побач з дзядамі-прадзедамі на ўскрайках суседніх вёсак: сваіх кладоў у Міжрэччы, вядомым з 16 стагоддзя як уладанне знакамітага роду Сапегаў пад назовам Дуброўка, ніколі не было.

[13] Цытата з верша В. Шымборскай у перакладзе аўтара

І па сёння візітоўка Міжрэчча – срэбналістыя надвісленскія таполі. Такія высокія, што бачныя яны нават з адлегласці ў чатыры вярсты, з хутароў на латвійскім баку Дзвіны.

Мае бацькі пераехалі з прымежнай Вяты ў Міжрэчча, калі мне ледзь споўніўся год. І першым нашым, часовым жытлом тут акурат стаў сядзібны дом, які мы называлі пакоямі. Гэта было штосьці кшталту інтэрната. Усе памяшканні другога, драўлянага паверха дома былі занятыя сем'ямі або адзінокімі людзьмі, што пасяліліся тут у чаканні пабудовы ўласнае хаты. Так пачалася мая кароткая, але незабыўная міжрэчанская эпапея – у атачэнні прадметаў адмысловага ўзору сядзібнай архітэктуры XVII стагоддзя, што быў унесены ў міжваенны час польскім урадам у рэестр помнікаў агульнадзяржаўнага значэння. Зрэшты, ні пра сапраўдную вартасць сядзібы, ні пра тое, каму яна раней належала, мы тады не ведалі. Ужо значна пазней яе гістарычнае аблічча паўстала перад намі дзякуючы публікацыям краязнаўцы Вітольда Ермалёнка, які звярнуўся па неабходныя звесткі да вышукаў польскага даследчыка архітэктуры Рамана Афтаназі. А тады…

Лёс прэзентаваў нам раскошу спасцігаць радасці і недасканаласць свету ў атмасферы артэфактаў адметнага панскага дома, і мы з уласцівай дзяцінству непасрэднасцю ахвотна ёю карысталіся. Двухпавярхоўка з калонамі з абчасанага каменя, з абстаўленымі старадаўняю мэбляю пакоямі, з абліцаванымі цудоўнаю кафляй печамі, склепам і тузінам гаспадарчых памяшканняў, ацалелая дольная каменная частка лямуса[14] крыху воддаль, доўгія аборы ўздоўж вужакападобнай плыткай Вяткі, купальня ў месцы з дзіўнаю назваю Халуй, дубовыя, таполевыя, бэзавыя, язмінавыя ды арэхавыя алеі – усё гэта на паўтара дзесятка гадоў стала фонам нашых забаваў і гульняў, увайшло ў жыццё так трывала і натуральна, што, здавалася, будзе існаваць у ім вечна. Як і сама вёска, здольная шчадротамі прыроды нівеляваць нават самыя непрывабныя, а то часам і жахлівыя праявы сялянскага побыту. На якія мы тады, зрэшты, ахмеленыя рамантыкай волі і водарам экзатычных раслін і кветак, не надта і зважалі. Балазе горкую пігулку ў выглядзе жменькі выдадзенай бацькам на працадні сахарыны або пары галовак калянага кубінскага цукру ды бохана крамнага хлеба на чацвярых у Міжрэччы заўсёды без цяжкасці можна было падсаладзіць самаробнаю гарбатаю з духмяных зёлак або кампотам з ягадаў

[14] **Лямус** – пабудова кшталту лядоўні для захавання прадуктаў харчавання.

рассеянага ў наваколі букштыну[15] і барбарысу. Жорсткая безвыходнасць калгаснага жыцця на той час яшчэ не наклала на насельнікаў Міжрэчча адбітку ў выглядзе беспрасветнага п'янства і з каптуром кампенсавалася шчодрасцю прыроды. Ды, каб палюбіць нават такую прыроду дарэшты, аднае яе шчодрасці, відаць, было нам недастаткова. Можа, таму і сталася гэтак, што, аддаючы належнае спаконвечнай сялянскай карміцельцы, ніводзін з нас па сканчэнні школы лёсу з працай земляроба так і не звязаў.

Узрастанню душы спрыяе лагода, гартуе яе, безумоўна, — суровасць. Але і талая вада з растопленага на прыпеку снегу ці лёду, адсутнасць цацак або чаравікаў у кожную пару года, да ванітаў абрыдлая штодзённая кава з цукровага бурака — дробязі ў параўнанні з жорсткасцю натуры, якую назірае вясковае дзіця ў дачыненні да тых, хто з'яўляецца адзіным яго абаронцам, — уласных бацькоў. Дробязі, якія адных насамрэч гартуюць ды робяць дужымі, бы крэмень, другіх – наадварот, пераломваюць напалам, на ўсё жыццё пазбаўляюць волі і здольнасці да супраціву.

На тле сусветных катаклізмаў сюжэт пра тое, як у нейкага селяніна ў нейкім Міжрэччы захварэла карова і як ён, не бачачы іншага выйсця, збіраецца яе, адзіную запаруку хоць якога дабрабыту, прырэзаць не астылаю ад ранішняй ходкі па пожні касою, каб потым выкінуць у глухі яр на радасць навакольнаму звяр'ю ды птушкам, у большасці людзей, бадай, толькі выкліча ўсмешку. Узгадаванаму на сучасных вартасных крытэрыях чалавеку не палічыць за дробязь неймаверную каштоўнасць каровы ці авечкі для сялянскага двара эпохі кукурузнага свербу Мікіты Хрушчова гэтаксама цяжка, як цяжка прыняць усур'ёз стаўленне абарыгена афрыканскае пустэльні да свайго статку як да падставы для гонару ці, наадварот, ганьбы за ўзровень уласных фізічных ды разумовых здольнасцей у часе сённяшнім.

Гэткіх дробязяў у Міжрэччы, маляўнічым нагрувашчанні сялянскіх хатаў на тле замкнёнай прасторы калісьці бездакорнага, ды з кожным днём усё больш запусцелага сядзібнага дома-палаца, ніколі не бракавала.

*

Качанне яек у свята Вялікадня, гульні ў «штандар» і «шпіёнаў», кулоганне да пасінення ў рацэ, скокі з ільдзіны на ільдзіну падчас

[15] **Букштын** – расліна сямейства ружавых з ягадай з прысмакам мускату.

крыгаходу, лазенне па дрэвах, лоўля птушак на сіло з конскага воласу, галавакружныя спускі на санках і лыжах з высокіх, стромых гор і абрываў – усё было ў нас як звычайна ў большасці вясковых дзяцей. Праўда, часам гульні нашыя былі і даволі небяспечныя – вядома ж: якія варункі існавання, такія і гульні. Нашы, першага калена тубыльцаў-міжрэчанцаў, гульні, хоць і не выходзілі з межаў агульнапрынятага ўяўлення аб прыстойнасці ды чалавекалюбстве, былі даволі рызыкоўныя і часам нагадвалі балансаванне на мяжы з бядою. Што гэта за гульня – кінуць запалку на кладню сена ці саломы, а потым паманулца загасіць той агонь уласным целам? Так мы ўпотайкі ад дарослых рабілі ў лядашчых, перарабленых са старых клецяў пунях ды хлявах, так рабілі ў даўжэзнай, запоўненай па самы дах калгасным лёнам панскай аборы. Лёгкі шоргат запалкі аб пушку, хваля агню, і вось ужо ладны кавалак кладні ахоплены полымем, і ты куляешся на яго з маціцы, закрываеш сабою. Што будзе ў наступную хвіліну, табе няведама, як няведамы да часу і кошт гэткіх шалаў наогул. Падрабязнасці якіх неўпрыцям развярэдзяць глузды вусцішам здзейсненага праз тры-чатыры дзесяткі гадоў ды зробяцца шараговай дэталлю сюжэта у якім-небудзь «Удогу».

Вёска, у адрозненне ад горада, – найперш уладанне прыроднай стыхіі. А яшчэ — стыхіі прадвызначанасці лёсу, у якім кошт жыцця часта вызначаецца не гэтак ступенню падрыхтаванасці да яго неспадзевак, як збегам абставін. Але ці пакінутаму сам-насам знябожанымі пякельнаю працаю бацькамі дзіцяці пра тое думаць? Тым больш што ў забытым Богам куце кшталту Міжрэчча небяспека спакушала дзіця паўсюль. Улетку – шатамі дрэваў, на якія так лёгка ўскараскацца па шурпатым камлі ды гэтак жа цяжка спусціцца зноў на дол, не паламаўшы нагі ці не скруціўшы шыі. На пачатку зімы – крохкім лёдам на ставе, што так і кліча пакоўзацца ў вольны ад вучобы час. Увесну – стромымі, спярэшчанымі галоўкамі красак берагамі ракі, аблямаванай такімі слізкімі пасля крыгаходу берагамі, што і не заўважыш, як апынешся неўпрыцям у ледзяной вадзе.

Мы бавіліся ў хмызе на беразе раз'юшанай (паводка была ў самым разгары) ракі, спаборнічаючы, хто больш знойдзе па купах пралесак, як раптам заўважылі: аднаго з нас не стае. Штосьці плёснулася ў заточцы пры беразе, мы азірнуліся і дружна знерухомелі ад сполаху: сястра Ірка ляжала дагары ў вадзе за паўметра ад берага, абгорнутая з усіх бакоў, бы выратавальным колам, пухірамі балоневай куртачкі, мерна гайдалася на хвалях. Не памятаю, хто першы апрытомнеў ад здранцвення, толькі сястру мы неяк далі рады выцягнуць з вады, падаўшы ёй камель арэшыны. Бацька з гадзіну

ганяў яе пасля дзеля сугрэву з дубцом у руцэ вакол хаты, і ўсё, на шчасце, абышлося…

Словам, мы гулялі, а калі гулі ў звыклым пейзажы нам надакучвалі, выпраўляліся ў мясціны прылеглыя: вудзіць акунёў ды лавіць ракаў да будынка млына (раней – кардоннай фабрыкі) ва Устшэжы, ці на руіны Прудніцкага гарадзішча 12 стагоддзя з каменным крыжам ля ўзножжа, ці на Дзвіну з яе пясчанымі выспачкамі ўсцяж лодачнай пераправы на латвійскі бераг і выглядам на пасечаную снарадамі ды кулямі ў час вайны вежу драўлянай капліцы са звонам-падарункам Пілсудскага і нязменна зачыненымі (ішлі атэістычныя 60-я) на вялізны замок дзвярыма. Месцаў для пазбыцця неўтаймоўнай дзіцячай энергіі не толькі ў Міжрэччы, але і ў яго ваколіцах хапала з каптуром. Як, між іншым, і працы па гаспадарцы. Нявінныя дзіцячыя недахопы накшталт жадання ўнікнуць раз і назаўсёды вызначаных старэйшымі працоўных абавязкаў у вёсцы не ўхваляліся.

*

Імпэт да руйнавання помнікаў старасветчыны ў мірны час не прыходзіць знянацку. Ён узнікае спакваля на грунце аслаблення імунітэту да дзікунства, грамадскай абыякавасці, культывавання адстароненасці ад прадмета руйнавання, то бок адсутнасці належнай асветніцкай працы. Як ні дзіўна, але ні разу за чатыры гады навучання ў мясцовай пачатковай школе і пазней, падчас вучобы ў дзесяцігодцы, мы не чулі ад нашых цудоўных настаўнікаў ні намёку на экскурс у гісторыю сядзібы. Ці не таму і здарылася, што, калі грымнуў першы гром нялюдскіх пераменаў, усе мы, сорак жыхароў Міжрэчча, аказаліся да яго не гатовымі.

Па сёння помніцца, як, прачнуўшыся аднойчы ўлетку, пачуў звон пілаў. Пілавалі побач з пакоямі– на «падушкі» для калгасных рэдаляў — таўшчэзныя таполі. Такія старыя, што камлі іх аказаліся зусім непрыдатнымі для цяслярскіх прац з-за вялізных, выедзеных часам ды шкоднікамі-вусенямі дуплаў. Ды, нягледзячы на нашы нясмелыя (ах, гэтая заходніцкая далікатнасць) пратэсты, пошукі драўлянага «залатога руна» на міжрэчанскіх абсягах былі прадоўжаны, цяпер ужо сярод рэдкіх, ацалелых ад старой алеі дубоў. Сігнал да ўсёдазволенасці дзеянняў быў дадзены рашуча і нядвухсэнсоўна.

Першая пала адзіная ў вёсцы камлюкаватая хвоя на ўскрайку гародаў – пайшла ці то на выраб падваконнікаў, ці то яшчэ чагосьці. Затым прыйшла чарга алеяў бэзу, язміну і іншага дэкаратыўнага

кустоўя. Памятаю, як жанчына па імі Стася, якая неўзабаве па ўсім тым жаху з'ехала назаўжды да сваякоў у Польшчу, хадзіла па вёсцы з сякераю за поясам і секла на дровы ўсё, што можна было ссекчы. Наўрад сумленне мучыла яе: іншасвет, да якога яна калісьці і марыць наблізіцца не магла, калі і не ўяўляўся ёй варожым, дык і сваім, тым, што не толькі дакляруе, але і абавязвае, дакладна не стаў.

Знішчыўшы дэкарацыі сядзібы, узяліся за самі пакоі. З даху, вядома, пачалі. Ну, а потым... Цягнулі ўсё, што трапляла пад руку: дрэва, цэглу, камень, кафлю. Сверб разбурэння аказаўся такі заразны, што крышылі і цягнулі нават тое, у чым у гаспадарцы не мелася ніякай патрэбы. Так быў знішчаны другі паверх будынка, што ўзводзіўся, як сведчаць архіўныя дакументы, не менш за два стагоддзі. Пакінуты на спажыву дажджам і вятрам першы, цагляны, супрацiўляўся больш рашуча, але і ён у рэшце рэшт здаўся, не маючы сілы працістаяць напору стыхіі і чалавечай дурноты. Гэткі ж лёс чакаў і будынак млына ва Устшэжы, і іншыя пабудовы ў наваколлі. Свет харaства нішчыўся на вачах, і кожны з нас міжволі зрабіў у справу разбурэння пэўны ўнёсак.

Гэта дзіўнае адчуванне: ты стаіш на і без таго ўжо знявечанай сцяне калісьці шыкоўнага дома і трушчыш, трушчыш рэшту цэглы носам чаравіка – бяздумна, бязмэтна, машынальна, як робяць усе навокал. Такая моц стаднага інстынкту, такі закон разбурэння, уласцівы не толькі нам, беларусам. Дзікунства ў дачыненні да ўласных матэрыяльных і духоўных набыткаў – рэч не такая рэдкая ў гісторыі. Варта было жыхарам Сан-Марына адчуць волю і беспакаранасць, як яны тут жа пачалі расцягваць на будматэрыялы сваю знакамітую старажытную фартэцыю. Не лепшым чынам паставіліся да сваіх храмаў жыхары Малой Азіі. Рымскі Калізей, сцвярджаюць навукоўцы, больш за ўсё пацярпеў не ад варвараў знешніх, а ад саміх рымлянаў, дарэчы, ужо ў эпоху Адраджэння. Але ўсё гэта – слабое суцяшэнне, калі наогул можа ім быць.

Апошняй ахвярай незваротных пераменаў у мясцовым краявідзе стала рака. Камусьці з калгаснага начальства прыйшло ў галаў узвесці ў вёсцы дамбу для падвышэння ўзроўню вады, і для Вяткі насталі найгоршыя часы. Асабліва для рыбы. Яна ў літаральным сэнсе слова засталася на водмелі і адчайна чаплялася за любую ямку, любую западзінку ў дне. Мы лавілі бездапаможных шчупакоў, акунёў ды плотак, што мітусіліся па абмялелых вірках у пошуку паратунку, з дапамогай накрывак і дзяружак, і спажыва наша была як ніколі багатая і разнастайная. Толькі вось чамусьці радасці з яе нагоды

штораз у спадарожнічала адчуванне няёмкасці. І не дзіўна: то была несумленная гульня.

*

Гэткае ж пачуццё, як тады, падчас лоўлі рыбы ў абмялелай рацэ, ахоплівае мяне сёння, калі я прыязджаю ў сваё паўразбуранае Міжрэчча і бачу на месцы пакояў рэшту сцяны ды груду патрушчанай, бітай цэглы – усё, што засталося ад будынка. Толькі зараз да адчування няёмкасці прымешваецца яшчэ і адчуванне, што сама вёска мяне адпрэчвае. «Дзеля чаго гэты флірт з мінулым?» – быццам пытаецца вачніцамі асірацелых хат, не пакідаючы ані шанца на ўваскрашэнне той вялікай, як мне заўсёды здавалася, узаемнай любові, што так доўга сілкавала мяне ў пошуках больш-менш прыдатнага зямнога прыстанку.

Але што там вёска – нават рака, здаецца, не радая госцю. Калісьці гэтак прыязная, яна, быццам сцвярджаючы ісціну пра ваду, у якую двойчы не ўвойдзеш, усё больш рашуча намякае на адчужэнне. То зацягне багнаю, якой тут ніколі не было, любімае месца купання, то сцягне цячэннем з нагі абутак, то сутыкне на прыбярэжнай сцяжыне з новым гаспадаром мясціны – дзікім зверам, што, асмялелы на бязлюддзі, бесцырымонна пашырае свае ўладанні за кошт апошніх, нямоглых насельнікаў Міжрэчча. Назаўжды застанецца ўва мне сімвалам уласнае счужэласці родным мясцінам выпадак, што адбыўся на Вятцы ў адзін з апошніх маіх прыездаў.

Ціхім надвячоркам я стаяў у адзіноце па грудзі ў вірку пад навіслым на вадою кустоўем, як раптам з кустоўя таго рынулася на мяне штосьці чорнае велічынёй з сярэдняга росту сабаку. То быў бабёр, які, мусіць, заўважыўшы ўмяшальніцтва староннега ў свае бабрыныя справы (я напярэдадні ачысціў дно вірка ад падазрона свежага альховага галля), вырашыў падпільнаваць зламысніка і давесці яму такім чынам пра свае гаспадарскія правы. І хоць бабёр, як вядома, — істота не такая ўжо агрэсіўная, ці ўзнікне ў мяне калі-небудзь яшчэ жаданне акунуцца ў маім асвечаным памяццю пра мінулае вірку яшчэ раз – не ведаю. Наўрад.

Вось так непрыязна сустракае мяне сёння Міжрэчча. І толькі западзіны побач з руінамі сядзібнага дома не-не ды і пададуць, як раней, знак гасціннасці, усцешаць ураджаем велізарных, памерам у тры чалавечыя галавы, грыбоў-дажджавікоў.

Гады з два таму адзін са школьных прыяцеляў з суседняй вёскі павёў мяне паглядзець склеп, які застаўся яму ў спадчыну ад бацькоў

разам з хатай. Пабудова ашаламіла мяне памерамі і размахам фантазіі. Асабліва ўражвалі ўнушальныя, выкладзеныя з чырвонай, старадаўняга абпалу цэглы сцены. «Памятаеш млын ва Устшэжы? Адтуль усё», — бачачы маё здзіўленне, патлумачыў гаспадар. Я глядзеў на ўсю гэтую прыгажосць, і яна мяне зусім не радавала. Гэта не была прыгажосць, здольная сагрэць душу, занадта відавочна праступалі паўз яе абрысы халодныя прожылкі прадпрымальнасці і цынізму.

І гэтаксама вее сёння на мяне сцюжаю ад руінаў самога млына. Калісьці ўтульны райскі куточак са штучным вадаспадам на месцы плаціны ператвораны ў пляцоўку для масавых гульбішчаў, і спякотным летнім днём там літаральна не прапхнуцца сярод чужых. Такая Ніягара мясцовага значэння. Чужыя людзі, чужая вада, чужая мова. І гэткая ж атмасфера закінутасці і спустошанасці сустракае побач – на гарадзішчы. Крыж скрадзены, указальнік пра тое, што гэта помнік археалогіі 12 стагоддзя, паваленны, наўкола такія джунглі з зарасніку лазы ды альхі, быльнягу і крапівы, што ўпару, здаецца, насяляць месца статкамі дзікіх жывёл. На жаль, страчаны не толькі дух мясцовасці, але амаль усё, што здольнае было б сілкаваць яго насуперак поступу часу. Як у ваду канула, напрыклад, знікла бясследна выява пакояў пэндзля Язэпа Драздовіча, што шмат гадоў упрыгожвала жытло нашых настаўнікаў.

Некалькі год таму згарэла наша хата ў Міжрэччы. Пакінутая на волю лёсу, нябога занялася полымем так імкліва, што двое старых суседзяў не тое што ўратаваць будыніну—ахнуць не паспелі. З таго часу і цаляе маё роднае котлішча комінам у неба, быццам у надзеі дагнаць у росце ствалы ацалелых падчас бязглуздага пілавання таполяў. Зрэшты, ужо дарэмна: два гады таму комін заняла пад гняздо пара маладых буслоў. Так што таполі могуць не хваляваццa: адносна вышыні пальма першынства застанецца за імі, прынамсі, ва ўяўленні тых, хто калі-небудзь іх бачыў, назаўжды.

Кожны раз, калі шчасціць наведаць нейкую знакамітую мясціну ў замежжы, я міжволі параўноўваю яе з якой-небудзь з нашых, міжрэчанскіх. Часта параўнанне не на карысць першай. Але гэта не здаецца мне дзіўным: справа не ў значнасці помніка для ўсяго чалавецтва. Справа – у самой памяці. У дадзеным выпадку – у памяці пра вёску-выспу аднаго пакалення, якая, раздзяліўшы са сваімі жыхарамі радасць сціплых сельскіх дабротаў у часы, калі жыццё бруіла тут крыніцай, і сама ціха згасла па яго адыходзе.

*

Пры ўсёй цынічнасці азначэння радзімы як месца, дзе мы знаходзімся тут і цяпер, штосьці ёсць у ім справядлівае. Сёння, калі Міжрэчча перастала быць маім домам у літаральным сэнсе гэтага слова, настальгія па яго букштынава-сунічных пагорках ўсё радзей і радзей наведвае мяне. Я пытаюся ў сябе, ці згадзіўся б зноў пачаць усё там, у благаславёных Богам ды адпрэчаных людзьмі садах, і не без каліва ўнутранай збянтэжанасці лаўлю сябе на рашучым «не». У сталым узросце і ў самых чароўных ды прыгожых мясцінах хораша блукаць, маючы пэўнасць, што яны дадуць табе штосьці не толькі для душы, але і для цела. Цёплай вады, каб без залішніх клопатаў ды высілкаў памыць перад сном ногі. Бярэма дроў, па якіх не баліць галава ў хвіліны кароткага, значна карацейшага, чым таго патрабуе наша чалавечая прырода, адпачынку паміж ходкамі на поле ці да статку. Мажлівасці хоць краем вока, хоць зрэдку, нараччас, як казалі калісьці мае аднавяскоўцы, зірнуць на іншы, можа, і не нашмат прывабнейшы, чым твой уласны, ды ўсё ж няведамы свет. Што гэта – адступніцтва? Здрада? Магчыма, і тое, і другое, ды штосьці мне за іх ані не сорамна.

**Выспа Мова.**
*Эсэ*

Калі мне хочацца ўзгадаць родную гаворку, я вяртаюся ў думках дадому, у сваё сцішэлае, напаўзгаслае Міжрэчча. Акунуцца наноў у бяздонныя віры спрадвечнай гармоніі прадмета і слова, вывудзіць з тых віроў залатнік першароднага, не сфальшаванага стараннямі навукоўцаў ды поступам часу гучання – што можа быць лепш? Нават цяпер, калі самога дома ўжо колькі год як няма, адметнасці маўлення землякоў, апошніх носьбітаў і сведкаў моўнай разнаітасці памежнага краю, так моцна трымаюць мяне пры сабе, што калі-нікалі прыходзяць і ў сне. Часам гарклявыя ад прыпаміну нейкага собскага саромнага ўчынку, імі абнайменнага, яны, аднак, ніколі не бываюць мулкімі: гарошына згадкі адно здатная разняволіць душу ды, даўшы накірунак фантазіі, бліснуць дыяментам і зноў згубіцца ў нетрах памяці – да наступнага, што з няведама якіх схронаў вымкнецца і з нітак якой прадаўніны стчэцца, аб’яўлення.

Дзіўна, але ў паселішчы з крыху больш за дзесятак хатаў адно і тое ж слова магло мець некалькі варыянтаў: ізнова – узнова – зновака – знова; сусём – сусім – саўсім – саўсём і г. д. Усе гэтыя словы не-не ды нагадаюць пра сябе, як ні з таго ні з сяго нагадала днямі, пасля вандроўкі ў прыгарадны лес, словазлучэнне «зноданае абуванне». Зноданае (ці зблочанае) – значыць збруджанае, недагледжанае, папсаванае. І вось жа выплыла неўпрыцям у памяці праз амаль што паўвека пасля таго, як апошні раз пачуў яго ці то ад бацькоў, ці то ад каго з аднавяскоўцаў.

Адметнасць нашых гаворак – іх неймаверная насычанасць сарказмамі. А часам і відавочнымі сэнсавымі алагізмамі. Вось, напрыклад, што значыць характэрны для паўночна-заходняй ускраіны Прыдзвіння выраз — *быў памёршы*? Быццам памёр чалавек, але толькі часова, каб зноў уваскрэснуць? «Паехалі да таго дзядзькі і якраз на хаўтуры трапілі: бацька *быў* у яго *памёршы*, дык паміналі». Быў памёршы, быў сказаўшы, быў прыйшоўшы… А яшчэ ёсць форма *быўшы* – у значэнні быў. «Раней млын тут быўшы, а цяпер пустэльня во ўсюды».

Мабыць, толькі сярод такіх цнатлівых ды несапсаваных цывілізацыяй людзей, як мае землякі, мог нарадзіцца ды, галоўнае, успрымацца без юрлівае ўсмешкі бясспрэчны рэгіянальны моўны хіт — «*даць* парсюку». «Ты парсюку *дала*?» – «*Дала*, анягож!» – «То і я пайду *дам* свайму. Уранні *дала*, паўднём *дала* – усё мала яму, вішчыць ды вішчыць. Калі ўжо нажарэцца…».

*Абабіць* у агульнапрынятым значэнні – значыць абгарнуць чымсьці, вагонкаю, напрыклад, ці тканінай, ці бляхай. У нас «абабіць» – значыць дзіця пабіць, пакараць за нешта. Не збіць, не спаласаваць да шнараў, а так лёгенька, так бы мовіць, любоўна, — лазінкаю там ці рэменем пахадзіць па целе – *абабіць*.

А вось слова *міндаліны* паводле тлумачальнага слоўніка – калька з рускай, няйначай. У нас было – гручолы, з выбухным «г». Міжволі асацыявалася з тым, што груваснцца ў роце, замінае. Бывала, так распухнуць па прастудзе, што, здаецца, рады дыхнуць неўзабаве не дасі. Памятаю, як дзесьці ў 14-гадовым узросце ірвалі ў бальніцы – лыжкаю. Лыжка тупая (востраю нельга – сасуды парэжаш), а яны, гручоліны тыя, упіраюцца, не жадаюць зрушвацца з месца. Твар доктарцы скрывавіў, керхнуўшы, злуецца кабета, ажно такі нешта не

так зрабіла, колькі гадзін з заціскачом у роце давялося па працэдуры ляжаць.

Праўдзівыя «гручолы».

Насуперак распаўсюджанаму меркаванню аб ледзь не татальнай спольшчанасці насельнікаў колішніх «крэсаў», у нас у паваенным часе такой з'явы і блізка не назіралася. Наадварот, усё, што нагадвала пра нядаўняе «польскае» мінулае, не ўхвалялася, а то і з'яўлялася аб'ектам кпінаў: нашы выхаваныя ў крэсавых школах дзяды-прадзеды занадта добра ведалі сваё месца, каб замахвацца на большае, чым дазваляла ім іх паходжанне. Прычына гэткага феномену хаваецца не ў прыроднай сціпласці тутэйшага люду, а найперш у сацыяльнай няроўнасці карэнных жыхароў і тых іншаземцаў, каго яны цягам стагоддзяў мусілі мець за пана. Прорва паміж становішчам аўтахтонаў і тых, што іх паланілі, не дазволіла апошнім дасягнуць мэты ў справе асіміляцыі. Так ужо ўладкавана на свеце, што і прымусоваму чыну, каб стаць паспяховым, патрабуецца хоць які-кольвек складнік добраахвотнасці.

Размаўляць «з польскага» або «з рускага» на маёй малой радзіме заўсёды лічылася праявою кепскага выхавання і фанабэрыстасці. Дастаткова было чалавеку аднойчы прадэманстраваць гэткім чынам сваю вучонасць перад вяскоўцамі, як ягоная рэпутацыя аказвалася беззваротна сапсаванай. Жыхары Міжрэчча і яго ваколіцаў у сваіх моўных прыхільнасцях былі кансерватыўнымі і ўжыванне іншамоўных словаў кшталту «папа» замест «тата» ўспрымалі не іначай, як праяву неадэкватных паводзінаў. Клішэ гэткага стаўлення да чужой мовы і па сёння жыве ў свядомасці многіх маіх землякоў. Калі пару год таму наша настаўніца матэматыкі, беларускамоўная кабета, загаварыла ў бяспамяцтве пасля інсульту «з рускага», гэта было кваліфікавана як адзнака вельмі кепскага стану вельмі хворага чалавека. Мяжа «сваё – чужое», «маё – не маё» ў дачыненні да рэчаў нематэрыяльных спаконвеку з'яўлялася ў нас гэткай жа недатыкальнай, як і мяжа пожняў для касьбы ці выпасу статку. Так што калі часам каторы з тубыльцаў дэманструе і зараз адноснае веданне чужой, да прыкладу, польскай мовы, гэта зусім не азначае факту яе наяўнасці ў моўнай яго стыхіі, а толькі сведчыць пра жаданне чалавека здавацца больш адукаваным, чым ёсць насамрэч.

Вось характэрны ўрывак з выдадзенай у 1913 годзе ў Варшаве пад рэдакцыяй польскага ксяндза Юзафата Жыскара 1-га тома

працы «Nasze Kościoły». Archidiecezja Mohylowska. Witebszczyzna». Наогул зычлівыя да нашай культуры і мовы, у раздзеле «Białorus,» аўтары выдання пішуць: «Набліжаючыся да люду беларускага, цяжка не заўважыць яго дзіўнага стаўлення да роднай мовы. Заўсёды ў хатнім жыцці беларус ужывае сваю мову, але толькі не ў касцёле. Там ён і моліцца, і спавядаецца, і хоча слухаць казанне па-польску. ...жадае, каб ксёндз прамаўляў да яго па-польску, іначай абражаецца».

Незычлівыя да беларушчыны дзеячы часта закідаюць нашай мове нейкую прыроджаную нястойкасць да асіміляцыі. Але вось што піша ў згаданым выданні «Nasze Kościoły» аўтар нататкі «Zamosze», характарызуючы побытавыя і моўныя ўзаемадачыненні нашых продкаў і, да прыкладу, латышоў на беларуска-латгальскім памежжы: «Латыш мае і сваю літаратуру[16] і казанні ў сваёй мове, а бедны беларус усяго таго пазбаўлены, а аднак перавагу мае беларус, і часта і мова яго і тая перавага клінам уціскаюцца з Беларусі ў Латвію. [...] Беларускія дзяўчаты прыгажэйшыя і лепей выхаваныя. Латышы ахвотна бяруць іх у жонкі, і тады ўжо ў хату ўваходзіць мова беларуская, а латышская чэзне. Тое самае можна сказаць і пра хлопцаў...». Прычыну гэткай перавагі аўтары тлумачаць наяўнасцю ў беларусаў больш значнага гістарычнага досведу (няйначай, маючы на ўвазе часы ВКЛ) і, адпаведна, гістарычнай культуры, якая не толькі надае ім значнасці ва ўласных вачах, але і дазваляе часам без асаблівых высілкаў займаць годнае мясца ў атачэнні суседзяў.

У стаўленні да ўсяго, што ні вазьмі – ці то вера, ці то побыт, ці то святы-прысвяткі, ці то простая дзіцячая гульня — у значнай ступені прычыняецца традыцыя. І стаўленне да мовы ў гэтым сэнсе – не выключэнне. Паўтара дзесятка гадоў мінула, як стала яна галоўнаю ў касцёле, і, хоць далёка не ўсе католікі ведаюць яе належным чынам, а ўжо якую іншую прапануй ім падчас набажэнстваў — і неахвотна прымуць. Гэтак у Шуміліне, у санктуарыі Маці Божай Фацімскай пару год таму здарылася падчас богаслужэння. Пачалі з ласкі цэлебрантаў літургіі спеў гімна «Хвала на вышынях Богу» па-польску ды і міжволі перайшлі пасля хвіліны няўцямнасці, што запанавала ў святыні, на беларускую пад ціскам магутнай хвалі нязгодных. Гэтаксама адназначна няўхвальна і рускамоўная велікодная містэрыя братоў па веры з Баранавічаў у віцебскім касцёле святой Барбары была крыху

[16] Маецца на ўвазе літаратура духоўная, касцёльная.

раней віцебскімі католікамі, да службаў па-беларуску цягам апошніх гадоў прызвычаенымі, успрынятая.

Стаўленне да мовы – не паказчык узроўню самапавагі ў чыстым выглядзе, яно – хутчэй сведчанне наяўнасці ці, наадварот, адсутнасці ў нас пачуцця самадастатковасці. У пэўным сэнсе наша стаўленне да мовы можна параўнаць са стаўленнем да веры. Чалавек, схільны тлумачыць сваё адступніцтва ад мовы прашчураў выключна нейкімі суб'ектыўнымі чыннікамі (дрэнны настаўнік у школе, негатыўны ўплыў асяроддзя, кепікі знаёмых і інш.), нагадвае верніка, што адвярнуўся ад Бога з-за таго, што яго калісьці пакрыўдзіў святар. І ў адным, і ў другім выпадку маем справу з адсутнасцю глыбіннага разумення сутнасці прадмета, стаўленнем да яго выключна на ўзроўні эмоцыі. А дзе эмоцыі буяюць, там, вядома, розум спіць.

Так уладкавана ў свеце: усё, што адмаўляе, куды лягчэй апаноўвае намі, чым тое, што мае сцвярджаць. Гэта зразумела: сцвярджэнне, у адрозненне ад адмаўлення, грунтуецца на ведах, а здабываць іх – няпростая справа. Бо і фізічных высілкаў часам каштуе даволі значных, і адэкватнага прыняцця прынукі, без якой наогул, падобна, ніякае навучанне, асабліва ў маленстве, немагчымае. Чалавек, які адчувае незапатрабаванасць сцвярджальнага пачатку ў нейкай справе, лёгка і хутка знаходзіць апраўданне ўласнаму ў ёй няўдзелу. Так і з моваю.

Як і многія ксяндзы ды законныя сёстры польскага паходжання, сястра Ніколя з касцёла Езуса Міласэрнага ў Віцебску беларускую мову ведае няблага: абавязак вымагае. «Можна было б і лепш вывучыць, ды вось — практыкі замала», — скардзіцца штоўразу, тэлефануючы, каб спраўдзіць напісанне ці гучанне таго або іншага слова. — «Ну, як жа гэта — замала? – пажартаваў неяк. – Гэтулькі беларусаў-католікаў наўкола вас, з кожнага па слову ў размове – і вунь колькі новых набярэцца». – «А гэта тады так было б, калі б з іх таксама, як з мяне, абавязак вымагаў», — адказала.

З ксяндзом Пётрам, палякам, не сказаць каб надта да беларушчыны прыхільным, колькі часу моваю займаліся. Сякія-такія і поспехі ўжо былі. А тут — у Піцер у яго, на канферэнцыю нейкую камандзіроўка. Вярнуўся чалавек з Піцера сумны дахаты, раздражнёны:

— Усё, не буду больш вучыць *тваю* мову!

І распавёў такое. У кулуарах канферэнцыі звярнуўся на мове да беларускіх журналістаў, якіх шмат там было, — пасмяяліся, бы з блазна.

Неўзабаве з’ехаў мой «вучань» на радзіму ў Польшчу. «Хочаце, каб штосьці добрае ў вас атрымалася, — вучыце людзей *сваёй* мове», — сказаў на развітанне.

Поспех у авалоданні моваю ў немалой ступені грунтуецца на арганічнай яе прысутнасці ў штодзённым жыцці ад нараджэння. Засвойваць мову адмалку паводле ўзораў маўлення бацькоў ці старэйшых братоў і сёстраў і засвойваць яе выключна паводле падручнікаў, як зараз у нас, – вялікая розніца. Бо нават пры наяўнасці самых дасканалых методык ды найвопытных настаўнікаў навучыць мове можна далёка не кожнага, таму што не кожнаму моўная інтуіцыя, то бок здольнасць да вывучэння мовы, Богам дадзеная. Так што як бы ні манулася нам удаваць аптымізм адносна вяртання мовы, падстаў для яго ў нас штодня меней. Той выпадак, калі дарэчы сказаць: прамаруджанне смерці падобна. Вось прапанаваў студэнтам-першакурснікам тэму для выказвання – «Мой любімы занятак». Падымаецца хлопец: »Мой любімы занятак – хадзіць улетку да рэчкі і гвалціць дзяўчат». На тварах аднагрупнікаў не тое што абурэння — няўцямнасці не з’явілася. Аказваецца, ніводзін з дваццаці пяці асобаў не ведае значэння слова «гвалціць». Толькі да слоўніка адаслаўшы, удалося давесці, што яно, гэтае слова, не крык ці галёканне абазначае, як яны думалі, а штосьці зусім іншае.

— Дык як жа будзе па-беларуску *жилет, пиджак, лицо*?» – бывае, запытаешся ў студэнта.

— Ой, знаете, не в курсе,— адкажа, уздыхнуўшы. — У меня, видите ли, с детства напряг с белорусским языком был.

Возьмеш сшытак ягоны з запісамі па-руску, а там – і насамрэч ён, н*апряг*: *же*л*ет*, п*е*джак, л*е*цо, іншыя не меней красамоўныя «пярліны».

Ісці з моваю дзеля яе прапаганды ў людзі без калiва пазітыву – марная справа. Канечне, і пазітыў сцяну нігілістычнага стаўлення далёка не заўжды здольны разбурыць, ды ўсё ж… З гэтай нагоды згадваюцца два выпадкі рознага ўспрыняцця людзьмі мовы на падставе розных падыходаў да яе падачы.

Першы – з часу пачатку адраджэнскіх 90-х гадоў выпадак, калі асноўнымі агітатарамі за пашырэнне сферы яе выкарыстання

выступілі пісьменнікі. У адным з райцэнтраў тое адбывалася. Сабралі надвячоркам у клубе ПМК з паўсотні мужыкоў, вось сядзяць галодныя (канец працоўнага дня) людзі, чакаюць выступу літаратара. Уваходзіць госць (ад Бога паэт, дарэчы) ды з парога: «Ага, седзіцё тут, добра вам, утульна, а там дзесьці — мова гіне!»

Другі – з нядаўняга часу прыклад. Стары ўвайшоў у аўтобус, а тут – засцярога ад кішэнных крадзяжоў — на мове, праз дынамік, у выкананні прафесійнага актора. «Вот хоть в одном месте да не врут, — сказаў дзед гучна і дадаў на мове пад адыход аўтобуса з прыпынку: — Дзякуй вам!»

«Кумпячок» – так да нядаўняга часу называлася крамка мясных далікатэсаў у цэнтры Віцебска. Так прыжылася ў горадзе за гады існавання тая сакавітая беларуская назва, так уелася ў памяць гараджанаў, што своеасаблівую кропкаю адліку — арыенцірам пры росшуку іншых крамаў ды ўстановаў у наваколлі з часам зрабілася. І раптам нядаўна – новая шыльда з'яўляецца на ўваходзе з новаю назвай: «Мяско Вит». Так і просіцца на язык цяпер — «московит». Асабліва, калі ўлічыць, што крама тая не абы-дзе — на Маскоўскім праспекце (д'ябал так паспрыяў, ці што?) месціцца.

У размове датычна мовы: «Не мае значэння, размаўляе чалавек на ёй ці не, абы погляды былі правільныя!». Ды што за карысць з той «правільнасці» для справы, якую, як і любую іншую, калісьці ж трэба некаму пачынаць увасабляць у жыццё? Сёння ён (яна) не пачне, заўтра – сын (дачка) яго (яе) не палічаць патрэбным абцяжарыцца, паслязаўтра — унукі... Яшчэ добра, калі тымі поглядамі наогул прасякнуцца нашчадкі, а як не? Слова не прамоўленае — таксама ж мана.

Пачаў пісаць артыкул па-руску для рускамоўнага выдання – не рушыцца справа з месца, хоць плач. Усё, што ні з'явіцца на экране кампутара, — натужліва, ненатуральна, як праз сілу – тандэт дый годзе. А галоўнае – духу прадмета, што след выкласці ў тым артыкуле, не адпавядае. Перайшоў на беларускую – тое самае. Зноў да рускай вярнуўся – і, дзіва, штосьці пачало ўрэшце больш-менш прыстойнае вымалёўвацца. Дапісаў артыкул, перачытаў – нібыта няблага атрымалася. Ды пазнаку «пераклад з беларускай» не ўтрываў-такі, дадаў понізу насуперак праўдзе — прадэманстраваў, так бы мовіць, непрабівальны патрыятызм ды разам козыр з рук кпліўцаў нібыта а

priori выбіў. Маўляў, хай вось цяпер плявузгне хто: глядзіце, за мову агітуе, а сам, сякі-такі пярэварацень, — на чужой піша!

Індус Рэдзі Шрынівасулу жыве ў Віцебску па сканчэнні медуніверсітэта, вучыцца ў ардынатуры. Неяк падчас сустрэчы ў кулуарах адной канферэнцыі зайшла гамонка пра мову. Распавёў яму пра студэнта са сваёй вучэльні, яго суайчынніка, якога нябедныя бацькі на радзіме ў Індыі адмалку толькі ангельскай вучылі і які толькі ёю, прыехаўшы да нас на вучобу, і валодаў. Ні хіндзі, ні урду, ні бенгалі, ні іншымі якімі, у Індыі існымі, – навошта, маўляў, калі ёсць такая шырока распаўсюджаная ў свеце ангельская?

— О, хіба гэта чалавек! – рэзюмуе Рэдзі і, азірнуўшыся ды панізіўшы голас з увагі на двухсэнсоўнасць сітуацыі, бо наўкола шмат нашых, беларусаў, было, дадае: — Не, не, хоць рэжце мяне – не чалавек гэта...

Зрэшты, дарэмна маладзён і суцішваўся: з тых нашых, што чулі ягоны пасаж, не толькі не абразіўся ніводзін, а нават не схамянуўся. Адно паглядзелі перасцярожліва: што ён такое чаўпе, гэты іншаземец? А між тым не менш за само пачуццё нацыянальнае прыналежнасці нармальных людзей можа яднаць факт яго абразы. Той, што датычыць нібыта ўсіх, а ўспрымаецца, як у нас адвеку, далёка не кожным на свой адрас. Няма адэкватнага рэагавання на абразу, знявагу – няма годнасці. Няма годнасці супольнай – няма нацыі.

Год дваццаць таму ў Сігулдзе, гарадку паблізу Рыгі, на аўтастанцыі да латыша сталага веку па-расейску — спраўдзіць час— звярнуўся. Залапатаў стары штосьці злосна па-свойму ў адказ, ажно сліна з роту пырснула.

— Не так нешта? — пытаюся, агаломшаны няветласцю.

— Ну, прабачце... — А как ты ко мне, так и я к тебе,— ідзе ў наступ.— Учи язык!

— Вучу,— паказваю руска-латышскі размоўнік.— Нетутэйшы я.

— А-а, тогда ладно,— мякчэ.— Извини тогда, извини…

Безумоўна, узровень валодання сучасным беларусам роднаю мовай, у тым ліку асаблівасцямі яе словаўжывання, высокім не назавеш: усё неяк прыблізна, збольшага, праз пень-калоду. Ды здараецца, што недакладнасць кімсьці ўжытага слова і слых палашчыць. Як у такім, да прыкладу, выпадку: «Шмат сёння робіцца ў нас для аматараў роднай літаратуры: кніжкі пісьменнікі выдаюць, рэжысёры фільмы паводле кніжак ствараюць, а галоўнае – усё новыя і

новыя пісьменнікі ў нас *вынаходзяцца*». Апошняе — няйначай, літаратурных тэлеперадач, кшталту «Слово писателя», наглядзеўшыся, чалавек ужыў.

Швагравай цётцы, бабе Тэсьцы, падчас нашага апошняга спаткання пад дзевяноста гадоў было. Мужык даўно памёр, сын адзіны, тэхнар-ракетчык, у бліжнім замежжы, у Падмаскоўі дзесьці на сталае жыццё па сканчэнні інстытута з сям'ёй атабарыўся. Вось сядзім са старой у чысцюткай кухні яе, размаўляем. Кабета дасведчаная: радыё, сваё і замежнае, слухае, кніжкі чытае — Колас на стале, Талстой, Прус, Ажэшка, яшчэ штосьці. Пра беларускія гурткі, што ў вёсках Якужы і Шальціны на Мёршчыне перад вайною існавалі, пра пастаноўку «Паўлінкі», польскімі паліцыянтамі ў дзень прэм'еры забароненую, апавядае. Кніжачка невялічкая на стале – у чорнай вокладцы, з паўстлелымі ад часу старонкамі. Разгортваю: «Голас душы» — лацінкаю, 1937-га года выданне. «Адкуль?» — пытаюся. – «Язэп Малецкі[17], сябрук школьны, — кажа, — прэзентаваў. З надпісам была, ды надпіс выдзерці, як другія Саветы прыйшлі, давялося: ці мала што? Хочаш – вазьмі сабе на памяць». І зноў апавядае пра далёкае-перажытае – паважна, без каліва наракання на крыўды ды непамыснаты лёсу. Пра беларускае — ані слова. Быццам намякае: што языком дарма мянціць, мы адрабілі сваё, адбылі, ваша цяпер чарга, а нас больш неадкладная справа чакае.

Усё мінае... Усё вяртаецца... Дай жа Бог, каб так яно сталася.

## Я пешкі, мама!

*Эсэ*

Сон быў кароткі і абрывісты, як брэх баязлівага сабакі, збянтэжанага нечаканым з'яўленнем у двары больш дужага суродзіча. І разам з тым ён быў так пранізліва рэальны, што, калі я прачнуўся, не ён, той сон, а, наадварот, сама ява падалася мне недарэчнаю відзежай. Ці дзіва, што не адна хвіліна прамінула, перш чым шпалера на сцяне збоч канапы зноў набыла ў маіх вачах колеры звыклай будзённасці, а маляванка пры дзвярах з пакоя ў калідор і гадзіннік

[17] Беларускі калабарант, аўтар кнігі «Пад знакам Пагоні. Успаміны» пра падзеі на Беларусі ў 1939-1945 гг. (Выдавецтва «Пагоня», Таронта, 1976). Друк. у часопісе «Спадчына» (№№ 2-5, 1994).

над ёй перайначыліся з суцэльнае расплывістае плямы ў знаёмыя рэчы, кожную з якіх можна без лішніх высілкаў успрымаць паасобку.

«*Ты* прыехаў?» – гэта былі адзіныя словы з нашай віртуальнай размовы ў сне, што я даў рады ўзгадаць пасля, лежачы на канапе ў атачэнні слоўнікаў мовы, за якую міжволі давялося ўзяцца з мэтаю хоць збольшага кампенсаваць аніякае валоданне ўсюдыіснаю ангельскай. І гэта быў першы мой сон пра маці, хоць з дня яе адыходу ў лепшы свет прамінула без малога чвэрць стагоддзя. Два словы — амаль нічога, калі не лічыць у дадатак бязгучнага дыялогу вачэй напрыканцы, пры расстанні ля брамы з круцёлкай кшталту тых, што аддзяляюць бальнічны калідор ад пакоя для наведнікаў ці пляц перад касамі ад гандлёвай залы ў краме.

Але сам сон быў такі лагодны, такі поўны абяцання на працяг стасункаў у месцы з прывабным, хоць і не дарэшты вольным ад сумневу ў імавернасці існавання таго месца назовам «вечнасць», што наракаць на хуткаплыннасць яго ці на невыразнасць адбітку ў памяці нават не прыйшло мне ў галаў.

«*Ты* прыехаў!» — так яна сустракала мяне ў юнацтве, падчас маёй вучобы ва ўніверсітэце, і пазней, калі ўжо працаваў, кожнага разу вылучаючы націскам першае слова без увагі на тое, быў то прыезд загадзя вядомы ці, наадварот, нечаканы. І двух гэтых прамоўленых у звыклым, хоць крыху, папраўдзе, і счужэлым інтэр'еры сялянскае хаты словаў было мне заўсёды дастаткова, каб адчуць: я – дома, мяне тут чакалі.

«*Ты* прыехаў?» – сказала год трыццаць з гакам таму ў дзень майго прыезду пасля развітання з універсітэтам і, памаўчаўшы хвіліну, дадала: «Нешта ж надта сумны, штосьці не так?» — «Пешкі ад цягніка з Друі ішоў, стаміўся», — не схільны да звычкі дзяліцца кепскім з асабістага жыцця, салгаў тады і ўбачыў, як нязгодна павяла вачыма: не дала веры.

«Ты *прыехаў*?», – з удаванай бясстраснасцю казала кожны раз пасля таго майго нявіннага падману, абражаная інтанацыяй адстароненасці, справакаванай сынавай далучанасцю да недасяжных тут, у глухім куце, дзе ўсё жыццё пражыла, даброт цывілізацыі. І заўжды потым, нават тады, калі было відавочна, што не прыехаў, а прыйшоў, і не так ужо здалёку, быццам наўмысна ўзводзіла нябачную сцяну між сабою і сваім дарослым дзіцем, націскала знарок на «прыехаў». Маўляў, *ты прыехаў, а мы вось тут усё пехатой, пехатой...*

«*Прыйшоў*, мама, — папраўляў яе і лавіў сябе ўпотай на думцы, ці так ужо яна не мае рацыі ў сваёй прыхаванай за ўсмешкаю

паняверцы: — Ты ж ведаеш, як падабаецца мне *хадзіць*». Думаю, менавіта тады ўпершыню пачаў адкрывацца мне глыбінны сэнс гэтага слова – *пехатой*. Пехатой (пешкі) – гэта калі ўсё, што ў жыцці ні займеў, дарэшты аплачана і нічога ніколі – авансам.

*

Звычку і любоў да хаджэння пехатой прышчапілі мне абставіны: школа знаходзілася за шэсць, і то калі ісці напрасткі, а не кругам, дзе лепшыя сцежкі, вёрстаў ад хаты. Да таго ж у мяне заўсёды здараліся непярэліўкі з падручнымі транспартнымі сродкамі. У восьмым класе бацькі купілі мне ровар, які я паламаў праз тыдзень, узбіўшыся на патарчаку пры пераездзе праз ручай. У дзявятым яны справілі мне ўзімку новенькія, нятанныя па тых часах лыжы, але іх напаткаў лёс ровара, толькі не праз тыдзень, а значна хутчэй — у той дзень, як іх купілі.

Сам лёс быццам скіроўваў мяне да хаджэння пешкі. У выніку я налаўчыўся хадзіць так хутка, што перад апошнім класам дзесяцігодкі пераадольваў свае шэсць вёрстаў да школы менш як за сорак хвілін. І палюбіў хадзьбу на ўвесь астатні век. Сёння мне, на пяцьдзесят сёмым годзе жыцця, не зразумець чалавека, які наракае на тое, што сонца гэткае пякучае, а яму яшчэ ісці кудысьці, скажам, ажно пяць вёрстаў. Калі той чалавек, вядома, не невылечна хворы. Або калі мае 17-18-гадовыя студэнты, бегучы за мною па сходах, натужліва, быццам на іх узгрузілі няведама які цяжар, сапучы, кажуць: «Ну, ведаеце, вас не дагнаць».

Пехата – добры настаўнік. Асабліва ў сэнсе гартавання адказнасці за сябе і за стан сваіх справаў. Не пакрутаеш – спознішся; калі прыйдзеш – тады і пад'ясі; не прыйдзеш увогуле – застанешся там, дзе быў дагэтуль, — спіс стацыяў можна доўжыць бясконца, бо ўсё ў нашым жыцці так ці інакш завязана на ўменні паспяваць, то бок з'яўляцца своечасова ў належным месцы.

Гэта была добрая школа, хоць, папраўдзе, на той час – не без каліва патаемнае надзеі, што гэтак вось — з дня ў дзень праз пераадоленне фізічнае стомы, у вечным клопаце не спазніцца — будзе не заўсёды. І мая тонкая, далікатная маці і тое, і другое выдатна бачыла і разумела. І, так зараз мяркую, можа, крыху сябе за сёе-тое, напрыклад, за неабачлівы выбар месца на сталае жыццё, бо мелася, напэўна, па шлюбе з бацькам і нейкія іншыя, зручнейшыя з пункту гледжання будучыні дзяцей варыянты, і дакарала.

*

Яна памерла ў пяцьдзесят шэсць, акурат ва ўзросце мяне сённяшняга. Гэта быў удар, моц якога напоўніцу можна асэнсаваць толькі з часам. Але гэта быў не толькі ўдар, а і навука, якую падаюць дзецям фактам свайго адыходу заўчасна памерлыя бацькі. Дачасная смерць бацькі або маці, хоць і з'яўляецца жорсткім урокам, як нішто іншае нас загартоўвае, робіць больш трывалымі ў дачыненні да стратаў, што чакаюць у прышласці. Прымушае па-новаму зірнуць на сябе, а ў пэўным сэнсе – і скарэктаваць, наколькі гэта магчыма, свае жыццёвыя прыярытэты. Гэта, так бы мовіць, – удар лёсу прэвентыўны. Падчас якога канцэнтрацыя болю такая вялікая, што ўсе наступныя ўдары ў параўнанні з ім выдаюць бяскрыўдным дзіцячым тумаком.

Хваробу яе мы прагледзелі. Як дактары, што аказаліся не ў стане дыягнаставаць рак на ранняй стадыі, хоць сімптомы і былі, здаецца, навідавоку, так і мы, яе дарослыя дзеці. А калі спахапіліся, было позна. І мы з сястрою ды братам не знайшлі лепшага выйсця, як рабіць выгляд, што нічога асаблівага не здарылася: усё, маўляў, добра, мама, усё абыдзецца. Такі падман дорага каштуе. Але яго сапраўдную вартасць пачынаеш асэнсоўваць толькі тады, калі непазбежнае становіцца відавочным, а павуцінне хлусні, якім аплятаў, хай сабе і з лепшых меркаванняў, свядомасць блізкага чалавека, міжвольна пачынае аблытваць цябе самога. Мы хавалі ад маці праўду на працягу года. Не ўпэўнены, што, калі стан яе рэзка пагоршыўся, яна не ўспрыняла гэткія нашы паводзіны як здраду.

Нават пры ўсёй любові да блізкага чалавека напачатку вельмі цяжка пазбавіцца ў асабістых стасунках з ім грэблівасці да яго хваробы. Тым больш калі хвароба тая слаба вывучаная і чаго толькі пра яе ні наслухаешся. Жахліва: хворая маці рыхтуе абед, а цябе не пакідае сумнеў, ці здолееш ты яго есці. Унікаеш тых прысмакаў, да якіх дакраналіся яе рукі, і цябе ні на хвіліну не пакідае думка, як спрытней ды праўдзівей патлумачыць такое неспадзеўнае – ты ж дагэтуль ніколі кепскім апетытам не вылучаўся – стэнафагства[18]. Унікаеш ды вучышся быць «гаспадарлівым»: наступным разам «ні з таго ні з сяго» возьмеш, руплівец, які і бульбіны ніколі дагэтуль у роднай хаце не ababраў, клопаты па прыгатаванні харчу на сябе.

Адзін з урокаў, які яна паднесла нам падчас сваёй хваробы, – урок стаўлення да жыцця як да вялікага дару. Ні разу яна, нават у

[18] Антыпод усяеднасці.

хвіліны самага нясцерпнага болю, не сказала, што не хоча жыць ці што хацела б як мага хутчэй усё скончыць, пазбавіцца пакутаў праз смерць. Наадварот, вера ў добры зыход да апошняе хвіліны не пакідала яе, і хаваць яе яна не лічыла патрэбным. З утрапеннем дзіцяці верыла ў моц малітвы і... грошай. Напярэдадні аперацыі дала мне сотню рублёў і загадала прэзентаваць доктару. Гэта быў мой першы досвед давання хабару, які, дарэчы, так і скончыўся нічым. Доктар не быў упэўнены ў станоўчым выніку аперацыі і грошай не ўзяў. І мне, каб не выклікаць лішніх падазрэнняў ды сумневу з яе боку, нічога не заставалася, як пакінуць тую сотню сабе.

На тле нашэптванняў прыхільнай да Бахуса суседкі, як нішто ёй не цікава на гэтым свеце (жанчына шчыра жадала гэткім чынам падтрымаць хворую), такое жыццялюбства здавалася мне на той час ледзь не подзвігам. І толькі цяпер, прайшоўшы праз сякія-такія кругі фізічных непамыснотаў ва ўласным лёсе, я разумею, як важна ў пераадоленні іх не скаціцца да банальнага, хлуслівага адпрэчвання жыццесцвярджальнага дзеля сумнеўнай патэтыкі ўдаванага нігілізму. І, можа быць, гэты ўрок для мяне, атручанага ў маладосці пастулатамі модных на той час філасофскіх плыняў, — самы галоўны з усіх, якія давялося атрымаць з ласкі іншых, блізкіх і не вельмі, людзей, але найперш – маці.

Толькі аднойчы яна паказала, што ведае, мабыць, пра сваю хваробу болей, чым мы ўяўляем. Калі, збіраючыся напярэдадні нейкага свята ў касцёл, раптам сказала, што хацела б абрэзаць касу, бо валасы занадта даўгія і ў выпадку чаго паспрабуй даць ім рады... І я нажніцамі абрэзаў іх ёй па патыліцу. Атрымалася штосьці кшталту карэ – крыху нязвыкла, як для немаладой жанчыны, крыху экстравагантна. Яна з удзячнасцю паглядзела на мяне, а мне тады чамусьці згадалася, як калісь у маленстве я падхапіў педыкулёз і яна з дапамогаю сцізорыка пазбаўляла маю галаву, усклаўшы яе сабе на калені, ад трасцы. Я хацеў нагадаць ёй пра той выпадак, але не стаў: гэткіх сведчанняў духоўнае лучнасці з уласным дзіцем, узрослае на глебе штодзённага фізічнага судакранання, кожная маці і без нашага напаміну можа згадаць тысячу. Якімі б перавагамі ў сэнсе адукаванасці ды ўмення арыентавацца ў рэаліях сённяшняга дня мы не валодалі, бацькі куды лепш ведаюць нас, чым мы іх. І любяць больш – вось чаму, мабыць, мне нават у найцяжэйшыя хвіліны яе пакутаў ні разу не захацелася памерці раней за яе.

Яна сканала ўвосень, праз чатыры дні пасля маіх апошніх адведзінаў. Адведзіны былі кароткія, і адзіным суцяшэннем, што крыху супакойвала мой адчай падчас развітання ў хаце, дзе

заставаліся пры ёй нязвыкла цвярозы бацька і дзядзька з цёткаю, якія прыехалі адведаць хворую з далёкага Данбаса, было тое, што дзякуючы аперацыі яе адыход выдаваў не такім пакутлівым, як зазвычай у людзей з гэткаю хваробай. Затым адчай саступіў месца трывозе. Такой неадступнай, што калі ў дзверы віцебскай кватэры, дзе я здымаў пакой, уначы пазванілі, я ўжо і спрасоння дакладна ведаў: гэта тэлеграма.

Адмалку прызвычаены да не так ужо характэрнай у сялянскім асяроддзі стрыманасці ў праяве пачуццяў пры старонніх людзях, я і думкі не мог дапусціць, што буду развітвацца з маці пры кімсьці чужым. Таму першае, што зрабіў, пераступіўшы праз парог хаты, — папрасіў усіх выйсці з пакоя, дзе яна ляжала. Канечне, гэта не было этычна ў дачыненні да суседзяў і сваякоў. Але, мабыць, на тую хвіліну такі крок уяўляўся мне найлепшым спосабам захавання ўнутранай блізкасці з нябожчыцай. Той глыбіннай, што мацуецца гадамі і для захавання якой адзіны надзейны сродак – самотнае маўчанне.

Як бы хутка ні мяняла смерць аблічча чалавека, на вочы нябожчыка яна прэтэндуе ў апошнюю чаргу. Вочы маці (як, мабыць, і вочы кожнага чалавека) па скананні, калі яны з нейкіх прычын засталіся незачыненымі (у нашай не зачыніліся з-за скрайняй усохласці цягліцаў твару), – невымерны калодзеж. Яшчэ не зацягнутыя жаўцізною нябыту, яны ўражваюць не гэтак адлюстраванымі ў іх апошнімі прыжыццёвымі пачуццямі, як неадпаведнасцю колеру зрэнак стану цела наогул. Жывое ў (на) нежывым, сведчанне гатоўнасці да апошняга дыялогу з тымі, каму ён, такі дыялог, абыходзіць. Не памятаю, колькі разоў я набліжаўся да труны, каб у іх зазірнуць, — напэўна, не меней дзясятка. Але памятаю дакладна, што кожны раз адыходзіў з адчуваннем, што зноў неўзабаве да яе вярнуся. Што было ў тых вачах? Думаю, наўрад мне калі-небудзь удасца гэта хоць збольшага дакладна апісаць.

Каб распавесці пра лёс чалавека, не абавязкова апавядаць шмат. Часам для гэтага дастаткова нейкага кароткага, але выразнага эпізоду, які прамовіць больш за самы падрабязны аповед. Мой самы яскравы (і самы, здаецца, жорсткі) прыпамін пра маці – з летняга спякотлівага дня падчас маіх школьных канікулаў, з канца сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Не ведаю, чаму, але ўсім маім згадкам пра яе менавіта ён спадарожнічае ў першую чаргу.

Як апісаць дзень, што адначасна – і Эдэм, і пекла? Эдэм — для чалавека, не абцяжаранага клопатам, які толькі і ведае, што бегаць раз-пораз да рэчкі ды плёскацца да пасінення ў яе не спаганеных

выдаткамі цывілізацыі вірах. Пекла — для вырачанага на працу калгасніка незалежна ад паказанняў ртутнага слупка тэрмометра і самаадчування. Эдэм і пекла адначасна – такім застаўся той дзень у маёй памяці, такім пераследуе вось ужо больш як два дзесяткі гадоў. Але гэткае бачанне не тады з'явілася, а прыйшло пазней – магчыма, у той дзень, калі маці не стала.

*Яна ідзе павольна, злёгку хістаючыся, і сонечныя блікі то слізгаюць па яе твары, то патанаюць, збітыя з тропу гульнёю святла і ценю, у кволай засені чэзлага, акупаванага з усіх бакоў нахабнымі дубцамі ліп арэшніку. Яна, як заўсёды, спяшаецца, бо, каб паспець падаіць карову ды зноў у пару вярнуцца на працу да калгаснае шахі[19], мае ад сілы гадзіну часу. Гэта дзіўна бачыць: чалавек спяшаецца, але ідзе памалу, амаль брыдзе, быццам стрыножаны, быццам штосьці яго не пускае. Пяць дзён таму яна звалілася падчас пагрузкі сенажу з прычэпа і выцялася грудзьмі аб дол так моцна, што ледзьве ачуняла. То, можа, ёй усё яшчэ баліць? А можа, яна ніяк не дасць рады адысці ад заўчарашняга спалоху, калі прывезлі ў шаху разам з сенам вужаку і тая абвілася целам вакол яе нагі? Ці, можа, нагадвае пра сябе зубны боль, што трэцюю ноч запар вярэдзіць, а не палечыш ніяк, бо да Друі, дзе маецца адзіная на ўсё наваколле амбулаторыя, без малога паўтара дзясятка вёрстаў, ды і квіток да лекаркі толькі на паслязаўтра? Яна ідзе, і блікі слізгаюць па яе твары і постаці, то з'яўляюцца, то знікаюць, збітыя з тропу — не, не гульнёю святла і ценю — яе хадой. Такой натужліва ціхай ды змушана павольнай, што нават няўзброеным вокам бачна, як яна спяшаецца.*

Кажуць, калі нябожчык не сніцца, – ён не мае на цябе крыўды. Можа, гэта і насамрэч так, ды нават людзей, выхаваных у бясспрэчнай пашане да бацькоў, не абмінае небяспека аднойчы неадэкватна адрэагаваць на празмерную апеку апошніх ды зарабіць на той рэакцыі ў куфар уласнай памяці чорны шарык няўдзячнага сына (дачкі). Бо як дзецям уяўляецца натуральнай змена прыярытэтаў у выбары ўчынкаў, або ладу жыцця, або атачэння, так бацькам, наадварот, іх ўсведамленне даецца часам куды як нялёгка. Дзеці прагнуць новых дэкарацый і новых дзейных асобаў на авансцэне свайго існавання, бацькі зацята не жадаюць бачыць у іх якасці кагосьці ці штосьці апроч сябе – старая, як свет, гісторыя. У выніку —

---

[19] Вялікая пуня.

сітуацыя небяспекі займець згаданы шарык. Адна з маіх найбольш саромных у дачыненні да маці – з часоў жыцця ў Дрысе, падчас пераправы на лодцы праз Дзвіну на латвійскі бок, паўз які вымушаны быў цягам чатырох з паловаю гадоў дабірацца ад бацькоў да месца працы.

«Не плыві, патонеш!» – тузанула да сябе лодку з роспаччу ў вачах.

Адпіхнуў яе ды і паплыў, не зважаючы на высачэзныя – вецер літаральна шалеў у той дзень – хвалі.

Нумар маёй банкаўскай карткі – 1928. Амаль дата нараджэння маці, з розніцай у адзін год. Адна з нямногіх лічбаў, якія я заўсёды памятаю – дзякуючы блізкаму суседству з другой. Валодаючы неблагой памяццю на імёны і твары, тым часам дарэшты пазбаўлены здольнасці да запамінання датаў і лічбаў. Але гэтыя дзве – 1929 і 1928 – памятаю заўсёды.

Датклівыя, паэтычныя натуры губяць не праца і не цяжкія, у сэнсе фізічным, варункі жыцця. Іх губіць неадпаведнасць заўсёднае ўнутранае арыентаванасці на пазітыўнае ўспрыманне свету акалічнасцям, якія нішчаць тую арыентаванасць недахопам пазітыўнага ў рэальнай паўсядзённасці. І калі гэткая натура заўчасна адыходзіць, застаецца ўражанне незавершанасці лёсу, недарэчнага абрыву, з якім і праз гады цяжка прымірыцца. І тады міжволі вяртаешся ва ўспамінах да праяваў уласнага эгаізму ў дачыненні да памерлага. Не ў апошнюю чаргу, канечне, і з падсвядомага жадання хоць збольшага той эгаізм апраўдаць.

*

Я не заўважыў, як зноў заснуў. Зрэшты, магчыма, гэта быў і не сон, а так, трызненне, эмацыйны калапс памяці, залюлянай успамінамі. Заспеты Марфеем на чарговай старонцы слоўніка, я праваліўся ў сон так неўпрыцям, што нават не паспеў адкласці той слоўнік убок.

І адразу ж амаль убачыў ЯЕ.

«Гэта ты зноў? – спытала яна і коратка дадала з драбінкаю іроніі ў голасе: — *Прыехаў*?».

«Nej, jag gick till fots, mamma»,[20] — сказаў я, з жахам адчуваючы, як ліюцца насуперак волі з роту, справакаваныя слоўнікам пад скроняй, словы чужой і, канечне ж, няведамай ёй мовы.

Я баяўся, што яна абразіцца і пойдзе прэч, але гэтага не здарылася. Яна прыязна, як колісь, — ні каліва дакору, ні намёку на асуджэнне – хітнула мне галавою ў знак згоды. Павольна абвяла вачамі несамавітае маё, здабытае на трыццаць восьмым годзе жыцця жытло, лагодна ўсміхнулася.

«Я зразумела, ты — *пехатой*», — сказала і знікла ў бязважкай прасторы па той бок круцёлкі.

*

Наступны сон заспеў мяне прыкладна праз месяц і зусім неўспадзеў – падчас прабывання ў шведскім Вісбю[21], у салоне аўто па дарозе на суседнюю выспу Форё, да магілы Інгмара Бергмана. Але і ён быў такі сумбурны і бязладны, што, ачнуўшыся на нейкім чарговым павароце, я нават не здолеў узгадаць з яго ані дэталі, ані рыскі. Быццам і не сон то быў, а проста нейкі напамін пра штосьці – няпэўны і зыбкі, як шэрая балтыйская хваля на сутыку дня і ночы.

Мы агледзелі пад самавітае бляянне авечак за мураванаю агароджаю кладоў магілу знакамітасці, скіравалі ў шырку[22]. У шырцы было ціха і пуста, і каб не свечкі за памерлых, што гарэлі збоч алтара, можна было б падумаць, што сюды і нага чалавека ніколі не ступае. Затым усё пайшлі на двор, а я затрымаўся ў памяшканні з намерам зрабіць пару фотаздымкаў.

Мой пагляд упаў на падстаўку са свечкамі, і мне здалося, быццам я зразумеў сэнс саснёнага ў аўто. Я памкнуўся да скрынкі са свечкамі, каб узяць адну і запаліць, але думка, што храм не каталіцкі, а лютэранскі, а маці ж праз усё жыццё была каталічкаю, стрымала маё памкненне. І, мабыць, дарэмна, бо ўвесь зваротны шлях і затым усю рэшту дня мяне не пакідала адчуванне чагосьці зробленага не так, як было след.

Праз тыдзень я выпадкова набрыў у Вісбю на будынак касцёла. І першае, што там зрабіў, — запаліў і паставіў ля ўзножжа Божае Маці сціплую свечку за маці сваю. І хоць гэта было і запозна, праз колькі

---

[20] Не, я ішоў пешкі, мама (шведск.)

[21] Галоўны і адзіны горад выспы Готланд у Балтыйскім моры.

[22] Кірха (па-шведску вымаўляецца – шырка).

дзён пасля таго, як яна нагадала пра сябе ў сне, не сумняваюся: яна мяне не асудзіла.

Яна ж, як і я, – заўсёды пешкі, і мы абодва гэта выдатна ведаем.

## Efter pradiset[23] / Выспа Готланд.

*Эсэ*

Кожная з маіх нячастых, рады ў гады, вандровак у замежжа суправаджаецца значнымі нервовымі выдаткамі, справакаванымі найперш клопатамі побытавага характару. Не забыцца набыць, паспець, прадугледзець і г. д. – тузін турботаў, звыклых спадарожнікаў існавання адзінотніка, які прывык спадзявацца толькі на сябе, для якога зямное калі і не засланяе дарэшты горняга, то і ніжэй за горняе на небасхіле непазбежнае будзёншчыны не месціцца. Мабыць, таму і ўражанні ад тых вандровак заўсёды ў мяне даволі рацыянальныя, а кубачкі кавы ды фужэры віна ў нянаскіх шыротах, вальяжныя высновы пра сутнасць быцця на тле экзатычных відарысаў, згадкі пра закуткі ружовых ці блакітных ліхтароў у апісаннях няблізкага свету нашымі паэтамі ды паэткамі выклікаюць у мяне лёгкі недавер ад дотыку да хай сабе і не пазбаўленых дасціпнасці і палёту думкі, аднак жа – надуманасці і выхвальства. Я гляджу на дзівосы замежнага жыцця і аналізую іх выключна з практычнага боку: зашмуляныя туфлі немаладой парыжанкі ў метро займаюць маё ўяўленне куды больш за багемную выключнасць Манмартра, а заношаная манжэта на рукаве кіроўцы ў аўтобусе на шляху з ускраіны Рыма да Ватыкана дае фантазіі куды больш спажывы, чым велічны выгляд усіх Калізеяў, разам узятых. Так было падчас паездкі ў Італію гадоў пятнаццаць таму, так было падчас выправы ў Парыж у 97-м, так было і ў час нядаўняй неспадзеўнай – з ласкі роднага творчага саюза – вандроўкі на шведскі Готланд.

Мая выправа на Готланд пачалася задоўга да дня ад'езду. Месяцы за чатыры да яго, з тае хвіліны, як міжволі давялося засесці за падручнікі шведскай мовы. Вучыць якую я пачынаў ад нуля, але пачынаў, праўда, з такім запалам, што неаднойчы падчас курсу ўначы прачынаўся, ловячы сябе на тым, што ў дрэме паўтараю ў памяці шведскія словы. Калі і пасуе да такой сістэмы вучобы які сінонім, дык гэта шведскае *plugga* (зубрыць): штосьці цяжкае,

[23] Пасля раю (шведск.)

груваcткае, на мяжы здзеку з сябе і са здаровага (гэткае – на 57-м годзе жыцця! і дзе яна, тая шведская, табе надалей прыдасца?) сэнсу.

Безумоўна, веданне мовы – найкарацейшы крок на шляху да паразумення з яе носьбітамі. Знаёмства са структурай чужой мовы, будовай сказаў, адметнасцямі лексікі, арфаэпіі, фразеалогіі – гэта тое, што робіць суразмоўцаў больш блізкімі, больш дасяжнымі ў асабістых стасунках. Хаця што значыць – больш дасяжнымі? «Мы ішлі ўтраіх» і «Vi tre som gick» («Мы трое, якія ішлі») – як мне, звыкламу да гранічнае простасці ў роднай беларускай, у якой пры маўленні, паводле Караткевіча, «колькі паветра набрана ў лёгкія, столькі і аддадзена, шчодра, да апошняга...», даць рады спасцігнуць логіку такіх лінгвістычных выкрутасаў у шведскай? Або як вытлумачыць неймаверную схільнасць шведаў да эканоміі маўлення, калі, пры ўсёй іх прыхільнасці да іншаземца і гатоўнасці зрабіць атмасферу размовы як мага больш камфортнай для апошняга, падчас гаманы цябе ні на хвіліну не пакідае ўражанне, што прамаўляецца ўсё быццам праз сілу, нехаця?

Вось шведскае слова *о..*, да прыкладу, што значыць у перакладзе – выспа. *О..* – гэта ў пачатковым выглядзе, у няпэўнай форме адзіночнага ліку. Як яго злавіць на слых у размове ў множным ліку формы пэўнай, калі колькасць літар у ім узрастае ў параўнанні з формай пачатковай ні многа ні мала ў пяць разоў: *о..arna*?

У іх – прыроджаная ашчаднасць, у нас – артыкуляцыйнае ляніўства, вынік звычкі любую фатальнасць успрымаць як належнае. Як ты дасі рады вымавіць х*а*ваўся, муз*ы*кант ці к*а*муніст, калі для гэтага вунь колькі органаў маўлення павінен змусіць у роце змяніць звыклую траекторыю руху? Ці не таму ў прастамоўі ў нас — х*у*ваўся, муз*у*кант, к*у*муніст...

Знаёмства з чужой мовай, асабліва з гэтак добра распрацаванай методыкай навучання, як у шведскай, — між іншым, выдатная падстава для фармавання ўяўлення аб аптымальнасці вывучэння роднай. Вывучэння, а не яго падмены лёгкім экскурсам у прадмет, як гэта было ў нас на пачатку 90-х мінулага стагоддзя, калі на хвалі Адраджэння ды прыняцця «Закона аб мовах» у выкладчыкаў роднай мовы адбою не было ад запрашэнняў правесці курс навучання беларускай дзе-небудзь на пошце, у краме, ва ўстанове адукацыі і г. д. Калі збіралі ў аўдыторыі 20-30 чалавек, і яны, параскрываўшы

сшыткі ды ўзброіўшыся асадкамі, сядзелі на тых занятках са спадзевам, што вось за гэтыя 45 хвілін ты, настаўнік-цудадзей, усяму, што патрабуецца, іх, якія дома і ў слоўнік ні разу не дадуць сабе клопату зазірнуць, акурат і навучыш.

Пры знаёмстве са шведскай уражвае мноства яе лексічных і лексіка-асацыятыўных супадзенняў з беларускай. Вось наша размоўнае слова *плюндра*, да прыкладу, узяць. Аказваецца, у шведскай аднайменнае яму ёсць — дзеяслоў *plundra*, у значэнні рабаваць. Ці іхнія *pipa* (трубка для курэння), *kra°ka* (варона), *vandra* (вандраваць, хадзіць), *gurka* (гурок), *smuts* (смецце), *smaklig* (смачны). «Табе *далягае* што-небудзь?» – пытаюцца на маёй малой радзіме, жадаючы даведацца ў чалавека, ці не блага яму, ці не баліць што-небудзь. У шведаў *da°lig* – дрэнны, хворы. А які беларус з тых, што хоць збольшага ведае родную мову ды валодае слыхам, пачуўшы шведскае *vad kostar det?*, не дасць рады здагадацца, што пытанне гэтае – пра кошт нейкай рэчы? Днямі на занятках у роднай alma mater у адной з груп запісвалі па-беларуску назовы садавіны і гародніны. Да агурка дайшлі. «Як будзе, маладыя людзі?» – спытаў, упэўнены, што ведаюць. – «Гурка», – прагучала ў адказ.

Я стаяў у Вісбю на набярэжнай, як раптам пачуў зусім побач такое гучнае «Sjo..! Sjo..!», што ажно знянацку скалануўся. Некалькі падлеткаў, заінтрыгаваныя, мусіць, утрапёнасцю майго скіраванага на порсткія балтыйскія хвалі пагляду, захацелі мне нагадаць, што гэта – *шё* (мора, возера). Вось бы, пэўна, здзівіліся яны, калі б пачулі ў адказ, што ў нас на мяжы трох раёнаў Віцебшчыны, у мясціне, якая продкаў іх, вікінгаў, памятае, сваё Шо маецца. Акваторыя якога, дарэчы, да нядаўняга часу лічылася геаграфічным цэнтрам Еўропы. І што ў ваколіцах вёскі, дзе я вучыўся ў школе, значны адсотак тутэйшых жыхароў носіць прозвішча Швед.

*Panna* – гэта патэльня. Як на варункі нашай сярмяжнай старасветчыны, якую мы ўсё гэтак рупна міфамі падхарошваем дзеля надання большай значнасці ўласнай гісторыі, не зважаючы пры гэтым, што ўжо самі праз палахлівасць сваю ды рэнегацтва персанажамі міфаў для нашчадкаў робімся, дык цалкам і ў нашай мове адпавядаў бы гэткі назоў зместу. Печ – гаспадыня ў хаце, патэльня – *панна*. Не тая, што звычку мае фуфырыцца, прыбірацца ў строі пры люстэрку, а ў сэнсе — карміцелька. Цеста выліў на яе, і вось

табе *pankaka* – бліны па-нашаму – гатовыя. Есці пачнеш — нос сагнецца: не абы на чым — на *панне*, дарма што *kaka*, спечаныя.

Але найбольш цікавым падалося мне ў шведскай мове слова *by* (вёска). З-за поўнага падабенства да канцавога складніка нашых айчынных электронных (tut.by-*еўскіх*) адрасоў – трапней, каб і хацеў, наўрад прыдумаеш. Так і ўяўляецца мне яго шведскі сэнс, ледзь пачну адчыняць сваю паштовую скрыню.

Ці можна засвоіць чужую мову, з якой ніколі дагэтуль не сутыкаўся, за чатыры месяцы? Вядома, не. Нават калі табе будзе здавацца, што твайго слоўнага багажу дастаткова для больш-менш прыстойнага кантактавання з аўтахтонамі, моўныя цяжкасці будуць суправаджаць цябе штохвіліны. Мне хапала маёй шведскай для паразумення ў краме, на вуліцы, у нейкай кароткай прыватнай размове – і не больш за тое. У краіне, дзе звычайная прадавачка валодае як мінімум дзвюма мовамі, гэта камфорту табе, літаратару, ды ў дадатак яшчэ і філолагу, не дадае. Цябе хваляць, абсыпаюць кампліментамі за нібыта сімпатычнае вымаўленне, але цябе гэта так мала цешыць. «У добрай размове не ўсё кажацца», – сцвярджаў сярэднявечны кітайскі афарыст Сюй Сюэмо. І пра тое, што не кажацца тымі ж шведамі пры кантактаванні з табою, ахвярай сістэмы нашага школьнага навучання ды ўласнае тваё ляноты, ты, вядома ж, не можаш не здагадвацца.

Як і кожны выхаваны народ, шведы, сутыкнуўшыся з праяваю тваёй зацікаўленасці ў вывучэнні іхняй мовы, канечне ж, гэта ацэняць. І нават паспрабуюць пры нагодзе выказаць павагу на адрас тваёй роднай. Маладой паэтцы Сары Холстрём веданне нашай мовы абыходзіла з прычыны яе нядаўняга знаёмства з прозай Барыса Пятровіча падчас прэзентацыі ў Стакгольме ягонай кнігі «Фрэскі». «Як гэта будзе па-вашаму — *blommorna*?» – пыталася, паказваючы на кветкі наўзбоч вежы. – «Цветы», – адказваў, збіты з моўнай хвалі папярэдняю рускамоўнаю рэплікай з боку калег-прыбалтаў. – «A°h, nej, jag vill veta det pa vitryska»[24], – не пагаджалася. – «Па-беларуску – кветкі». – «О, кветкі, – старанна паўтарала. – Кве-ткі! Det a..r vackert! Mycket vackert![25]».

Не ведала Сара, ды і не мог я ёй распавесці, як будзе мне пасля ўсіх яе знакаў прыязнасці сутыкнуцца на пачатку верасня ў родным

---

[24] Ай, не, я хачу ведаць гэта па-беларуску (шведск.)

[25] Гэта прыгожа! Вельмі прыгожа! (шведск.)

універсітэце з тымі, каму ўпадабаная ёю беларуская – не тое што не «vackert», а, наадварот, – ледзь не воўкам пахне. Як будзе мне непамысна ўвайсці ў складзеную з не нашмат маладзейшых за яе студэнтаў аўдыторыю, а priori ведаючы, што ты там – чужынец, той, каго калі і чакалі часам, то адзіна з жадання падзівіцца на экзотыку. У якія скокі ды хітрыкі давядзецца пускацца, якія антраша вырабляць, каб хоць збольшага завабіць маладых суайчыннікаў, будучую эліту нацыі, у цянёты спасціжэння мовы іх продкаў.

Як было мне сказаць Сары, што пры ўсёй маёй любові да выкладчыцкай працы ды пры ўсім маім (даруй, Божа, нясціпласць) уменні завабліваць моладзь у згаданыя цянёты, у мяне так часта апускаюцца рукі ад бездапаможнасці пры сутыкненні са штогод горшым яе, роднай мовы, валоданнем. Што часам агучаная кім-небудзь са студэнтаў падчас вуснага выказвання на зададзеную тэму фраза-абракадабра нават усмешкі ў ягоных 17-гадовых аднагрупнікаў не выклікае з прычыны элементарнага няведання маладымі людзьмі сэнсу асобных словаў. І што паняцці «тарашкевіца» або «наркамаўка» калі і здольныя выклікаць у абсалютнай большасці якое пачуццё, дык толькі пачуццё недаўмення. Не кажучы ўжо пра нейкія там прыватныя пытанні ды дэталі з раздзелаў айчыннае марфа-, фразеа- ці дыялекталогіі.

Зрэшты, ці толькі пра мову не здолееш сказаць таму ж шведу? Вось пра заробак, напрыклад, памкнешся даводзіць ды і кінеш: тлумачыць людзям з іх узроўнем жыцця, як можна жыць на 200 даляраў у месяц і пры гэтым не лічыць сябе бедным, — марная справа.

«Касцёл бедны ў нас, – кажа дыякан каталіцкай парафііі Цела і Крыві Езуса Хрыста ў Вісбю Біргер Андэрсан. – Адпаведна і заробкі – так сабе. Я вось да сёлетняй падвышкі ўсяго 28 тысяч эўра ў год меў. Зараз – 82 тысячы атрымліваю, то ўжо і жыць можна».

Я гатаваў абед, як раптам у калідоры прылеглай да кухні бібліятэкі Baltic Centre пачулася хада. «Ну, хто тут з Беларусі?» – спытаў маладжавы чалавек у шортах і падаў руку. — «Хтосьці з пісьменнікаў? – мільганула ў маёй галаве. — Але ж хто, здаецца, ні разу яго раней не бачыў?» – «Стэфан Эрыксан, амбасадар Швецыі ў Беларусі, — на чысцюткай беларускай адрэкамендаваўся госць. –

Адпачываю тут, у Вісбю, з сям’ёй, маю вольнага часу, дык вырашыў вось на хвіліну зазірнуць».

Між іншым, знаёмства са шведскай яшчэ больш умацавала маю даўнюю ўпэўненасць, што мы абсалютна неабгрунтавана, насуперак лінгвістычнай справядлівасці, праігнаравалі патрэбу мець у нашым алфавіце трыццаць трэцюю літару. Гэта літара, якая абазначала б збег гукаў «й» і «і» на пачатку слова. Не адзіночнага «і», як у слове «ліпа» ці «кіно», а менавіта спалучэння «й» і «і» на пачатку слова (Йірка, йіхні). Як у шведскай «йе» або «йі» у гэткай жа пазіцыі, што вымаўляецца пры пропуску пачатковага «g» (ga..rna, gick). Можа, дойдуць усё ж калі-небудзь рукі ў нашых моваведаў?

Прачнуўся ўранку ад нейкага галасу за рогам дома. Вызірнуў з вакна і не даў сабе веры: усю вулку збоч дома акупавала працэсія з маладых бацькоў, якія везлі на драўляных самаробных павозках сваіх дзяцей у цэнтр горада. Усе як адзін, у тым ліку і дзеткі, былі апранутыя ў сярэднявечныя строі, некаторыя – пры цацачнай зброі. Я ведаў, што з гэтага дня ў Вісбю мае пачынацца свята Сярэднявечча. Але што ажно гэткім будзе яно маляўнічым і шматлюдным, не ўяўляў. «А хто там ідзе?»—міжволі ўсплыло ў памяці. «Маладыя шведскія бацькі вязуць малых шведзікаў паглядзець «на свет белы», — сам сабою склаўся адказ. І так на працягу тыдня: дзеці, моладзь, старыя – усе на свяце, кожнаму яно дарагое, кожнаму абыходзіць. Такая, мабыць, іхняя ідэалогія – простая, даходлівая, уцямная. Якую не спецы-ідэолагі будуюць метадам запалохвання, а самі грамадзяне.

Што кінулася ў вочы ў Вісбю падчас тае святочнае сярэднявечнае містэрыі, дык гэта поўная адсутнасць так характэрных для нашых айчынных дзеяў падобнага кшталту рэверансаў на адрас суседзяў. Мясцовая готландская прыгажуня здрадзіла роднаму гораду з-за сімпатыі да дацкага ваяра? У мора яе! Утапіць пад галёканне абураных нечуванаю здрадаю суайчыннікаў! Як непадобна ўсё тое на спалітызаванае, заідэалагізаванае адкрыццё ці сканчэнне нашага «Славянскага базару», калі што ні фраза, то — «братні народ», «вечнае сяброўства», «агульныя карані» , агулам жа — любоў да знямогі.

Пры ўсёй сваёй маштабнасці свята Сярэднявечча ў Вісбю ўражвае яшчэ і простасцю яго сцэнічнага ўвасаблення. На лапіку плошчы перад камяніцай – камерны спектакль на сюжэт сівое даўніны; у камяніцы – спевы хору; на стадыёне – турнір з удзелам

сярэднявечных рыцараў, мэта якіх – усяго толькі патрапіць дзідаю ў мішэнь на радасць шматтысячнай грамадзе гледачоў. Але ж які энтузіязм, як імпэтна ўспрымаецца людзьмі ўся тая просценькая, прасцей ужо куды, дзея. Уранку едзеш на ровары на пляж: ідуць, спяшаюцца людзі з ваколіцаў у горад. Вяртаешся ў поўдзень: усё ідуць, ужо другія, хто з заплечнікам на спіне, хто з чаравікамі ў руках. Горача, і цяжкі сярэднявечны строй, пэўна ж, камфорту не дадае, а яны ўсё ідуць – самахоць, без прымукі. Свята ў людзей.

Харчу ўсюды поўна нібыта, як і пітва таксама, у Вісбю ў гэтыя дні, а п'яных — ніводнага чалавека. Адпаведна, і кардонаў з паліцыянтаў, у адрозненне ад нашага «Базару», на свяце Сярэднявечча – аніякіх. Некалькі конных патрулююць горад, і гэта ўсё, нягледзячы на тое, што насельніцтва яго ўзрастае на тыдзень за кошт гасцей з розных краінаў у некалькі разоў. Праўда, і курцоў, напрыклад, таксама нашмат больш ў параўнанні з днямі звыклымі, калі запаліць на вуліцы проста няёмка, бо чалавек з цыгарэтаю ў Вісбю — рэдкасць. Такая, што аж мне, палільшчыку з амаль саракагадовым стажам, міжволі давялося развітацца з кепскаю звычкай. Праўда, часова, усяго толькі на месяц, на болей не хапіла запалу. Можа, і хапіла б, калі б кошты на атруту былі ў нас шведскія. Чатыры еўра за пачак – такая там мінімальная дзяржаўная цана добраахвотнай шкодзе чалавека ўласнаму здароўю.

Зрэшты, нецвярозых ды бомжападобных давялося-такі ў Вісбю пабачыць. Пасля свята ўжо. Але не ў рысе старога горада, а за брамаю, на пустэльні, што разлеглася між гістарычнаю часткай места і сучаснымі мікрараёнамі. Пара мужчын, пара жанчын: твары прапітыя, пры бутэльцы, пры закусі. У адрозненне ад нашых, ні да каго не чапляюцца, адзінае, што кідаецца ў вочы – гучна размаўляюць, засяроджаныя на высвятленні адносінаў аднаго з адным.

Літаральна на другі дзень па адкрыцці фэсту Сярэднявечча ў готландскай прэсе з'явілася адразу некалькі нататак пра дзяўчат з Беларусі, якія гандлююць на святочных пляцоўках беларускімі сувенірамі, збіраюць гэткім чынам сродкі на будаўніцтва ў Мінску праваслаўнага храма. Такая ўвага да нашай краіны ў шведскіх выданнях – не рэдкасць. Але што ж яны там прывезлі, тыя дзеўкі, у якасці прэзентацыі родных пенатаў? Акурат у той жа дзень незнарок набрыў у гандлёвых радах на зямлячак. Ля палаткі з «нашымі» сувенірамі спаткаў і шведаў-католікаў, з якімі пазнаёміўся

напярэдадні ў касцёле падчас вячэрняй Імшы. «Што набыць дзеля знаёмства з вашай краінай? Можа, вось гэта?» – спытала адна з жанчын і пацягнулася рукою да палічкі з ... рускімі матрошкамі, якія складалі тут большую частку ад усіх выстаўленых на продаж сувеніраў. А літаральна назаўтра ў тых жа готландскіх выданнях з'явілася паведамленне, што шведскі ўрад рыхтуе пастанову аб змяненні афіцыйнае дагэтуль назвы нашай краіны *Vitryssland* на *Беларусь.*

Што ўвесь час суправаджала падчас кантактавання з готландскімі шведамі, дык гэта нейкае невытлумачальнае іх падабенства да маіх землякоў. Абрысы твару, пастава, унутраная засяроджанасць, шчырасць – усё так нагадвала насельнікаў паўночнага захаду Віцебшчыны, што я не-не ды і пачынаў лавіць сябе на тым, што шукаю асобе нейкага чалавека адпаведнік са сваёй малой радзімы. Асабліва падобнымі здаліся жанчыны. І не дзіўна: пры ўсіх адрозненнях ладу жыцця агульнасць сужэнскіх, мацярынскіх, гаспадарскіх клопатаў ва ўсіх краінах накладвае на аблічча жанчын аднолькавы адбітак.

Baltic Centre ў Вісбю – дом творчасці, гэткая наша колішняя «Іслач» для пісьменнікаў і перакладчыкаў, толькі больш камерная паводле памераў ды больш арыентаваная ў побытавым плане на самаабслугоўванне насельнікаў. І там чарговы раз упэўніваешся, што літаратарскі асяродак – хутчэй наднацыянальная каста, чым зрэз нацыянальнага. Не без налёту, канечне, спецыфікі светаўспрымання, прадыктаванага адметнасцямі менталітэту народа, да якога літаратар належыць. Амбітнасць, прага вядомасці, боязь згубіцца ў акіяне гэткіх жа, як сам, апантаных спадзевам зацугляць слова, урэшце проста цяжкі характар, як, зрэшты, і шчырасць, і спагадлівасць, – усё там ёсць. І тых, з кім цікава пагаманіць, дастаткова, і тых, з кім лепш патрымаць язык за зубамі, не бракуе. Да таго ж і рознага творчага калібру людзі. Але як чалавек годны, дык усюды такім застанецца. Нашага Быкава вельмі цёпла згадваюць гаспадары.

Джаніна Брачы – паэтка-пуэртарыканка з Нью-Ёрка. Былая школьная настаўніца, выйшла на пенсію і вандруе сабе па свеце, балазе ўзровень матэрыяльнай забяспечанасці дазваляе. Упаўне савецкі чалавек, так і карціць назваць Янінай. У галаве – вершы ды героі вызвольнай барацьбы, кшталту Кастра і Чэ Гевары: «Мы, лаціносы, – амерыканцы і нічым не горшыя за багатых паўночных

суседзяў. А галоўны наш клопат – давесці ім гэта, каб раз і назаўсёды ўцямілі».

Немка Марта з’явілася ў доме творчасці за колькі дзён да майго ад’езду. І колькі разоў дзе яе ні сустракаў, гэтулькі разоў выплывала з падсвядомасці думка, што не такія яны, немцы, у маім уяўленні, як, напрыклад, італьянцы, ці французы, ці шведы. Як ні дакараў сябе за ўзрослую на глебе памяці, хоць і не асабістай, пра дзве сусветныя злодні паліт-некарэктнасць, так і не здолеў яе пазбавіцца. І гэта пры тым, што мае продкі што ў адной, што ў другой вайне надта не пацярпелі. А як жа Лене Пастэрнак, дырэктарцы Baltic Centre, сябе побач з немцамі адчуваць? Ніколі нікому не паверу, што можна такой памяці, а значыць, і недаверу, ёю ўзгадаванага, нават пры вялікім жаданні, пазбавіцца.

Прыбалтыйкі Бірута Мар і Луіза Пасторэ — вось ужо з кім проста, нездарма мы, відаць, паўвека ў адным эсэсэсэраўскім катле варыліся.»Здорава тут, дзяўчаты, — кажу. – Усё так дасканала арганізавана, рэгламентавана». – «Здорава, — у адзін голас пагаджаюцца. – Але і чагосьці такога *нашага*, бесшабашнага, крыху дзеля разнастайнасці, пагадзіся, не зашкодзіла б».

Шведская запалка, шведскі стол, шведская сценка, шведская сям’я – з усіх гэтых шырокавядомых клішэ, што сімвалізуюць іхні лад жыцця ды ступень шведскага ўплыву ў свеце, канечне, апошні — самы пікантны і разам з тым беспадстаўны. Тое рашуча даводзяць складальнікі пачатковага курса шведскай мовы, разбіваючы ўшчэнт наша аблуднае ўяўленне аб шведскай сям’і як аб сужэнстве трох асобаў. І наогул шведы, як мне падалося, людзі цнатлівыя. І вытрыманыя: тут не спаткаеш звыклых для іншых шыротаў беспардонных заляцанак абарыгенаў да прыезджых жанчын ці сцэнаў прылюднага высвятлення сямейных адносінаў. І разам з тым і голае дарэшты цела на пляжы ў атачэнні людзей у пурытанскага выгляду шортах, а ў дні свята Сярэднявечча і штосьці кшталту акцыі нудыстаў у прыбярэжнай мяжы горада — таксама не рэдкасць. Дэманструючы прыхільнасць да фундаментальных сямейных каштоўнасцяў, шведскае грамадства, падалося, ставіцца цярпіма і да нетрадыцыйных поглядаў на каханне. Такое ўражанне, прынамсі, складваецца, калі гартаеш мясцовыя газеты з аб’явамі. Але гэта, мабыць, на меркаванне староннягa чалавека: у чужую скуру не ўлезеш.

На вуліцах Вісбю шмат пярэстых, з асобаў розных расаў складзеных суполак, падобных на сем'і. Дзеці чорныя, да прыкладу, абодва дарослыя – белыя. Паводзяць жа сябе апошнія з тымі дзецьмі, як бацькі. Апекуны, мабыць, а можа, дзеля помачы ў справе сацыяльна-побытавай адаптацыі прынялі на сябе часова бацькоўскі клопат.

Што асабліва імпанавала і імпануе мне ў шведах, дык гэта іх абавязковасць і схільнасць усё загадзя планаваць. Рысы, безумоўна, выхаваныя стагоддзямі працы над сабой, якіх нам гэтак часта катастрафічна не хапае. Зрабіць якія часткай ладу жыцця, а тым больш менталітэту, між іншым, не вельмі і імкнёмся. «Планаваць справы на паўгода наперад? Глупства!» – дружна абурыліся два маладзёны, калі распавёў ім пра практыку планавання справаў іх шведскімі аднагодкамі на трэці, ці семнаццаты, ці дваццаць сёмы ад пачатку новага года тыдзень. «Што ты робіш на трыццаць другім тыдні?« – «Іду ў вандроўку з сябрамі». – «О, тады пазней сустрэнемся. На трыццаць чацвёртым, можа?»

Збіраючыся ў чужую краіну, ды яшчэ ў такую нябедную і прасунутую, як Швецыя, ды яшчэ па такім немалым прамежку часу ад апошняга наведання замежжа, міжволі ўяўляеш, як выкшталцона там, напэўна, усё ўладкавана, ды пра тое, як бы знячэўку не зрабіць што-небудзь не так. Хоць Таццяна, рэпетытарка мая па мове, і распавядала, што ўсё ў Швецыі проста, перасцярога заставалася да апошняе хвіліны. І дарэмна, бо і насамрэч усё аказалася проста. Не ведаю, як у Стакгольме ці іншых гарадах, а ў Вісбю мяне больш за ўсё ўразілі банкі. Ні табе зашклёных перагародак пры касах, што аддзяляюць касіра ад кліента, як у нас, ні афіцыйшчыны, ад якой міжволі хочацца ўцягнуць голаў у плечы. Клерк выходзіць да цябе – гэтак, твар у твар, вочы ў вочы, вы і вырашаеце справу. І ўсё – на фоне выключнае ўвагі клерка да кліента і кліентаў адзін да аднаго. Як кажуць, двухбаковы рух з захаваннем усіх яго правілаў. Варта мне было аднаго разу з-за няўважлівасці стаць у чаргу па абмен грошай, абмінуўшы аднаго чалавека, як чарга тут жа дала мне зразумець, чаго я варты ў яе вачах. Без крыку, без гвалту – нямым папрокам у паглядах.

Дарэчы, пра грошы. Дакладней, пра тое, як спраўджваецца слова часам нават тады, калі ўжо і сам пра яго забыўся. 15 год таму ў Рыме этнічны паляк Уладак Вайтыла з Мальмё, самага паўднёвага горада Швецыі, прэзентаваў мне на развітанне некалькі шведскіх

крон. «Прыедзеш калі-небудзь да нас, то якраз і прыдадуцца, — сказаў, не зважаючы на маю іранічную ўсмешку. – Усяляк жа здараецца. От здаецца мне чамусьці, што прыедзеш». Так і ляжалі тыя манеты 14 гадоў без руху, аж пакуль не аддаў іх летась пляменніку. І тут праз год пасля таго – збываюцца Уладакавы словы. А кроны – прабач, сплылі ўжо. Але, можа, таму і прароцтва збылося, што пазбавіўся ад іх, хто ведае.

Антаніна Хатэнка смяялася ажно: «Нездарма табе такое шанцаванне з грашыма, штосьці тут ёсць». І праўда, як выйду ў цэнтр Вісбю, – абавязкова знайду манету: 10 крон, 5 крон, 1 крону. Нават 20-кронавая купюра аднаго разу трапілася. Неяк спытала Антаніна: »Ну, сёння знайшоў што-небудзь?» Якраз у той дзень – каб што, поўныя непярэліўкі. Падышоў да будынку сталоўкі Baltic Centre, вочы долу апусціў на хвіліну: манета ляжыць пад рашоткаю ганка, вабіць пагляд блішчастаю рэшкай.

Асобная тэма – шведскія крамы. Дакладней, нават не крамы, а тамтэйшыя працаўнікі прылаўка, у прыватнасці касіры, асабліва ў харчовых крамах. Ані не меней, дарэчы, загружаныя клопатам за нашых, бо там, апроч усяго, што нашы робяць, яшчэ і рух тавару ад касы да канца эскалатара трэба рэгуляваць з дапамогаю раздзяляльнай дашчэчкі-перагародкі. Ды пры ўсёй той сваёй занятасці не грузіць касір клопату на кліента, нязменна ён ветлівы і зычлівы. Сустракаліся нават і такія, працу якіх мы знарок хадзілі паназіраць у вольны час. Працу, да якое калі і пасуе які сінонім, дык гэта рускае «священнодействие».

У шведскую краму ўваходзіш з любым багажом у руках ці за спінаю без рызыкі атрымаць з-за яго стрэс на выхадзе. Напачатку я спрабаваў дэманстраваць касірам пры разліку за набыты тавар сваю сумку, каб паказаць, што ў ёй нічога няма, але вельмі хутка зразумеў, што змесціва маёй сумкі нікога не цікавіць. А калі і цікавіць, то мне пра гэта ведаць не належыць. І штораз згадваў адну нашу віцебскую краму, дзе будзеш так прасвідраваны-прарэнтгенены з галавы да пят на выхадзе вачыма касіра ці работніка аховы, што другі раз і заходзіць у тую краму наўрад пажадаеш.

Дабрабыт дабрабытам, а людскі клопат – усюды клопат. Вось стары блукае між паліц з харчам, бязгучна варушыць вуснамі, шукае штосьці. Што ён набудзе? Мяса па 100 крон з гакам за кіло, што

складае прыкладна 10 эўра, ці, можа, па 80, ці...? Не, ля палічкі з авечынай па 25 крон за кіло затрымаўся: здаецца, акурат старэчы па кішэні, пра што і твар задаволены, і ўся пастава, неяк увобміг параўнелая, сведчаць. Мяса тое калянае, вядома, не менш гадзіны давядзецца яго варыць, калі не болей, ды з рабрынаю затое – і другая страва табе, і суп, як мінімум два ў адным.

Не ведаю, наколькі адкрытыя шведы для душэўных кантактаў у штодзённым жыцці, але што яны адкрытыя да праяваў прыязнасці прылюднае – дакладна. Я разлічваўся ва ўнівермагу за нейкую пакупку, як раптам убачыў, што ў касіра, хлопца ў фірмовай балотна-зялёнай апратцы, нестае дробязі для рэшты. Палез у кішэню, набраўшы ў жменю драбязы, падаў яе на далоні (другая рука была занятая сумкай) касіру. Гэткае ўвагі да ягонае турботы было дастаткова, каб назаўтра, ледзь увайшоў я ў тую ж краму, ён так ветліва павітаўся са мною паўз галовы людзей у чарзе, быццам не староннягa чалавека ўбачыў, а роднага брата.

Hej! — значыць «прывітанне», адно з самых папулярных словаў на Готландзе. Яго пачуеш усюды: пры ўваходзе ў краму ці ў грамадскае месца, на вуліцы ад незнаёмага чалавека, на набярэжнай з вуснаў стрэчнага веласіпедыста, нават у моры падчас купання. Асабліва любяць ужываць яго моладзь і дзеці. Ідуць табе насустрач бацька, маці ды дзіця-падлетак, і дзіця тое: «Hej!» Бацькі не вітаюцца звычайна, толькі зірнуць на цябе спачатку, каб спраўдзіць тваю рэакцыю на праяву гэткай ветлівасці, потым на дзіця, пасміхнуцца паблажліва. І з немаўлятамі ды зусім малымі яны гэтак жа ненавязліва-цярпліва абыходзяцца. Дык не дзіва, што плачу апошніх не чуваць ніколі на вуліцы або на пляжы. Ужо сіняе тое дзіця, ужо скурчылася ў вадзе ад холаду – а не заквіліць, не заплача. А маці яшчэ глыбейшага месца шукае, каб акунуць малое: трэба гартаваць, рыхтаваць да жыцця. Пры гэтым, што дзіўна, сама акунацца не надта спяшаецца: «Kallt!»[26].

Сімвал Готланда – авечка, сімвал Вісбю – вожык. Апошнія шпацыруюць па горадзе, як у Віцебску каты, адно што не ў гэткай колькасці, канечне. У родным маім Міжрэччы таксама вожыкаў было шмат. Але ўпершыню пабачыць, як харчуецца гэтае жамяраеднае, давялося менавіта ў Вісбю, на пляцы перад галоўнаю готландскай

[26] Холадна! (шведск.)

шыркаю[27]. Жывёліна з'яўляецца з прыцемкам на лапіку пожні і пачынае ўтрапёна абшукваць яго на прадмет спажывы. Даследуе па дыяганалі траву, як свіння лычам зямлю, — метадычна, дзелавіта, па-гаспадарску, без боязі натыкнуцца на знячэўную злосць істоты двухногае. Кінеш яму са сходаў на стыканую іголкамі спіну лёгкі кавалак друзу – нават не схамянецца. І на вулцы яго спаткаеш на змярканні, калі шпацыруе няведама куды, пераходзячы па бруку ад двара да двара. Да аднаго, што ля брамы пры ўваходзе ў дворык бавіўся, датыкнуцца мне заманулася. Нахінуўся, каб тое зрабіць, як жаночы голас пачуў над вухам. Гаспадыня дома вярнулася дахаты, а тут чужы пры ўваходзе: зніякавела на момант. Вожыка ўбачыла, засмяялася з палёгкай. Пайшла, ды праз хвіліну зноў вызірнула на двор, нібыта каб на вожыка паглядзець, а насамрэч, мабыць, за мной пацікаваць, што далей (чужы як-ніяк пры дзвярах) буду рабіць. Гэтак жа вольна, як вожыкі, і зайцы сябе ў Вісбю пачуваюць. А вось птушак, падалося, за выключэннем качак пры беразе, малавата чамусьці.

Калі вожык – сімвал Вісбю, то фірмовы знак горада, безумоўна, — ровар. Але не ў сэнсе характарыстыкі ўзроўню дабрабыту ці чагосьці яшчэ са сферы матэрыяльнага, а ў сэнсе вартасці ўзроўню ўзаемаадносінаў між людзьмі. У прыватнасці, адносінаў паміж кіроўцам і пешаходам. Роварам у Вісбю, як і наогул у Швецыі, нікога не здзівіш, іх тут так шмат, што стракаціць уваччу. А вось язда на ровары, асабліва пры перасячэнні шматлікіх пятлястых пераходаў, надоўга застаецца ў памяці. Дома я не садзіўся на ровар каля 40 гадоў. А ў Вісбю гэта адбылося так проста і натуральна, быццам усё жыццё толькі гэткаю справаю і займаўся. Проста сеў і паехаў. І як не паехаць, калі ты на вуліцы – пан. Табе яшчэ пяць метраў да «зебры», а вадзіцелі аўто з абодвух бакоў ужо спыняюцца, каб саступіць дарогу. Цудоўнае адчуванне, але і небяспечнае, бо да добрага хутка прывыкаеш. Апошняе на сабе зведаў, ледзь не трапіўшы па вяртанні ў Віцебск, залюляны памяццю аб простасці язды па вулках Вісбю, пад машыну на адным з нашых пераходаў.

Літаральна напярэдадні ад'езду ў Швецыю даведаўся з газет, што Вісбю, аказваецца, — пабрацім Віцебска. І што зусім нядаўна да нас прыязджала з мэтаю мацавання сувязей між рэгіёнамі губернатар выспы Марыян Самуэльсан. «Завязу ёй пару віцебскіх газет з

---

[27] Кірха

матэрыяламі пра тую гасціну», – падумаў і паклаў іх у сумку. Ды дарэмнымі аказаліся турботы. Толькі дамовіліся з Ленай Пастэрнак пра візіт ва ўправу, як на наступны дзень мясцовыя выданні застракацелі артыкуламі пра адстаўку губернатара за тое, што дала згоду на набыццё адным з удзельнікаў гурта «ABBA» кавалка зямлі ў ваколіцах горада. Не за хабар. Дала згоду на продаж, мабыць, у знак павагі да музыкі — гэтага хапіла, каб уваднначас пазбавіцца пасады за парушэнне пастановы аб забароне такіх аперацый і імгненна трапіць пад прыцэл газетчыкаў. Якія ў сваіх публікацыях празмернага піетэту датычна ўладных персонаў не выяўляюць. Хоць, зрэшты, і не клянуць без дай прычыны.

Пры знаёмстве з чужым горадам важна пабачыць яго ваколіцы. Прыгарадны ландшафт, рэльеф мясцовасці, нават моц ветру, што ў кожным закутку розная, — усё гэта спрыяе больш поўнаму ўяўленню аб самім горадзе, дае адчуванне яго прасторавай перспектывы. Так я зразумеў у свой час, ужо ладна пажыўшы ў горадзе над Дзвіною, свой Віцебск. Так раблю кожны раз, трапляючы ў незнаёмую дагэтуль мясціну. Тым болей калі мясціна такая пярэстая, як Готланд, дзе што ні дзесятак вёрстаў, то новы відарыс, новае ўражанне, адметная візуальная карціна.

Чым здзіўляе сельскі Готланд, дык гэта нераўнавагаю паміж «непрычасанасцю» прыроды і цывілізаванасцю сядзібаў. Дзікая, нейкая нават часам, здаецца, агрэсіўная ў сваёй першароднай дзікасці натура — і дагледжаныя, бліс ды ясь, будынкі. Жытло і адцяняе неўтаймоўнасць прыроды і разам з тым быццам суцішвае яе, падвысакароджвае, ці што. Так што нават пабудовы кшталту абораў для падкормлівання авечак, што раз-пораз узнікаюць сям і там усцяж складзеных са скальнай пароды загародак, не здаюцца на Готландзе рудыментамі прамінулага часу. Наш ватыканападобны Мосар у параўнанні з выспавымі готландскімі краявідамі – наадварот, аазіс хараства на тле ўбоства. Памятаю першае сваё, неспадзеўнае, па дарозе аднекуль, знаёмства з Мосарам. Быццам у казку ўехаў. А выехалі з таго парадызу: хаты пахілыя, шэрыя наўкола – і быццам і не было ніякага цуду.

Калі ландшафт уражвае на Готландзе размаітасцю кліматычных зрэзаў, дык лютэранскія шыркі, наадварот, — дзівяць аднастайнасцю. Быццам адзін чалавек іх будаваў, гэтак падобныя яны адна да аднае. Прыгожыя, канечне, усе, ды адмалку звыкламу да розных

стыляў культавых пабудоваў дзвюхканфесійнае краіны беларусу пададуцца яны сумнымі. Выключэннем стала бадай што толькі Форё Шырка, і то дзякуючы апошняму прытулку знакамітасці — магіле Інгмара Бергмана. Такой сціплай, якую толькі, напэўна, асоба гэткага маштабу, як Бергман, і магла сабе без увагі на імавернаю перспектыву пертурбацый ацэнкі свайго творчага даробку ў будучыні дазволіць.

Мы ўжо збіраліся адыходзіць ад магілы Бергмана, як раптам пачулі з-за агароджы, што аддзяляе дзядзінец пры царкве ад астатняга свету, бляянне авечкі. Тоўстая, бы дзяжа, калматая, з неахайнымі пасамі воўны на баках і на спіне, яна нагадала сваёй прысутнасцю помную са школьных гадоў сцэну наведання сынавай магілы старымі Базаравымі. З той толькі розніцай хіба, што авечкі ля Форё Шырка ходзяць не «безвозбранно», як у Тургенева, а ўсё-такі больш-менш цывілізавана: каменная агароджа на клады не пускае.

Хоць канец ліпеня і пачатак жніўня і цёплыя на Готландзе, і Гальфстрым дае аб сабе знаць падчас купання ў моры, і сонца на пяшчоту не сказаць каб скупое, усё адно адчуванне, што гэта краіна паўночная, не пакідае ні на хвіліну. То вецер падзьме раптам з Балтыкі, вокамгненна зменіць краявід ды спупырышыць скуру на руках-нагах, то крывенькія хвоі ды іншыя прадстаўнікі мясцовай флоры ўсцяж дарогі пацямнеюць пад завесаю наплылых няведама адкуль хмараў, то трава збоч сцяжыны пахінецца долу пад ціскам дажджавых кропляў. Едзеш на ровары ўздоўж узбярэжжа і чамусьці міжволі ўяўляеш, як яно ўсё выглядае тут узімку: сцішна, самотна, маўкліва.

Здаецца, і невялікі Готланд, усяго крыху больш за 3 тысячы квадратаў займае разам з прылеглаю выспай Форё, а прыбярэжная марская паласа так адрозніваецца ў процілеглых яго кутках, быццам у розных кліматычных шыротах размешчаная. У Вісбю бераг камяністы, адно пільнуйся, каб ногі не парэзаць, а на Форё – такая роўнядзь пясчаная пры вадзе, што, здаецца, без парашута можна на яе прызямляцца. І пляжы адпаведна розняцца, як неба і зямля. Затое расліннасць пры берагах усюды падобная — калматая, дзікая, шматкамі. Ды яшчэ пах аднолькавы – вострай гаючай гнілі водарасцяў, што працінае кожную тваю клетку, а ўсё яго мала.

Цікавая кропка на шляху да Форё – музей старадаўняй вёскі ў Бунге. Такое стылізаванае паселішча з масай артэфактаў з сялянскай мінуўшчыны, маляўнічая ілюстрацыя адметнасцяў ладу жыцця

продкаў сучасных шведаў. Дамкі, пабудовы гаспадарчыя, начынне для вядзення гаспадаркі – нічога незвычайнага і разам з тым – усё незвычайна. Карані, душа — дух народа.

Хто жыў у вёсцы, той ведае, як важна ў вясковай хаце правільна размясціць печ. Так, каб яна і функцыі свае спраўна выконвала і разам з тым не замінала іншым прадметам і галоўнае – гаспадарам выконваць функцыі свае. Бывае, узыдзеш на парог хаты, а тут цябе пры самых дзвярах вілкі або чапяла сустракаюць, загароджваюць уваход. У шведаў жа ўсё гранічна рацыянальна. Печ – у асобным пакоі і часцей за ўсё – не ў пярэднім, пры ўваходзе, а ў закутку. Распараджайся, гаспадыня, начыннем, як пажадаеш, без рызыкі назаляць сямейнікам ці гасцям.

Другое, што ўразіла ў старой шведскай сялянскай забудове, — ложак. То ў выглядзе скрыні ён, то куфэрка, а то і шафкі. Як правіла, з занавескай, часам і з дзверкамі. Ложкі для спання ў паўсідзячай позе сустракаюцца. Усё максімальна закрытае, схаванае ад староннягa вока, някідкае. Інтымная жыццёвая прастора: староннім уваход забаронены.

Пры ўсім імкненні шведаў да парадку ў наяўнасці каліва неахайнасці ім на першы погляд таксама быццам не адмовіш. Гэта датычыць найперш знешняга ўладкавання летніх месцаў агульнага карыстання, дзе сталы не блішчаць чысцінёю, а самі тыя месцы часам ледзь бачныя з-за дывана разнатраўя. Але так здасца толькі напачатку, пакуль не ўцяміш, што ўсё гэта – не больш як імкненне да прастаты, суладдзя з прыродай. Навошта калечыць без патрэбы, перайначваць натуральнае, прылізваць так, што ад натуральнасці і следу не застанецца? Натуральнасць і функцыянальная выгоднасць – галоўныя прынцыпы датычна што краявіду, што манеры паводзінаў, што нават знешнасці. Ці не таму і жанчын з натуральнаю афарбоўкаю валасоў ды адсутнасцю празмернага макіяжу, падалося, нашмат болей на вуліцах Вісбю, як у нас.

А вось рэстарацыя — пасярод поля, на месцы звалкі ўтылізаваных аўто, абсталяванай гаспадаром пад месца перакусу ды адпачынку падарожнага люду. Кухня, зала ў памяшканні, шыхт столікаў на дварэ ў інтэр’еры з кусткоў ружаў, жалеззя і тэнтаў на выпадак непагадзі. Нязвыкла, затое выгодна: здарожанаму падчас вандроўкі чалавеку ці шмат трэба?

Дзве загадзя планаваныя рэчы не зрабіў я на Готландзе. Першае – не паспытаў расхваленай аўтарамі турыстычных праспектаў як ледзь не галоўнае шведскае мясное стравы пад назовам шётбуля (ko..ttbulla). Другое – не пабачыў тамтэйшага верасу. Шётбулю да апошняга спадзяваўся з'есці ў Стакгольме на шляху дадому, ды на той дзень яе акурат у меню рэстарацыі, куды павялі падмацавацца супрацоўнік Шведскага саюза пісьменнікаў Хенрык Энбом, Зміцер Плакс і перакладчыца Ан, не аказалася. Што да верасу, то ён стаўся ахвяраю ўласнае мае забыўлівасці. Быў момант, калі можна было тое зрабіць па дарозе на Форё, папрасіўшы кіроўцу на колькі хвілін прыпыніцца ў ляску. Але выскачыла з галавы назва па-шведску, а слоўніка, каб патлумачыць, што дзядзьку з Беларусі абыходзіць у гэным лесе, як на тое, пры сабе не аказалася.

Праз тыдзень па вяртанні з Готланда па справе да біскупа Уладзіслава Бліна пайшоў, а ў яго на стале – дай веры! — вазон з галінкамі верасу. Нашага, мясцовага, вядома: хтосьці прэзентаваў. І вось стаіць букет у гасцёўні, радуе гаспадара сакаўною квеценню ды быццам адмыслова, каб страту готландскую кампенсаваць, майго прыходу чакае. Не прыгажэйшы, мабыць, за готландскі, ды, пэўна ж, і не горшы. Свой.

Сваё – тое, што належыць нам паводле закону спадчыннасці. Альбо набытае ва ўласнасць працаю, намаганнямі, і часам немалымі. Калі ж нешта чужое нас прываблівае, і займець яго ў якасці свайго надта хочацца, тады адзіны шлях да задавальнення такога неадольнага свербу — скарыстаць узор жаданага чужога дзеля стварэння гэткага ж свайго. Прыкладна так мне думалася ў цягніку з Вільні на Мінск падчас вяртання з Готланда. Ззаду засталіся пералёты з Вісбю ў Стакгольм і са Стакгольма ў Вільню, яшчэ зусім свежыя былі ўражанні ад выспы і гасцінных, зычлівых гаспадароў Baltic Centre, а мне хацелася як хутчэй апынуцца ў Беларусі. Канечне, такую мясціну, як Готланд, не палюбіць немагчыма. Ды, надзіва, асаблівага смутку ад расстання з зямным раем не было — толькі стома ды жаданне адасобіцца ад не ў меру схільных да размоваў суседзяў па купэ. Апошнім штрыхом утомнага ваяжу сталі тры піражкі ў будынку мінскага вакзала, якімі я не даў рады не спакусіцца з-за неймавернай іх (у параўнанні са шведскімі коштамі на прадукцыю падобнага кшталту) таннасці. Якія тут жа, нягледзячы, што былі тыя піражкі

каляныя, бы глыжы, похапкам і праглынуў: дома, вядома, і салома ядома.

## Выспа Смерць.

*Эсэ*

Калі праўда, што жыццё – найвялікшая вартасць, то найвялікшая антывартасць тады, канечне ж, – смерць. Выспа, на тле якой каштоўнасць жыцця выдае недарэчным вычварэнствам прыроды без каліва мэтазгоднасці і сэнсу – цудоўная падстава для змрочных сентэнцый рознага кшталту цынікаў і мізантропаў, адмысловая глеба для ўзгадавання ў душы і свядомасці таго, што робіць у нашым уяўленні любыя праявы жыцця і прэснымі, і нелагічнымі, і марнымі. Але тут, праўда, шмат што залежыць ад адметнасцяў асабовага ўспрыняцця чалавекам факта смерці. Вядома ж, што нават самыя цынічныя ды мізантрапічныя з роду людскога, калі справа даходзіць да ўласнае персоны, выяўляюцца насамрэч далёка не такімі, як сябе дэкларуюць. І асабліва выразна выяўляецца тое ў хвіліну блізкага скону, калі нелюбоў да іншых неўпрыкмет чэзне пад ціскам невыказнага жалю да сябе: човен непрыняцця бліжняга, якім бы непатапляльна-непрыступным ён нам часам ні здаваўся, якімі б ніткамі якіх філасофій і канцэпцый ні мацаваўся, аб крутыя берагі выспы пад назовам смерць разбіваецца ўшчэнт.

Мае продкі, прынамсі, тыя, чый адыход з жыцця зямнога збольшага памятаю, смерці не баяліся. Магчыма, вера ў жыццё вечнае была прычынаю, а хутчэй за ўсё — папросту не мелі на боязь часу. Паміралі, бы дрэва падчас буры: узляцела сярод белага дня віхура, вырвала з коранем з глебы, і ўсяе мітрэнгі. Гэтак дзед, бацькаў бацька, памёр. Пахіліўся долу, шкрабануў, намагаючыся ўтрымацца на нагах, пазногцямі шпалеры на сцяне і сканаў. Другі дзед, праўда, крыху хварэў, ды таксама дарэшты збрыдзець сабе і іншым праз уласную нямогласць не паспеў. Найменей бабулі, бацькавай маці, пашанцавала: аж тры гады адпакутавала нябога. Спалярушаная інсультам, стукала кійком па рабрыне ложка, брыдка лаялася на дзеда, з якім дагэтуль ніколі не сварылася, бо заўжды дагаджаў, з-за рознае драбязы. Ні нараканняў на пакуты ды боль, ні словаў жальбы – нічога, апроч заўсёднага жадання ўсё рабіць па-свойму, адпаведна негалоснаму статусу галавы сям’і.

Гарадскія паховіны, як старая пamрэ (старых мужчынаў штосьці наогул не бачна, ні ў труне, ні па-за ёю): з два дзясяткі чалавек, з іх ці

не палова – бабулькі-суседкі, сяброўкі нябожчыцы. Адна адну праводзяць, аплакваюць пад абыякава-похаплівую мітусню сваякоў памерлай. Дамова такая ў жанчын між сабою: памрэ каторая — астатнія абавязкова павінны прыйсці на пахаванне. Не так, можа, дзеля самога развітання (наразвіталіся ўлетку-ўвосень на лаве пры шматпавярхоўцы), як дзеля надання цырымоніі якой-кольвек прыстойнасці ды падабенства людскасці: скрушліва, ды дзелавіта, адно што без музыкі і доўгіх прамоваў.

Бацька ў маладосці не так смерці – надта ж нябожчыкаў баяўся. Ды так ажно, што, калі пачаў канаць дзед Данат, у якога яны з маці і мною, немаўлём, часова кватаравалі на хутары ў Вяце, пакінуўшы мяне ў зыбцы сам-насам са старым (маці дома не было), стрымгалоў выбег з хаты на двор. А тым часам у размовах датычна смерці заўсёды выяўляў іранічную абыякавасць. «Толькі без слёз мяне праводзьце, — казаў, малюючы ўголас сцэну ўласнага пахавання. – Наадварот, каб весела было. Ад могілак зачынайце танчыць». У апошнія гады жыцця, быццам прымерваючы на сябе стан нябожчыка, падчас пахавання каго-небудзь са сваякоў ці суседзяў знарок клаўся ўнаначкі пасля адыходу спявакаў у пакоі з памерлым. Можа, боязі гэткім чынам хацеў пазбыцца, не ведаю. А паміраў вельмі спакойна. Быццам і не паміраў, а проста некуды збіраўся адысціся на кароткі час. Але што смерць пры галавах – дакладна, здаецца, ведаў і разумеў. Так пацісну ў сястры, пасля казала, на развітанне руку, быццам штосьці хацеў у спадкі перадаць. Маці, наадварот, турбавалася напрыканцы. Не за сябе — за нас, дарослых ужо дзяцей. З усіх памерлых родных ды сваякоў яна, бадай, адзіная выказала смерці рашучую нязгоду з часам яе аб'яўлення.

Глыбока ўсвядомленае прыняцце смерці як непазбежнасці на грунце веры ў вечнае жыццё па фізічным сконе робіць адыход чалавека прыгожым у эстэтычным плане. Сведкам такога адыходу пашчасціла быць колькі год таму на пахаванні далёкага сваяка на малой радзіме. Утульна было на тым пахаванні, цёпла – пад рэлігійныя спевы, перагукванні, згадкі-прыпаміны. Амаль не плакалі па нябожчыку, і цётка, ягоная жонка, – ці не менш за ўсіх сумавала. Распавядала, як добра ёй было з сужэнкам разам тут, у гэтым жыцці, прыпушчала, якім радасным ды шчаслівым будзе хуткае – навекі ўжо – спатканне ў жыцці нябесным. Гаманіла ўдава, а такое ўражанне было, быццам высучвае нітку *яшчэ тут*, што вось-вось выслізне з рук, ды не парвецца дарэшты, а толькі пераменіцца няўзнак у нітку *там*, дзе і ёй, старой, годнага месца не забракне. Якое яна хоць гэтае вось хвіліны гатовая прыняць, ды воля Божая на ўсё: як Ён,

апірышча і сіла для слабога чалавека, распарадзіцца, так і будзе. Ёсць панянцце культуры жыцця, ёсць, адпаведна, – культуры смерці, і сувязь між імі, мабыць, нашмат больш моцная, чым нам уяўляецца.

У «Легендзе пра Нараяму» Сёхэя Імамуры старая маці, каб вызваліць сваякоў ад лішняга рота, цішком выбівае сабе ўначы глыжом ці то каменем апошні зуб, пасля чаго сын нясе нябогу, паводле звычаю, на гару, дзе і мае яна спаткаць у абсалютнай самоце сваю смерць. Жорсткая звычка, у якой, перадусім, паэзія брутальнага, то бок гіпертрафаванага калектыўнага інтарэсу, як ні дзіўна, і жорсткасць нівелюе, і, галоўнае, глыбіннай логіцы сутнасці нашага быцця, колькі б ні трылузілі мы пра гуманізм ды чалавекалюбства, здаецца, зусім не пярэчыць.

Хоць нашы продкі смерці і не надта баяліся — да яе, аднак, грунтоўна рыхтаваліся. Што апрануць у апошні шлях, як і дзе пахаваць, якую выкапаць магілу, каго паклікаць на хаўтуры – усё абмаўлялася, узгаднялася са сваякамі загадзя. Калі на пахаванне бабулі Галены прыйшло шмат людзей, дзед выказаў незадаволенасць на гэты конт: адкуль, маўляў, гэтулькі «пустога» народу? бач, наляцелі паесці-папіці… Вопратку часцей за ўсё, асабліва калі чалавек быў у веку, самі сабе замаўлялі ў знаёмых швачак і паказвалі на ўсялякі выпадак адзін аднаму, дзе што ляжыць. У асяроддзі людзей, якія прывыклі ва ўсім спадзявацца толькі на сябе, такі рацыянальны падыход да развітання са светам жывых – натуральная з’ява. Але ён не ва ўсіх знаходзіць разуменне і часам людзей шакуе. Калі я гады тры таму патэлефанаваў аднаму дырэктару могілак, каб замовіць для сябе месца на кладах побач са сваякамі, здзіўленню ягонаму не было межаў. Разам з тым піетэт чалавека перад бабаю з касой, узгадаваны, хутчэй за ўсё, на глебе забабонаў, аказаўся такі вялікі, што справа вырашылася літаральна за хвіліны: «Ну, як жа, канечне, едзьце адмерце сабе самі, колькі трэба».

Дзіўна, як у часы падаўлення чалавечай асобы адразу ж пачынае ўзрастаць культ працягласці жыцця. Праз сродкі масавай інфармацыі найперш. «Беражыце сябе!» – амаль ва ўсіх таблоідах у суправаджэнні падрабязных рэкамендацый, як засцерагацца, як лекавацца, як наогул жыццё падоўжыць: сад-гарод, травы-лекі, рэцэпты, парады – тэмы не забароненыя… Гэткі інструмент адцягнення ўвагі ад значнага праз выкарыстанне адвечнай нашай прагі заставацца на зямлі як найдаўжэй. Так, глядзіш, пры гэткім дбанні і сродак да несмяротнасці неўпрыкмет вынайдзем. Не хацелася б: на ўсіх не хопіць, самыя нахабныя ды паскудныя

скарыстаюцца, і без таго не надта прывабная агульная карціна генафонду чалавецтва рэзка пагоршыцца.

Варажыць, калі напаткае цябе смерць, – справа і рызыкоўная, і неразумная. С. Моэм упершыню напісаў пра свае старэчыя адчуванні так, быццам ужо развітваўся з жыццём, у 60-гадовым узросце. А тое ягонае развітанне расцягнулася больш як на дваццаць гадоў. Але гэта, мабыць, калі жывеш не адзін і нават хаўрусніка, што спахапіўся б уранні, не чуючы гукаў з твайго пакоя, як Моэм, маеш. Для адзінокага ж чалавека смерць ( як і многае іншае, зрэшты) — галаўны боль. Тым больш калі месцішся на сёмым паверсе шматпавярхоўкі, і да могілак вёрст дзвесце, а традыцыяй крэмацыі ў наваколлі нават не пахне.

Нядаўна, завіхаючыся з рыдлёўкай на касцёльным дзядзінцы, убачыў чалавека гадоў пад шэсцьдзесят, што ў нерашучасці таптаўся пры браме. Разгаварыліся. Аказалася, шукае дзядзька каго-небудзь са святароў, каб з іх дапамогаю ўладзіць справу з уласным пахаваннем. Маўляў, хвароба смяртэльная, заставацца на гэтым свеце ўжо нядоўга, сваякоў не маю, вось і шукаю таго, хто ўзяў бы на сябе клопат годна праводзіць у лепшы свет. Хай без хрысціянскае цырымоніі, але ж каб толькі надзейна, і галоўнае – каб не заляжацца ў самоце па сконе на колькі дзён, а то і тыдняў… І так чалавек, відаць па ўсім, пераняўся тым дробным на староннi погляд клопатам, страхам і пасля адыходу застацца нікому не патрэбным, што нават няёмка было тое па першасці бачыць.

Думаць пра смерць сабе не забароніш. Пра фізічную пакуту, што, магчыма, Бог пашле напрыканцы, каб зрабіць акт твайго адыходу не такім роспачліва-ўсвядомленым. Пра маму-тату ды іншых блізкіх асобаў, з якімі спаткаешся *там*, а спаткаўшыся, будзеце штодня хадзіць, равеснікі, адзін да аднаго ў госці ды меркаваць-варажыць, хто ж там наступны заявіцца і як ён будзе выглядаць. Непазбежнае на тое і непазбежнае, каб дагнаць, як яго ні ўнікай. Адзінае, чаго б не хацелася, дык гэта сустрэць свой апошні час пад якімі-небудзь руінамі кшталту плітаў разбуранага падчас землятрусу дома. Чалавеку з бояззю замкнёнае прасторы, то бок клаўстрафобіяй, як у мяне, каб прыйсці ў роспач, і аднае згадкі пра раптоўнае вяртанне да жыцця ў магіле дастаткова.

Нараджэнне – таямніца, якая дзверы адчыняе. Смерць – таямніца-інтрыганка. Яна ўваход у сваю таямніцу вартуе так надзейна і зачыняе перад нашым носам так спрытна, што ўявіць, што там далей, за тымі дзвярыма, – рэч не толькі нерэальная, а нават, з

увагі на слабасць чалавечае натуры, – шкодная. Выспа ж – на тое і выспа, каб існаваць асобна. Нават ва ўяўленні.

## Сволач паводле Брэма.

*Эсэ*

Сінонімы да слова сволач – нягоднік, мярзотнік. Гэта значыць той, хто свядома чыніць зло іншым. То ці можна назваць сволаччу жывёліну? Вядома, не: калі яна і робіць што-небудзь на шкоду субратам сваім ці чалавеку, то робіць гэта выключна дзеля справы выжывання. Прычым, у адрозненне ад нас, людзей, у межах жорстка рэгламентаванага выкарыстання дадзеных ёй дзеля гэтага прыродай сродкаў: капытоў, рогаў, зубоў, джала, сліны, атруты і г. д. Таму, якой бы цхівай і крыважэрнай жывёліна нам ні здавалася, мярзотніцай, то бок сволаччу яе не назавеш. А вось аналогій у яе і ў нашых звычках, калі давяраць Брэму і іншым знаўцам фаўны, больш чым дастаткова. Іх канстатацыяй і абмяжуемся.

Ёсць сволач, што чыніць сволачнае дзеянне, і ёсць — што сваімі паводзінамі рыхтуе глебу для гэткага чыну. Як *бык* і птушка *нанду*. Першы выбівае падчас чысткі скуры целам у глебе яміну, другая — выкарыстоўвае тую гатовую яміну ў якасці асновы для свайго гнязда.

Сволачы няведамыя прынцыпы. Яна лёгка мірыцца з абставінамі і памяняе меркаванне нават тады, калі ад яе гэтага і не надта патрабуюць. Як *амёба*, што можа ўвадначас рухацца з месца ў любым накірунку.

Сволач плодная. Яна множыцца, сеючы наўкола сябе семя сволачнасці, не зважаючы на ваганні атмасфернага ціску і тэмпературы паветра. Як *кольчаты чарвяк*, размнажэнне якога адбываецца шляхам простага, незалежнага ад знешніх чыннікаў распаду цела на некалькі частак.

Сволач усяедная. Як *сцярвятнік-пухнач*, што ахвотна харчуецца абы-чым, нават фекаліямі. Ці як згаданая птушка *нанду*, што жарэ ўсё, што ні трапіцца на шляху.

Сволач – майстрыца гуляць у шашкі паводле ёю ж, сволаччу, прыдуманых правілаў. Хоць ноч навылёт з ёю гуляй, хоць дзень – усё адно перахітруе. Як *гарнастай* труса ці зайца, што загіпнатызуе нябогу скокамі-выкрутасамі і тут жа раздзярэ наіўніка, спадцішка наблізіўшыся, на дробныя шматкі.

Сволач наднацыянальная. У яе зазвычай не адна радзіма, а сама меней дзве, а то і тры адначасова. Два, тры ў адным – у адпаведнасці

з попытам. Затое мова ў сволачы, як правіла, — адна, і найчасцей гэта – мова хамства. Як мозг *паўзуна*, што складаецца з трох – пярэдняй, сярэдняй ды задняй — частак, але ўсё адно агулам мянуецца мозгам. Ці як голас рапухі, які што ў ставе, што ў багне, што ў ручаі, што ў каляіне – усюды кваканне.

Сволач небяспечная кепскім уплывам на моладзь, якую яна разбэшчвае ўзорам бесцырымоннасці і непавагі да чалавека. Як любы *драпежнік*, што вучыць дзіця найперш уласным прыкладам.

Сволач бывае буйна,я і бывае – бу,йная. Нярэдка здараецца, што і разам — два ў адным, так бы мовіць – тыя якасці сустракаюцца. Як сволачнасць буйнога страуса *казуара*, вялікага аматара буйнасць сваю і злосць без аніякай на тое прычыны перад староннімі дэманстраваць.

Абавязковы экзістэнцыйны варунак існавання дробнай сволачы – поўная залежнасць ад сволачы буйной. Прычым часта – на тле паталагічнай нянавісці да апошняй. Як у *шакала*, што харчуецца аб'едкамі з львінага стала, а пры выпадку з'еў бы і яго самога, ды — не па зубах.

Няма такой сволачы дробнай, якая не жадала б стаць буйной, і няма такой буйной, якая пнулася б стаць дробнай. Як няма *гніды*, што не марыць стаць праўдзіваю *вошаю*, і як няма *вошы*, што, наадварот, марыла б вярнуцца ў стан *гніды*.

Габарыты сволачы не заўсёды прапарцыйныя яе разумоваму патэнцыялу. Што, аднак, не замінае ёй займаць высокае месца на сацыяльнай лесвіцы. Як сярод некаторых *прыматаў*, дзе становішча асобіны сярод суродзічаў вызначаецца не колькасцю звілін у мозгу, а выключна памерам цела і вастрынёй зубоў.

Затое калібернасць сволачы амаль заўжды прапарцыйная яе пасадзе. Чым вышэй пасада, тым заўважней наяўнасць сволачнасці. Як у *скарпіёна*, ступень атрутнасці джала якога ўзрастае прапарцыйна ўзрастанню камфортнасці месца бытавання.

Сволач моцна трымаецца за крэсла. Як уласна плод *павука* за шкарлупіну яйка, з якой ён так моцна зрастаецца, што яны ўяўляюць разам суцэльную, непадзельную субстанцыю-абалонку.

Сволач вёрткая. Як птушка *анхінга*, што ўскідвае падчас палявання галаў так хутка, што гэта можна параўнаць з нападам гадзюкі. Ці як *каршун*, што лёгка скрадзе з-пад носа ў грыфа кавалак падлы і, перш чым той паспее зрэагаваць на крадзеж, уцячэ з ім у хмыз. Або як *рачная гідра*, што, нават вывернутая навыварат, бы палец пальчаткі, без цяжкасці прыстасуецца да жыцця ў новым становішчы.

Сволач жывучая. Яе хоць у бездань марскую кінь, а яна ўсё адно выплыве – з рыбінай у зубах. Як *рабак*, яйка якога, пакладзенае, напрыклад, у алкаголь ці ў хромавую кіслату, не толькі не загіне, а, наадварот, пачне вокамгненна развівацца ў праўдзівую аскарыду. Або як аплодненая самка *клапа*, што, змешчаная на паўгода ў пушку без аніякага харчу, не толькі выжыве, але і паспяхова ў той пушцы разродзіцца нашчадкамі.

Сволач любіць паразважаць на сімпатычныя тэмы, напрыклад, пра ўласныя захады на карысць іншых. Як падманліва сімпатычны з выгляду *скунс*, не толькі жывое цела якога, а нават закапаныя ў глебу парэшткі распаўсюджваюць такі смурод, што месца захавання і праз колькі месяцаў не ўяўляе цяжкасці па тым смуродзе адшукаць.

Сволач не гідлівая і ўсё, што ні стрэне на шляху, без ваганняў скарыстае дзеля дасягнення сволачнай мэты. Як лічынка *жука-магільшчыка*, што пры ператварэнні ў кукалку два тыдні запар можа без аніякага-якога харчавацца падлаю. Або як *жук-калаед*, для якога найбольшая асалода — адкласці яйкі ў гной, што адначасна становіцца для яго і стравай.

Сволач валодае прымітыўнымі інстынктамі, таму лёгка прыжываецца на любой глебе. Як завезеная з Еўропы ў Амерыку *гесенская муха*, што, паспяхова адаптаваўшыся да ўмоваў на новым кантыненце, можа ўвобміг спустошыць там цэлае поле культурных пасеваў.

Сволач валодае фенаменальнай здольнасцю да мімікрыі, то бок, прыстасоўвання. Як аса *crabronidae*, што знешне падобная да мухі, на якую яна палюе.

Сволач крывадушная. Яна засыпе абшары зямныя газетнаю хлуснёй, а скажа, што гэта святая праўда і што ім, абшарам тым, толькі такая праўда і патрэбная. Як каторы *сабака*, што пазычае вочы каму заўгодна без вынятку, а потым дзівіцца, чаму гэта яго, такога добрага, у адным шэрагу з нейкай сволаччу згадваюць.

Сволач баіцца і ўсялякімі спосабамі пазбягае галоснасці. Ніводная сволач прылюдна не прызнаецца, што гэта яна загадала «не згадваць» і «не пушчаць» і напусціць на справу такога туману, што ніякі дазнаўца не дасць рады праз яго прадрацца. Як *жук-лізун*, што выкідвае з сябе жоўты камуфляжны пыл, каб ім жа прыкрыцца.

Сволач подлая. Яна выканае загады якога-небудзь цэрбера «не згадваць» ды «не пушчаць», а пасля запытаецца: «Чаму гэта вас быццам няма?» Як *гіена*, што зжарэ жывасілам апошнюю гну, а потым будзе прылюдна наракаць, што савана, маўляў, без дай прычыны дарэшты абязгнунела.

Сволач не любіць праўды і заўсёды камуфлюецца пад прыстойнасць праз дэманстраванне чыста вымытых рук. Як ястраб *гарпія*, што, перш чым праглынуць здабычу, кідае яе спачатку ў ваду, каб ачысціць ад бруду, і толькі пасля гэтага пачынае есці.

Сволач двурушная. Яна ўслáвіць словам таго і гэтага, а назаўтра ўчынкам напаскудзіць на іх магілкі. Як *павучыха*, што з'есць падчас каітусу бацьку сваіх будучых дзяцей, а ўсім будзе даводзіць, што гэта — для іх жа, нашчадкаў, шчасцейка.

Сволач схільная да карпаратыўнасці, але ў крытычны момант абараняе найперш собскі інтарэс. Як *белы сін*, што гарбузуецца ў зграю са сваякамі адно падчас кармлення, а як толькі акт сумеснага паглынання ежы мінае, тут жа на іх забываецца.

Хоць сволач і індывідуалістка, пры патрэбе яна лёгка хаўрусуецца з іншай сволаччу і робіцца калектывісткай. Як аднаасобнік *цвыркун*, што дзеля выжывання часта гарбузуецца ў стаі з да сябе падобнымі.

Сволач вераломная. Заблудзіўшыся сярод трох хвояў, яна не праміне звінаваціць у гэтым іншых. Як *выдра*, што зжарэ ў рацэ ўсю рыбу, а ўсім скажа, што гэта зрабіў бабёр.

Сволач не любіць, калі пры ёй разважаюць пра вытокі сволачнасці. Усялякую праяву сволачнасці ўласнай яна мянуе не іначай як цвярозым паглядам на жыццё, то бок неабходнасцю харчавацца. Як пальмавая кошка-канібалка *музанг*, што пры выпадку не пагрэбуе падсілкавацца ўласнымі кацянятамі.

Неад'емная рыса сволачы – непераадольнае жаданне навязаць іншым уласныя правілы гульні. Як тое робіць *расамаха*, што, пазбаўленая мажлівасці супрацьстаяць сабаку ў пазіцыі на поўны рост, кладзецца дагары на дол, пасля чаго хапае знізу суперніка кіпцюрамі і загрызае ўсмерць. Або як *гіена*, што заганяе спачатку буйвала ў багну, а потым жарэ, бездапаможнага, жывасілам.

Сволач схільная да пісання даносаў. Гэткім чынам яна сцвярджае сваю самасць, а разам – адданасць сволачы ўладнай. Як *жывёліна*, што яшчэ не нарадзілася і ніколі, мабыць, не народзіцца, бо фаўна на такое вычварэнства, здаецца, папросту не здольная.

Сволачы дзяржаўныя інтарэсы не абыходзяць. Яна лёгка выдаткуе дзесяткі мільёнаў на лухту пад грыфам сацыяльна значнай. (Няма аналагу).

І сволач мае сваю ахілесаву пяту: святло, праўда для яе – што адсутнасць мінімуму сонечных прамянёў для кактуса. Як *барсук*, якога, каб забіць, дастаткова як след квэцнуць па носе.

Сволач – заразная. Як трапічны *сцынкавы гекон*, аднаго толькі дотыку якога да другой істоты дастаткова, каб на целе апошняй засталіся рэшткі ягонае скуры.

Нязменнае і галоўнае апраўданне сволаччу ўласнае сволачнасці – абавязак здабывання харчу для дзяцей і ўнукаў. Што, як правіла, у адрозненне ад нашчадкаў любой жывёліны, не проста галодныя, а — галаднейшыя за ўсіх іншых.

Лек ад бацылаў сволачнасці – у іх нейтралізацыі праз стараннае, хай сабе і да ванітаў, пераважоўванне. Як лек ад укусу *скарпіёна*, што гатуецца на сумесі праванскага алею і целаў змешчаных у тым алеі скарпіёнаў.

Сволач – паскудства, але і яна дзеля чаго-небудзь можа прыдацца, напрыклад, для палохання дзяцей з мэтаю выпрацаваць у іх імунітэт супраць сволачнасці. Як сырны клешч *акар*, фекаліі і скура якога, ператварыўшыся ў сыры ў пыл, становяцца кампанентам улюбёнага гурманамі прадукту. Або як тля, высушаныя парэшткі якой у тры разы пераўзыходзяць тлустасць гамбургера і з’яўляюцца, як сцвярджаюць навукоўцы, выдатным начыннем для бутэрброда.

Не тое дзівіць, што ёсць сволач, а тое, як шмат тых, хто гатовы пры нагодзе ёю стаць. Але, можа, гэта якраз і няблага. Было б яе мала ці наогул не засталося б – адкуль бралі б мы крытэрыі ацэнкі вартасцяў і ўчынкаў адно аднаго? Казаў той, птушачак шкада, канечне, ды што зробіш, калі жыццё такое – сво… цудоўнае.

## Suum ciuque, або Пішам, таварышы!

*Эсэ*

З усіх вядомых выслоўяў пра сутнасць катэгорыі сумлення найбольш трапным падаецца выказванне Льва Талстога: сумленне – гэта памяць грамадства, засвоеная асобным чалавекам. Трапным, хаця, безумоўна, як след не разгорнутым. Уласна памяць, то бок простая сума ведаў пра штосьці – гэта адно. Рэгламентацыя ж сваіх, як, зрэшты, і ацэнка чужых учынкаў у адпаведнасці з яе (памяці) ўрокамі ды арыентацыяй на агульнапрынятыя катэгорыі маралі – нешта прынцыпова іншае. Ужо, здаецца, колькі чаго не змясціла наша ўзбагачаная рупнасцю гісторыкаў калектыўная памяць цягам толькі двух апошніх, калі браць за кропку адліку пачатак адраджэнскіх 90-х, дзесяцігоддзяў. Але што наедку з тае памяці, калі нават у часы адноснае волі вяртанне да прамінулых, характэрных для

грамадства з аслабленым супраць нахабства і бессаромнасці імунітэтам уладных вычварэнстваў – заўжды ў нас у паўкроку, а збольшага абуджанае грамадскае сумленне — не больш як зручная паходня на шляху да ажыццяўлення нібыта годных, а насамрэч усё тых жа нялюдскіх, скіраваных на ўціск ды прыніжэнне чалавечай самасці намераў.

Больш за чатыры гады мінула, як была ўтвораная ў краіне новая творчая суполка – Саюз пісьменнікаў Беларусі. Падзея, якая, з аднаго боку, спешнасцю рэалізацыі задумы нагадвала ні то фарс, ні то трагікамедыю, з другога, – дакладна высвеціла ўсе хібы нашага дзяржаўнага, заснаванага на гвалце і непавазе да чалавека ўладкавання. Наогул, утвараць творчыя аб'яднанні, гуртавацца або разбягацца па кутках, як і пісаць кепска ці, наадварот, добра, нікому не забароніш. Так што з гледзішча захавання права асобы на свабоду волевыяўлення прэтэнзіі датычна самога факта ўтварэння новага літаратурнага аб'яднання быццам залішнія: была замова кіраўніцтва самага высокага ўзроўню, знайшліся гатовыя на яе адгукнуцца – і ў добры шлях. Як пісаў байкапісец, «ну і лады, гадуйце дзетак, не ведайце бяды»... Ды дзе там...

Пагрозлівы вокрык адэптаў новага творчага саюза ўпершыню агаласіў Віцебск у лістападзе 2006-га, падчас чарговага збору журы па прысуджэнні штогадовай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча. Ужо напярэдадні ў літаратарскім асяроддзі пранеслася чутка, што ў гэтым годзе прэмія ў намінацыі «Творчасць» прысуджацца не будзе – «з-за недастаткова высокага ўзроўню» (такая была афіцыйная версія, пацверджаная пазней у інтэрв'ю «ЛіМ»у адным з высокіх начальнікаў абласнога калібру) пададзеных на разгляд журы тэкстаў, у якасці якіх ад абласной суполкі Саюза беларускіх пісьменнікаў прапаноўваліся раман Ірыны Жарнасек «Будзь воля Твая» і паэтычны зборнік Леры Сом «Свабода Слова Зіма». Мае і дырэктаркі літаратурнага музея Святланы Казловай пярэчанні наконт такога рашэння ў разлік на пасяджэнні, вядома, прынятыя не былі. На твары старшыні журы, начальніка ўпраўлення культуры аблвыканкама М. Пашынскага, які давёў збольшага прысутным наспяваныя яму, відаць, кімсьці напярэдадні аргументы за скасаванне намінацыі, чыталася няёмкасць. А ягоная намесніца і наогул нічога лепшага, як выдаць на адрас літаратараў эмацыйнае «меньше надо политикой заниматься!», у апраўданне гэткага павароту справы не знайшла.

Што нашы чыноўнікі прызвычаеныя ацэньваць творчага чалавека найперш па тым, што і як ён думае, — агульнавядома. Маючы багаты досвед спатканняў з імі падчас працы ў другой палове

80-х у Бюро прапаганды літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў і цягам 10 гадоў старшынства ў абласным аддзяленні Саюза беларускіх пісьменнікаў, з пэўнасцю магу сказаць, што ўсялякая дзея мае для іх значнасць толькі ў той ступені, у якой спрыяе або, наадварот, пагражае іх афіцыйнаму статусу, гэта значыць, заробку. Уплываць самахоць, без прынукі зверху на нейкія там творчыя справы, у тым ліку і арганізацыйнага кшталту, яны, як правіла, вялікага імпэту не выказваюць. Выключэнне складаюць прадстаўнікі так званага пісьменніцка-чыноўніцкага «памежжа» – дзяржаўныя службоўцы і дзеячы ад літаратуры ў адной асобе. Якраз гэткім у першую чаргу і было даручана стварэнне новай арганізацыі. Зрэшты, сцвярджаць, што *толькі* было даручана – таксама наўрад выпадае. Дакладней будзе сказаць: шчасліва легла карта апанаваных мрояй пра творчае першынства асобаў, для якіх іх адносна высокі службовы, афіцыйны статус — не толькі гарант нябеднага існавання, сінекура дабрабыту, грашовай стабільнасці, але адначасна і якая-ніякая зачэпка для рэалізацыі амбіцый у хоць часам і незразумелай і ненавіснай ім, але ж разам з тым такой прынаднай з гледзішча сцверджання ўласнага «я» творчай прасторы. Пацвярджэнне гэтага — значны адсотак у структуры новага саюза работнікаў так званага ідэалагічнага фронту, у тым ліку і, калі браць у маштабах Віцебшчыны, далёка не апошняй велічыні. Дастаткова ўзгадаць, што адным з першых, хто ўступіў у той саюз, быў нехта М. Кузьміч, шэф усёй ідэалагічнай службы Віцебшчыны. У немалой ступені менавіта дзякуючы такім асобам новая суполка праз адцясненне ад узаемадзеяння з намі ўстаноў культуры і прэсы не толькі атрымала карт-бланш ва ўсіх справах, але і ад самага пачатку зрабілася ў горадзе цэнтрам выканання функцый ідэалагічнага наглядчыка. Што, канечне ж, прылюдна не абвяшчалася, але што, як зазвычай у нас гэта прынята, «ненавязліва» падразумявалася. І што наўпрост вынікае з апошняга абзаца распаўсюджанага па ўстановах культуры ліста старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі М. Чаргінца прэм'ер-міністру С. Сідорскаму ад 1 лютага 2007 года: «Уверен, что в ближайшее время мы сможем укрепить Союз писателей Беларуси, который можно будет считать мощной политико-идеологической силой Республики Беларусь». Што да традыцыйных стасункаў літаратараў з чытачамі на Віцебшчыне, то на адным з абласных паседжанняў па культуры неўзабаве па стварэнні новага саюза прагучала больш чым выразна: «Без моей визы никто в аудиториях выступать не будет». Для грамадскай супольнасці з традыцыйна пакорлівым прыняццем любога гвалту як належнага сігнал дастатковы. Падмацаваны неўзабаве небезвядомым

лістом міністра адукацыі А. Радзькова (копіі якога, бадай, сёння ў краіне толькі самы лянівы не мае і паводле якога пісьменніцкія выступленні ў аўдыторыях стала магчымым ладзіць толькі з дазволу ўладных структур і функцыянераў СПБ), сігнал гэты увобміг набыў моц негалоснага закона.

Трэба сказаць, што абсалютная большасць прадстаўнікоў інтэлектуальнай і творчай эліты Віцебска (як, відаць, і ўсёй Беларусі) менавіта гэтак, як выканаўцы ролі ідэалагічнага ці то круп’е, ці то паганялы, задачы новага літаратурнага ўтварэння і зразумела. І хоць з вядомых прычын і вымушаная была дзеля выгляду, быццам пацвярджаючы вядомае выказванне Шамфора аб пачцівасці без павагі як аб узнагародзе без заслуг, з ім лічыцца, па сённяшні дзень унутрана не прыняла. Зрэшты, не прыняла не толькі эліта творчая, але і многія з чыноўнікаў. Яно і зразумела: каму будзе па душы бесцырымоннасць, з якой кіраўнік грамадскага аб’яднання, хай сабе і праўладнага, пачынае дыктаваць, што і як каму, да прыкладу, тым жа дырэктарам бібліятэк, рабіць на працоўным месцы. Ты, як кажуць у народзе, «сам з вусам», прывык, што зазвычай перад табой ледзь не кленчаць, а тут прыйшоў няведама хто няведама скуль і пнецца конча паставіць у фрунт – каму такое спадабаецца?

***21 лістапада 2006 г.***

*Я размаўляў напярэдадні прызначанай з удзелам сяброў нашага аддзялення імпрэзы да ўгодкаў Караткевіча з дырэктаркай бібліятэкі імя пісьменніка Нінай Максіменкай, як на стале ў яе зазваніў тэлефон. Тое, чаму міжволі давялося стаць сведкам падчас без малога саракахвіліннае размовы жанчыны з кімсьці з кіраўніцтва абласнога аддзялення новай суполкі, так мяне ўразіла, што рука міжволі пацягнулася да асадкі. Я, вядома, не мог чуць адрасаваных дырэктарцы пытанняў, але, думаю, каб меркаваць аб змесце ды танальнасці размовы, і адказаў на іх дастаткова. Гаворка ішла пра Караткевіча і пра згаданую меркаваную вечарыну. Вось яе фрагменты, дакладней – адказы, запісаныя мной па свежых слядах той размовы ў нататніку:*

*— ..?*

*— Так, праводзім вечарыну, 26-га лістапада. Гэта ўжо шматгадовая традыцыя, якую, згадзіцеся, не варта ламаць.*

*— ..?*

*— Хто будзе? Тыя ж, што і заўсёды: Сімановіч, Сіўко, Папковіч, можа, яшчэ хто-небудзь… Ад вашага саюза Русілка, напэўна…*

*— ..?*

*— Як чаму? Яны штогод у гэты дзень у нас бываюць. Да таго ж – усе яны лаўрэаты прэміі імя Караткевіча. Каму, як не ім, выступіць перад студэнтамі і школьнікамі...*

*— ..?*

*— Пра што будуць гаварыць? Ну, не ведаю, напэўна, пра Караткевіча. Сімановіч, відаць, будзе прэзентаваць свае ўспаміны з кнігі пра Караткевіча...*

*— ..?*

*— З той, што ў «Мастацкай літаратуры» нядаўна выдадзена. Вось яна ў мяне на стале якраз.*

*— ..?*

*— Ну, як вам па тэлефоне тлумачыць? Такая тоўстая кніга ўспамінаў пра Караткевіча...*

*— ..?*

*— Хто яшчэ ў ёй надрукаваны? Ды шмат хто. Вось, Бураўкін, напрыклад, іншыя аўтары. Чалавек дваццаць усяго, калі не больш.*

*— ..?*

*— Я ж кажу: у «Мастацкай літаратуры» кніжка выдадзена. У дзяржаўным выдавецтве. Зусім нядаўна, да 75-годдзя Караткевіча. Мы праз бібкалектар днямі атрымалі. Густоўна выдадзены фаліянт…*

*— ..?*

*— Як пра што? Пра Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча. Успаміны, дзённікавыя запісы, нататкі. Звычайная кніга ўспамінаў.*

*— ..?*

*— Хто ўкладальнік? Ды вось – Галіна Шаблінская…*

*— ..?*

*— Я ж сказала ўжо: прыйдуць тыя, што і раней заўсёды прыходзілі. Я ўжо вам іх называла…*

*— ..?*

*— Чаму мы павінны адмаўляць ім у супрацы? Што нам – узяць ды парваць сувязі, якія наладжваліся гадамі?*

І г..д., і г. д., а напрыканцы:

*— ..?*

*— Але якая розніца, хто якога веравызнання? Мы ж не рэлігійных дзеячаў да сябе на ўгодкі Караткевіча запрашаем, а літаратараў…*

Усё гэта, канечне, было б смеху варта, калі б не нагадвала сумнавядомыя эпізоды з часоў мінулых. Зрэшты, тую вечарыну мы ўсё-такі правялі — пад істэрычны енк «Последний раз сатана бал правит!» усё той жа чыноўніцы ад культуры, змагаркі з палітызаванасцю літаратарскага асяроддзя.

Дарэчы, пра палітызаванасць. Пра яе шмат гаворыцца і пішацца, як правіла, датычна тэматычных абсягаў літаратуры – у тым сэнсе, што, маўляў, надта ж яна шкодзіць творчаму пачатку. Што вельмі нагадвае папрокі атэісту яго няверʼем у Бога і, адпаведна, мізэрным шанцам увайсці па сконе ў жыццё нябеснае. Але ж як у кожнага чалавека свой погляд на ўзаемадачыненні з Богам, так у кожнага творцы сваё ўяўленне пра ўласнае месца ў творчай прасторы. Карціць застацца ў вечнасці, абмінуўшы палітычныя варункі існавання сучаснага табе грамадства, – калі ласка, хто замінае? Калі ўдасца, канечне: у грамадстве, дзе палітычныя погляды развіваюцца не ў плыні наследавання агульначалавечым каштоўнасцям, а навязваюцца зверху як дадзенасць, як прыдатак да нейкай няўцямнай ідэі, няўдзел у палітыцы па азначэнні немагчымы. Так што пытанне ўдзелу ці няўдзелу ў ёй – абсалютна рытарычнае, і кожны вольны адказваць на яго так, як падказвае яму сумленне: кожнаму сваё.

***10 снежня 2007 г.***

*Незнаёмы, але, відаць, збольшага начуты пра ціск з боку ўладаў на літаратараў з апальнага, «няправільнага» творчага саюза чалавек падышоў на вуліцы:*

*— Интересно всё же: устоит ваша организация или нет? Как сами думаете?*

*Як на такое адказаць? Даводзіць неабазнанаму ў творчых справах, што асадку з рук толькі Бог можа ў чалавека вырваць?*

Sapienti pauca (мудраму дастаткова намёку) — сцвярджалі старажытныя, быццам норавы нашага літаратурнага асяродку падглядзеўшы. Так шмат сярод нас, аказваецца, мудрых ды праніклівых, што іншым этнасам, напэўна, і на некалькі пакаленняў такой армады мудрацоў хапіла б. Асабліва яскрава выявілася тая мудрасць на пачатку ўсіх звязаных з пісьменніцкай арганізацыяй перыпетыяў. Вось яшчэ персонамі non grata не абʼяўленыя,– а ўжо нібыта пачуваемся імі, веніка, пад якім перасядзець-перачакаць навалу можна было б, бы тая мыш, шукаем. З пяціста з гакам асобаў пісьменніцкай сябрыны, у якую, дарэчы, ніхто нікога сілаю не цягнуў,

на лёсавызначальным перадапошнім з'ездзе – дзве з паловаю сотні. Зразумела: дзень працоўны, ды непагадзь, ды мала што яшчэ... Перасцярога, вядома ж: а раптам угледзіць хто на той сходцы, і даводзь тады, што не вярб... апазіцыянер. Аціхнуць жарсці, тады і мы пасмялеем, пагамонім-паразважаем — можа, і прылюдна нават – пра... подзвіг Каліноўскага. «Ёсць такая шчэлка паміж сумленнем і подласцю. У гэтую шчэлку неабходна ўціснуцца», — пісаў у адным з апавяданняў С. Даўлатаў.

Найбольшаю праблемай па скасаванні ўладамі дамовы з нашым аддзяленнем аб арэндзе памяшкання і брыдкім, аўральным да непрыстойнасці, быццам у дзяржавы на той час і клопатаў іншых не было, як з намі змагацца, акце высялення 12 студзеня 2007 года з пакоя ў так званым доме прэсы па вуліцы Гогаля, 17 стала для нас здабыццё юрыдычнага адраса. Куды ні паткніся з заявау аб арэндзе – усюды адмова. Пра дзяржаўныя ўстановы і казаць няма чаго, ледзь распачнеш размову, адразу махаюць рукамі: што вы! разумеем, канечне, ваша становішча і спачуваем вам, але ж не можам, прабачце... Урэшце знайшоўся-такі ахвотнік прытуліць бяздомных – адважная Валянціна Кудлацкая, кіраўнічка няўрадавай жаночай арганізацыі з Верхнядзвінска. Узгаднілі з ёю дэталі арэнды, падалі ў райвыканкам адпаведную супольную заяву. А прыкладна праз месяц атрымалі за подпісам старшыні адказ з адмоваю, у якой пасля традыцыйнага «отказать с учётом того, что...» і такому цьмяна-няўцямнаму аргументу, як «с учетом ряда других обстоятельств...», знайшлося месца. Прыкладна гэткі ж лёс чакаў і нашу сумесную заяву з Адай Райчонак з Германавічаў на адрас Шаркаўшчынскага райвыканкама аб арэндзе пакоя ў доме-сядзібе Сікоры ў вёсцы Малыя Алашкі. Такая вось таемная моц «ряда других обстоятельств» ды прыкрапомных з савецкіх часоў варункаў тэлефонна-папернага права.

Быў цёплы вераснёўскі дзень, калі мне патэлефанавалі з раённага аддзела міліцыі: «Дзень добры, на вас прыйшла скарга ў органы, трэба тэрмінова сустрэцца. Дзе б вы хацелі?» — «Што за скарга? Здаецца, ні з кім не пабіўся, нікога не абразіў», — падумаў і прызначыў сустрэчу на наступны дзень у сябе дома. «Магу запісваць нашу размову на дыктафон?» – спытаў, пазнаёміўшыся назаўтра збольшага са зместам пісьмовых абвінавачанняў на мой і Яўгеніі Мальчэўскай адрас кіраўнічкі новаствoранай абласной суполкі Саюза

пісьменнікаў Беларусі Т. Красновай-Гусачэнкі. – «Калі ласка», — быў адказ.

Размова, як і дзве наступныя, дарэчы, ужо з прадстаўнікамі больш высокіх праваахоўных інстанцый, праходзіла ў дзелавой і даволі-такі паважлівай, наколькі гэта магчыма было з увагі на выкладзеную ў допісе заяўніцы дурноту, атмасферы. Утрымліваў той ці не 6-старонкавы, нібыта адобраны і блаславёны іншымі сябрамі новастворанай суполкі істэрычны лямант шмат чаго: ад скаргі на тое, што хтосьці ўначы выклікаў на кватэру аўтаркі нарад міліцыі на падставе, што там, маўляў, адбываецца п’яная оргія, да сцвярджэння, быццам я маю дачыненне да дасланага ёй кімсьці ад імя арганізацыі «Русское национальное единство» ліста з падзякаю за ўдзел у разгроме беларускіх пісьменнікаў-нацыяналістаў. У якасці неабвержнасці факта маёй датычнасці да ліста «РНЕ» прыкладалася спасылка на выснову нейкага таямнічага спецыяліста-графолага. Інкрымінаваўся мне таксама адмоўны водгук на творчасць заяўніцы ў «ЛіМ»е ад 28 ліпеня 2006 г., на той падставе, што нібыта водгук той – вынік змовы паміж мною і тадышнім рэдактарам выдання Анатолем Казловым, бо я, маўляў, – яго «сокурсник и давнишний друг…». (З Казловым мы сустракаліся ўсяго пару разоў за ўсё жыццё і ўжо ніяк не маглі быць сакурснікамі, бо розніца між намі ва ўзросце складае каля 10 гадоў, ды і вучыліся мы ў розных універсітэтах). Заканчвалася гэтая частка опусу нядвухсэнсоўным патрабаваннем «принять меры к Анатолию Козлову». Даводзілася таксама аб тым, што я, маўляў, пацярпеў «жизненное и творческое фиаско», а яшчэ тое, што, аказваецца, – «в молодости был склонен к суициду». А наогул допіс падаўся мне дастатковаю падставай для напісання сустрэчнай заявы — аб паклёпе ды захадах па абароне гонару і годнасці. Што я і зрабіў, даслаўшы адпаведны ліст ва ўпраўленне ўнутраных справаў аблвыканкама.

Прыкладна праз тыдзень мне зноў патэлефанавалі, гэтым разам з абласнога ўпраўлення ўнутраных справаў. «Вы наконт ліста, дзе сцвярджаецца мая схільнасць да суіцыду?» — спытаў я, даўшы згоду спаткацца. – «Якога суіцыду? – адказалі на тым канцы провада. – Ніякі суіцыд у заяве не згадваецца». – «Але ж дакладна згадваўся, я маю доказ гэтага ў запісе на дыктафоне». – «О, гэта памылка. Ліст, з якім вас знаёмілі мінулы раз, — чарнавік, аўтарка памылкова даслала яго нам».

Чым скончылася ўся тая мітрэнга? Чым і павінна была — нічым, калі не лічыць афіцыйнага ліста на мой адрас з раённага аддзела ўнутраных справаў аб тым, што з заяўніцай «была проведена беседа профилактического характера о недопустимости с ее стороны в

дальнейшем изложения в заявлениях непроверенных и недостоверных фактов, порочащих честь и человеческое достоинство, о чем она предупреждена». Зрэшты, не ўпэўнены, што нешта падобнае разбіранты не адрасавалі, з увагі на неймаверную прабіўную сілу ініцыятаркі перапіскі і яе ўладных апекуноў, і ёй – датычна маёй асобы. А што яшчэ заставалася ім рабіць?

***16 чэрвеня 2009 г.***

*Паседжанне Віцебскага абласнога суда паводле справы аб лістах ад імя «Российского национального единства», на якое я выкліканы ў якасці сведкі. Сярод енку пра ўшчэмленую годнасць некаторых з тых, хто ў свой час атрымаў такія лісты з падзякаю за ўнёсак у «разгром очага местных националистов – белорусских писателей» (такіх лістоў выявілася ў горадзе каля паўтара дзясятка), так і карцела спытаць, ці так ужо перабольшыў падсудны «заслугі» адрасатаў. А разам і запытацца, ці не маюць пакрыўджаныя намеру пералічыць на рублі, як гэта робяць яны ў дачыненні да аўтара лістоў, шкоду маральнаму клімату ў горадзе ад уласнае дзейнасці ў выглядзе пастаяннага, з дня ў дзень, нагнятання атмасферы страху і цкавання.*

Адной з «важных» задач кіраўніцтва новастворанай суполкі стала выцясненне нашай арганізацыі з інфармацыйнай прасторы, у прыватнасці, са старонак дзяржаўных мас-медыяў. Што і было неўзабаве паспяхова зроблена. З трох афіцыйных газет Віцебска ў гэтым плане далей за ўсіх удалося супрацьстаяць націску ідэалагічных структур «Віцьбічам» – да 24 снежня 2006 года, калі газета надрукавала з блаславення намесніцы рэдактара Н. Конахавай маю нататку-віншаванне Міхасю Мірановічу з нагоды яго 60-годдзя, у якой згадвалася прыналежнасць юбіляра да Саюза беларускіх пісьменнікаў. Гэта была апошняяе згадка пра нас у мясцовых дзяржаўных СМІ. І каб не недзяржаўныя «Витебский курьер» і «Віцебскі праспект», журналісты якога Таццяна Чабатарова і Зміцер Казакевіч разам з радыёжурналісткай Аленай Сцяпанавай рэгулярна выяўлялі зацікаўленасць нашымі справамі і падачай іх чытачу, магло б скласціся ўражанне, што нас наогул ужо няма. Штучна створаны ў рэгіёне вакол нашай суполкі інфармацыйны вакуум да нядаўняга часу ў пэўнай ступені дапамагалі нам кампенсаваць сталічныя СМІ.

А тым часам аддзяленне СБП не толькі захавалася, а працягвала (і працягвае па сённяшні дзень) даволі плённа, наколькі гэта магчыма

ў атмасферы пастаяннага замоўчвання і ціску, працаваць. Насуперак прагнозам людзей, схільных заўсёды трымаць нос па ветры, у нас аказалася няшмат перабежчыкаў — менш дзясятка чалавек. Дзякуючы гэтаму, а таксама прытоку новых сяброў наша колькасць вось ужо колькі год стабільна трымаецца на лічбе 25. Па-ранейшаму, хоць і не так часта, як у мінулыя гады, нас запрашаюць, ігнаруючы згаданы вышэй сумнавядомы ліст міністра адукацыі, у школы і бібліятэкі. Мы зладзілі літаратурныя конкурсы для маладых літаратараў да ўгодкаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча і аўтобусныя вандроўкі на радзіму класікаў, правялі некалькі тэматычных вечарын, узялі ўдзел у штогадовым святкаванні дня народзінаў Васіля Быкава на Ушаччыне, выдалі рэгіянальны беларускамоўны зборнік паэзіі «Ад ніў Прыдвінскіх» (20 асобнікаў якога, дарэчы, адразу па выхадзе ў свет у 2009 годзе прэзентавалі бібкалектару Віцебска для перадачы ў бібліятэкі, дзе яны праляжалі з невядомых нам прычын без руху амаль два гады). На жаль, адзінай у горадзе бібліятэкай, дзе мы яшчэ можам, згадваючы адкрыта сваю прыналежнасць да апальнага саюза, ладзіць мерапрыемствы, звязаныя з ушанаваннем памерлых літаратараў, і розныя юбілейныя вечарыны, з'яўляецца аддаленая ад цэнтра горада бібліятэка імя Еўфрасінні Полацкай. Толькі ў мінулым, 2010 годзе, мы наладзілі ў ёй, дзякуючы падтрымцы дырэктаркі Ліліі Арцюх, юбілейныя імпрэзы Яўгеніі Мальчэўскай (пасмяротна), Уладзіміра Папковіча, Рыгора Барадуліна. Да нядаўняга часу такія акцыі ладзіліся намі ў зале беларускай літаратуры абласной бібліятэкі, але пасля таго, як была пераведзеная ў іншы аддзел яе загадчыца, неабыякавы да беларушчыны чалавек Ірына Фёдарава, справа змізарнела.

Як бачым, аддзяленне, хоць, відавочна, і не так спраўна, як калісь, але ж існуе. Усё гэта выклікае незадаволенасць тых, хто хацеў бы паставіць на нашай дзейнасці тлусты крыж. Асабліва раздражняе апошніх згадванне нашых імёнаў у прэсе. А больш за ўсё не дае спакою памяць людская пра бурнае наша, насычанае скіраванымі на выхаванне ў дзецях і дарослых актыўнай грамадзянскай пазіцыі мерапрыемствамі, паважлівасцю і інтэлігентнасцю ў абыходжанні з людзьмі (што па сёння многія з удзячнасцю настальгічна ўзгадваюць), мінулае. Адсюль — і рапуха зайздрасці, і лямант. І зразумела: сваю суполку сяк-так стварылі, а вось выканаць замову на поўнае выдаленне з творчай прасторы калег-апанентаў нават пры наяўнасці наймагутных «тылоў» так і не далі рады. І ніколі не дадуць.

***4 ліпеня 2007 г.***

*Землякі запрасілі ў Мёры на святкаванне Дня горада. Супрацоўніца аддзела ідэалогіі, прыемная беларускамоўная жанчына, відаць, напалоханая кімсьці з вышэйшага начальства адыёзнасцю маёй асобы, пасля доўгага, пільнага прыглядання ды незразумелага муляння раптам кажа пад сканчэнне мерапрыемстваў: «Вось жа назірала ўвесь дзень за вамі, назірала: ну, нармальны ж вы чалавек. Нічога не разумею, далібог». Знянацку заспеты, і адказаць напачатку на гэткі пасаж не знайшоў чаго.*

Ад самага пачатку вэрхалу з утварэннем СПБ з сябрамі нашай суполкі, як і паўсюль у краіне, праводзілася «праца» па агітацыі да перабежніцтва. Прапановы перайсці ў новастворанае праўладнае «дзіця» атрымалі Алена Гінько, Лявон Неўдах, Аркадзь Нафрановіч і іншыя. Усе яны, за выключэннем некалькіх чалавек (якіх і агітаваць асабліва не было патрэбы), нягледзячы на беспрэцэдэнтны ціск уперамешку з завабліўымі пасуламі ды намёкамі на ўсялякія прэферэнцыі, зрабіць гэта катэгарычна адмовіліся. Апагею ж «агітацыйная праца» віцебскіх уладаў на замову чыноўнікаў са сталіцы, як і паўсюль у краіне, дасягнула ў нас на пачатку сакавіка 2010 года. 4-га сакавіка, у адзін дзень з паўзамі не болей за чвэрць гадзіны мне патэлефанавалі па старой памяці (выбары новага кіраўніка аддзялення па маім 10-гадовым старшынстве ў нас прайшлі яшчэ ў лістападзе 2009-га) Уладзімір Міхно з Чашнікаў, Віталь Гарановіч з Глыбокага, Пятро Ламан і Міхась Мірановіч з Віцебска і распавялі пра размовы з імі наконт іх членства ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў у звязку з тэмай працаўладкавання. Наўпрост пра выхад з СБП пасля фармальнага спраўджання, да якога саюза чалавек належыць, падчас тых размоваў не казалася, але падтэкст быў больш чым выразны: нічога, маўляў, супраць вас як працаўніка не маем, але ж самі разумееце, крый Бог што, дык... Згадваліся прозвішчы высокіх галіновых чыноўнікаў вобласці, якія нібыта павінны былі падаць паводле вынікаў тых размоваў справаздачы ў сталіцу сваім непасрэдным начальнікам. Справа, аднак, займела дзякуючы публікацыям у «Нашай Ніве» і «Народнай волі» гучны рэзананс у агульнабеларускім маштабе і была, як вядома, прыпыненая. На пытанне, чаму ж так бяздарна была арганізаваная тая агітацыйна-застрашальная кампанія, адна з абласных чыноўніц ад ідэалогіі сціпла адказала, што, канечне, памылка была дапушчаная. Маўляў, не след было біць гэтак — у лоб, а куды разумней было б праводзіць з літаратарамі мэтанакіраваную «растлумачальную, асветніцкую працу». Усю жорсткасць такой «працы» я зведаў на сабе крыху пазней,

напрыканцы 2009-2010 навучальнага года. Той «працы», датычна якой якраз бы і дарэчы было прадэманстраваць адмысловы грамадзянскі імпэт ды высокую ўласную маральнасць дзяржаўнаму Грамадскаму савету па маральнасці – прыцягнуць да адказнасці вінаватых у здзеку з людзей і праследзе за погляды.

Асаблівасць любой дзяржавы з аўтакратычным стылем кіравання — лёгкасць, з якой яна, дзяржава, і тыя, хто ёю кіруюць, выходзяць з прававога поля. І згаданая сакавіцкая 2010 года «агітацыйная» акцыя вельмі добра гэта засведчыла. Старшыня абласной пісьменніцкай суполкі падае спісы яе сяброў падчас перарэгістрацыі толькі ў мясцовы аддзел юстыцыі. То якім чынам трапляюць яны на сталы галіновых чыноўнікаў? Наступствам жа такой лёгкасці, у сваю чаргу, з'яўляецца лёгкасць пераймання гэткага стылю паводзінаў шараговымі грамадзянамі. Трэба думаць, сама ж дзяржава неаднойчы ў будучыні аб сваё пачварнае спараджэнне і спатыкнецца: што пасееш, вядома, тое і пажнеш.

Я склаў паўнамоцтвы кіраўніка аддзялення напрыканцы 2009 года. 10 гадоў кіравання грамадскай суполкай – дастатковы тэрмін і каб дарэшты стаміцца ад штодзённага знаходжання ў эпіцэнтры змагання творчых самалюбстваў, і каб узбагаціць свой жыццёвы досвед высновай аб шкодзе аб'яднанняў у творчым асяродку наогул. Тым больш на ўзроўні дзяржаўным. «Дзяржава не павінна быць павітухай для літаратараў«, — пісаў В. Вальзер, маючы на ўвазе літаратараў маладых, і я з ім цалкам згодны і датычна прадстаўнікоў вольных прафесій наогул. Ужо калі аб'яднанне – то хіба што, можа, кшталту масонскай ложы. Іншая справа, што ва ўмовах краіны з такой ступенню размытасці крытэрыяў нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, як наша, грамадскае творчае аб'яднанне непазбежна выконвае, апроч уласна творчых, і іншыя функцыі. І яны, гэтыя фунцкыі, так важныя ў кантэксце нацыятворчасці, што ігнараванне іх паводле азначэння немагчымае.

У немалой ступені да майго рашэння пакінуць кіраванне аддзяленнем прычыніліся, як ні падасца гэта дзіўным, і літаратары-аднадумцы. Такую арганізацыю, як Саюз беларускіх пісьменнікаў, паўсталую на грунце адданасці яе членаў нацыянальнай ідэі, разбурыць (не зачыніць сілавым ціскам, а менавіта разбурыць) можна толькі знутры. Асабліва небяспечнымі ў гэтым плане падаюцца асобы з начальніцка-літаратарскага асяродку. Не жадаючы губляць твар праз выхад з суполкі, то бок здраду паплечнікам, яны з часам немінуча пачынаюць чакаць, што ўсё счэзне міжволі і цяжкая задача выбару паміж сумленнем і добрым заробкам знікне сама сабой. Аднак

у чаканні такой развязкі яны нямала папсуюць крыві іншым. «Мы ёсць, ці нас няма? – не прамінуць запытацца пры нагодзе ў кіраўніка грамадскага аб'яднання, хоць і выдатна ведаюць, што пытанне больш чым некарэктнае і адрасаваць яго мае сэнс найперш сабе. Пры гэтым такія ўласныя дробныя «грашкі», як перасцярожлівы няўдзел у з'ездзе ці сходзе, дыстанцаванне ад грамадскіх справаў і ўчорашніх аднадумцаў у прыватных размовах са староннімі і, наадварот, удзел у мерапрыемствах пад сцягамі чужынскімі, як правіла, пад увагу падчас задання згаданага вышэй сакрамэнтальнага пытання (дык ёсць мы ці не?) не бярэцца. Думаю, і Вольга Іпатава гэткіх пытанняў у свой час дастаткова наслухалася, і Алесю Пашкевічу з Барысам Пятровічам яны добра вушы прагудзелі. Адна толькі вытрыманая ў гэткім ключы публікацыя ў «Народнай волі» пад назовам «Мільянеры-жабракі» за 7-9 верасня 2010 года чаго вартая. Дадамо да сказанага несувымерныя з талентам творчыя амбіцыі некаторых літаратараў, і карціна стане канчаткова зразумелай. У параўнанні з перабежчыкамі 1-й хвалі, часу ўтварэння новай літсуполкі, для якіх скасаванне Саюза беларускіх пісьменнікаў з'яўляецца жаданым таму, што хоць крыху знівелявала б іх саромна-апартуністычны ўчынак, такія людзі на пэўным этапе развіцця падзей для справы нават больш небяспечныя.

Мой стаж працы ў Віцебскім тэхналагічным універсітэце складаў агулам каля 20 гадоў. Працуючы апошнія гады ў ВНУ на крыху больш як палову стаўкі і не атрымаўшы ў сакавіку аніякага пазову на размову да кіраўніцтва датычна прыналежнасці да Саюза беларускіх пісьменнікаў, я, канечне ж, быў у недаўменні. Што такое, няўжо махнулі рукой? І дарэмна. Ужо ў сярэдзіне чэрвеня адчуў вакол сваёй асобы нейкі рух, які ўрэшце выліўся ў размову з прарэктарам Малашанкавым з нагоды маёй адсутнасці напрыканцы чэрвеня на кафедры ў той час, як аднаму са студэнтаў-абібокаў пагражала адлічэнне з-за акадэмічнай запазычанасці. Студэнт быў, мякка кажучы, ніякі, і я падрабязна выклаў тое ў тлумачальнай цыдуле. Што, аднак, прарэктару абыходзіла, як я зразумеў, менш за ўсё, бо найперш меў для яго вартасць сам прэцэдэнт, які, мяркую, быў ім жа (а можа, і яшчэ кім, хто ж прызнаецца: заплечных справаў майстра – заўсёды інкогніта) і інспіраваны. «Чым звальняць вас паводле артыкула, пішыце лепш заяву па ўласным жаданні», — не даўшы сабе клопату ўвайсці ў становішча калегі (я займаўся на той час тэрміновым лячэннем зубоў у прыватнага доктара), прыступіў да справы гэты ціхмяны з выгляду чалавек з абароненай, трэба меркаваць, кандыдацкай. Выдатна разумеючы, што словы прарэктара — блеф, я адказаў, што згодны на звальненне паводле

артыкула. Але так звольніць мяне не атрымлівалася: я працаваў ва ўстанове на няпоўную стаўку, штодня быць на працы, паводле элементарнай логікі, быў не абавязаны, ды і дысцыплінарных спагнанняў дагэтуль ніколі не меў. Наадварот, заўсёды з'яўляўся ўранні на працу – сталая настаўніцкая звычка – самае малое за паўгадзіны да пачатку заняткаў, напрыканцы семестра здаў для друку напісаную ў суаўтарстве з выкладчыцай кафедры метадычку па адной з праграмных тэм, штогод арганізоўваў з ліку першакурснікаў даволі прафесійныя дэкламатарскія групы для выступу падчас канферэнцый і мерапрыемстваў гарадскога маштабу. Але гэта, падобна, прарэктару было зусім нецікава. Ягоная задача як куратара ідэалагічнай працы ва ўстанове ў адносінах да мяне палягала ў зусім іншым і зусім прадказальным накірунку.

Спавешчанне пра тое, што я буду звольнены з універсітэта напрыканцы лета ў сувязі са сканчэннем тэрміну кантракта, я атрымаў праз два тыдні па размове з прарэктарам, калі пайшоў у адпачынак. Можна ўявіць, што то былі для мяне за «канікулы». З'яўляючыся літаратарам з ліку тых, для каго, каб больш-менш плённа працаваць, пастаянна патрэбны допінг у выглядзе экстрэмальнай сітуацыі, ды засеўшы на два неймаверна спякотныя месяцы за кампутар, я, без перабольшання, аказаўся ўпершыню ў жыцці літаральна пераламаны напалам. Што значыць застацца без заробку за два з паловай гады да выхаду на адпачынак? Куды ўладкавацца, куды кінуцца ў становішчы суцэльнай аблогі? У сувязі з гэтым міжволі ўзгадваюцца развагі некаторых дзяржаўных мужоў аб укараненні ў нашым жыцці ды побыце еўрапейскіх каштоўнасцяў як аб пагрозе небяспекі страты маралі і нацыянальных каранёў. Ці ім пра тое гаварыць? Асабліва дзеячам ад адукацыі, сістэмы, якая на сённяшні дзень якраз знаходзіцца ў авангардзе эскалацыі жорсткасці і бесчалавечнасці ў адносінах да чалавека. Той сістэмы, дзе за 10 тысяч рублёў дабаўкі да пенсіі які-небудзь сапсэлы кіраўнік-пенсіянер (а якраз пенсіянеры найчасцей сёння і кіруюць, бо выгодныя ўладзе) без згрызотаў сумлення сапсуе жыццё дзясятку падначаленых і не папярхнецца. Зразумела, усё гэта ён зробіць на тле енку аб дбанні пра інтарэс уласных дзяцей і ўнукаў. Сёння я, вернік і педагог з 30-гадовым стажам, адышоўшы збольшага ад стрэсу ў сувязі са стратай працы, якую заўсёды любіў і да якой ставіўся з неўдаваным піетэтам, памяняўшы дошку з крэйдаю і асадку ў тлумнай аўдыторыі на рыдлёўку і венік на вольнай прасторы прыкасцёльнага дзядзінца, кожнаму, хто хоць аднойчы прычыніўся да пераследу людзей гэткім чынам, хто стварыў у краіне атмасферу духоўнай мярзотнасці і

бессаромнасці, сардэчна зычу аб тую атмасферу аднойчы як можна больш балюча выцясціся-спатыкнуцца. І тым, хто непасрэдна ўчыняе гвалт над людзьмі, і, найперш, тым, хто за ўсім гэтым стаіць. Зычу гэта, выдатна ўсведамляючы адказнасць за свае словы перад Богам. І справа не толькі ў тым, што ўшчэмленая годнасць патрабуе сатысфакцыі.

***22 студзеня 2011 г.***

*Вось і спатыкнуліся-выцяліся, здаецца – адзін, другі – дзеячы абласнога маштабу. Як ім балюча, як прыкра – гатовыя з інфарктам (вядомыя хітрыкі) палегчы ў шпіталь ад невыноснасці факта пазбаўлення заробку. І гэта пры тым, што даўно, як тыя шведы кажуць, пенхунэры і ўжо сяк-так не памерці з голаду, беручы прыклад і з нашмат бяднейшых суграмадзянаў, маглі б даць рады. Зрэшты, вось ужо і далі, уладкаваліся на цёплыя месцы. І будзе такая брыда займаць тое месца да скону і псаваць людзям крой.*

Я забраў у аддзеле кадраў універсітэта сваю працоўную кніжку 31 жніўня, напярэдадні пачатку новага навучальнага года. «Вас, видимо, всё-таки «ушли»?» – спытала жанчына з выхаваўчага аддзела, якая ў гэты ж дзень звальнялася паводле ўласнага жадання. – «Адкуль вы ведаеце?» – пацікавіўся. – «А хіба цяжка здагадацца?» — быў адказ. Сапраўды, дамоклаў меч цяжкасцей з працаўладкаваннем у сістэме адукацыі я адчуў упершыню яшчэ гады 4 таму, падчас падпрацоўкі ў абласным аб'яднанні пазашкольнай працы. Тады я страціў мізэрныя, але такія важныя для мяне на той момант капейкі з ласкі чыноўніцы ад асветы, якая не паленавалася выклікаць супрацоўніка ўстановы ва ўпраўленне адукацыі і ўчыніць разнос за тое, што ўзялі мяне весці гуртох з вучнямі сярэдніх класаў. «Как может такой человек работать в университете?» – абуралася пазней прылюдна, маючы на ўвазе маю персону, другая вядомая ў горадзе штатная змагарка з іншадумствам, і, думаю, абурэнне яе і да яе падобных, падагрэтае няўрымслівай зайздрасцю прыкарытных вяршыцеляў лёсаў людзей у немалой ступені і з'явілася тым грунтам, што зрабіў надалей маю прысутнасць у сістэме адукацыі немагчымай.

Гэта мне, звыкламу да рэжыму жорсткай эканоміі ва ўмовах пастаяннага выбару паміж больш-менш прыстойным заробкам і займеннем вольнага часу для творчасці, ды яшчэ адзінотніку ў дадатак, можна сяк-так пражыць і на самыя смешныя грошы. А што рабіць у такой сітуацыі людзям сямейным і меней прыстасаваным да адаптацыі ва ўмовах штучна створаных рознай поскуддзю жыццёвых

непярэлівак? Можна колькі заўгодна папракаць творчых людзей у інфантылізме, адсутнасці прадпрымальніцкай жылкі як запарукі вольнага існавання, ды ўсё гэта – або ад д'ябла, або ад жадання пазбегнуць прамога адказу на пытанне, дзе яно, чалавечае, і дзе пачынаецца свінства.

***9 ліпеня 2010 г.***

*Уключыў тэлевізар з трансляцыяй адкрыцця «Славянскага базару», а там – на ўвесь экран – пастава аднаго з высокіх наглядчыкаў ад адукацыі. У пінжаку, пры гальштуку ў 30-градусную спёку: начальнік. Галавой круціць, як лялька-марыянетка, і пуза неабдымнае сваё пагладжвае, і вачыма па баках раз-пораз пуляе. Ды падскоквае, бы на спружынах, ды азіраецца ўсё навокал, азіраецца… Зразумела: юр дзядзьку апанаваў, разняволіцца карціць хоць рады ў гады, а боязна ж, раптам хто ўбачыць ды прыпіша «неадпаведнасць». Быццам не чуў ніколі: варона вароне вока не выдзяўбае.*

***28 лістапада 2010 г.***

*21 лістапада зладзілі вечарыну ў гонар 80-годдзя Уладзіміра Караткевіча. А сёння разам з Лерай Сом знаходзімся ў Оршы невялічкай групай з 8 чалавек, аб'яўляем у музеі вынікі праведзенага абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў літаратурнага конкурсу для моладзі ў гонар юбілею земляка. Вельмі добра, сардэчна прынялі ў музеі. Спытаў, чаму не запрасілі на афіцыйнае мерапрыемства – паціснулі плячыма: «Вы ж разумееце, павінны разумець, чаму…».*

«Ці варта выпраўляць чалавека, чые заганы невыносныя для грамадства? Ці не прасцей вылечыць ад хіжасці душэўнай тых, хто яго трывае?» – пісаў у дзённіках згаданы на пачатку гэтага эсэ Л. Талстой, відавочна аддаючы перавагу чыну другому. Што скажаш: і мудрацы могуць быць ідэалістамі.

Прыдворныя пісакі ёсць паўсюль. У некаторых краінах носьбітам той прыдворнасці, як у Вялікабрытаніі, напрыклад, нададзены афіцыйны статус – паэта-лаўрэата. Ды наўрад хоць адзін з закардонных лаўрэатаў пераплюне нашых прыкарытных у памкненні запоўніць сабою дазвання літаратурную прастору краіны. Але што ж тут зробіш, як гэтак карціць апошнім пісаць на замову нават у часы, калі ўсё найбольш значнае ў айчыннай літаратуры, насуперак іх амбіцыям і імпэту, відавочна ствараецца па-за кантэкстам

дзяржаўнай, афіцыйнай падтрымкі. Што скажаш, калі сінкразія творчая — гэткі ж неад'емны складнік прафесіі, як і сінкразія звычайная, фізічная – складнік жыцця наогул. То пішма, таварышы! Закідайма краіну на дараваныя ўладаю ўзамен на бязмежную адданасць грошы бессаромнымі даносамі і «сердечными», «вдохновенными», «удивительно нежными» творамі! Гэта няважна, што ў трох радзімах, бы ў трох хвоях, творцы заблукалі. Усё адно ж: чым больш напішам, тым шчаслівейшы будзе наш, беларускі народ!

## Хата.

*Эсэ*

І вось яна ляжыць, сціснутая з усіх бакоў купкамі хмызу і пустазелля, што так і пнуцца на падмурак у надзеі на пашырэнне жыццёвае прасторы, ды з утрапёнай абыякавасцю вырачанага на непазбежную паразу ваяра ўзіраецца ў неба дзіркамі комінаў. Надзіва, нічым з таго, што ўяўляў ты ўчора, да чаго рыхтаваў сябе напярэдадні гэтае першае ад дня пажару вандроўкі да роднага папялішча, яна, навекі прыбітая воляю стыхіі да долу, не ўражвае. Хіба што памерам — са знакам мінус. Такая вялікая, нават аграмадная яшчэ не так даўно, на тле не тое што нейкіх там прадаўніх, ад гадоў маленства, згадак-успамінаў, а нават мінулагодняга лета, калі ты, заспеты навальніцаю, мусіў заначаваць тут у самоце ды слухаць потым да рання, як шкрабецца ў пазасценні ўсцешаная тваёй прысутнасцю, то бок спадзевам на сякую-такую спажыву, мыш, цяпер яна, вузкі, аблямаваны камянямі падмурка чатырохкутнік з рэштаю абгарэлага бярвення абапал, і пятае часткі дывана ў вестыбюлі якой-небудзь сярэдненькай установы наўрад заняла б.

І гэта яна, твая бацькоўская хата на восем вокнаў, беганіна між якімі ў час гульні ў хованкі нагадвала калісь па працяглацсі ледзь не выправу ў грыбы ці па венікі ў бярэзнік на тым баку ракі?

Бездапаможная, як састарэлая львіца, што дала-такі рады выштурхнуць з улоння апошняе дзіця, запаруку дабрабыту роднага прайда ў прышласці, але ўжо наўрад дабярэ моцы выгадаваць яго, яна ляжыць пасярод абкружанай хмызам ды быльнягом пожні і абыякава дэманструе кожнаму, хто ні пажадае сюды забрысці, свае абгарэлыя, спачвараныя полымем вантробы.

Дзве жалязякі-рабрыны – два полюсы ложка, што перамаглі-такі дзякуючы вогненнай стыхіі непераадольную напятасць каркаса і ўрэшце зліліся ў доўгачаканых абдоймах, як рабілі гэта калісь на

зайздрасць ім тады маладыя яшчэ, поўныя жарсці гаспадар і гаспадыня. Спружына канапы, што згарнулася вужакай, ратуючыся ад агню, ды так і не скарылася ціску барбарынскае моцы Сварога, засталася пры вызначаным аднойчы і назаўжды — трыццаць год таму — гаспадыняй месцы наўзбоч вакна.

Два коміны – колісь два маякі, што ў любую, нават самую шарую пару шугалі дымам па-над прысадамі ў памкненні калі не дарэшты затуліць цябе ад жыццёвых непамысьнотаў, дык хаця б адцягнуць ад іх тваю ўвагу, а зараз увадначас парабіліся сімваламі марнасці спадзеву на якую-кольвек надзейнасць быцця ў прышласці.

Плойма іншых, менш заўважных, ды не менш сімвалічных, а часам нечаканых – адкуль узяліся, здаецца, ніколі іх раней тут не бачыў — рэчаў-прычындалаў.

Дзясяткі дэталяў, кшталту той, да прыкладу, што падпол у кухні тваёй перарobленай паўстагоддзя таму на жытло са старой клеці хаты меў Т-падобную форму, а ты таго і не ведаў, бо ані разу ў той падпол не выявіў ласкі спусціцца: у дзяцінстве — з боязі быць праглынутым цемраю, у сталыя гады – з перасцярогі спэцкаць у той цемры чыстыя свае, не абсіверaныя клопатам непасільнае працы ды не спярэшчаныя прыкметамі бясконцых сялянскіх цярпенняў рукі.

Цені прадметаў, абрысы і месца знаходжання якіх адно высілкам уяўлення магчыма ўжо ўзнавіць у памяці: калаўрот ды патэфон на гарышчы, жорны ў падпечку, ды абразы, ды фотаздымкі, ды партрэты, шпулечніцы ды голачніцы на сцяне — усяго не пералічыць.

Хата згарэла паўгода таму, і двое сведкаў яе дачаснага скону, апошнія насельнікі вёскі, якія ўсё зрабілі, каб ўратаваць нябогу ад агню, цікуюць за табой, пакуль ты робіш экскурс ва ўласнае мінулае, з-за напалову абгарэлай арэшыны. Цікуюць ды пахітваюць дакорліва галовамі, мабыць, згадваюць той двухгадовае даўніны гандаль з пакупнікам, калі ўжо і пра кошт дамовіліся, але ты напрыканцы, стрыманы асцюкамі сумлення, – як-ніяк роднае котлішча — так і не наважыўся скарыстацца нагодаю больш-менш выгодна прадаць яго, пакінуў за сабою. Пакінуў з намерам хоць зрэдчасу, хоць калі-нікалі наведвацца, ды так ні разу той намер, за выняткам згаданага мінулагодняга лета, і не ажыццявіў.

І вось яна ляжыць перад табою — няпэўная, як прывід, бездапаможная, як немаўля. Дзіця, што не навучылася яшчэ прамаўляць, старэча, якому словы ўжо без патрэбы. Увасабленне адвечнае дваістасці ўсяго існага: нібыта твая яшчэ паводле права, ды насамрэч – ужо не твая. Кампенсаваная скупымі купюрамі ад

страхоўкі страта – апошні, пасмяротны дарунак бацькоў недарэкам дзецям.

## Істоты нябесныя.

*Эсэ*

Любоў да птушынага царства спадарожнічае мне з дзяцінства. З таго дня, як мы з бацькам, падахвочаныя прыкладам суседа, выправіліся да аборы ставіць на галубоў сіло з конскага воласу, я не магу абыякава прайсці міма ніводнага птушынага кагалу. Магу назіраць за птушкамі гадзінамі, і такі бязмэтны, бессэнсоўны, на першы погляд, занятак заўсёды, незалежна ад перападаў надвор'я ці настрою, пакідае ў маёй душы трапяткое адчуванне радасці ад дотыку да таямніцы недасяжнага.

Галубоў мы ў той дзень не ўпалявалі, але ўласцівая сялянскаму асяроддзю прыхільнасць да ўсяго каляровага ды блішчастага была цалкам задаволеная ўва мне іншымі, куды больш экзатычнымі, чым галубы, палоннікамі — чырванагрудым снегірам і дзвюма сініцамі. Птушак мы, вядома ж, неўзабаве адпусцілі. І трэба было бачыць, як асцярожна наш бацька, чалавек добры, хоць далёка не чуллівы і не надта каб пабожны, вызваляў сваімі каструбаватымі пальцамі з валасяных пелек іх тонкія, аздобленыя карункамі кіпцюрыкаў лапкі.

З усіх праяваў птушынага быцця мне найбольш падабаецца назіраць працэс кармлення. Вераб'ёў, якія ласуюцца ўсёю чародкай на гарадскіх чэзлых пожнях семкамі саспелых к восені траваў і красак. Ці стрыжоў з іх адметным паляўнічым почыркам, што робіць іх падчас палявання на казюрак падобнымі да рыбіны: цікаванне, прабежка, кароткі імклівы рывок, жаданы наедак. Альбо качак, што, кульнуўшыся перадам у каламутную ваду азярка ці става ды штосьці там у ёй адшукаўшы, без залішняй сарамлівасці ды боязі быць абвінавачанымі ў празмернай схільнасці да эксгібіцыянізму дэманструюць выпадковаму назіральніку свой ледзь збольшага прыкрыты пёркамі азадак. Усе пры справе, у клопаце пра хлеб надзённы, шчыруюць ад цямна да цямна. І не дзіва: харч, хоць і дармовы, даецца птаству куды як нялёгка. Можа, таму і гультаёў сярод птушак, у адрозненне ад нас, людзей, няма. Як і начальнікаў, відаць, таксама: шукаць спажыву, не шукаць – асабістая справа кожнага, а пэўная іерархія калі і існуе, то найперш у інтарэсах усяго птушынага брацтва, то бок, калектыўнай бяспекі. Адзінае, што,

здаецца, птушку з чалавекам родніць, — гэта нязводная схільнасць да крадзяжоў.

Але асабліва захапляе мяне назіранне за варонамі. Невядома, чым гэтак правінілася гэтая птушка перад нашым слынным класікам, што ён наважыўся зраўняць з ёю ў сэнсе разумовых здольнасцей дурнога мужыка, але ягонае параўнанне – безумоўны камплімент апошняму. У гэтым я ўпэўніўся нядаўна, ідучы пасля дажджу паўз скверык да свайго дома.

Было цёпла, змучаныя доўгаю жніўеньскай сухменню галубы апантана купаліся ў неглыбокай лужыне, змывалі з пёраў прыкарэлыя выдаткі штохвіліннага летняга дбання пра правізію для вечна галодных нашчадкаў. Іх было шмат, і яны нагадвалі гурт першахрысціянаў ля купелі для абмывання. Раптам усе яны дружна, бы па камандзе, узняліся ў паветра ды рассыпаліся куды каторы. А да лужыны тым часам спусцілася з прагалку ў шатах дрэваў прычына пярэпалаху — варона са скарынкаю ў дзюбе. Яна дзелавіта кінула скарынку ў ваду, пуляючы па баках вачыма, пачала чакаць, калі тая размякне і можна будзе яе з’есці без лішняе мітрэнгі.

Нарэшце варона праглынула размяклую скарынку, абцерла дзюбу аб траву, паляцела далей па сваіх справах. Я думаў, што вось зноў вернуцца да лужыны працягваць купанне галубы, але памыліўся. Ніводнага аматара перадвосеньскага купання паблізу не было. Затое праз колькі хвілін прыляцела тая самая варона – з новаю скарынкай. І гэтак паўтаралася некалькі разоў.

Аднак не заўжды стасункі мае з птушкамі мелі гэткі ідылічны характар, як зараз. Адзін выпадак з падлеткавага ўзросту дасюль поўніць мяне вусцішам. Вусцішам, па-за межамі якога любы адказ на пытанне «чаму?» падасца не менш рытарычным, чым само пытанне.

Забава была такая: падкрасціся як мага бліжэй да купкі вераб’ёў, шпурнуць у яе палкай ці прэнтам, цаляючы не ў адну якую-небудзь асобную птушку, а ва ўвесь гурт адразу. У каторую небараку патрапіш, той і капцы, вядома, — дзіцячая жорсткасць яшчэ тая.

Я пацэліў, усе вераб’і ўзляцелі, і толькі адзін застаўся ляжаць на месцы дагары нагамі.

Я падняў нерухомае цельца і ўбачыў заплылае чырванню ад удару птушынае вока, нежывое, як барвовая крапіна каросты на здаровай плоці сакаўнога восеньскага яблыка. Верабей таргануўся раз-другі ў маёй руцэ, быццам у спадзеве на цудоўнае ацаленне, і ацiх дарэшты. Шкадаванне, што я дарэмна загубіў няшчасную птушку, ахапіла мяне. Але раптам, акурат у той момант, калі я ўжо хацеў кінуць вераб’я, ён зноў варухнуўся на далоні, дрыгнуў нагамі. Хваля радасці

ўзнялася ўва мне, пагнала да бліжэйшай арэшыны. Я ўссадзіў птушку на самую вышэйшую, да якой толькі мог дацягнуцца, галінку, адышоўся воддаль. Азірнуўся: верабей пасядзеў хвіліну на галінцы, успырхнуў у паветра, жвава паляцеў з арэшыны ў паддашак пуні.

Нежывое, што неўспадзеў (ды на шчасце) ажыло, – мабыць, ён, той даўні выпадак, найболей прычыніўся да маёй сённяшняй прыязнасці да ўсіх птушак на свеце. Такой нястрымнай, што яна нават часам правакуе ўва мне недаравальнае з пункту гледжання законаў натуральнага адбору ўмяшальніцтва ў птушыныя справы.

Нядаўна, вяртаючыся з працы, я раптам заўважыў за некалькі крокаў ад сябе, ля кантэйнера са смеццем нейкі дзіўны вэрхал сярод чарады галубоў. Але вось галубы порстка ўзляцелі, і ля скрыні застаўся вялікі руды кот з бездапаможным птушыным целам у зубах. Зладзеявата пазіраючы на нечаканую перашкоду ў асобе не на жарт раззлаванага мяне, ён з яшчэ большаю жарсцю ўпіўся зубамі ў цела ахвяры, стрымгалоў памчаўся за рог дома. Я кінуўся следам, і, дзіва, кот, не даўшы розуму, што рабіць са здабычай, бо яму наперарэз акурат кінулася з нядвухсэнсоўным намерам адабраць голуба плойма іншых катоў, выпусціў яе з пашчы. А бедны палоннік, што неяк надта ж хутка апрытомнеў, успырхнуў у паветра, паляцеў сабе далей ад небяспечнага месца.

Не ведаю, наколькі любоў да птушак характарызуе ступень нашай чалавечнасці, але што птушак любяць многія – факт. Ды нават калі гэткі факт і мала выяўляе душэўную сутнасць той ці іншай асобы – усё адно ён усцешвае.

«Ну, сказаў жа я вам: няма сёння семак у мяне, няма!» – з роспаччу ў голасе – ці то ад таго, што насамрэч іх, тых семак, няма, ці то ад таго, што немагчыма пераканаць у гэтым сваіх нямых пярэстых, шызых ды белых суразмоўцаў – даводзіў нецвярозы дзядзька, сталы наведнік кропкі прыёму шклотары з добраму дзясятку галубоў, што, звыклыя, відаць, да пачастунку, так і ляпіліся да ягоных брудных рук, садзіліся на плечы, лапочучы крыллем у чаканні семак, адно ў вочы не зазіралі. Ужо і чалавечага, здаецца, у чалавеку – кот наплакаў, а вось жа...

Можа, таму, што птушкі – усё ж болей нябесныя, чым зямныя, істоты, нас яны гэтак прываблваюць? Ці не таму кожнае іх з'яўленне побач з намі гэтак надоўга застаецца ў нашай абцяжаранай штодзённымі турботамі памяці, што кожнага разу падсвядома чакаем ад іх, маючы за прыклад галубоў Марыі, нейкай добрай весткі?

Памятаю буслоў у калысцы сваёй, Міжрэччы. Таго небараку, што выходжвалі ўсёю вясковаю грамадой пасля таго, як выкуліўся

падчас буры з гнязда ды і застаўся пры людзях да восені, пакуль не нахапіліся прымаразкі. І таго, што так і не здолеў наладзіць новае сужэнства пасля гібелі сяброўкі і з дакладнасцю гадзінніка штогод адбіваў на пачатку вясны ў асірацелым, змізарнелым гняздзе сумныя памінальныя акорды.

Ці гэтага вось, што трапіўся на вочы на старадрэвіне ў глухім закутку воддаль ад чалавечага жытла. Ён – на дрэве пасярод кустоўя, паблізу, на слупе лініі электраперадач — тры галавы па-над гняздом — дзеткі, значыць. Голас падаў, мяне ўбачыўшы, і як не было тых галоваў, так спрытна зніклі з поля зроку, рупным бацькам ці то маткаю пра прысутнасць чужога папярэджаныя.

А яшчэ дзіва – калі птушка раптам неўспадзеў у жытло ўляціць. І без розніцы, будзе то прынаджаны цяплом зляцелы ў прочкі суседскі ара, ці затлумленая пагоняю за жамярынай ластаўка, ці заваблены няведама чым малады верабей. Прачнешся ўранні ад незразумелага гуку, хіснешся спрасоння на балкон, а там яна, дурніца, трапечацца, б’ецца аб шкло, волю нанова здабыць імкнучыся. Возьмеш у жменю ды і выпусціш у звыклую стыхію неба да радасці дзіцяці ў вакне дома насупраць. І так неўспадзеў, так выразна адчуеш у тую хвіліну, які вялікі Божы свет, і якія мы у ім усе, што людзі, што іншыя істоты, – малыя.

**Цягнік жыцця.**
*Запісы*

* * *

Бывае, пасля доўгага перыяду творчай занураннасці ў людзі выйдзеш і не ведаеш, як сябе паводзіць. Язык – абледзянелым глыжом у роце, сківіцы — як спалярушаныя, хоць абцугамі іх раздымай. Мітусня наўкола, беганіна, а табе не тое што акунуцца ў іх, а нават уцяміць, што тут да чаго, – рэч непасільная. Адвык за час самотніцтва ад да сябе падобных! На апісанне падобнага натыкнуўся ў расповедзе пра племя тарахумара, што ў мексіканскай пустэльні Сьера-Мадрэ-дэ-Ч’япас жыве. Людзі туляцца там у пячорах на такой адлегласці адзін ад аднаго, што тыднямі, месяцамі нікога не бачаць. А спаткаўшыся неўспадзеў з каторым з суседзяў, гэтак бянтэжацца, што не ведаюць, як распачаць размову. Здараецца, што, не даўшы рады адэкватна сябе паводзіць падчас сустрэчы, пачынаюць гаману, павярнуўшыся адзін да аднаго спінамі. Прывыкаюць такім чынам спакваля да прысутнасці побач з сабою другога чалавека, міміку-жэстыкуляцыю

даводзяць да ладу. Збольшага прывыкшы, паварочваюцца ўрэшце тварамі і пачынаюць нястрымна – выдаткі нервовага напружання — рагатаць. Комплекс самоты.

У дзяцінстве і юнацтве цяжка зразумець прычыну тых ці іншых паводзінаў дарослага чалавека. Сварыцца – значыць злы, скупы на слова – значыць маўчун, ваўкаваты і г.д. Даўмецца ж, што дарослы можа пакутаваць тымі ж хваробамі характару, што і дзіця, — завялікі цяжар. К., настаўніца, выдатнейшы знаўца прадмета, за каго ні была толькі ў сваіх вучняў, якія толькі заганаў яны ёй ні прыпісвалі. А яна ўсяго толькі і мела адну – крыўдлівасць. Тую, што з адзіноты зазвычай вырастае і ёю ж, адзінотаю, ды яшчэ няпэўнасцю, ці патрэбны ты хоць каму на свеце, сілкуецца праз усё жыццё.

У «Калосьсі» – Сахарчуковы чатырохрадкоўі, аказваецца, мне прысвечаныя. Бог мой, якая неспадзянка! Нібы папрок: «Хоць пазваніў бы мне сябрук, каб не наклаў я ўрэшце рук...». Прачытаў, і ўсё неяк па-новаму высвецілася ў гісторыі Васілёвага зыходу. Было падчас апошняй саракахвіліннай тэлефоннай размовы неабачлівае слова, якім міжволі, мабыць, падліў у агонь масла ды не надаў тады – ах, ці мала што! — значэння. Цяпер – асцюк дакору.

З дзяцінства — паводле Фрэйда амаль — успамін. Ноч. Мы з бацькам упобачкі на ложку, пад кажухам: зіма, у старой, пераробленай пад жытло з нейкае стадолы хаце сцюдзёна, няўтульна. Ціснуся да бацькі, спелячы спадзеў сказаць урэшце важнае, што вярэдзіць дзіцячую душу, да чаго рыхтаваўся не адзін дзень з надзеяй сустрэць калі не разуменне, дык хоць бы элементарную зацікаўленасць маімі справамі.

— А? Што табе? Спі!

Расчараванне. Крыўда. Горыч. І ўсё, што ні было потым у стасунках з людзьмі, — з драбком гэткае памяці.

Саракагадовае даўніны ўспамін. Цётка па хлеб у краму за шэсць вёрст, дачуўшыся, што быццам прывезлі ўрэшце, пайшла. Прыцягнулася сяк-так старая, дачакалася чаргі.

— Спазніліся вы, — прадавачка кажа. – Ад раніцы гандлюю, дык усё ўжо прадала, нічагуткі не засталося.

— А вунь жа пяць боханаў ляжаць адкладзеныя, — цётка паказвае на паліцу. – То дайце хаця б адзін.

— Ага, угледзела-такі! – маладзіца зазлавала. — Гэта для чалавека аднаго з сельсавета пакінутыя. Не, не магу даць, не прасіце.

— Ну, не дык і не, я ж папыталася толькі... Другім разам тады. Толькі папыталася…

Распавёў гэтае, пра цётку і хлеб, чалавеку маладзейшаму – плячыма той неўразуменна паціснуў: што тут такога? Маўляў, ну, не пашанцавала старой, не хапіла бохана, іншым разам купіць.

Уключыш іншы раз тэлевізар і сцепанешся ажно ад выгляду дыктара альбо вядоўцы: адзін словы праз зубы цэдзіць, быццам разняць іх з-за сліны ў роце як след рады не дасць, другі страхавітасцю пагляду палохае з экрана, трэці з такою фанабэрай ды пагардай патэнтаваныя казённыя дурноты вяшчае, нібы самога Бога за бараду ўхапіў. І адкуль гэтулькі ўсяго брыдкага, калі, паводле навукоўцаў, арганізм дарослага чалавека ўтрымлівае атрутных рэчываў, дастатковых усяго толькі для знішчэння адной блыхі?

Апекаваўся-апекаваўся колькі гадоў чалавекам і не прыкмеціў, як з добрага дарадцы ў кепскую няньку ператварыўся. Ды надакучыла тое бясконцае, безвыніковае апекаванне – перарваў стасункі. А ён узяў ды і зрабіў сабе «неба ў дыяментах», памёр, у чарговы жорсткі алкагольны ступар увайшоўшы. Сумленне ела, да святара пайшоў дзеля ачышчэння душы. «Ты колькі часу ім апекаваўся? – той спытаў. – Тыдзень? Месяц? Год?» – «Гадоў з дзесяць, не меней». – «І гэтага мала табе? Ідзі і чужых грахоў больш на сябе не бяры. Кожны за стан сваіх справаў ды за жыццё сваё перад Богам найперш сам адказвае». Быццам і правільна яно, ды ўсё адно, як ні паварочвай, – смыліць.

Вусцішы, да якіх прамінулаю датай праз усё жыццё вяртаешся. З тых, што, і ў сне праз дзесяцігоддзі ўзгаданыя, міжволі змусяць сцепануцца. Мае чатыры з найбольш помных: нецвярозы намер «паходу» ў пару студэнцтва ў інтэрнатаўскае вакно на чацвёртым паверсе; балансаванне над прорваю з вострым каменнем падчас рыбнае лоўлі на коўзкай сцяне былой фабрыкі ва Устшэжы; уключаны ды і пакінуты на чатыры гадзіны прас праз два дні пасля пахавання маці ў хаце з заснулым, знерухомленым бядою бацькам; партманет з немалымі грашыма для закупаў да сестрынога вяселля, забыты ў краме на паліцы для кошыкаў і знойдзены там, на шчасце, праз амаль гадзіну пасля адыходу. Жудасці, асэнсаванне якіх з узростам не са сваімі тадышнімі перажываннямі, а найперш з наступствамі для

блізкіх – што было б, калі б, крый Бог, горшае ўчынілася? – пачынае асацыяваццa.

Не ўмею…

Не ўмею і не люблю ўрабляць зямлю, як умеў і любіў урабляць яе дзед.

Не ўмею элементарна цяслярыць, як умеў бацька.

Не дам рады распаліць печ ці выгнаць гарэлкі, як рабіла тое маці.

Не ўмею адрозніць назоваў траваў, як Панізнік.

Нічога не ўмею з вясковага, апроч як касіць ды даіць карову.

Сялянскі сын…

* * *

Веру ў Бога, як добра ўсё ў жыцці, гарманічна хоць бы збольшага, — і падтрымліваць, і мацаваць нескладана. А варта нейкай благой падзеі, прыкрасці парушыць тую гармонію, – і не тое што лёгкасць сплывае, а і вера сама быццам мізарнее, на другі ці яшчэ які план неўпрыкмет адсоўваецца. І моц трэба немалую мець, каб вярнуць усё на ранейшыя кругі. Вера – не проста «памаліўся», «паспавядаўся», «папрасіў» аб нечым. Вера — няпросты занятак. Калі мець на ўвазе сапраўдную яе, вядома, а не тую, што дзеля прыліку ці староннiх вачэй.

У заходніх раёнах старэйшыя людзі, вернікі ад маленства, кажуць не «верыць у Бога», а «верыць Богу». І больш ёмка другое, і больш шырока, бо сэнсава ўключае ў сябе першае як дадзенасць. І больш дакладна – у сэнсе выяўлення стаўлення асобы да выканання Божых запаветаў. Верыць у Яго існаванне – асабістая справа чалавека. Верыць Яму – значыць, жыць, як намаўляў, кіравацца Яго прыкладам згодна не толькі са сваімі, а і з да сябе падобнага інтарэсамі. Учынкам верыць Яго і слову і прасякнуцца імі незалежна ад таго, ці прасякнуўся яшчэ хто-небудзь побач з табою. І кіравацца імі: голаў попелам пасыпаць, укленчыўшы, перапрасіць за грэх супраць сумлення – нязручныя часам, мулкія рэчы. І «не грашы супраць Бога» – таксама ў нас з перафразам: «не грашы Богу».

Для людзей, якія не прыйшлі да Бога, вера часта асацыюецца выключна з вымольваннем нейкіх дабротаў. Канечне, вера не выключае просьбы, але і сцвярджаць, быццам яна грунтуецца толькі

на просьбе, не выпадае. Бо вера — гэта найперш усё-такі ўдзячнасць. Ды, мабыць, асобаў, якія ўмеюць прасіць, а не дзякаваць, значна больш сярод людства, вось і складваецца адпаведнае меркаванне. Наогул жа, вера, то бок стасункі чалавека з Богам, як і лад жыцця, ці выбар асобаў для кантактавання, ці адданне перавагі той ці іншай манеры паводзінаў, тым або іншым маральным прыярытэтам — цесна звязаная з паняццем свабоды, унутранай і публічнай. У звязку з апошнім згадваецца міжволі падслуханая неяк размова святара з атэістам. «Ну, дык калі ёсць Бог і ён стварыў нас усіх, як вы кажаце, то чаму ж Ён не зробіць так, каб мы злога не чынілі? – чалавек запытаўся. – Каб войнаў не развязвалі, не забівалі адзін аднаго, не кралі». — «А Бог вольным стварыў кожнага, як кожны зробім сабе ці іншаму, так і будзе», — адказаў святар.

Моц веры ў значнай ступені залежыць ад наяўнасці або, наадварот, адсутнасці рэлігійнай традыцыі – у сям'і, у штодзённым атачэнні чалавека, у дзяржаве ў рэшце рэшт. Вось манашка маладзенькая ў зале падчас літаратурнага выступлення ў Браславе: наша, айчыннае гадоўлі – і такіх нямала ўжо. З аднаго боку, можа, не так і добры той зыход маладых дзяўчат у манаства і хлопцаў у капланства, калі браць пад увагу незайздросную сітуацыю дэмаграфічную. З другога – усцешна: традыцыя ахвярнасці, перарваная гадамі атэізму, хоць і паволі, але ўзнаўляецца. Высокая, паводле свядомага выбару, а не прымукі, ахвярнасць – яе ці не найбольш нам сёння ва ўсіх нашых справах, ад асабістых да дзяржаўных, не стае.

Адно з самых неадназначных патрабаванняў веры – уменне дараваць. Надта ж ужо, як, зрэшты, і ўменне папрасіць даравання, — няпростая рэч. Але ж і ўмець не дараваць – таксама навука, што немалых часам высілкаў каштуе. Не дараваць — не ў сэнсе помсціць, а ў сэнсе — давесці ненавязліва, што ты пра той учынак, наўмысна супраць цябе скіраваны, выдатна ведаеш. Адчужэнне, адцуранне часта – найлепшы сродак і кропкі над «і» належным чынам расставіць, і, галоўнае, магчымых новых непаразуменняў, што падчас працягу стасункаў непазбежна з'явяцца, унікнуць. Простая мудрасць, а як цяжка рэалізаваць яе ў засмечанай дробязямі і звадамі паўсядзённасці. Ды яшчэ ж і сумнеў, ці не будзе такі падыход праявай элементарнай пыхі, не раз і не два пры нагодзе тузане.

Маючы за ўзор пабожнасць дзеда і бабы па лініі бацькі, я, згодна з традыцыяй, прыступіў да рэлігійнага навучання ў 6-гадовым узросце. Але касцёл знаходзіўся за сем вёрст ад дома, а законніцы трэба было плаціць за навучанне сякія-такія грошы, таму маці ўзялася вучыць мяне катэхізмам сама. Гэта было нялёгкая навука: па-першае, на незразумелай мове, па-польску, па-другое, без каліва валодання методыкай навучання з боку настаўніцы. Не дадавала надзеі на станоўчы зыход справы і атмасфера самой споведзі: немалады святар-паляк гаварыў занадта ціха і, падобна, недачуваў. У выніку іспыт на веданне асноўных рэлігійных пастулатаў я з трэскам праваліў. Давялося пачынаць усё спачатку. І хоць гэтым разам усё абышлося добра, страх разгубіцца, сказаць штосьці недарэчы так моцна засеў ува мне, што пераследуе па сённяшні дзень.

Нішто не здольнае так негатыўна паўплываць на справу, як аслабленне яе практычнага складніка. Мая вера трывала па першай споведзі да 15-гадовага ўзросту. Дакладней – сяк-так ліпела пад наглядам маці, зводзячыся да ўдзелу ў святкаванні Калядаў і Вялікадня. Ні пра які ўдзел у містэрыях з нагоды гэтых і іншых урачыстасцяў, як зараз, у той час пад пільным вокам піянерыі ды камсамолу і размовы быць не магло. Апошні раз ахвота пайсці ў касцёл наведала мяне і маіх суседзяў-равеснікаў дзесьці пасля сканчэння восьмага класа. Быў пік лета, мы так захапіліся на шляху да святыні збіраннем суніц абапал дарогі, што і не заўважылі, як мінуў час пачатку Імшы. Да касцёла мы ў той дзень так і не дайшлі. А ці пахваліліся пра тое старэйшым – дакладна не памятаю. Хутчэй за ўсё – так: што Бога, што бацькоў, мы, атручаныя бацыламі атэізму, ужо баяцца пакрысе пераставалі.

Што для мяне вера сёння? Як ні дзіўна, але найперш, бадай, – дарадца ў арганізацыі побыту. Чыннік той абыякавай у маладосці і ўсё больш жаданай у сталасці размеранасці жыцця, якой чым далей, тым усё болей патрабуе слабая чалавечая натура. Па-другое, безумоўна, адмысловы інструмент, так бы мовіць, рэгламентацыі ўласных учынкаў. І, канечне ж, як і для многіх, — якая-ніякая, а надзея на працяг існавання душы па фізічным сконе ды спатканне з тымі, чыёй прысутнасці (напрыклад, бацькоў) было так замала ў жыцці тутэйшым, зямным. Спадзеў на спатканне з роўнымі, чые сапраўдныя абрысы ды ўчынкі не заслоніць ад пагляду покрыва чужое ўдаванае зычлівасці, не сказіць насуперак праўдзе крывое люстэрка собскае твае легкавернасці.

* * *

Найцяжэйшае з усяго, што можна сабе ўявіць, — супакойваць безнадзейна хворага. Асабліва таго, хто не сумняваецца, што насуперак і самаму жорсткаму выраку лекара павінен і будзе жыць, а ў словах наведніка адно шукае пацверджання гэткаму свайму перакананню. І вось ён у агоніі, і ты пры ім – увасабленне хлуслівасці ды бессаромнасці. А здараецца, што супакойванне, як даводзіў Уайльд, наадварот, становіцца абавязкам хворага ў дачыненні да наведнікаў. Ды нярэдка да тых якраз, каму і сам той хворы, і ягонае здароўе, мякка кажучы, мала абыходзяць. Своеасаблівы рытуал, гульня — да часу, да хвіліны ўсведамлення сур'ёзнасці пагрозы жыццю. Да той хвіліны, ад якой паводзіны хворага рэзка мяняюцца, і ён, замкнуўшыся ў сабе, адыходзяць у лепшы свет у абсалютнай самоце. Зрэшты, не факт, што гэта таксама не гульня. У дакаранкі: мне вось блага было, памёр я нават, а вы тым часам дзе ўсе, такія-разгэткія, былі?

Псіханеўралагічная клініка, аддзяленне памежных станаў. Чалавек гадоў сарака, адукаваны, інтэлігентны. «А я вось – адыходжу, здаецца...». Яшчэ памяць пры ім, яшчэ боязь страціць повязь з рэальным жыццём дарэшты не пакінула. У вачах – адчай, што вось-вось не такім, як быў дагэтуль, іншым (а якім – хто дасць рады падказаць?) стане – і што тады? Пагляд, што гасне-цьмянее спакваля, у сабе занурваючыся, — мяжы іншасвету, дзе да скону неўзабаве атабарыцца, прыкмета. І тут чалавек яшчэ, і ўжо не тут. І што самае жахлівае – сам гэта ўсведамляе.

Няроўна-такі, сапраўды, Бог дзеле. Раматус – жорсткі, неадчэпны, неадступны, а яму – сорак пяць ад сілы. Ногі пухнуць, сэрца баліць, плечы бы ільдом скаваныя. Уначы колькі разоў падымаецца, гімнастыку цішком, каб не пабудзіць каго ў палаце, робіць. Кожная хвіліна, кожнае імгненне для яго – змаганне за сябе, за больш-менш прыстойнае існаванне. А побач выпівохі, у якіх праз цэлы дзень адна турбота – выслізнуць употайкі ў паўзе паміж працэдурамі ў прылеглы да бальніцы мікраараён ды як хутчэй атаварыцца запаветным зеллем.

* * *

У нарвежкі Лайлы Сціэн у «Дрэве на ўзлеску»: «...Чалавек, які перажыў самае страшнае, нічога больш не баіцца. Быццам ужо перажыў увесь наканаваны яму страх».

Але дзе яна, мера таго самага страшнага, і дзе тыя шалі, якімі можна было б яго ўзважыць? Учора – хвароба дзіцяці нас палохала, сёння – непазбежнасць страты невылечна хворай маці поўніць вусцішам, заўтра – усведамленне нямогласці ўласнай ці нават хуткага скону спалярушыць глузды... І так — бясконца, ад аднаго страху да другога. І колькі б ні было яго адпушчана, шторазу ён будзе новы. Можна памерці ад страху, даведаўшыся кепскую навіну, а можна – і ад знячэўнага гуку, напрыклад, уначы спрасоння – ад віскату пацука ці іншай якой пачвары. Страх – нармальная рэакцыя чалавека на штукарствы-вычварэнствы жыцця, якое, на жаль ці на шчасце, у хвілю страху, хай і найжудаснага, аніяк не ўцісне ш.

Аўтарка апісвае амаль паталагічны страх жанчыны, якая згубіла падчас марскіх штормаў усіх сваякоў. Найвялікшым страхам стаўся для яе страх страты нанова (бо яна працягвае чакаць яго як жывога) страчанага ўжо сына. Сын быў адзіны, а калі б іх было, напрыклад, двое? Няўжо наканаванне згубіць другога, якому паводле звыклага ладу жыцця рана ці позна давялося б таксама плысці ў мора, не выклікала б у маці гэткага ж страху, як калісь – перспектыва згубіць першага?

Такі вось роздум пад уражаннем ад пранізлівай, зыбкай, як тое мора, якое прыносіць чалавеку гэтулькі няшчасцяў, споведзі жанчыны. Што не языком нават, здаецца, прамаўляе, а самім сэрцам.

У кожнага свае прыхільнасці. Вось у Чэхава, здараецца, запар што ні твор, то фірмовы знак у выглядзе плеха на цемі ў каторага з персанажаў. Любіць Антон Паўлавіч пацвеліцца з пляшывых, можа, таму, што самога шчасцейкам гэткім, плехам, Бог не адарыў. І ў дачыненні да жанчын, асабліва да старых, празмернаю пашанотай, дасціпнік, не грашыць. «До сих пор я не знал, что на свете так много старух, иначе я давно бы уже застрелился...» – піша сястры пасля наведання аднаго багаслужэння. «... бабы с пьесами размножаются не по дням, а по часам, ... одно есть средство для борьбы с этим бедствием: зазвать всех баб в магазин ... и магазин сжечь» – наракае ў іншым лісце. У практычным жа плане, аднак, далей за ўсё ў апавяданні «Драма» ідзе, калі затэрарызаванага назолаю драматургесай героя да здзяйснення акта помсты за адабраныя на слуханне бязглуздага рукапісу час і нервы – тым самым рукапісам па галаве – ненавязліва, але метадычна падводзіць.

Здаровыя стасункі – здаровы гумар, нават калі часам і празмерным нам здаецца. У Селіна ў згадцы пра размовы французаў аб падрабязнасцях жыцця англічанаў: «Асабліва іх цікавіла гародніна, ці праўда, што яны яе жаруць сырою... Ці праўда, што там у жанчын

даўгія зубы? Зусім як у коней? А ногі? Праўдзівае смяхоцце? А цыцкі ў іх ёсць? Усё гэта прамаўлялася з намёкамі і тысячамі грымасаў». Як бы наш айчынны філістэр успрыняў штосьці падобнае ў дачыненні, напрыклад, — ах, даруй, Божа! — да братоў расіянаў?

Творчы занятак нярэдка – форма легалізацыі. Кепскага характару, псіхічнай хваробы, маладых амбіцый, старэчага вар'яцтва. Вось рукапіс чалавек прынёс для рэцэнзіі – старонак пад шэсцьдзесят прозы пра вайну. Папярэдзе – аўтарская прадмова, у якой паміж развагамі аб важнасці тэмы і такому знайшлося месца: «Калі вы прачытаеце гэты рукапіс, вам, не сумняваюся, не аднойчы па смерці аўтара захочацца прыйсці на яго магілку ды пакласці кветкі».

У Ахматавай: «Паэт – гэта чалавек, якому нічога нельга даць і ў якога нічога нельга адабраць». Можна — і тое, і тое, і яшчэ як можна. Ад разумення вартасці паняццяў «штосьці» і «нішто» ў кожным канкрэтным выпадку ўсё залежыць.

Таленавітыя маладыя прыехалі са сталіцы ў правінцыю на спатканне з чытачамі. Што апранутыя безгустоўна – хай бы сабе: можа, грошай у людзей на штосьці прыстойнае не хапае, беднасць, як вядома, не загана. А вось чаму вочы такія абыякава-вадзяністыя і чаму словамі, быццам даярка-нядбаліца спрасоння сырадоем з каровінай цыцкі па сцяне хлява, гэтак пагардліва наўкола сябе цыркаюць, нізавошта не дасі рады здагадацца.

Дзве зоркі ўпобачкі, у адным нумары часопіса – Главацкі і Кундэра. Тэматычна – пра адно і тое, брутальныя гісторыі-асэнсаванні на крутым, так бы мовіць, віражы гісторыі. У першага – адметны гумар і грубае пісьмо на тле поўнае адсутнасці сентыментальнага складніка, у другога – грубая дыялектыка на тле сентыментальнасці. Адзін занадта, як на мой, сярэднестатыстычнага чытача густ, мужны, другі, наадварот, — недастаткова. Ні аднаго, ні другога перачытаць (прынамсі, гэтыя рэчы) жадання не ўзнікла.

Да тэмы сродкаў змагання з апанентамі ў мас-медыях. У Чапэка ў «Скандальнай аферы Ёзэфа Галоўшака» ў фінале — газетнае паведамленне пра галоўнага персанажа: «... павесіўся ўчора ва ўласным доме... голы, з перарэзанымі венамі і напалову жыўцом спалены на вогнішчы, якое сам расклаў пад сабою, выпіўшы папярэдне атруты». А і ў паўсядзённым жыцці такіх прыкладаў змагання хапае.

Сумна было падчас вечаровае прагулянкі, словы Шымборскай пра тое, што дарэмна дзень прайшоў, бо не здзівіўся анічому, усплылі ў памяці. Дома – вершы Я. Дашынай, і такое ў адным: «Ваша збруя

цісне на габарыты майго свету». І побач – ад зусім маладзенькай, як сведчыць рэдакцыйная прадмова, У.Дырды: «Калі скласці два цені – не станецца аднаго цела». Ці не наўмысна Бог дзевак таленавітых, каб здзіўляць старэчаў, пасылае?

І ў самай сур'ёзнай справе — як гульняў шмат наўкола, так і гульцоў, адпаведна, відавочных ды закулісных, з каптуром. «Усё на свеце – гульня», — сцвярджаем раз-пораз, ды чамусьці пры гэтым да ўласнай ролі, нават самай эпізадычнай, нязначнай, у любой з тых гульняў надта ж сур'ёзна ставімся. А тым часам, як ні кінь вокам, з усіх гульняў – вось гэткая гульня ў словы пра гульню – адзіная, мабыць, і ёсць праўдзівая. Апроч хіба яшчэ сферы мастацтва ці літаратуры, дзе спакон вякоў наяўнасць гульні фантазіі можа пры прыхільным размяшчэнні зорак важным складнікам удалага канчатковага прадукту стацца. Што, зрэшты, таксама далёка не заўсёды тымі ж зоркамі гарантавана.

У 1806 годзе імператар аўстра-венгерскі Франц выдаў загад, паводле якога ўводзілася дзяржаўнае кіраванне творчасцю раманістаў. Згодна з ім забараняліся: сентыментальныя любоўныя раманы, раманы пра геніяў, раманы пра прывідаў, разбойнікаў і рыцараў і наогул раманы як жанр. Не пашанцавала і п'есам. Так, згодна з рэкамендацыямі нейкага Хэгеліна, цэнзара з 35-гадовым стажам, у пастаноўках, дзе закранаюцца праблемы сям'і, усе шлюбныя пытанні трэба было вырашаць толькі станоўча на падставе, што «ў інтарэсах дзяржавы садзейнічаць законным шлюбам і законнаму дзетанараджэнню». Скарыстаўшы гэткую рэкамендацыю, адзін з цэнзараў, напрыклад, калі спатыкнуўся ў п'есе аб эпізод, дзе закаханая пара ўваходзіла ў дом, «дапамог» няўмеламу аўтару: уставіў у твор натарыуса, што ўвайшоў у дом разам з ёю. Такім чынам публіка мела адысці са спектакля з упэўненасцю, што ў доме тым грэхападзення не адбудзецца, а наадварот, будзе заключаны шлюб. Яшчэ далей пайшла ў 18 стагоддзі шведская цэнзура, якая патрабавала да разгляду не толькі вершы, але і лінгвістычныя працы, вясельныя ды іншыя віншаванкі, прамовы і нават надмагільныя эпітафіі. Нічога новага...

* * *

Айчынны сюжэт пра 93-гадовага Якуба Конана, удзельніка падзеяў на Монтэ-Касіна пачас Другой сусветнай, на канале «Лад» – хоць нешта ўрэшце людскае на тэлеэкране, не згвалчанае ўсюдыіснаю ідэалогіяй. Адзіны дысананс – мова вядоўцы на тле беларускай

гаворкі персанажа. І не этычна, калі ўжо на тое пайшло, і канцэптуальна не вытрымана: гісторыя занадта паказальная для нас, каб дазваляць ёй (калі адказна, па-дзяржаўнаму да справы, вядома, падыходзіць) выпадаць з кантэксту агульнабеларускага шляху. Чымсьці нагадала выступ аднаго маладога навукоўца ва ўніверсітэце падчас семінару: касціў сталіншчыну за «чысткі» датычна нацыянальных кадраў, а моваю карыстаўся пры гэтым тою, на карысць якой – сведама ці ненаўмысна — усё гэнае сталінска-берыеўска-яжоўскае паскудства ў рэшце рэшт і чынілася.

Дзве рэчы найбольш распаўсюджаныя сярод нашага чынавенства. Першая – неадольная прага ўласцівыя свайму асяродку правілы гульні на іншыя сферы, у тым ліку і на тыя, дзе яны няшмат разумеюць (напрыклад, на творчую), пераносіць. Другая – сверб ацэньваць (і асуджаць, адпаведна) чалавека па тым, як і што ён думае. Ведаюць: ад думкі, калі яна нават да часу і пад коўдраю хаваецца, да ўчынка – праз слова — адзін крок. І вось гэты крок і трэба нейкім чынам прадугледзець, прадухіліць. З тых, што гэта дасканала засвоілі, ва ўсе часы найлепшыя ў сэнсе выніковасці палявання на іншадумства служкі ад ідэалогіі атрымліваюцца. А калі яшчэ і медыйнае забеспячэнне на належным ўзроўні, дык і ўсе карты ім ў рукі.

Прадпрымальніца, не дурная нібыта дама, даведаўшыся, колькі газетчыкам у дзяржаўных выданнях плацяць, дзівіцца, чаму пры гэткіх заробках старонкі тых газетаў «нейкія пустыя». Быццам не ведае: адсутнасць нечага часам не меншы кошт мае, як і яго наяўнасць.

Дабрабыт заўжды чымсьці аплачаны: працаю, здароўем, часам. Часта – сумленнем, і добра яшчэ – калі толькі ўласным. Што ва ўмовах татальнае асцярогі, як у нас, згубіць і тое малое, што маеш, – звыклая рэч, можна сказаць, хрэстаматыйная.

Якая б ні была паганая справа, выканаць ролю ката ў ёй заўжды знойдзецца ахвотнік. Найчасцей з чынавенства, якое наогул часта з гэтага хлеб есць ды лічыць такія паводзіны амаль што неад'емным складнікам прафесійнага абавязку Але асабліва гідка, калі да такой ролі сякеры ў руках лёсу творца апускаецца. Апускаецца свядома, узважыўшы ўсе «за» і «супраць», галоўныя з якіх – выгода і сумленне – так прыхаматліва ў галаве ў чалавека спляліся, што і рады не дасць адрозніць адно ад другога. І адначасна як шмат наўкола з'явіцца тых, што гатовыя будуць паставіцца да гэткае ягонае (а значыць і да свае — пры нагодзе) ролі доўбні як да належнага, ледзь не Богам дадзенага.

Некаторыя літаратары-мысляры (напрыклад, француз Бернанос) схільныя бачыць вытокі ўсясветных і лакальных крызісаў не ў сацыяльных ці палітычных варунках, а найперш у прабдеме індывідуальнай свядомасці. Гэта калі не нейкая там тэорыя садзейнічае з'яўленню чалавека адпаведнага кшталту мыслення, а наадварот, яна, тэорыя, абавязаная гэтаму самаму чалавеку і фактам свайго з'яўлення, і шырокім распаўсюдам сярод масаў. А што ў нас? Ціск напярэдадні выбараў – ці не гатовыя мы былі да яго, ці не прымалі яго ўнутрана а priori як належнае, пакідаючы на ўсялякі выпадак глыбока ў душы каліва надзеі на замірэнне з уласным сумленнем? «Я на працы, што вы хочаце?» – ці не найчасцей гучала ў тыя дні з нашых вуснаў у адказ на справядлівыя папрокі ў канфармізме, калі заходзіла размова пра таптанне нашае (а разам і тых, хто побач з намі) чалавечае і грамадзянскае годнасці. Так казаў выкладчык вучэльні і ішоў у аўдыторыю змушаць студэнтаў да заўчаснага галасавання, хоць гэта і не адпавядала яго ўнутранаму пераканаaнню і ўжо аніяк не датычыла прафесійных абавязкаў. Так казала, панаракаўшы ў кулуарах на адсутнасць свабоды, якую яна каторы год марна спадзяецца атрымаць ад народа на сподачку, армада газетчыкаў з дзяржаўных СМІ і выдавала на спажыву патэнцыйнаму выбаршчыку блокі бравурных рэпартажаў на тэму татальнага «росквіту». Так разважала частка літаратараў-рэнегатаў, што з боязі страціць уежны кавалак перакінулася з больш-менш дэмакратычнага творчага саюза ў праўладную пісьменніцкую суполку і тут жа выступіла са зваротам да чытача аддаць дзевятнаццатага свой голас за Лукашэнку. Ці дзіва, што ў такой атмасферы, на тле такага згодніцтва эліты духу найкамфортней пачуваліся ў тых самых вучэбнай, чытацкай ды іншых аўдыторыях валанцёры ад улады? Улада цынічна прапанавала нам свае правілы гульні – мы цынічна прынялі іх да ведама, паставіўшы тым самым паміж сабою і ўладай знак роўнасці. І нашая індывідуальная свядомасць пры гэтым не менш цынічна маўчала. Якою тэорыяй і якімі варункамі ўсё тое апраўдаем? Канечне, ва ўмовах жорсткага таталітарызму, калі ўсё, што ні дзеецца, — заўсёды ў адных руках, знайсці апраўданне няцяжка, ды ўсё ж…

Бландзіана піша: «Як у пурытанскіх супольнасцях існуе нецярпімасць людзей маральных да тых, хто пераступае законы маралі, так у карумпаваных – нецярпімасць пароку да тых, хто яму не паддаецца». Сапраўды, заікніся сёння ў нашых родных палестынах пра маральны прыгнёт і пабачыш, як самі прыгнечаныя першымі

тваімі словамі і абразяцца. Замірэнне з парокам – той жа парок, як бы мы ад яго ні дыстанцаваліся.

На тэлеэкране серыял «Генералиссимус» пра Сталіна – Бог мой, як соладка! Тэлевізары не пераварочваліся, інстанцыі заявамі-пратэстамі не завальваліся. Назаўтра і гаворкі іншай не было чутно ў горадзе, як пра шчодрасць на добрае для народу таго вусатага дзядзькі. І гэта пасля ўсяго, што напісана-выдадзена пра тырана. А кажуць, хто аднойчы волі паспытаў, на вякі вечныя будзе ёй адданы. Ні Грахоўскі іх не пераканае, ні Салжаніцын, ні Шаламаў, ні мільёны іншых, хто на сабе зведаў «хараство» ГУЛАГА.

Што прыезду Гілевіча студэнцкая моладзь ды інтэлігенцыя чакае – ведаў, што спатканне цёплым будзе – не сумняваўся, ды каб ажно гэтак?! Шэсцьсот чалавек бы хваляю падняло, і авацыі, авацыі, авацыі... Пасля ў абласной бібліятэцы гэтаксама: зала поўная, гэткі ж уздым, гэткая ж атмасфера роднасці-ўзаемаразумення. Расчуліўся паэт, расхваляваўся, і не дзіўна. «Уразілі вы мяне, віцябляне, вельмі ўразілі, — сказаў на развітанне. – Так уразілі, што давядзецца сёе-тое і перагледзець са сваіх меркаванняў на перспектыву беларускае справы». А тым часам на адрас гарвыканкама ліст кіраўнічкі праўладнага саюза, у якім выказвалася незадаволенасць з нагоды арганізацыі «поэтических выступлений» оппозиционных писателей Гилевича Н., Сивко Ф., Симановича Д.», хоць апошнія двое ні радка там не чыталі, паляцеў. Не ўсе, аказваецца, дарма што Народны, чакалі.

* * *

Скіраваная на іншых неўрастэнія ў маладым веку – найчасцей з амбіцый і недахопаў выхавання, у сталым — з боязі смерці. Таму як сталаму – грэх не паспачуваць, так маладому сам-насам галавой аб сцяну пабіцца – часам унікнуць спакусы даць параду цяжка.

Паводле Э. Мамфорд, малады чалавек, які ні разу не плакаў, — дзікун; стары, які не смяецца, — дурань.

Дзікуном у маладосці быць проста, дурнем у старасці не застацца – навукі і мужнасці, і немалых, патрабуе.

Не самі паняцці, а нашы ўяўленні пра іх адносныя. Вось Чэнь Цзіжу, кітайскага сярэднявечнага афарыста, сцверджанне: «Чалавека пазнаць нялёгка. Але той, каго лёгка пазнаць, не варты таго, каб з ім знацца». Ці вось такое, гэтага ж аўтара: «Вартасць мужчыны – яго талент. Адсутнасць таленту – вартасць жанчыны». І тое, і другое — як паглядзець. Пазнаваць гадамі, дзесяцігоддзямі вартага – і жыцця можа

не хапіць. Дурніцу мець пры боку – занадта ж сумна. І наогул сумна: для эфекту нечаканасці, неспадзеўнай іскрай узаемнага знячэўнага прыцягнення асвечанага, пры такім падыходзе месца, падобна, не застаецца.

Дзядзька М. у нас быў у Міжрэччы — чырванатвары, руды, дзівакаваты. Піва крамнае скрынямі купляў. Накупляе і цэдзіць потым паціху, выправіўшыся да става ці да возера з вудаю рыбу лавіць. Ці слота, ці заліваха, ці сцюжа – усё яму ніштто, абы ў хаце не сядзець, абы рухацца, барукацца са стыхіяй. Нават калі захварэў і скон ужо свой непазбежны адчуваў, не кінуў звычкі, не пажадаў нічога мяняць напрыканцы.

А вось дзядзька Л. наогул алкаголю не ўжываў, гэта спраўна рабіла за яго падчас застолляў цётка Т., ягоная жонка. Праз усё сваё доўгае жыццё Л. быў непітушчы нібыта з прынцыпу: ат, што яна дае, тая шамурла, апроч галаўнога болю ды раскутасці языка, пра якую заўтра ж пашкадуеш? І яшчэ, мабыць, — з пагарды да вясковага асяродку, што ўкараніўся неўпрыкмет у ягонай душы пасля таго, як раз’ехаліся па гарадах падчас прыходу другіх Саветаў найгодныя сябрукі: з кім тут піць-гаманіць, з кім цешыць душу? Адзінае, чым пагаджаўся ахвяраваць дзеля сумніўнага хаўрусу, дык гэта хвіляю-другой дарагога часу ў перапынку паміж хатнімі клопатамі, вызірнуўшы з-за перабойкі ды пасміхнуўшыся паблажліва-далікатна нібыта з п’янага чыйгосьці досціпу, а насамрэч – і з «кумпаніі» гэтай зрэбнай, і з усяго, што яна тут, пры стале, чыніць.

І цяпер, на схіле дзён (восемдзесят тры стукне дзядзьку неўзабаве), не дачакаўшыся кампаніі годнай, ягоным высокім памкненням адпаведнай, сядзіць стары на зэдлі за перабойкаю, слухае, як жонка ладзіць дзеля гасцей стол, ды шматзначна пакерхвае – удае фанабэрыю.

– То будзьма! – кажа цётка і падымае напоўненую на траціну мёдам, на дзве траціны «гарылаю» (жывуць жа людзі) шклянку. – А ты, Л., ці хочаш крыху?

– Ну, можа, кроху (трохі), — адзавецца той з нотаю ўдаванае незадаволенасці ў голасе і, выйшаўшы з-за перабойкі, сам сабе налье – «кроху»: на траціну і яшчэ на дзве гэткія з маленечкім каптурыкам — кампенсацыя за гады самаўстрымання ў чаканні годнай «кумпаніі».

В. недаспадобы абы-як бавіць час, таму ён імкнецца запоўніць свой абмежаваны кампутарам, школьным класам і дваром свет цікавымі ды змястоўнымі людзьмі. В. усяго шаснаццаць, і ён поўны спадзеву, што ўсё ў жыцці, у тым ліку і якасць атачэння чалавека залежыць толькі ад яго самога, што як парупішся на гэты конт, так і

будзе надалей. В. няблага ўяўляе рознасць паміж добрым і кепскім учынкамі, таму ён, хоць і гатовы, як і кожны адкрыты свету чалавек, слухаць усіх і ўся, для сяброўства будзе (так ён вырашыў) выбіраць асобаў надзейных, зычлівых і нездрадлівых. Ён яшчэ не ведае, колькі разоў ягоная датклівая шчырасць апячэцца аб той бездакорны выбар. І гэта цудоўна, бо што пальчыкам у неба, што ў яблычак – якая розніца, калі табе ўсяго шаснаццаць і спазнанне непрадказальнасці звіхаў жыцця і людскога вераломства хоць і не так далёка, але ўсё-такі пакуль што — наперадзе.

З сябрам дзяцінства Юзікам ва Устшэжы пад пругкімі струмянямі вадаспада грахі застарэлыя, за паўстагоддзя на целы начапляныя, змываем. Побач чалавек дзесяць немаведама скуль прыезджых: галёкаюць-плёскаюцца — хмыз прыбярэжны гнецца. І толькі мы, двое абарыгенаў, – маўчым. Нам, звыклай да вольніцы вясковай мурзатай малечы, тут, у гэтым сціснутым з усіх бакоў мурамі колішняе кардоннае фабрыкі ды кустоўем куце, купацца і ў голаў ніколі не прыходзіла. Іншых мясцінаў дзеля гэтай мэты ў наваколлі хапала. Сюды ж, бы паганцы да каменнай глыбы, сведчання Божае прысутнасці, наведваліся сцішана ( не парушыць бы хараства!) падзівіцца. Тады – паганства было, цяпер – пагана.

Закадычны сябар, закляты вораг. Ненавідзяць адзін аднаго, пішуць адзін на аднаго пасквілі, паслухаць каторага, дык няма ў свеце горшага чалавека за таго, другога. Але – усюды разам, упобачкі, быццам ланцугом нябачным скутыя, так ужо, відаць, і пойдуць па жыцці сіямскімі блізнятамі. Закадычны вораг? Закляты сябар?

«Што значыць – захоўваць пазітыў?» Год дваццаць таму і не знайшоў, што чалавеку адказаць на такое ягонае пытанне. Сёння, па сталым роздуме, так бы адказаў: захоўваць пазітыў — значыць узяць за звычку злаваць (наракаць) найперш на асобныя рэчы, а не на жыццё наогул.

З алкаголікам суіснаванне часта – жорсткая дылема з жыццём на коне. Сам не памрэ – іншага, таго, хто побач, угоніць у магілу. Адыдзе той другі, – і сам ці засіліцца, ці згарыць, ці атруціць сябе дарэшты зеллем. Адзіны паратунак для цвярозага другога – адпрэчыць учасна, адцурацца. Жорстка, ды такая дылема – з жыццём на коне. І не асудзіш: кожнаму найперш уласнае здароўе ды жыццё абыходзіць.

Этымалагічна неадназначнае паняцце – інтымная здрада. Здраджваюць, не маючы пачуцця — але ці можна тое называць здрадаю? Здраджваюць, здараецца, наўмысна — з роспачы ці са злосці. Ды ў любым выпадку рабіць што з першае, што з другое

здрады праблему — гэткі ж нонсенс, як усхваляць прымусовую адданасць.

* * *

Ад жахлівага да высокага – адзін крок. Попел Пампеі, што чэпіцца падчас вандроўкі да ног, надзіва, не толькі не прыгнечвае, наадварот, – дадае ахвоты ачысціцца ад бруду. Жаданне пасыпаць голаў тым вольным, бы вецер пазавуголлю паўразбураных камяніцаў, прысакам і паслаць куды падалей усё пустое, нікчэмнае, неістотнае. Адзін крок – даўжынёю ў стагоддзі, дзіўная метамарфоза на мяжы *сёння* і *ўчора*, сну і явы.

* * *

Што ў кадры, што па-за кадрам – біятланістцы Туры Бергер залішні, ды, відаць, і збольшага памяркоўны гламур падчас спаборніцтваў не пагражае. Лоб і шчокі ў кропельках поту, абсіверанiя вусны з камяком прымерзлае сліны понізу, няправільныя абрысы твару – ці ж пра такое марыць спешчаны размаітасцю праяваў жаночага хараства топ-менеджэр «Плэйбоя»? Зацятаю ўпартасцю ды несучаснасцю хады на трасе Тура Бергер нагадвае мне колішнюю суседку, вясковую дзеўку Тарэсу Ц.. Гарт, узрослы на глебе сялянскай рупнасці – хараство будзённага.

* * *

«Як мы можам вось гэтак разлучыцца?» – сказала абражаная часовым ад'ездам каханага гераіня фільма «Цягнік Чжоў Ю» і ступіла насустрач здрадзе. Скуль было ёй, аслепленай першым у жыцці пачуццём, ведаць, што няўменне стачыць у адно *сёння* і *заўтра* немінуча прывядзе яе да згубы. Што *заўтра*, якім бы яно ні выдавала далёкім-недасяжным, непазбежна становіцца *сёння* і што быць здатным стрываць павольнасць гэткае метамарфозы можа толькі той, у каго ёсць хоць які-кольвек, хай сабе і найкуртаты, досвед ад *учора*. Хто дасканала ведае і прымае як належнае, што быць *сёння* – гэта таксама і быць *заўтра* з валізаю ад *учора*. Цягнік жыцця, хісткі спадзеў на мяжы явы і ўяўлення.

ЗМЕСТ

Тыдзень вялікай коткі
Просты-просты раман
З Індыі з любоўю
Духі Нізіннае Мошы
Тры расстанні
Выспа Міжрэчча
Выспа Мова
Я пешкі, мама!
Efter paradiset/Выспа Готланд
Выспа Смерць
Сволач паводле Брэма
Suum cuique, або Пішам, таварышы!
Хата
Істоты нябесныя
Цягнік жыцця